# Крапіва

## 6

ПЕРАКЛАДЫ
АРТЫКУЛЫ
ВЫСТУПЛЕННІ
ІНТЭРВ'Ю
ПІСЬМЫ
ДАДАТАК

Мінск
«Мастацкая літаратура»
2004

## Іван Крылоў

### ВАРОНА І ЛІСІЦА

Не раз казалі свету шчыра,
Што лесціць брыдка, шкодна, але ўсё дарма:
У сэрца лесць пратышчыцца сама.

Вароне неяк Бог паслаў кусочак сыра;
Варона, радая сырку,
Збіралася паснедаць на суку,
Але задумалася, сыр узяўшы ў дзюбу.
Якраз Ліса тут бегла, як на згубу.
Раптоўна сырны дух Лісіцу запыніў:
Лісіца бачыць сыр,— сыр Ліску паланіў.
Да дрэва хітры звер на дыбках падыходзіць,
Хвастом павільвае, з Вароны воч не зводзіць,
І кажа соладка, ледзь дышучы, Ліса:
«Што за цудоўная краса!
Якая шыйка! Колькі ў вочках ласкі!
Каб расказаць, дык гэта ж проста казкі!
А дзюбка, пер'ейка! У захапленні я.
Ты, мабыць, і пяеш ляпей за салаўя.
Красуня, заспявай! А што, калі, сястрыца,
Яшчэ б і голасам магла ты пахваліцца?
Пры харастве такім была б ты ў нас царыца!»
Ледзь утрымалася красуня на суку,
Такія чуючы пахвалы.
Ад радасці дух сперла ў валляку,
Варона каркнула наколькі сілы стала.
Сыр выпаў, а Ліса — якраз таго й чакала.

## ДУБ І ТРЫСЦІНА

Трысціне Дуб сказаў: «Як бачу я,
Дык сапраўды цябе пакрыўдзіла прырода:
Ты не ўтрымаеш нават вераб'я.
Павее ветрык хоць і ў ціхую пагоду,
Ты захістаешся, пачнеш слабець
І так нагнешся сіратліва,
Што нават жаласна глядзець.
Між тым, як нараўне з Каўказам, ганарліва
Узняўшы галаву сваю,
Я мала што прабіцца сонцу не даю,
А перад бурамі з усмешкаю стаю,
Нібы абкружаны навокала спакоем.
Што бурай для цябе, дык мне зефірам тое.
Хоць бы ты блізка ля мяне расла,
Прыкрытая маёй густою кронай,
Я быў бы для цябе надзейнай абаронай;
Але ж табе прырода адвяла,
Нягледзячы на стан твой кволы,
Уладанні бурныя Эола».
Трысціна тут яму: «Не плач па мне дарма:
Каб шкадаваць мяне, прычын зусім няма,
Не за сябе віхураў я баюся:
Хоць гнуся я, ды не ламлюся,
Дык буры мала шкодзяць мне,
Бадай табе страшней яны ўдвайне.
Хоць праўда, што сярдзітыя навалы
Цябе дагэтуль не зламалі,
І ад удараў іх не страціў ты вянца,
Ды пачакаем да канца!»
Трысціна гэта ледзь сказала,
Як раптам з поўначы сярдзітай напралом
І з градам, і з дажджом прымчаўся аквілон.
Стаіць наш Дуб, Трысціна да зямлі прыпала.
Вятрыска злы — падвоіў сілы ён,
Завыў і вырваў з каранём
Таго, хто галавой да хмараў дакранаўся
І аб зямлю пятою апіраўся.

## ПЕРАБОРЛІВАЯ НЯВЕСТА

Дзяўчына ў росквіце і рада б жаніху,
Ды ў тым няма яшчэ граху.
А вось што грэх: яна пыхлівая занадта.
Падай ёй жаніха, каб быў ён не дурны,
Багаты, малады, каб меў ён ардэны,—
Патрабавала зухавата.
Ну, каб усё ён меў. А хто ўсё можа мець?
І вось яшчэ прыкмець:
Другіх каб не любіў, капрызы мог цярпець.
Хоць шчасце да яе само валіла ў хату,
Бо жаніхі, як на падбор,
Выдатныя кацілі к ёй на двор,
Але ў яе быў густ занадта тонкі:
Такія жаніхі — знаходка для дзяўчат,
А на яе пагляд —
Не жаніхі, а жанішаты толькі.
Каго ж тут выбіраць між гэтых жаніхоў?
Той не ў чынах, другі без ардэноў;
Той мае чын, але кішэні ўсе пустыя;
То нос таўсты, то бровы загустыя;
Тут гэтак, там не так;
Пад густ сабе не падбярэ ніяк.
Прымоўклі жаніхі, гады на два прапалі,
А потым новыя сватоў паслалі,
Але ўжо гэтыя сярэдняе рукі.
«Якія дзівакі! —
Красуня моршчыцца.— Я ім зусім не пара.
Дурная ў іх, пустая мара!
І не такіх я жаніхоў
Ад сватання калісьці адвучыла,
Дык ці ж пайду за гэтых вахлакоў?
Сказаў бы — замуж вельмі закарціла!
Ды мне і ў дзеўках жыць пакуль што не бяда:
Днём весела, і ноч я сплю спакойна:
Спяшацца замуж проста непрыстойна».
Сплыла і гэта чарада.
Прачуўшы, што яна за цаца,
Не сталі жаніхі занадта дамагацца.
Прайшоў гадок —
Сваты маўчок,
Яшчэ гадок мінуў, яшчэ праплыў год цэлы,
Сваты не едуць, быццам назнарок.

Тым часам дзеўчына ўжо стала дзеўкай спелай;
Пачне лічыць другіх дзяўчат
(На гэта часу ў яе шмат),
Дык тая замужам, а тую заручылі,
Вось толькі пра яе забылі.
Нячутна смутак ёй падкраўся да грудзей;
Як толькі дзеўчына перад люстэркам сядзе,
Дакладвае яно, што кожны дзень
Час прагны хараство яе патрошку крадзе.
Спярша румянец знік, там — жывасць у вачах,
А потым ямачкі прапалі на шчаках,
Вясёласць, забаўкі кудысьці праміналі,
Там валаскі два-тры сівыя праглянулі:
Адзнака сталых дзён.
Бывала, без яе ў кампаніі так сумна
І ад паклоннікаў было навокал тлумна,
Цяпер жа — ах! яе ўжо клічуць на бастон.
Развага кажа ёй пра замуж клапаціцца,
Куды тут болей ганарыцца!
Як коса ні глядзіць дзяўчына на мужчын,
А ў сэрцы напамінак ёй адзін,—
Каб адзінокаю не скончыць веку.
І вось, пакуль яшчэ зусім не адцвіла,
Яна за першага, хто сватаўся, пайшла
І рада, рада ўжо была,
Што выйшла за калеку.

## ПАРНАС

Як з Грэцыі вон выгналі багоў
І іхнія дзяліць маёнткі сталі,
Дык некаму й Парнас тады адмежавалі;
Вось новы гаспадар стаў пасвіць там Аслоў.
Аслы ж якімсьці чынам зналі,
Што Музы там дагэтуль пражывалі,
І кажуць: «Ну, не так жа нас
Прыгналі на Парнас:
Відаць, абрыдлі Музы людзям,
Спяваць тут зараз мы ўжо будзем».
«Зацягнем жа,— крычыць адзін.— Ды весялей!

Я завяду, а вы за мной смялей!
Сябры, баяцца нам не трэба!
Няхай імкнецца песня ў неба!
Гучней, як дзевяць тых сясцёр,
Мы ўздымем музыку і свой наладзім хор!
А каб было ў капэлі болей згоды,
Такі парадак завядзём у нас:
Чый голас не дае аслінай асалоды,
Таго не прымем на Парнас».
Адобрылі Аслы Аслова
Прыгожа сплеценае слова:
Хор новых спевакоў такую дзіч панёс,
Як быццам рухаўся абоз,
Дзе тысячы нямазаных калёс.
Не могучы сцярпець такое прыгажосці,
Той гаспадар набраўся злосці
І ўсіх загнаў з Парнаса ў хлеў.

Я крыўдзіць невукаў намеру тут не меў,
Але карыснае скажу ім штосьці:
Калі ты ёлуп, крый нас божа,
Дык месца тут не дапаможа.

## АРАКУЛ

У нейкім капішчы стаяў драўляны бог,
Які пачаў маўляць прароцкія адгады
І мудрыя даваць парады.
Затое з галавы да ног
Ён золатам абвешан, і па пяты
На ім блішчыць убор багаты.
Народ яго маленнем заглушыў
І фіміямам задушыў
Па легкавер'ю чалавечым.
Як раптам — ганьба і скандал!
Аракул праўды не ўгадаў:
Адказваць стаў нясkладна, недарэчы;
І так пайшло далей штодня:
Што бог ні скажа, то брахня,
Аж кожны дзіваваўся,

Куды ў яго прарочы дар дзяваўся!
А справа ў тым,
Што ідал быў пусты і жрэц садзіўся ў ім
Маўляць народу прадказанні;
І вось тут вынікі відны:
Як быў разумны жрэц, дык бог не плёў маны,
Калі ж туды засеў дурны,—
Балван абалванеў дазвання.

Яшчэ з даўнейшае пары
Пра суддзяў мне такіх апавядалі,
Якія вельмі мудрыя бывалі,
Пакуль разумныя былі сакратары.

## ВАСІЛЁК

Расцвіўшы ў жыце, Васілёк
Раптоўна звяў і ў марным стане
Аж галаву схіліў набок,
Чакаючы свайго скanання.
Зефіру паміж тым ён жаласна шаптаў:
«Ах, дзе той дзень? Хутчэй бы дзень настаў!
Каб сонца яснае ўсё поле асвяціла,
Дык і мяне б яно, напэўна, ажывіла!»
«Вось выдумаў, блазнюк! —
Сказаў яму, што рыўся побач, жук.—
Хіба ж у сонейка ўсяе турботы
Сачыць, як ты расцеш,
Ці вянеш ты, ці хораша цвіцеш?
Павер, няма ў яго ні часу, ні ахвоты
Для гэткіх спраў.
Каб ты лятаў, як я, ды свет бы знаў,
То бачыў бы, што ўсе лугі, лясы і нівы
Ім толькі і жывуць, ім толькі і шчаслівы:
Яно сваім цяплом
Вялізныя дубы і кедры саграве
І незвычайным харастваом,
Цудоўным пахам кветкі аздабляе.
Такія кветкі, праўда, ёсць,
Дык там жа прыгажосць!
І ты ім толькі пазайздросць.

Сам час касіць шкадуе іх, здаецца,
Ну, а ў цябе ж такога хараства няма,
Дык сонцу просьбай ты не дакучай дарма,
І марна дабівацца перастань,
Маўчы і вянь!»
Тут сонейка ўзышло, прыроду асвяціла,
З праменнямі жыццё раслінам несучы,
І бедны Васілёк, што звяў быў уначы,
Нябесным зрокам ажывіла.

О вы, каго над іншымі шчаслівы лёс
Высока ўзнёс!
З майго вы сонца прыклады бярыце,—
Пaглядзіце:
Куды прамень яго дастане, там яно,
Ці дубу, ці былінцы — ўсё адно,
Жыццё нясе і шчасцем надзяляе,
Затое ў сэрцы ў нас і ў капельцы расы
Мы бачым водбліскі яго красы,
І кожны сонейка благаслаўляе.

## ЛЕС І АГОНЬ

І друга выбраць — трэба ўмець.
Калі карыслівасць надзене дружбы маску,
Яна табе рыхтуе пастку.
Каб гэту думку лепей зразумець,
Паслухай байку ды прыкмець.

Зімой на ўзлессі Аганёк курыўся;
Ён падарожнымі забыты, мусіць, быў.
Што далей, меншым ён рабіўся:
Дроў не было, Агонь мой ледзь дыміў.
І так да Кудры лесу гаварыў:
«Скажы мне, Кудзерка-сястрыца,
За што цябе пакрыўдзіў гэтак лёс?
Што ўсё лісцё тваё атрос,
І мерзнеш ты, не маеш чым прыкрыцца?»
«Таму, што я ў снягу

Зімой ні зелянець, ні цвісці не магу»,—
Агню так Кудра прамаўляе.
Агонь сваё: «Ды тут яшчэ бяда малая.
Са мною пасябруй, дык я дапамагу.
Я — сонцаў брат, вядомы добра ўсюды,
За сонца лепш тварыць умею цуды.
Спытай сабе ў цяпліцах пра мяне:
Зімой наўкола сцюжа ды завея,
А там усё цвіце ды спее:
І гэта — дзякуючы мне.
Хваліцца я не маю моды
І выстаўляцца не люблю,
Аднак жа ў сіле сонцу не ўступлю.
Як тут яно ні ззяла ад усходу,
Снягоў не здолеўшы, пайшло ўжо на начлег;
А ля мяне, глядзі, растаў як снег!
Калі зазелянець жадаеш ты зімою,
Як летам ці вясною,
Дай у сябе маленькі мне куток!»
Умова зроблена, і ў лесе Аганёк
Становіцца Агнём, Агонь палае:
Бяжыць ён па ствалах, аблізвае сукі,
І дыму чорнага ўздымаюцца клубкі,
І хутка полымя ўсю Кудру ахапляе.
Усё згарэла ўшчэнт, і там, дзе ў спёкі дні
Мог адпачыць вандроўнік у цяні,
Тарчаць адны асмаленыя пні.
І тут няма чаго дзівіцца:
Не варта дрэвіне з агнём вадзіцца.

## ЧЫЖ І ВОЖЫК

Адзін, наводшыбе, ў бары
Нясмелы Чыж чырыкаў на зары,
Зусім не для таго, каб зарабіць ухвалу,—
Няма за што. Спеў сам гучаў сабе памалу.
І тут у бляску променяў сваіх
Агністы Феб з абшараў вадзяных
Узняўся.

Здавалася, што ён прынёс жыццё ўсяму,
І насустрэч яму
Хор гучных салаўёў у пушчы разлягаўся.
Чыж раптам змоўк: «А ты чаго,—
Спытаўся Вожык у яго,—
Мастацтва не паказваеш свайго?»
«Бо гімн спяваць я голасу не маю,
А слабым славіць не хачу,
Таму вось і маўчу,
І Феба не ўслаўляю».

Так я са смуткам наракаю,
Што мне Піндара ліры лёс не даў:
Я б Аляксандра праслаўляў.

## МАЛПЫ

Разумна пераймаць ніколі не загана,
Карысць нам гэта можа даць,
А вось бязглузда пераймаць,
Не дай ты, божа, як пагана!
Я прыклад прывяду з краін чужых.
Хто бачыў малпаў, тыя знаюць,
Што ўсё яны старанна пераймаюць.
Дык вось у Афрыцы, дзе так багата іх,
На дрэве, на суках, між зелені густой,
Чародка малпаў раз сядзела
І крадкам на лаўца глядзела,
Як па траве качаўся ў сецях той.
Тут Малпа Малпу ў бок — штурхель нагою
І шэпчуцца паміж сабою:
«Ну, гляньце ж вы на малайца,
Як штукі вырабляе без канца!
То ён кульнецца,
То размахнецца,
А то, дальбог,
У камячок ён так збярэцца,
Што не відаць ні рук, ні ног.
На ўсё мы здатныя, сястрыцы,

А вось такога ў нас мастацтва не відаць.
Красуні-маладзіцы!
Не шкодзіла б нам гэта пераняць.
Здаецца, нагуляўся ён. Прыкмецьце,
Як толькі пойдзе, дык тады мы ўраз...»
Пайшоў лавец, пакінуўшы ім сеці.
А Малпы тут: «Чаго нам траціць час?
Давайце забаўляцца!»
Красуні злезлі ўніз. Для дарагіх гасцей
Прыгатавана шмат сяцей.
Давай тут Малпы ў іх качацца ды куляцца,
Укручвацца ды захінацца.
Крычыць, вісчыць, дурэе чарада!
Ды вось бяда,
Калі з сяцей прыйшлося выраблягца!
Лавец між тым сачыў здалёк,
Убачыў, што пара, і да гасцей з мяшкамі.
Яны памкнуліся наўцёк,
Ды з месца ні на крок,
І ўсіх пабралі іх рукамі.

## СІНІЦА

Сініца к мору падалася,
Яна клялася,
Што мора выпаліць датла.
Аб гэтым чутка на ўвесь свет пайшла.
Сам цар марскі Нептун калоціцца ад страху;
Ляцяць чароды птахаў,
Звяры з лясоў збягаюцца глядзець,
Як будзе акіян, ці горача, гарэць.
І нават, кажуць, нейкія абжоры,
Што сквапны на чужыя пірагі,
Прыбеглі з лыжкамі на берагі,
Каб тлустай поліўкі пасёрбаць з мора,
Якой чыноўных кручкатвораў
Не частаваў купец другі.
Цікаўных шмат прыйшло, каб з цуда падзівіцца;
Глядзіць на мора кожны, не змігне,
Хто-небудзь толькі час-часом шапне:
«Вось закіпіць, вось хутка загарыцца!»
Ды дзе там! — мора не гарыць.
Дык, можа, хоць кіпіць? І не кіпіць.

Сініца з сорамам назад ляціць:
Дарэмна шуму нарабіла,
А мора і не запаліла.

Нікога каб не крыўдзіць нам,
Я толькі пару слоў дадам:
Пакуль не зробіш справы,
Не распускай ты славы.

## АСЁЛ

Калі сусвет Юпітэр засяляў,
Ствараючы жывёлін розных масу,
Дык і Асёл на свет тады папаў.
Але наўмысле, ці не меў ён часу,
Ці, можа, не было патрэбнага прыпасу,—
А толькі грамаўладны маху даў:
Асёл як белка ростам выглядаў.
Асла амаль ніхто не прыкмячаў,
А ён пыхлівы быў і наракаць пачаў.
Аслу хацелася павыхваляцца,
А чым, калі такі малы,
Што сорамна і ў людзі паказацца?
Вось да Юпітэра прыстаў ён горш смалы,
Каб той яму прыбавіў росту.
«Ах, змілуйся! Няма больш сіл маіх!
Львы, барсы і сланы ў пашане ад усіх,
А я... Не вытрымаю проста!
Чаму ты іх высока ўзнёс,
А нам такі благі даў лёс,
Што пра аслоў ніхто ні слова?
А каб з цяля хаця я ростам быў,
Дык пыху б і са льва і з барса збіў,
І пра мяне ўвесь свет бы гаварыў».
Штодзень нанова
Асёл Зевесу тое ж пеў
І так дадзеў,
Што ў рэшце рэшт мальбы Асловай
Паслухаўся Зевес:

Зрабіў Асла жывёлінай вялікай,
А звыш таго такі даў голас дзікі,
Што мой вушаты Геркулес
Перапалохаў цэлы лес.
«Што там за звер? Якога роду?
Зубаты, мусіць? Мае шмат рагоў?»
Ну, толькі й гутаркі, што пра яго.
А што ж далей было? Не прамінула году,
Усе пазналі, што Асёл —
Дурніла, вось і ўсё,
Нічым нікому ён не грозіць,
І на Асле ваду ўжо возяць.

Высокасць гэткая не варта ні граша,
Калі высокі чын, ды нізкая душа.

## ДВА ГАЛУБЫ

Жылі два Галубкі, як два браточкі, дзесьці,
Адзін без аднаго не мог ні піць, ні есці;
Дзе ўбачыш аднаго, другі, напэўна, там;
І радасць і тугу дзялілі папалам.
Не бачылі яны, як дзён чарга сплывала,
Бывала сумна ім, а нудна не бывала.
Ну, як, здаецца, тут хацець
Пакінуць тых, хто сэрцу любы?
Дык не! Задумаў з іх адзін ляцець
Пабачыць, аглядзець
Зямны ўвесь шар сабе на згубу,
Дазнацца, дзе маны і праўды берагі.
«Куды ты? — кажа, ледзь не плачучы, другі.—
Што за карысць табе бадзяцца?
Ці з другам хочаш ты расстацца?
Калі табе мяне ўжо не шкада,
То ўспомні коршакаў, сіло, буран сустрэчны
І ўсё, чым вандраванні небяспечны.
Хоць пачакай вясны ляцець такую даль,
Тады і я згаджуся мо на гэта.
Цяпер жа дзе ты знойдзеш харч?

Вунь, чуеш? Крумкае крумкач,—
Паганая прыкмета.
Дык застаніся, мілы мой!
Удвух нам весела з табой.
Куды табе ляцець, не разумею;
А я тут без цябе зусім асірацею.
Сіло ды каршуны і ў сне
Здавацца будуць мне:
Няшчасця над табой я буду ўсё баяцца.
Ледзь хмарка з'явіцца над галавой,
Адразу я скажу: «Ах, дзе ён — братка мой?
Ці жыў? Ці ёсць дзе ад дажджу схавацца?»
Ад слоў тых Галубку на сэрца смутак лёг,
Але жадання ён перамагчы не змог,
Што пачуццё і розум засланіла.
«Не плач,— адказвае,— мой братка мілы!
На тры дзянькі цябе пакінуць я хачу,
Каб хутка на ляту прыкмеціць,
Што ёсць дзівоснага на свеце,
І пад тваё крыло дадому прылячу.
Тады ўжо раскажу я не адну навінку:
Пра кожную мясцінку,
Пра разнастайнасць звычаяў і спраў,
І дзіва бачыў дзе якое,
Перад табой устане, як жывое,
Нібы са мною ты па свеце сам лятаў».
Ну — што ж рабіць? Прыйшлося ім расстацца,
Пацалавацца, развітацца.
Вандроўнік наш ляціць; тут раптам дождж і гром;
Пад ім, як акіян, сінее стэп кругом.
На шчасце, дуб сухі на вочы паказаўся;
Вандроўнік на яго — туліўся, прыціскаўся,
Але ад холаду сябе не засцярог:
Дрыжаў, прамокшы з галавы да ног.
Патроху гром уціх. Ледзь сонейка заззяла,
Як Галубка далей жаданне вабіць стала.
Атросся і ляціць... Ляціць і з-пад аблок
Ля лесу зерняткі пшанічныя прыкмеціў,
Спусціўся ён і — проста ў сеці.
Бяда — папаўся Галубок.
Трапечацца ён, рвецца, б'ецца;
Старая сець была: сяк-так яе прарваў,
Хоць ножку вывіхнуў і крыльцы трохі змяў,

Ды не да іх: ён прэч адгэтуль падаецца...
Тут горшая бяда над галавой:
Імчыцца коршак на разбой.
Трымціць ад страху Голуб мой,
Ад коршака ўцякае,
Ды сілы больш няма. Драпежнік мой з гары
Ужо над ім наставіў кіпцюры,
І холад ад яго шырокіх крыл шугае.
Ды тут арол аднекуль, як віхор,
Ударыў коршака з усёй магутнай сілы —
Драпежнік ды драпежніка задзёр,
Між тым наш Голуб мілы
Уніз тут рынуўся, прысеў пад плот,
Ды гэта не канец прыгод,
Адна бяда другую наклікае:
Тут хлопчык, чарапком шпурнуўшы ў Галубка,
(Дзіця — яму бяда якая?)
Раструшчыў скронь у бедака.
І вось вандроўнік наш з разбітай галавою,
Папсаваным крылом, скалечанай нагою,
Пракляўшы сквапнасць бачыць свет,
Ляціць дамоў сяк-так без новых бед.
Шчаслівы ён яшчэ, што дружба там чакае,
Якая лепш за дактароў
Дагледзіць, вылечыць, і будзеш ты здароў:
Пры другу друг бяду і гора забывае.

Вось кожны, хто аб'ехаць свет наўкруг,
Як Голуб той, жадае,
Хай гэту байку прачытае
І сцішыць свой вандроўны дух.
Якія б вас ні вабілі навіны,
За тую лепшай вы не знойдзеце краіны,
Дзе ваша мілая ці дзе жыве ваш друг.

## ЧЫРВОНЕЦ

Асвета — на карысць народу.
Хто ж гэта будзе адмаўляць?
Але асветай любім зваць
Часамі мы раскошы моду
І нават звычаяў распусных шкоду:
Дык трэба вельмі разбіраць,
Як станеш грубасці кару з людзей здзіраць,
Каб добрых якасцей ад іх не адабраць,
Не закрануць душы найлепшыя праявы,
Каб не пазбавіць прастаты
І, даўшы толькі бляск пусты,
Няславы не набыць для іх заместа славы.
Пра гэты доўг святы
Хапіла б важных слоў на кніжак пару,
Ды важна гаварыць не кожнаму да твару,
Дык з жартам папалам
Я гэта байкаю хачу давесці вам.

Адзін мужык-прасцяк — і сам аб тым не марыў —
Знайшоў Чырвонец на зямлі
Запылены, на ім сляды гразі былі,
Аднак жа медзякоў мо прыгаршчаў са трое
За той Чырвонец мужыку даюць.
«Чакайце,— кажа ён,— дасце яшчэ не тое!
Я нешта з ім зраблю такое,
Што аж яго ў мяне з рукамі адарвуць».
Набраў мужык пяску, жарствы і мелу
Ды цэглы дробненька натоўк,
І... праца закіпела.
Мужык у працы знае толк:
Чырвонец ён аб цэглу точыць,
Жарствой дзярэ,
Пяском і мелам трэ,
Каб аж гарэў, як жар, зрабіць ён хоча.
І што ж — гарыць Чырвонец, як агонь,
Ды толькі стала
Вагі ў ім мала,
Цану былую страціў ён.

## ТРАЯЖЭНЕЦ

Якісьці грахаводнік
Пры жонцы пры жывой завёў яшчэ аж дзвюх.
Калі пра гэта Цар даведаўся ад слуг
(А Цар той строгі быў і не ахвотнік
Такім учынкам спагадаць),
Дык Траяжэнца ён сказаў пад суд аддаць
І выдумаць яму такую кару,
Каб страх узяў людзей
І болей каб такіх не толькі што падзей,
А нават не было і мараў.
«Як будзе,— кажа,— кара замала,
Павешу суддзяў тут жа, ля стала».
Вядома, суддзям не да жартаў,
Аж кідае ў халодны пот:
Тры дні сядзяць і думаюць упарта,
Пусціць якую кару ў ход.
Іх тысячы, ды практыка даводзіць,
Што зла рабіць яны не могуць перашкодзіць.
Нарэшце некаму даў розум Бог
Прапанаваць тут спосаб новы,
І суддзямі, з агульнай змовы,
Прысуд быў вынесен суровы:
Аддаць распусніку ўсіх жонак трох.
З прысуду гэткага народ дзівіўся:
Павесіць суддзяў Цар — тут ясна ўсім было,
Але і тыдня не прайшло,
Як Траяжэнец наш пятлёю задавіўся.
Навука не прайшла дарма,
І болей з жонкамі трыма
Ніхто ў тым царстве не жаніўся.

## АРОЛ І КУРЫ

Арол, любуючыся ранкам,
У высі воблачнай лятаў
І там гуляў,
Дзе нараджаецца маланка.

Спусціўшыся на ніз хвілінку пасядзець,
Цар-птушка села па павець.
Хоць гэта для Арла як быццам і занізка,
Ды норавы цароў не нам распазнаваць:
Ці, можа, ён хацеў павець ушанаваць,
Ці мо не меў на чым адпачываць —
Ні дуба, ні скалы не бачыў блізка,
Не ведаю, што ён у думках меў,
Але хвілінку пасядзеў
І на суседнюю павець пераляцеў.
Квахтуха з гэтага не можа надзівіцца
І так дудукае з сваёй кумой:
«За што Арлы ў пашане у такой?
Няўжо за лёт? Дальбог, сястрыца,
Як моцна захачу,
З павеці на павець і я пералячу.
Мы па сваёй дурной натуры
Лічылі, што яны за нас вышэй,
А ў іх не больш ні ног і ні вачэй,
Ды і лятаюць не ямчэй,
А так жа нізка, як і куры».
«Яно-то так, ды не зусім,—
Арол з пагардай кінуў ім,—
Арлам трапляецца ніжэй курэй спускацца,
Але курам да хмар ніколі не падняцца».

Калі аб талентах бярэшся меркаваць,
Іх слабасці лічыць — не траць дарэмна працы:
Умей на ўзровень талентаў узняцца,
Каб хараство іх разбіраць.

## ЖАБЫ, ЯКІЯ ПРАСІЛІ ЦАРА

Чамусьці Жабам стала невыгодна
З уладаю народнай,
Як быццам невысакародна
Без службы і на волі жыць.
Дык што ж рабіць?
Надумалі ў багоў Цара яны прасіць.

Хоць глупства разбіраць багам непадыходна,
Аднак Зевес паслухаў іх, і Цар
Да Жаб ляціць ужо з-за хмар
І пляснуўся на царства з гэткай сілай,
Што ўся дрыгвяная дзяржава захадзіла.
Тут Жабы з усіх ног —
Куды хто мог,
Давай хавацца хутка,—
Цішком дзівіліся з Цара ў закутках.
Што Цар выдатны, ўсім відно:
Не легкадумны ён, не сумятлівы,
Паважны, велічны, маўклівы,
Ды толькі дрэнна ў ім адно,—
Што ён — асінавае бервяно.
Шануючы спачатку сан высокі,
Не смее да Цара і падысці ніхто:
Глядзяць са страхам на яго, і то
Праз асаку, цішком, здалёку.
Ды дзіў такіх няма, як свет вялік,
Каб свет да дзіва не прывык.
І тут падданыя ад страху адпачылі,
І да Цара паўзці з пакораю рашылі.
Спярша перад Царом нічком,
А там смялейшыя садзяцца ўжо бачком.
А там і поплеч гэтакім жа ладам.
А хто храбрэй за ўсіх, дык той
Садзіцца да Цара ўжо задам.
А ён цярпіць па дабраце сваёй.
Глядзіш праз нейкі час, хто хоча,
Той на яго і ўскочыў.
Абрыдла за тры дні жыццё з такім Царом.
Нанова Жабы б'юць чалом,
Каб у балотную дзяржаву
Юпітэр даў Цара на славу.
Пачуўшы іх мальбу, для паляпшэння спраў,
Юпітэр Жорава на царства ім паслаў.
Ну, той не бервяно,— павёў іначай справу:
Не любіць балаваць народу ён свайго
І вінаватых есць. Напэўна, ад таго
Нявінных на судзе няма ні аднаго.
Затое ж у яго,
Як снеданне, абед, вячэра, то й расправа.
На жыхароў балот
Прыйшоў сапраўдны звод,
Не застанецца хутка на завод.

Па царстве ходзіць Цар, як пошасць тая,
І кожнага, каго ні напаткае,—
Ці вінават ці не,—
Засудзіць і глытае.
Тут скаргі, кваканне ўдвайне
І просьба зноў да бога,
Каб даў Юпітэр ім Цара другога,
Бо Цар цяперашні глытае іх, як мух,
Дык нават нельга ім (ну, як жа тут не плакаць?)
І носа высунуць, насмелую паквакаць.
Страшней, чым засуха, ім гэты царскі зух.
«Што ж вы раней шчасліва жыць не ўмелі?
Хіба не мне,— ім з неба быў адказ,—
Спакою не было ад вас?
Царом жа вы мне вушы прадудзелі.
Цара ж я даў? Дык скардзіліся вы,
Што ён паводзіцца занадта ціха.
Другога даў — занадта баявы.
Жывіце ж з ім, каб горшага не мець вам ліха!»

## ЛЕЎ І БАРС

Калісьці ў даўніну
Леў з Барсам вёў зацятую вайну
За спрэчныя лясы, за выгаднасць пячораў,
Няма ў іх звычаю, каб падаваць у суд;
І што да права — ў іх асобны нораў
І свой няпісаны статут:
Хто здужае, таго і права тут.
Аднак, урэшце, нельга ж вечна біцца,
І кіпці могуць прытупіцца:
Па справядлівасці яны гатовы пагадзіцца,
Каб дзеянні ваенныя спыніць,
Уладзіць непаладкі,
Пасля, як водзіцца, мір вечны заключыць...
Да першай сваркі-звадкі.
«Прызначым жа без лішніх слоў
Мы ад сябе сакратароў,—
Льву прапануе Барс,— і як яны рассудзяць,
Дык так і будзе.

Напрыклад, я прызначваю Ката:
Хоць звер малы, ды ў ім сумленне чыстата.
А ты Асла прызнач: жывёла не малая,
Дарэчы будзе тут сказаць,
Што розум ён і чын паважны мае!
Павер, што твой савет, прыдворная ўся знаць
Капыціка яго не варты.
Дык згодзімся на тым,
На чым
З маім Катом ён скончыць торг упарты».
Парада Барсава была
Прынята без гаворкі,
Аднак Лісу, а не Асла
Прызначыў Леў для гэтае разборкі,
Сказаўшы сам сабе (відаць, ён ведаў свет):
«Што раіць вораг нам, таго рабіць не след!»

## ВЯЛЬМОЖА І ФІЛОСАФ

Вяльможа з Мудрацом аднойчы размаўляў
Пра сутнасць розных спраў.
«Скажы мне,— ён спытаў,— ты свет даволі знаеш
І ў сэрцах у людзей чытаеш:
Чаму, што б мы ні пачалі,
Суды або суполкі там вучоных завялі,
Яшчэ не ўспееш аглянуцца,
А невукі даўно там труцца?
Няўжо ад іх ратунку нам няма?»
Мудрэц яму: «Ну, гэта вы дарма.
З суполкамі вось тое ж (кажучы між намі),
Што і з драўлянымі дамамі».
«Як так?» — «Ды так. Я дом свой скончыў днямі:
Яшчэ не перабраўся сам,
А цвыркуны даўно ўжо там».

## ПАМОРАК

Страшэнны біч нябёс — паморак з нейкіх пор
Лютуе па лясах. Звяры прыўнылі,
Нібы ім дзверы ў пекла адчынілі.

Смерць ходзіць па палях, лагчынах, высях гор.
Куды ні глянь, валяюцца ахвяры;
Яна бязлітасна, як сена, косіць іх,
А тыя, што яшчэ ў жывых,
Чакаюць смерці сумныя, як хмары.
Зусім прыгнёў іх страх,
Змяніліся звяры ну, проста, на вачах:
Не душыць воўк авец — стаў ціхі, як манах;
Спакой дала курам ліса — у норцы пасціць:
Яда на розум не ідзе.
З галубкай голуб у бядзе
Варкот любоўных не вядзе:
А без варкот якія ж весялосці?
Леў даў загад на сход звяроў сабраць.
Плятуцца крок за крок, у чым ліпяць іх душы!
Сышліся ў цішыні, сядзяць вакол цара,
Вачамі не змігнуць, папрыгіналі вушы.
«Сябры! — прамовіў Леў.— За намі шмат грахоў.
Страшэнна мы прагневалі багоў,
Дык той між нас, хто вінават найболей,
Няхай па добрай волі
Аддасць сябе ў ахвяру сам,
Каб дагадзіць багам!
Мо б шчырасць гэта ўтаймавала,
Ці хоць змякчыла жорсткасць гневу іх.
Бо хто не ведае між вас, сяброў маіх,
Што прыкладаў ахвяр такіх
Было ў гісторыі нямала?
Дык і на гэты раз
Няхай прызнаецца тут кожны з нас,
Чым саграшыў калі ён вольна ці нявольна.
Пакаемся ж, сябры! Баліць душа мая,
Але прызнацца сёння здольна,
Што не святы і я.
Авечак бедненькіх,— была ж бы хоць прычына!
Я задзіраў зусім бязвінна.
А іншы раз — хто без грахоў? —
Бывала, драў і пастухоў:
Дык быць ахвяраю згаджаюся ахвотна.
Але раней нам лепш усім пералічыць
Свае грахі: на кім іх больш ляжыць,
Таму з нас і ахвярай быць,—
Я думаю, багам так будзе больш лагодна.

«О, цар наш, добры цар! Ад лішняй дабраты,—
Прамовіла Ліса,— тут грэх знаходзіш ты.
Калі сваё сумленне гэтак несці,
Дык з голаду падохнем мы, нарэшце,
Павер нам, наш айцец! —
Ды гэта ж гонар для авец,
Што ты іх маеш ласку есці.
А што да пастухоў, мы ўсе тут б'ём чалом:
Дзяры іх больш — усіх бы агулом.
Бясхвосты гэты род дурною пыхай дыша,
Царамі нашымі сябе заўсёды піша».
Як скончыла Ліса, другія ўслед за ёй
З пахіленай ліслівa галавой
Сказаць спяшаюцца наперабой,
Што Льву няма ў чым нават спавядацца.
За Львом Мядзведзь, і Тыгр, і сівыя Ваўкі,
Узор убачыўшы такі,
Рашылі і ў сваіх грахах прызнацца,
Ды іх бязбожных самых спраў
Ніхто са страху не чапаў.
І ў выніку ўсе тыя,
Хто кіпцюром ці зубам быў багат,
Выходзілі падрад
Не толькі без віны — ледзь нават не святыя.
За імі Вол рахманы мыкае: «І мы
З грахом. Таму гадоў мо пяць сярод зімы,
Харчоў быў недахоп вялікі,
Мяне на грэх нячысцік падаткнуў:
Не могучы дастаць нідзе сабе пазыкі,
Са стога у папа я сена скубянуў».
Тут крык і лямант узнялі суседзі —
Ваўкі, і Тыгры, і Мядзведзі:
«Ах, зладзюга! Разбой!
Чужое сена есць! Праз гэтую пачвару
Такую нам багі паслалі кару!
Яго, нягодніка, з рагатай галавой,
Багам прынесці зараз жа, адразу,
Каб целы ўратаваць і душы ад заразы
І больш не знацца нам з бядой!»
Прыгаварылі —
І на касцёр Вала ўзвалілі.

Такіх вось выпадкаў і між людзей ёсць шмат:
Хто ціхі, той і вінават!

## САБАЧАЯ ДРУЖБА

Ля кухні пад акном
На сонейку Палкан з Барбосам спіны грэлі.
Хоць ля варот перад дваром
Прыстойней вартаваць было б ім дом,
Але як добра ўжо яны пад'елі,—
Паколькі ветлівы сабака ўдзень
Брахаць не будзе на людзей,—
Дык гутарка у іх сама сабой ідзе
Аб сім, аб тым, аб іх сабачай службе,
Аб добрым і благім, нарэшце, і аб дружбе.
«Што можа,— кажа тут Палкан,— прыемней быць,
Як з другам сэрца ў сэрца жыць,
Гатовым быць для друга на паслугу,
Дзяліцца крошкай пры ядзе,
Абараняць яго ў бядзе,
Глядзець заўсёды ў вочы другу,
Каб толькі выбраць зручны час
Адданасць даказаць, сяброўства, згоду
І ўласную ў тым бачыць асалоду?
Вось каб такая дружба, думаў я не раз,
Была з табой у нас!
Ах, як было б дарэчы!
Нам скарачалі б час сяброўскія сустрэчы».
«Што ж, я не супярэчу,—
Адказвае Барбос.—
Даўно, Палканчык мой, балюча мне да слёз,
Што ў нас, сабак з адной гасподы,
Няма ні каплі згоды.
За што ж грызёмся? Дзякаваць панам:
Ні голадна, ні цесна нам!
Нарэшце — гонар наш сабачы:
Сабака лепшы друг — такая слава йдзе;
А дружбы між сабак, як быццам між людзей,
Амаль ніколі мы не бачым».
«Няхай жа будзе дружба хоць адна! —
Крычыць Палкан.— Дай лапу!» — «Вось яна!»
І новыя сябры давай тут абнімацца
Ды цалавацца;
Не ведаюць, к каму прыраўнавацца:
«Арэст мой!» — «Мой Пілад!»
Прэч сваркі, зайздрасць, злосць!

Тут повар на бяду ім з кухні кінуў косць.
Вось да яе сябры наўзахваткі імчацца,—
Ім не наўме дружыць,
Давай Пілад з Арэстам загрызацца,
Аж толькі шмоцце з іх ляціць:
Іх ледзьве разлілі вадою.

Свет поўны дружбаю такою.
Цяпер у дружбакоў малая ёй цана
І падыход амаль што ў іх аднакі:
Паслухаць, дык душа, здаецца, ў іх адна,
А кінь ім толькі косць, дык што твае сабакі!

## ПАДЗЕЛ

Кампанія купцоў супольна гандлявала,
Кантору мела, дом гандлёвы свой,
І, зарабіўшы барышу нямала,
Давай дзяліць яго паміж сабой.
Але дзяльбы без спрэчак не бывала.
Спрачаюцца яны за грошы, за тавар,
Як раптам крык, што ў доме ў іх пажар.
«Хутчэй жа ратаваць спяшайце
Тавар і дом!»
Крычыць адзін: «Вадою залівайце!
Рахункі потым падвядзём!»
«Раней мне толькі тысячу маю аддайце,—
Крычыць другі, забыўшы пра бяду,—
Іначай я і з месца не сыду».
«Мне дзве не дадалі, вось тут рахунак ясны»,—
Яшчэ адзін крычыць. «Ах, прайдзісвет няшчасны!
Рахункі правільней пішы!»
І так яны за барышы
Спрачаліся, шумелі,
Пакуль іх дым не задушыў
І ўсе яны з сваім дабром згарэлі.

І ў справах, што за гэтыя важней,
Часамі так бывае:
Канец трагічны справа мае,
Калі замест таго, каб стрэць бяду дружней,
Пра выгаду сваю асобна кожны дбае.

## БОЧКА

Раз нехта папрасіў у дружбака свайго,
Каб дні на тры пазычыў бочкі для яго.
Паслуга ў дружбе — рэч святая!
Каб грошай ён прасіў,— ну, справа ўжо другая:
Тут можна дружбу занядбаць,
А бочку... бочку можна даць,
Тым больш — нянадаўга, ідаць...
Праз два дні зноў у ёй вазілі воду.
І ўсё б нішто, ды дрэнна тут адно:
Што бралі бочку пад віно
І так яна набралася смуроду,
Што вінны дух ад бочкі ўсюды йдзе:
У квасе ён, у піве, нават у вадзе.
Наш гаспадар з ёй біўся каля году:
То выпарыць, то выветрыць яе,
Але чым бочку не налье,
Усё яна сівухай аддае,
І з бочкаю прымушан ён расстацца.

У гэтай байцы прыклад ёсць бацькам:
Калі даводзіцца ў маленстве нам
З навукай шкоднаю спазнацца,
Пасля заўсёды ў змесце нашых спраў,
Хоць што б ты ні дакляраваў,
Яна ўсё будзе адчувацца.

## ВОЎК НА ПСЯРНІ

Воўк ноччу ўлезці мерыўся ў аўчарню,
Ды трапіў незнарок на псярню.
Падняўся раптам псярны двор.
Дух шэрага пачуўшы забіякі,
Заходзяцца ў хлявах і рвуцца ў бой сабакі;
Псяры крычаць: «Папаўся, жывадзёр!»
І ўмомант браму на запор;
Бягуць — адзін з дуб'ём, другі з ружжом,
Народу збеглася парадкам.
«Агню! — крычаць,— агню!» Прыйшлі з агнём.
Мой Воўк упёрся ў кут азадкам,
Зубамі ляскае, дубка паставіў шэрсць.
Вачамі ўсіх, здаецца, з'есць.
Ды, ўбачыўшы, што тут не перад статкам,
Што давядзецца пад канец
Яму адказваць за авец,
Заводзіць наш хітрэц
Перагаворы
І кажа так: «Сябры! Нашто ўвесь гэты шум?
Я, ваш даўнейшы сват і кум,
Прыйшоў мірыцца к вам. Пакінем жа дакоры,
Забудзем даўняе, супольны зробім лад!
А я не толькі не крану авечак і ягнят,—
Сам грызціся за іх з другімі буду рад.
Прысягай воўчай прысягаю,
Што я...» — «Чакай, сусед,—
Перапыніў яго тут Лоўчы,—
Ты шэры вось, а я ўжо сівы дзед,
Дык добра ведаю характар воўчы
І слоў дарэмна траціць не люблю:
З ваўкамі я пра мір не размаўляю
Раней, чым шкуру з іх злуплю».
Сказаў і выпусціў на Воўка гончых зграю.

## РУЧАЙ

Пеў жаласна ў журбе пастух ля ручайка,
Не пеў, а галасіў у смутку:
Яго любімае ягня-малютку
Надоечы ўзяла рака.

Пачуўшы пастуха, Ручай бурчыць сярдзіта:
«Рака пражорная! Няхай бы дно твае
Было такое, як маё,
Каб ясна ўсё было ў ім і адкрыта,
Каб кожны бачыў у цябе на дне
Ахвяры ўсе, якія ты глытала!
Зямлю б ад сораму наскрозь ты пракапала
І ў цёмных нетрах бы прапала.
Каб гэта лёс ды даў бы мне
Багатыя такія воды,
Я, стаўшы хараством прыроды,
І курыцы не прычыніў бы зла:
Так асцярожненька б вада мая цякла
Каля халупінкі і кожнага кусточка!
Усім так робячы адно дабро,
Не прычыніўшы ні бяды, ні гора,
Вада мая да саменькага мора
Чысцюткая б дайшла, як серабро».
Так гаварыў Ручай і так ён марыў,
Аднак праз тыдзень з навальнічнай хмары
Паблізу над суседняю гарой
Праліўся лівень мнагаводны:
Ручай зраўняўся тут з ракой,
І дзе ж цяпер яго настрой лагодны?
Ён цераз берагі б'е мутнаю вадой,
Кіпіць, раве ад злосці ў белай пене
І выварочвае дубы з карэннем,
Аж толькі трэск чуваць падаляку;
І самы той пастух, што за яго раку
Так дакараў Ручай, расчулены бядою,
Загінуў разам з чарадою,
Ад хаткі ж ад яго прапалі і сляды.

Як многа ручайкоў журчыць пра мір ды згоду,
Нібы нясуць для сэрца асалоду,
Ды гэта ўсё таму, што мала ў іх вады!

## ЛІСІЦА І СУРОК

«Куды, кума, бяжыш, як ухапіўшы жару?» —
Лісіцу запытаў Сурок.
«На высылку, кумок, мой галубок!
Нясу, бязвінная, нібы за хабар, кару.
Суддзёй жа над курамі я была,
Здароўе і спакой на гэта аддала,
За працаю куска недаядала,
Начэй недасыпала,
Яшчэ за тое і пад суд папала.
А ўсё — адзін паклёп. Ну сам падумай ты:
Паклёп жа узвядуць, хоць будзь зусім святы!
Мне хабар браць? Ці ж я, кумок, рашуся?
Ці ж ты б сказаў, я на цябе спашлюся,
Што вінавата я у гэтым хоць крыху?
І ў галаву табе не прыйдзе гэта думка!»
«Ох, часцяком я бачыў, кумка,
Што рыльца у цябе ў пуху».

Так іншы, месца маючы, ўздыхае,
Нібы рубель апошні дажывае,
І сапраўды, ўвесь горад знае,—
Няма ў яго ні за сабой,
Ні за сям'ёй.
А там, зірнеш,— паціху ды патрошку,
То дом збудуе ён, то купіць сабе вёску.
Тут, сам сабе падумаўшы ўцішку,
Хаця ў судзе і не дакажаш,
Ды як жа не сагрэшыш і не скажаш:
Што рыльца у яго ў пушку.

## ХЛУС

Вярнуўшыся з чужых краін,
Якісьці, мабыць, князь ці проста дваранін,
Гуляючы з прыяцелем у полі,
Стаў выхваляцца тым, дзе ён бываў,
І к былям небыліц без ліку прыкладаў.

«Не,— кажа ён,— што Бог мне бачыць даў,
Таго я не пабачу болей.
Што тут у вас за край?
То холадна, то горача бясконца,
То цемната, то ярка свеціць сонца.
Вось там дык проста рай!
Успамянеш — аж сэрцу люба!
Не трэба свечак тых, ні шубы;
Не знаеш век, які той ночы цень,
І круглы божы год ты бачыш майскі дзень.
Ніхто не садзіць там, не сее,
А паглядзеў бы ты, што там расце і спее!
У Рыме я, напрыклад, бачыў агурок.
Ах, мой дружок!
Яшчэ цяпер дзіўлюся я парою!
Павер, ляжыць — гара гарою».
«Ну, што за дзіва! — сябар тут пачаў.—
Дзівоснае на свеце ёсць усюды;
Яго не кожны толькі прыкмячаў.
Вось падыходзім самі мы да цуда,
Якога ты нідзе, напэўна, не страчаў,
У гэтым я спрачацца буду.
Ты бачыш вунь той мост, куды мы йдзем напрост?
Ён з выгляду нібы звычайны мост,
А вось табе мая парука,
Што не адважыцца па ім прайсці Манюка:
Не дойдзе ён і да паловы,
Праваліцца, і — будзь здаровы;
А хто не хлусіць — сып хоць у карэце».
«А як рака тут глыбінёй?»
«А так, што будзе з галавой...
Дык бачыш, друг: шмат дзіўнага на свеце!
Пра рымскі агурок я ўжо не гавару;
Ты кажаш, што ён быў з гару?»
«Гара хоць не гара, а з дом, напэўна, будзе».
«Наўрад ці гэтаму паверацъ людзі,
Дзівосы, што й казаць,
Аднак і мост, павінен ты прызнаць,
Цудоўную ўласцівасць мае,
Што на сабе Хлуса ён не ўтрымае.
На ім сяголетняй яшчэ вясной
Знайшлі сабе канец
(Пра гэта цэлы горад знае)
Два журналісты ды кравец.

Бясспрэчна, агурок і з дом велічынёй
Рэч дзіўная, калі ўсё гэта справядліва».
«Ну, не такое яшчэ дзіва;
Не думай, што, як тут, палацы, церамы;
Якія, братка, там дамы:
Дваім у дом насілу ўлезці,
І то ні стаць, ні сесці!»
«Няхай і так, дык ёсць чаму дзівіцца,
Што можна ў агурку дваім змясціцца.
Аднак пра мост што можаш ты сказаць?
Не пройдзе Хлус па ім і крокаў пяць,
Як шабултых у ваду!
Твой рымскі агурок хоць цуд...»
«А знаеш што,— сказаў Манюка тут,—
Чым нам на мост ісці, лепш пашукаем броду».

## АРОЛ І ПЧАЛА

Шчаслівы працаўнік у справе знакамітай:
Ужо ён сілы чэрпае з таго,
Што цэлы свет глядзіць на подзвігі яго.
Але пашаны варт і сціплы, цягавіты,
Хто траціць дзень у дзень і сілы і спакой,
Не дабіваецца ні выгады, ні славы
І повен думкаю адной:
Што для агульнае працуе справы.

Убачыўшы, як Пчолка здабывае мёд,
Арол сказаў ёй ганарліва:
«Шкада цябе — няшчасны вы народ
З усёй умеласцю і з працаю руплівай!
Вас сотні носяць мёд для аднаго вулля:
А як жа разабраць пасля,
Якая там твая работа?
Не ведаю, што за ахвота:
Век цэлы працаваць — і што ж на ўвазе мець?..
У невядомасці, без славы смерць сустрэць!
Якая розніца між намі!

Калі, махаючы шумлівымі крыламі,
Лятаю я пад небясамі,
То ўсюды сею страх:
Баяцца птушкі з долу ўзняцца,
Не дрэмлюць пастухі пры статку на лугах,
І лані быстрыя баяцца,
Мяне пабачыўшы, на поле паказацца».
Пчала адказвае: «Хвала табе, хвала!
Няхай Зевес табе памножвае шчадроты!
Я ж працаваць для ўсіх народжана была,
Не прагну вылучаць сваю работу,
І тым я цешуся, калі гляджу на соты,
Што мёду, каплю хоць, сюды прыдабыла».

## ЗАЯЦ НА АБЛАВЕ

Сабраўшыся вялікай чарадой,
Звяры мядзведзя аблажылі,
Сярод палянкі задушылі
І дзеляць між сабой,
Хто колькі закавеліць.
І Заяц тут на вуха медзвядзёва цэліць.
«Чакай! — крычаць яму.— Пастой!
А ты, касы, чаму грабеш дзялянку?
Цябе на лоўлі штось ніхто не заўважаў».
«Ну, што вы, хлопцы! — Заяц адказаў.—
А з лесу хто ж яго, калі не я, пужаў
І вам даставіў проста на палянку?
Таму ён і не ўцёк».
Хоць гэту ўсю лухту было і слухаць смешна,
Але маніў ён так пацешна,
Што вушка атрымаў мядзведжага шматок.

Хоць з выхвалякаў і смяюцца,
Аднак ім часцяком дзялянкі дастаюцца.

## ВОЎК І ЗЯЗЮЛЯ

Зязюлі Воўк сказаў: «Бывай, кума!
Спакою мне і тут няма.
І ў вас такія людзі і сабакі:
Хоць ты анёлам будзь, дык бойкі не мінеш,—
Такія ўсе тут задзіракі».
«А ці ж далёка сам ідзеш?
І дзе такі народ пачцівы,
З якім ты прыйдзеш да ладу?»
«Я прасцяком цяпер іду
Ў лясы Аркадыі шчаслівай.
Суседка, вось дзе старана!
Не знаюць там, што ёсць вайна;
А людзі — ціхія, нібы авечкі,
І малаком цякуць там рэчкі;
Ну, словам, любата адна!
Адзін другому ўсе, нібы браты, спрыяюць,
Сабакі ж і брахаць там звычаю не маюць,
Не толькі не кусаюць.
Скажы сама, галубка, мне,
Няўжо не міла, нават хоць бы ў сне,
Сябе ў краю пабачыць гэткім ціхім?
Бывай! Не памінай нас ліхам!
Вось там дык мы ўжо зажывём:
У згодзе, у выгодзе!
Не так, як тут: хадзі з аглядкай днём,
І ноччу не засні — бяда, дый годзе!»
«Шчаслівы шлях табе ў краіну дабраты.
Зязюля тут яму: — А нораў свой і зубы
З сабой бярэш ці тут пакінеш ты?»
«Пакінуць? Не пляці лухты!»
«Дык памятай, што быць табе без шубы».

Чым больш ліхадзей,
Тым больш крычыць і клепе на людзей:
Усюды ворагі, куды ні аглянецца,
А першы сам ні з кім ён не ўжывецца.

## ПЕВЕНЬ І ЖАМЧУЖНАЕ ЗЕРНЕ

Аднойчы Певень гной разгрэбаў
І Зерне Жэмчугу знянацку напаткаў:
«Пустая рэч,— пагардліва сказаў.—
Каму якая ў ім патрэба?
Па дурасці людской яно ў такой цане.
Куды было б карысней для мяне
Ячменю зерне: хоць блішчыць не гэтак,
Ды ёсць у ім наедак».

Заўсёды невукі так робяць:
На чым не знаюцца, дык тое — дробязь.

## АБОЗ

З гаршкамі раз ішоў Абоз,
І трэба тут з крутой гары спускацца.
Другім сказаўшы рыхтавацца,
Стаў зводзіць гаспадар памалу першы воз.
Конь добры на крыжы амаль яго панёс —
Так асцярожна, памаленьку.
А зверху конік маладзенькі
Глядзіць і лае сяк і так:
«Ай, конь хвалёны, проста дзіва!
Ну, гляньце ж вы: паўзе, як рак;
Вось ледзь не зачапіў за камень; коса! крыва!
Смялей! Ну вось ізноў штуршок,
А тут бы крышку ўзяць убок.
Які асёл! Каб гэта на гару крутую
Або ў пару начную,
А то ж з гары вязе і днём!
Глядзець і то цярпення не хапае!
Вазіў бы лепш ваду — няўдаліца такая!
Вось глянь на нас, як мы махнём!
Хвіліначкі не замарудзім,—
Як бачыш пад гарою будзем».
Тут, выгнуўшы хрыбет, напяўся ён, як мог,
І на хамут грудзьмі налёг;
Як толькі ж узышоў на скат пахілы,

Стаў воз тут напіраць усёю сілай:
Каня штурхае ўзад, каня штурхае ўбок;
Пусціўся конь наўскок,
Імчыць на славу;
Па грудах, ямінах пайшлі штуршкі,
Скачкі,
Лявей, лявей! Бух з возам у канаву!
А добрыя былі гаршкі!

Такія і з людзьмі здараюцца прыгоды:
Здаецца ўсё ў другім памылкай нам,
А возьмешся за справу сам,
Дык удвайне наробіш шкоды.

## ГРУГАНЯ

На чараду Арол з-пад хмары наляцеў,
Ягня схапіў удала,
А малады Груган на гэта ўсё глядзеў,
І вось яму зайздросна стала,
Але ён думае: «Бярэш, то ўжо бяры
Або не пэцкай кіпцюры.
Бываюць і арлы, як бачна, слабаваты,
У чарадзе ж не толькі ёсць ягняты.
Вось я калі ўжо захачу
Ды налячу,—
Кавалак царскі залучу!»
Узняўся тут Груган над чарадою,
Аглядвае здабычу пад сабою:
Між соцень бараноў, ягнят, авец
Ён доўга выбіраў і выбраў пад канец
Баранчыка, але якога!
Мацёрага, буйнога,
Што добры воўк і то не зразу гамане,
Нацэліўся, злаўчыўся
І, колькі сілы ёсць, у шэрсць яму ўчапіўся.
«О не! — сказаў ён тут.—
Здабыча не па мне».

А горш за ўсё — кажух на баране
Такі багаты,
Густы, скудлачаны, кашлаты,
Што кіпцюроў з яго не выбавіць ніяк
Драпежнік наш крылаты,
І трапіў у палон дзівак.
Яго тут пастухі спакойна знялі,
А каб не мог ён больш лятаць,
Яму ўсе крылы паабцялі
І дзецям аддалі гуляць.

І між людзей часамі так бывае,
Як дробны прайдзісвет буйнога пераймае:
Дзе пройдзе важны казнакрад,
Там б'юць драбнейшых зладзянят.

## АСЁЛ І САЛАВЕЙ

Асёл убачыў Салаўя
І да яго: «Паслухай, даражэнькі!
Ты, кажуць, пець мастак — і не маленькі:
Хацеў бы вельмі я
Паслухаць сам твой спеў удалы —
Ці сапраўды такі ён дасканалы».
Тут Салавей паказваць талент стаў:
Зашчоўкаў, засвістаў.
На тысячу ладоў спяваў, пераліваўся;
То голас раптам прыцішаў
І сумнаю жалейкай адгукаўся,
То дробным шчэбетам па лесе рассыпаўся.
Зачараваны ўсе наўкол былі
Цудоўным спеваком Аўроры:
Прыціхлі ветрыкі, прымоўклі птушак хоры,
На пашы статкі прыляглі,
Амаль не дышучы, пастух ім любаваўся
І, слухаючы спеў, пастушцы усміхаўся.
Спеў скончаны. Асёл сказаў тут: «Так,
Пяеш нішто ты,
Цябе я слухаў без нудоты,
Шкада, аднак,—

Ты з нашым пеўнем не знаёмы.
Спявак ён слаўны, ўсім вядомы.
Яшчэ б ты болей налаўчыўся,
Каб у яго хоць крышку падвучыўся».
Які ж на гэта мог Салоўка даць адказ?
Пачуўшы суд такі, з вачэй ён знік ураз.

Ад суддзяў гэтакіх ратуй ты, Божа, нас.

## ВОЎК І ПАСТУХІ

Воўк, да аўчарніка разведваючы ход
І ўбачыўшы праз плот,
Як Пастухі тлусцейшую авечку
Спакойна пачынаюць разбіраць,
А псы ціхусенька ляжаць,
Сказаў сабе праз горкую ўсмешку:
«Які б тут крык узняты вамі быў,
Каб гэта я зрабіў!»

## СЕЛЯНІН І ЗМЯЯ

Як хочаш мець пашану ад людзей,
Сяброўства выбіраць умей!

Адзін Мужык з Змяёю быў здружыўся.
Змяя — хітрушчая здаўна:
Так падлізалася да Мужыка яна,
Што ёю той і кляўся, і бажыўся.
Затое з сваякоў, з сяброў ніхто
У доме у яго ніколі не бывае.
Мужык у крыўдзе наракае:
«Чаму вы адракліся ад мяне? За што?
Ці жонка вас нядобра частавала?
Ці хлеба-солі неставала?»

«Ды не, кумок,— Мацей яму ў адказ,—
Табе былі б мы рады кожны раз;
Ніколі ты не крыўдзіў нас,
І жонка ветліва прымала,
Ды што з таго, калі ў цябе сядзі
Ды толькі і глядзі,
Каб сябар твой не ўправіў джала».

## СВІННЯ ПАД ДУБАМ

Свіння пад Дубам векавым
Пад'ела жалудоў уволю, да адвалу,
Паспала, ўлёгшыся пад ім;
Пасля, прадраўшы вочы, ўстала
І лычам падрываць карэнне ў Дуба стала.
«Ты ж можаш дрэву так пашкодзіць,—
Стаў з Дуба воран ёй даводзіць.—
Аголіш карані, яно зусім усхне».
«Хай сохне. Клопат вельмі мне,—
Свіння спакойна адказала.—
Каб большай не было бяды.
Без Дуба пражыву, абы мне жалуды:
Ад іх на мне таўсцее сала».
«Няўдзячная! — прамовіў Дуб ёй тут.—
Каб угару магла падняць ты лыч хоць мала,
Дык гэтага ніколі б не сказала,
Бо жалуды ж на мне растуць».

Ёсць невукі — чаго таіць?
Другі дык на чым свет стаіць
Навуку і вучоных лае,
Хоць сам іх працу спажывае.

## МУХА І ПЧАЛА

Вясной у садзіку пры лёгкім вецярку
На тоненькім сучку
Сядзела, гойдалася Муха.
Убачыла Пчалу вяртуха:
«Ну што табе з таго,— сказала той яна,—
Што ў працы кожны дзень ты з ранку да цямна?
Каб гэтак мне, за суткі б я сканала.
Рэч іншая, маё
Зусім жа райскае жыццё,
Жыву і клопату мне мала,
У госці лётаю к панам:
Усе яны мне ў горадзе знаёмы,
Багаты кожны дом вядомы.
Каб ты пабачыла, як я балюю там!
Вяселле дзе ці імяніны,—
Я першая ўжо тут як тут
І ем з фарфоравых багатых блюд,
І з хрусталя салодкія п'ю віны,
І розныя прысмакі найчасцей
Раней каштую за гасцей;
Прыгожасць любячы бязмежна,
Вакол красунь люблю лятаць,
Саджуся ў іх адпачываць
На шчочцы ці на шыйцы беласнежнай».
«Я гэта ведаю,— адказвае Пчала,—
Ды чутка да мяне дайшла,
Што ўсюды ты — прычына скрухі,
Што ўсе аж моршчацца ад Мухі,
Такую нават чула рэч,
Што ўсюды гоняць цябе прэч».
«Ах, гоняць! Што ж такое?
Прагоняць праз акно, дык я ўлячу ў другое».

## ЗМЯЯ І АВЕЧКА

Змяя ляжала пад калодай,
Ад злосці курчылася ўся:
Няма ў яе другога пачуцця,
Так створана яна прыродай.

А поблізу, ля пня,
Скакала там нявіннае Ягня.
Вось, выпаўзшы, Змяя яму ўвагнала джала,
Аж у вачах Ягняці цёмна стала;
У жылах кроў агнём гарыць.
«За што?» — ледзь здолела яно прагаварыць.
«Хто ведае? А можа, ты знарок скакала,
Каб раздушыць мяне? — шыпіць Змяя.—
Праз асцярогу так цябе караю я».
«Ах, не!» — Ягня сказала
І зараз жа сканала.

У іншых сэрца створана ўжо так,
Што ў ім любві няма ніяк.
Такі ўжо злой душы не перайначыць,
І ў кожным ворага ён бачыць...

## СЕЛЯНІН І АВЕЧКА

Паклікаў Селянін Авечку ў суд,
Як быццам крымінальная была там справа.
А дзе суддзя — Ліса, там справа пойдзе жвава.
Адказчыку, істцу даюць пытанні тут.
Каб справу высветліць па пунктах дасканала,
Ліса пра доказы пытацца стала.
І кажа Селянін: «Такога вось чысла
Прапалі куркі дзве ў мяне і не знайшліся,
Ад бедных толькі пёрцы засталіся,
А на дварэ адна Авечка там была».
Авечка ж доказы і сведак прывяла,
Што спала цэлу ноч і красці не магла,
Што дрэннага за ёй не ведалі нічога —
Ні крадзяжу,
Ні грабяжу,
І што, апроч таго, яна не есць мяснога.
Ды вось прысуд Ліса чытае строга:
«На доказы Авечкі не зважаць:
Вядома, што канцы хаваць
Усе зладзеі маюць звычай.

Са справы тут відаць, што гэтага чысла
Авечка ад курэй на крок не адышла;
А куры ж смачныя надзвычай,
І выпадак быў зручны ёй.
Скажу я па сумленнасці сваёй:
Тут нельга, каб яна ўцярпела
І курачкі не з'ела.
За гэта вось Авечку смерцю пакараць,
Аўчыну ўзяць істцу, а мяса ў суд аддаць».

## БАГАЦЕЙ І ПАЭТ

Падаў Паэт на Багацея ў суд.
І Зеўса за сябе прасіў ён заступіцца.
Абодвум ім загадана з'явіцца.
Прыйшлі: адзін худы, як прут,
У лахманах, сяк-так абуты,
Другі ж у золаце, пыхлівы і надзьмуты.
«О, злітуйся, Алімпа гаспадар,
Грамоў і бліскавіц вялікасны ўладар! —
Крычыць Паэт.— Чым вінен я перад табой,
Што ўсё жыццё цярплю Фартуны злой ганенне?
Ні лыжкі, ні кутка — пакуты і гібенне,
І ўвесь мой скарб — адно ўяўленне.
Тым часам як сапернік мой —
Заслуг ніякіх, сам з пустою галавой,
А раскашаецца ў палацы
Без клопату, без працы,
Абкружаны сяброў ліслівых роем,
Заплыў з выгоды лоем».
«Не забывай таго,
Што праз вякі не знікнуць ліры твае гукі,—
Юпітэр адказаў.— А пра яго
Не толькі праўнукі, не ўспамянуць і ўнукі.
Ты выбраў славу сам па добрай волі,
Яму ж я даў багацця ўволю.
Але каб розумам углыб ён пранікаў
І хоць настолькі меў бы кемнасць,
Каб адчуваць перад табой нікчэмнасць,
То больш бы за цябе на лёс ён наракаў».

## ВОЎК І МЫШАНЯ

Разбойнік шэры Воўк
У цёмны лес авечку завалок,
Вядома, што не ў госці:
Абжора з беднай шкуру здзёр
І так заўзята жор,
Што на зубах хрусцелі косці.
Хоць ён і прагны быў, ды з'есці ўсё не мог,
Запас пакінуўшы, ён побач лёг
Адпачываць ад сытнага абеду,
Ды мяса пах прывабіў тут суседа —
Малое Мышаня, што поблізу жыло.
Па мху яно падкралася ціхутка,
Крыху схапіла мяска й хутка
Пабегла да сябе ў дупло.
Заўважыўшы такую страту,
Воўк мой
Завыў страшэнна: «Стой!
Лавіце злодзея! Разбой!
Ён загубіў мяне, пракляты!
Усё дарэшты выкраў з хаты».

Такі быў выпадак на рынку ў свята:
У Клімыча-суддзі гадзіннік нехта ўкраў.
«Лавіце злодзея!» — суддзя тут крык узняў.

## ДВА МУЖЫКІ

«Дзень добры, кум Фадзей!» — «Дзень добры,
кум Ягор!»
«Ну, як сябе ты адчуваеш?»
«О, кум, мае бяды, як бачу, ты не знаеш!
Бог пакараў мяне: спаліў я ўшчэнт свой двор
І жабраваць пайшоў з тых пор».
«Як так? Нічога ж я не ведаў».
«Ды так! На Каляды была ў мяне бяседа;
Пайшоў са свечкаю я коням даць аўса,
Прызнацца, ў галаве шумела,

Дык не ўсцярогся нейк. Ледзь не загінуў сам,
А двор і ўсё дабро згарэла.
Ну, ты як?» — «Ох, Фадзей, бяда мяне сустрэла!
І на мяне загневаўся, знаць, Бог:
Ты бачыш, я ж без ног:
Як сам жывы застаўся — проста дзіва.
На тыя ж Каляды пайшоў я ў склеп па піва.
Таксама добрую кульнуў
З сябрамі чару;
А каб сп'яна не нарабіць пажару,
Дык свечку я зусім задзьмуў,
Тут чорт мяне з прыступкаў так штурхнуў,
Што вось зрабіў з мяне зусім не чалавека,
І я з тае пары калека».
«Крыўдуйце на сябе, сябры! —
Сказаў ім сват Сцяпан. — Бо што ні гавары,
Я ў тым не бачу дзіва,
Што ты на мыліцах, а ты спаліў свой дом:
Для п'янага хадзіць і ўпоцемку жахліва,
Але, на жаль, не лепей і з агнём».

## ДВА САБАКІ

Дваровы верны пёс
Барбос,
Што панскую старанна службу нёс,
Свайго знаёмага, Жужу, пабачыў,
Балонку, кучаравага сабачку,
На мяккай пухавай падушцы, на акне.
І каб сказаў — радня, дык не.
Аднак ад радасці Барбоска ледзь не плача
І пад акном
Павільвае хвастом,
Вішчыць і скача.
«Ну, што, Жужутка, як жывеш
З тых дзён, калі паны цябе ў пакой узялі?
А помніш, на двары мы часта галадалі.
Якую службу ты нясеш?»
«Што Бога мне гнявіць,— адказвае Жужутка,—
Пан палюбіў мяне, прывык і я тут хутка.

Жыву ў пяшчоце, у дабры,
І п'ю, і ем на серабры,
Гуляю з панам, а калі стамлюся,
На крэсла мяккае ці на дыван кладуся.
Ты як жывеш?» — «Я,— адказаў Барбос,
Хвост звесіўшы, спусціўшы нос,—
Жыву, як і раней: цярплю і холад,
І голад,
Вартую гаспадарскі дом,
Пад плотам сплю і мокну пад дажджом,
А як часамі не таго аблаю,
Дык і па спіне зарабляю.
А чым жа ты у ласку трапіў так,
Хоць і слабейшы з нас — сабак,
Між тым калі маё дарэмна ўсё старанне?
Чым служыш ты?» — «Чым служыш? Вось пытанне! —
З насмешкай адказаў Жужу.—
На задніх лапках я хаджу».

Так шчасце многія у тым знаходзяць,
Што ўсё жыццё на задніх лапках ходзяць!

## КОШКА І САЛАВЕЙ

Злавіла Кошка Салаўя,
У небараку кіпці запусціла
І так, сціскаючы, пяшчотна гаварыла:
«Салоўка-друг, душа мая!
Я чую, што цябе за песні ўсюды славяць,
Найлепшым спевакам у прыклад ставяць.
Казала мне Ліса-кума,
Што голас у цябе — званчэй няма,
Што пастухі, пастушкі ў час вясенні
Ад песень ад тваіх ну проста ў захапленні.
Хацела б вельмі я сама
Цябе пачуць нарэшце.
Не трапячыся так, даверся кіпцюрам,
Не бойся, не хачу зусім цябе я есці.

Спяеш што-небудзь мне, табе я волю дам:
Ляці у лес, у гай, гуляй, дзе хочаш сам.
І я да музыкі нахіл вялікі маю:
Сама з мурлыканнем часамі засынаю».
А гэтым часам наш спявак
У кіпцях у яе ледзь дыша, небарак.
«Ну што ж, давай,— гаворыць Кошка,—
Мой любы, паспявай хоць трошку».
Але спявак не пеў, а толькі што пішчаў.
«Дык гэтым і лясы ты захапляў? —
З пагардай Кошка тут пакпіла. —
Дзе ж тое хараство і сіла,
Што так пра іх гавораць шмат?
Мне надакучыў піск сваіх жа кацянят,
Я ў песнях гэтакіх не чую смаку:
Зусім няўдалы ты спявак!
Паглядзім, на зубах мо будзе лепшы смак».
І з'ела небараку —
Да крошкі.

Скажу на вушка думку я сваю:
Не да спявання Салаўю
У кіпцюрах у Кошкі.

## ПРЫХАДЖАНІН

Такія людзі ёсць: у іхнім уяўленні
Найлепшы прыяцель і ёсць найбольшы геній,
А іншы хто, як слаўна ні пішы,
Не здолее крануць душы,
Яму пахвал ад іх не дачакацца,
І хараство яго адчуць яны баяцца.
Такім, напэўна, я не дагаджу,
Калі вось гэту быль ім раскажу.

Раз у царкве свяшчэннік-красамоўнік
(Ён быў Платона паслядоўнік)
Дабру і праўдзе навучаў людзей.

Ад мёду была казань саладзей,
І праўда чыстая, што ў ёй лунала,
Нібы шнурочак залаты,
Людскія душы узнімала
Над светам марнасці, слаты.
Вось пастыр скончыў павучанне.
З душой, узнятай да нябёс,
Стаяў натоўп расчулены ў маўчанні,
Не адчуваючы сваіх умільных слёз.
Калі ж з царквы ішлі дадому,
«Які цудоўны дар! —
Сказаў адзін слухач другому.—
Як вабіць ён душу народу!
Якая асалода мар!
Ну, а ў цябе, сусед, трывалая прырода,
Што на вачах слязінкі не відаць?
Ці сэнсу ты не разгадаў?» — «Ну як не разгадаць!
Але які мне сэнс рыдаць?
Я ж не тутэйшага прыходу».

## САБАКА І КОНЬ

На службе быўшы ў некага з сялян,
Барбос і Конь спрачацца сталі.
«Ого! — сказаў Барбос.— Які вялікі пан!
Па мне хоць бы цябе зусім з двара прагналі.
Які ты працаўнік — няма чаго й казаць.
Падумаеш — вазіць умееш і араць!
Ці можаш ты раўняцца ў чым са мною?
Ні ўдзень, ні ўночы я не ведаю спакою:
За статкам наглядаю днём,
А ноччу я вартую дом».
«Вядома,— кажа Конь,— працуеш ты нямала,
Хто ж гэта будзе адмаўляць?
Але каб не араў я дбала,
Дык не было б чаго табе тут вартаваць».

## Тарас Шаўчэнка

### НАЙМІЧКА

*Пралог*

У нядзелю раным-рана
Поле крылася туманам,
На кургане сярод поля,
Як пахілая тапол,
Маладзіца маладая
Нешта к сэрцу прытуляе
Ды з туманам размаўляе:
«Ой, тумане, тумане,
Мой ты лёс-гараванне!
Чаму мяне не схаваеш
У гэтым кургане?
Чаму ты мяне не ўгоніш
У гэту зямельку,
Маёй долі не засыплеш,
Не ўбавіш мне веку?
Не душы мяне, тумане,
Схавай толькі ў полі,
Каб ніхто не знаў, не бачыў
Маёй цяжкай долі...
Не адна я: у мяне ёсць
І бацька і маці...
У мяне ёсць... Туманочку!!.
Тумане, мой браце!..
Нехрышчоны мой сыночак,
Мой любы саколе!
Не я цябе хрысціць буду
На марную долю;
Перахрысцяць цябе людзі,
Я ж не буду знаці,
Як завешся... Дзіця маё!
Жыла я ў багацці...
Не крыўдзіся! Я выпрашу
І вымалю ў Бога

Долю, выплачу слязамі
Для сына малога!»

Пайшла полем праз туманы,
Ішла і рыдала
Ды праз слёзы ціха-ціха
Пра ўдаву спявала,
Як яна ў рацэ Дунаі
Сыноў пахавала.

«Ой, у полі магіла;
Удава там хадзіла,
Ой, хадзіла, гуляла,
Зводу-зелля шукала.
Зводу-зелля не знайшла,
Двух сыночкаў прывяла,
У кітайку спавіла
І Дунаю аддала:
Ціхі, ціхі Дунай!
Маіх дзетак забаўляй,
А ты, жоўценькі пясок,
Даглядай сыноў, браток,—
Іх купай, спавівай
І сабой накрывай!»

I

Жылі сабе дзед ды баба.
Ля сажалкі ў гаі з даўных-даўна
Вось так сабе жылі,
Як дзетачак двое,—
Усюды абое.

Пасвілі ягнят, як малыя былі,
А потым пабраліся,
Набытку дачакаліся,
Прыдбалі хутар і млынок,
Развялі сабе садок
І пчальнік да яго —
Надбалі ўсяго.
Ды вось няма дзяцей у бабы з дзедам,
А смерць з касою ходзіць следам.

Хто ж іх старасць прывітае,
Дзіцем родным стане?
Хто заплача, пахавае,
Зробіць памінанне?
Хто, дабро спажыўшы, чэсна
Пражыве на свеце?
Хто з падзякай іх успомніць,
Як родныя дзеці?
Цяжка дзетак гадаваці
У бязверхай хаце,
А яшчэ цяжэй старэцца
У белым палацы
І па смерці ўсё пакінуць —
І дабро і хату —
Чужым людзям, чужым дзецям
На здзек, на растрату.

II

На прызбе неяк ў нядзелю
Дзед з бабаю сабе сядзелі
Так хораша ў кашулях белых,
Старыя косці сонца грэла,—
Ні хмаркі ў небе — ціха-ціха.
Ды люба, быццам гэта рай,
Ды ў сэрцы ім залезла ліха,
Як дзікі звер у цёмны гай.

У такім раі чаго ж бы
Старым сумаваці?
Ці не ліха даўнейшае
Прачнулася ў хаце?
Ці прыдушанаму ўчора
Вярнулася сіла?
Ці мо сёння завялося
Ды рай запаліла?

Аб чым сумуюць, я нічога
Пра гэта не магу сказаць.
Мо ўжо збіраюцца да Бога?
Дык хто ў вялікую дарогу
Ім будзе коні запрагаць?

«А хто нас, Насця, пахавае,
Калі памром?» — «Хіба я знаю?
Я сама ўсё меркавала —
Думкі спанавалі:
Адзінокія, старыя...
Каму мы надбалі
Дабра таго?» — «Чакай крыху!
Чуеш? Нехта плача
Ля варот... Нібы дзіцятка!
Пабяжым жа!.. Бачыш?
Казаў жа я, нешта будзе!»
Ускочылі разам,
Падбягаюць, спыніліся.
Перад пералазам,
Ля варот ля самых бачаць —
Дзіцянё спавіта,
Дый не туга, новенькаю
Світкаю накрыта.
Гэта маці спавівала,
Накрыла і летам
Дзіцянё апошняй світкай!..
Здзіўленыя гэтым,
Старэнькія маліліся,
А яно, як знае:
Напружыла ручаняткі
Ды ім выстаўляе
Маленькія... І замоўкла,
Нават і не плача,
Толькі ўсхліпвае. «Ну, Насця?
Я ж казаў! Вось бачыш?
Вось і шчасце, вось і доля
Старым, адзінокім!
Спавівай жа немаўлятка!..
Вунь які, няўрокам!..
Нясі ў хату, а я зараз
Прыбягу з кумамі
З Гарадзішча...»
Дзіўна неяк
Робіцца між намі!
Адзін сына праклінае,
З хаты выганяе,
Другі свечку, небарака,
Потам зарабляе,
Рыдаючы, ставіць яе

Перад абразамі —
Няма дзяцей!.. Дзіўна неяк
Робіцца між намі!

III

Аж тры пары на радасці
Кумоў назбіралі
Ды вечарам ахрысцілі
І Маркам назвалі.
Расце Марка. Старэнькія
З радасці часамі,
Дзе пасадзіць, дзе палажыць,
Не ведаюць самі.
Год мінае. Расце Марка,—
Для яго карова
У раскошы купаецца,
Каб ён быў здаровы.
Чарнабровая аднойчы
Прыйшла маладзіца
На той хутар да старэнькіх
У наймы прасіцца.

«А што ж? — кажа.—
Возьмем, Насця!»
«Ды возьмем, Трахіме,
Не агледзім мы, старыя,
Вачыма сваімі.
Падрасло дзіця ўжо, праўда,
А ўсё ж такі трэба.
Каля яго пільнаваацца».
«Ды яно-то трэба,
Бо я сваю ўжо частачку
Пражыў, дзякуй Богу.
Падтаптаўся. Дык што ж цяпер,
Што возьмеш, нябога,
За год ці як?» — «А што дасце...»
«Каб не мець утраты,
Загадзя лічы, дачушка,
Колькі будзе платы,
Бо сказана: хто не лічыць,
Дык той і не мае.

Хіба так вось, маладзіца:
Ні ты нас не знаеш,
Ні мы цябе; пажывеш тут,
Прывыкнеш да хаты.
Вось тады нам лёгка будзе
Гаварыць пра плату.
Ці так, дачка?»
«Добра, дзядзька!»
«Дык заходзь у хату!»
Абжылася маладзіца,—
Твар яе вясёлы,
Нібы стала жонкай пана —
Ды купіла сёлы!
Увіхаецца старанна
У двары і ў хаце
І вечарам, і досвіткам,
А каля дзіцяці
І ў нядзелю, і ў будны дзень —
Як тая матуля:
Галовачку яму мые,
Белую кашулю
Штодзень божы надзявае,
Пяе, забаўляе,
Возіць, гушкае, а ў свята
І з рук не спускае.
Аж дзівяцца старэнькія —
Богу шлюць падзяку,
А наймічка няўтомная
Штоноч, небарака,
Сваю долю праклінае,
Горка-горка плача;
І ніхто таго не чуе,
І ніхто не бачыць,
Апрача малога Маркі,
Дык ён жа не знае,
Чаго наймічка слязамі
Яго абмывае,
Чаму так яго цалуе,
Быццам ён ёй родны,
Недаесць сама, каб толькі
Ён не быў галодны.
А калі ён у калысцы
Часам сярод ночы,
Прачнуўшыся, зварухнецца,

Дык яна і ўскочыць,
Перахрысціць і накрые,
Ціха закалыша,
Чуе Ганна цераз хату,
Як малое дыша.
Раніцою ручаняты
Марка выстаўляе
І мамаю няўтомную
Ганну называе.
Ён не знае, расце сабе,
Расце, падрастае.

IV

Гадоў нямала прамінула,
Вады нямала працякло;
На хутар ліха заглянула,
І слёз нямала там было.
Бабусю Насцю пахавалі
І дзеда ледзь адратавалі,
Па свеце ліха прагуло,
Пасля заснула. Стаў нанова
Патроху хутар ажываць,
І шчасце зноў прыйшло з дубровы
Да дзеда ў хату спачываць.

Ужо Марка чумакуе
І восенню не начуе
Ані ў хаце, ні пад хатай,—
Каго-небудзь яму сватай!

Стары думае: «Каго ж бы?» —
І просіць парады
У наймічкі. А наймічка
Да царэўны б рада
Сватоў паслаць: «Трэба ў Маркі
Запытаць самога».
«Добра, дачка! Запытаем
Ды за справу з Богам!»
Сталі радзіцца, пытацца,
А пасля з сватамі
Пайшоў Марка. Вярнуліся
Людзі з ручнікамі,
З святым хлебам абмененым.

Высваталі панну —
Хоць бы гетману самому,
Дык было б да стану.
І дзе яны гэтакае
Дзіва напаткалі?!
«Дзякуй жа вам! — стары кажа.—
Цяпер, каб вы знали,
Да канца давесці трэба —
Дзе, калі вянчаці,
Дый вяселле! Вось яшчэ што:
Хто ў нас будзе маці?
Не прыждала мая Насця!..»
Заліўся слязамі.
А наймічка ўхапілася
За вушак рукамі,
У парозе абамлела.
Ціха стала ў хаце,
Толькі наймічка шаптала:
«Маці... маці... маці!»

V

Цераз тыдзень маладзіцы
Каравай мясілі
На хутары. Стары бацька,
Колькі мае сілы,
З маладзіцамі танцуе
Ды двор вымятае,
Каго ўбачыць на дарозе —
У двор запрашае
Ды варэнухай частуе,
На вяселле просіць —
Забегаўся, аж самога
Ледзьве ногі носяць.
Чуцен рогат і гармідар
Аж на ўсім падвор'і.
Носяць посуд на патрэбу
З новае каморы.
Кожны ўходжваецца: варыць,
Падмятае, мые —
Чужыя ўсе. А дзе Ганна?
Пайшла яна ў Кіеў
Памаліцца. Прасіў стары,
А Марка аж плакаў,

Каб яна была за матку.
«Не, Марачка, дзякуй!
Быць мне маткай не да твару —
Багатыя ж людзі,
А я наймічка... Смяяцца
Кожны з цябе будзе.
Няхай Бог вам памагае!
Пайду памалюся
Усім святым у Кіеве
Дый да вас вярнуся.
Як прымеце мяне ў хату,
Пакуль маю сілы,
Папрацую...»
Шчырым сэрцам
Паблагаславіла
Свайго Марку... Заплакала,
Пайшла за вароты.

Разгарнулася вяселле —
Музыкам работа
І падэшвам. Варэнухай
Сталы, лавы мыюць,
А наймічка кандыбае,
Спяшаецца ў Кіеў.
Прыйшла ў Кіеў — не спачыла,
У мяшчанкі стала,
Нанялася ваду насіць,
Бо грошай не стала
На імшу святой Варвары.
Насіла, насіла,
Копаў з восем зарабіла,
Шапачку купіла
Потым Марку ў пячэрах
Івана святога,
Каб галоўка не балела
Ў Марка маладога.
І пярсцёнак у Варвары
Нявесце дастала
І, адбіўшы ўсе паклоны,
Дамоў пакульгала.
Вярнулася. Кацярына
І Марка сустрэлі,
Запрасілі яе ў хату,
За стол з ёю селі,

І паілі, і кармілі,
Пра Кіеў пыталі,
А пасля ёй у пакоі
Адпачыць паслалі.
«За што яны мяне любяць?
За што паважаюць?
О мой Божа міласэрны!
Можа, яны знаюць...
Дагадаліся ўжо, можа...
Хаця не,— сказала.—
Яны добрыя...» І Ганна
Горка зарыдала.

## VI

Тройчы крыга замярзала,
Тройчы раставала,
Тройчы ў Кіеў Кацярына
Ганну выпраўляла,
Быццам маці. І ў чацвёрты
Правяла ў дарогу
Пад курган той, што на полі,
Ды прасіла Бога,
Каб хуценька вярнулася:
Без яе ж у хаце
Неяк сумна, быццам хату
Пакінула маці.

Раз ў нядзелю на Прачыстай
На прызбе на сваёй Трахім
Сядзеў сабе ў кашулі чыстай,
Капелюшы. А побач з ім
Унук з сабакам забаўляўся.
А ўнучка, ў матчынай спадніцы,
Прыйшла, як ходзяць маладзіцы,
Да дзеда ў госці. Засмяяўся
Стары і ўнучку прывітаў,
Нібы сапраўдную кабету.
«А пірагі ж падзела дзе ты?
Ці мо хто ў лесе адабраў?
Ці мо забылася ты ў хаце?
А мо зусім не напякла?
Э, сорам! Вылітая маці!»

Аж зірк! — і наймічка ўвайшла
У двор. Пабег дзед сустракаці
З унукамі сваю Ганну.
«А Марка ў дарозе?» —
Ганна ў дзеда спыталася.
«Яшчэ ўсё ў абозе».
«А я ледзьве дадыбала
Да вашай хаціны.
Не хацела паміраці
Адна на чужыне.
Каб хоць Маркі дачакацца!..
Нешта цяжка стала...»
І з клуначка яна ўнукам
Гасцінцы дастала:
Медалікі і крыжычкі,
Пацерак шнурочак
Ярыначцы і чырвоны
З фольгі абразочак;
А для Карпа салавейку
Ды конікаў пару,
А чацвёрты аж пярсцёнак
Ад святой Варвары
Кацярыне; а старому
З восачку святога
Тры свечачкі. Толькі Марку
І сабе нічога
Не прынесла: не купіла —
Грошай не хапіла,
Зарабіць жа не прыйшлося.
«Яшчэ асталося
Абаранка палавінка».
Дзецям раздзяліла.

VII

Зайшла ў хату. Кацярына
Памыла ёй ногі,
Палуднаваць пасадзіла.
Не ела нічога
Ганна, толькі запытала:
«Калі ў нас нядзеля?»
«Паслязаўтра».— «Трэба будзе
Акафіст наняці

Ды святому Мікалаю
На часціну даці,—
Бо вось Марка забавіўся...
Можа, дзе ў дарозе
Занядужаў, не дай божа!»
Закапалі слёзы
З старых вачэй памутнелых;
Ледзьве Ганна ўстала,
Прамовіла:
«Кацярына!
Я не тая стала,
Знядужала, не магу ўжо
І на ногі ўстаці.
Цяжка, Катра, паміраці
У чужой цёплай хаце!»

Захварэла, небарака.
І прычасць прымала,
Мазалі святым алеем —
Не дапамагала.
Стары Трахім па надворку
Як прыбіты ходзіць,
Кацярына ж з хворай Ганны
І вачэй не зводзіць —
Ад пасцелі не адходзіць
Ні ўдзень, ані ўночы,
А тым часам на каморы
Сыч бяду прарочыць.
Непакоіцца ўсё Ганна.
Штодзень, штогадзінна
Ледзьве чутна пытаецца:
«Скажы, Кацярына,
Яшчэ Марка не прыехаў?
Ох, каб жа я знала,
Што даждуся, што пабачу,—
Яшчэ б пачакала!»

VIII

Ідзе Марка з чумакамі,
Ідучы, спявае,
Спыняецца на папаску —
Дамоў не спяшае.

Вязе Марка Кацярыне
Сукна дарагога,
Чырвонага шоўку пояс
Вязе для старога.
І каптур парчовы Ганне —
Любасці адзнаку,
І чырвоную ёй хустку
З белым яшчэ шлякам.
А дзетачкам чаравічкі,
Фіг ды вінаграду,
А ўсім разам чырвонага
Віна з Цараграду
Вёдзер мо са тры ў бачурцы,
Ікры рознай з Дона —
Вязе ўсяго, не ведае,
Што робіцца дома.

Ідзе Марка, не журыцца,
Прыйшоў, дзякуй Богу!
І вароты адчыняе,
І моліцца Богу.
«Вось, ці чуеш, Кацярына?
Бяжы, сустракай ты!
Прыйшоў ужо! Бяжы хутчэй
Ды вядзі дахаты!
Дзякуй табе, Хрысце-Божа!
Ледзь я прычакала».
І «Ойча наш» ціха-ціха,
Як праз сон, шаптала.

Стары валы выпрагае,
Ярмо прыбірае,
Кацярына гэтым часам
Марку аглядае.
«А дзе ж Ганна, Кацярына?
Я сабе й не дбаю!
Мо памерла?» — «Не памерла,
А вельмі слабая.
Пойдзем у малую хату,
Пакуль выпрагае
Валы бацька; яна цябе
Вельмі ўжо чакае».
Увайшоў у хату Марка
І стаў ля парога...

Аж спужаўся. Ганна шэпча:
«Дзякуй... Дзякуй Богу!
Хадзі сюды, не пужайся!
Выйдзі з хаты, Каця:
Нешта маю запытаць я,
Нешта расказаці».
Выйшла з хаты Кацярына,
А Марка схіліўся
Да наймічкі. Прашаптала:
«Марка! Прыглядзіся,
Прыглядзіся да мяне ты!
Бач, як я змарнела.
Я не Ганна, не наймічка,
Я...» — і занямела.
Марка плакаў і дзівіўся.
Зноў вочы адкрыла,
Пільна глянула, ды зрок ёй
Сляза засланіла.
«Даруй ты мне! Мучылася
Век я ў чужой хаце!..
Даруй жа мне, мой сыночак!
Я... Я твая маці!»
І замоўкла...
Самлеў Марка,—
Зямля задрыжала.
Прахапіўся — да мацеры,
А маці сканала.

*13 лістапада 1845*
*у Пераяславе — 1860*

# І МЁРТВЫМ, І ЖЫВЫМ, І НЕНАРОДЖАНЫМ ЗЕМЛЯКАМ МАІМ НА УКРАІНЕ І НЕ НА УКРАІНЕ МАЁ СЯБРОЎСКАЕ ПАСЛАННЕ

> Аще кторечет, яко люблю Бога,
> а брата своего ненавидит, ложь есть.
>
> *Соборное послание Иоанна. Гл. 4, ст. 20*

І змяркае, і світае,
Дзень божы мінае,
Зноў і стомленыя людзі,
І ўсё спачывае.
Толькі я, нібы пракляты,
І дзень, і ноч плачу
На шматлюдных раздарожжах,
І ніхто не бачыць.
І не бачыць, і не знае —
Аглухлі, не чуюць,
Кайданамі мяняюцца,
Праўдаю гандлююць
І Госпада зневажаюць,—
Людзей запрагаюць
У ярмо; аруць жа ліха,
Ліхам засяваюць,
А што ўродзіць? Пабачыце,
Што за жніва будзе.
Схамяніцеся ж нарэшце,
Вырадкі — не людзі!
Паглядзіце на рай ціхі
Вы, на Украіну,
Палюбіце вялікую
Гэтую руіну!
Раскуйцеся, на чужыне
Братацца пачнеце
І таго вы не шукайце,
Чаго няма ў свеце,—
Не знайсці таго ніколі
На чужыне ў полі.
Свая ж хата — свая праўда,
Свая сіла й воля.

Няма другое Украіны,
Другога не знайсці Дняпра,
А вы працеся да чужыны
Шукаць там добрага дабра,
Дабра святога. Волі! волі!
Братэрства братняга. Знайшлі,
Прынеслі к нам з чужога поля:
На Украіну з той зямлі
Вялікіх слоў прынеслі многа,
Нічога больш. А крычыце,
Што не затым вы жывяце,
Каб кланяцца няпраўдзе ў ногі,
І хіліцеся горш былога!
І зноў вы скуры дзераце
З братоў няшчасных, грэчкасеяў,
І сонца праўды сузіраць
Туды, да немцаў-дабрадзеяў,
Працеся зноў вы. Каб забраць
Маглі нікчэмнае з сабою
І крадзенае ўсё дабро,
Тады б астаўся сіратою
З святымі горамі Дняпро!

Каб вам не вярнуцца, каб так яно стала!
Каб там і здыхалі, дзе вы параслі;
Не плакалі б дзеці, маці не рыдала,
І словы б знявагі не чутны былі.
І сонца б не грэла смярдзючага гною
На чыстай, шырокай, на вольнай зямлі.
Не ведалі б людзі, што вы за арлы,
І не паківалі б на вас галавою.

Майце розум і сумленне,
Бо ліха вам будзе!
Раскуюцца неўзабаве
Скованыя людзі.
Суд настане, загавораць
І Дняпро, і горы!
Кроў пацячэ дзяцей вашых
У сіняе мора
Сторэкамі... І не будзе
Каму ратаваці:
Адцураецца брат брата
І дзіцяці маці;
І дым хмараю заслоніць

Сонца перад вамі,
Будзеце навек пракляты
Сваімі сынамі!
Умыйцеся! Вобраз Божы
Не паганьце самі!
Не дурыце дзяцей вашых,
Што яны панамі
Быць над іншымі павінны,
Бо простае вока
У душу пранікнуць можа
Глыбока! глыбока!
Дазнаюцца небаракі,
Чыя на вас скура,
І асудзяць... І прамудрых
Простыя абдураць.

Каб вы вучыліся як трэба,
То й мудрасць бы была свая,
А то залезеце на неба:
І мы — не мы, і я — не я!
І я ўсё бачыў і ўсё знаю:
Няма ні пекла, ані раю,
Няма і Бога, толькі я!
Яшчэ куртаты, хітры немец,
А больш нікога!
Як жа скеміць,
Што ты такое?
Я не знаю —
Няхай скажа немец!
Так праходзіце навуку
У чужым вы краю!
Немец скажа: «Вы — манголы!»
«Манголы! манголы!»
Залатога Тамерлана
Я патомак голы!
Немец скажа: «Вы — славяне!»
«Славяне! славяне!»
Слаўных прадзедаў вялікіх
Праўнук я паганы!
І Колара чытаеце
Вы з усяе сілы,
І Шафарыка, і Ганку,

І ў славянафілы
Вы працеся, і ўсе мовы
Славянскіх народаў
Ведаеце, а сваю як?
Дасць Бог, год ад году
І па-свойму загаворым,
Як немец пакажа —
І тым часам гісторыю
Нашу нам раскажа.
Вось тады мы завінемся!
Завіхацца сталі:
Па нямецкаму загаду
Так забалбаталі,
Што аж сам не ўцяміць немец —
Вучыцель вялікі,
А ўжо дзе там простым людзям!
А гвалту, а крыку!
«І гармонія, і сіла,
Музыка, дый годзе!
А гісторыя? — Паэма
Аб вольным народзе!
Што рымляне побач з намі!
Бруты-недарэкі!
У нас Бруты і Коклесы
Слаўныя навекі!
Воля ў нас расла і твар свой
Дняпром умывала,
Пад галовы горы слала,
Стэп — ёй пакрывала».
Кроўю твар яна ўмывала,
А спала на купах,
На казацкіх вольных трупах,
Абкрадзеных трупах!
Прачытайце толькі добра,
Разбярыце зноў вы
Тую славу ды чытайце
Ад слова да слова,
Ані цітла, ані коскі
Нідзе не мінайце,
А тады — хто мы такія —
Пра сябе спытайце.
Чые сыны? Якіх бацькоў?
Кім, за што закуты?

Дык пабачыце, што вось хто
Вашы тыя Бруты.
Рабы, падлізы, гразь Масквы;
І гетман ваш яснавяльможны —
Варшавы панскай бруд падножны.
Чаго ж вы хваліцеся — вы,
Сыны Украіны гаротнай?
Што добра ходзіце ў ярме,
Лепш нават, як бацькі хадзілі?
Дарэмна: з вас дзяруць рамень,
А з іх, бывала, лой тапілі.

Можа, гонар вам, што брацтва
Веру бараніла,
Што Сінопам, Трапезонтам
Галушкі варыла?
Праўда, праўда, яны елі,
А вам цяпер шкодзіць,
І на Сечы мудры немец
Бульбу ўжо разводзіць,
А вы яе купляеце,
Ясцё на здароўе
Ды славіце Запарожжа.
А чыёй жа кроўю
Зямля гэта напоена,
Што так бульба родзіць?
Усё роўна вам, каб толькі
Радзіла ў гародзе.
Хваліцеся, што мы Польшчу
Некалі звалілі!..
Польшча ўпала, ды абломкі
Вас жа раздушылі!
    Дык вось як кроў бацькі лілі
І за Маскву і за Варшаву!
І вам, сынам, перадалі
І кайданы свае, і славу!

    Дазмагалася Ўкраіна
Да самага краю.
Горш за ляха свае дзеці
Яе распінаюць.
Замест піва кроў з рабрынаў

Праліваць ахвочы,
І сучаснымі агнямі
Мацерыны вочы
Прасвятляюць: хай за векам
Крочыць недарэка,
Хай за немцам патрапляе
Сляпая калека!
Што ж, вядзіце, паказвайце!
Хай старая маці
Навучаецца дзяцей тых
Новых даглядаці.
Паказвайце! За навуку
Маці добра вельмі
Вам заплаціць калі-небудзь:
Распадуцца бельмы
На вачах паганых вашых;
І жывую славу
Дзядоў сваіх пабачыце,
Бацькоў хітрых справу.
Не дурыце самі сябе!
Думайце, чытайце,
Пераймаючы чужое,
Свайго не кідайце.
Бо, хто маці забывае,
Таго Бог карае,
Таго дзеці цураюцца,
Ў хату не пускаюць.
Чужаніцы праганяюць,
І няма ліхому
На зямлі на ўсёй бяскрайняй
Прытульнага дому.
Я рыдаю, як згадаю
Ці як мне прысніцца
Мінулае Украіны.
Каб яго забыцца,
Я аддаў бы вясёлага
Веку палавіну.
Вось якая наша слава,
Слава Украіны!..
Вось і вы так прачытайце,
Каб наяве снілі
Усе крыўды. Каб усталі
Тыя, што ў магіле,

Перад вашымі вачамі,
Каб вы распыталі
Пакутнікаў: каго, калі,
За што распіналі!
Абніміце ж, браты мае,
Найменшага брата,—
Няхай маці слёзы вытра,
Бо ліла багата.
Хай сыноў благаслаўляе
Дужымі рукамі
І дзетачак пацалуе
Вольнымі губамі.
І забудземся пра сорам
Даўняе гадзіны,
І паўстане наша слава,
Слава Украіны.
Промень ясны, невячэрні
Ціха нам засвеціць.
Абніміцеся ж, малю вас,
Адной маткі дзеці!

*14 снежня 1845*
*Уюнішча*

## Адам Міцкевіч

### ЗВОН І ЗВОНІКІ

Казалі Звонікі з дзыліньганнем вясёлым
Да Звона, што ляжаў самотна пад касцёлам:
«Што з велічы твае, калі ляжыш ты немы?
Тым часам песенькі выспеўваем свае мы».
«О галасістыя, падзякуйце плябану,—
Шапнуў ім Звон,— што я ў зямлю ўтаптаны».

### БЛЫХА І РАБІН

Талмуд даследваў Рабін дасканала
Ды аж пацепваўся: Блыха яго кусала.
Злавіў. Абураны, прыдумвае ёй кару.
Блыха ж з-пад пальца шэпча: «Не да твару
Злавацца мудраму, чый знатны род — Левіты!»
　　«О, кроў за кроў, драпежны вырадак Ваала!
Няўжо так смагнеш без мае крыві ты?
Ты ад чужой крыві бліскучай стала,—
Крычыць ёй Рабін.— Глянь на пчол, на іх палацы,
На воск, на мёд — плады сумленнай працы.
Ты ж з хобатам паміж людзей заўсёды,
У болі іх сабе шукаеш асалоды.
Дык смерць таму, хто век чужое грабіў!»
Блыха ледзь піснула: «А чым жыве сам Рабін?»

### СЯБРЫ

Што дружбы шчырай больш няма на свеце,
На гэта доказы ў Ашмянскім ёсць павеце.
Жыў Лешак там калісь і кум ягоны Мешак,—
Пра дружбу іх я нават чуў размову,
Што як знаходзілі яны арэшак,

Дык зернетка дзялілі напалову,—
Ну, словам, не кумы, а спарышы:
Два целы аб адной душы;
І ў той даўнейшы час такіх было нямнога.
Аднойчы ў халадку пад шум галля ляснога
Пра дружбу ўдвух яны сардэчна размаўлялі,
Зязюлі і дразды іх дружбу праслаўлялі,
І на душы ў сяброў так хораша было...
Аж раптам нешта зараўло.
Тут Лешак зразу кінуўся да дуба,
А Мешак лазіць не мастак: вось-вось загіне.
Крычыць: «Ратуй, кумок, прыйшла мне згуба!»
А кум ужо на самай верхавіне.
Не ўспеў збялелы Мешак пасці ніц,
А ўжо над ім мядзведзь стаіць:
Мацнуў, нюхнуў і зморшчыў нос ад паху,
Што йшоў у Мешка з-пад адзежы
(Той пах, вядома, быў ад страху).
«Мярцвяк,— рашыў мядзведзь.—
Ды ўжо й не свежы»,—
І адвярнуўся грэбліва тым часам:
Ліцвін-мядзведзь не есць гнілога мяса.
Ачнуўся Мешак. «Шчасце, дружа мой,—
Гукае кум,— што не патрушчыў косці.
Але чаго так доўга соп ён над табой,
Нібы шаптаў на вуха штосьці?»
«Шаптаў ён,— кажа Мешак,— пане дабрадзей,
Што дружба правяраецца ў бядзе».

## Антон Чэхаў

### ХАМЕЛЕОН

Цераз рыначную плошчу ідзе паліцэйскі наглядчык Ачумелаў у новым шынялі і з клуначкам у руцэ. За ім крочыць рыжы гарадавы з рэшатам, поўным сканфіскаванага агрэсту. Вакол цішыня... На пляцы ні душы... Адчыненыя дзверы крамы і шынкоў глядзяць на свет божы пануpa, як галодныя зяпы; каля іх няма нават жабракоў.

— Дык ты кусацца, нягоднік! — чуе раптам Ачумелаў.— Хлопцы, не пускайце яго! Цяпер не загадана кусацца. Дзяржы! А... а!

Чутно сабачае скавытанне. Ачумелаў глядзіць убок і бачыць: з дрывянога склада купца Пічутіна, скачучы на трох нагах і азіраючыся, бяжыць сабака. За ім гоніцца чалавек у паркалёвай накрухмаленай кашулі і расшпіленай камізэльцы. Ён бяжыць за ім і, нахіліўшыся тулавам наперад, падае на зямлю і хапае сабаку за заднія лапы. Зноў чутно сабачае скавытанне і крык: «Не пускай!» З крам высоўваюцца сонныя фізіяноміі, і хутка каля дрывянога склада, як вырасшы з зямлі, збіраецца натоўп.

— Не іначай беспарадак, ваша благароддзе!..— кажа гарадавы.

Ачумелаў робіць паўабарот налева і ідзе да натоўпу. Каля самых варот склада, бачыць ён, стаіць той самы чалавек у расшпіленай камізэльцы і, падняўшы ўгару правую руку, паказвае натоўпу акрываўлены палец. На п'янаватым твары яго як бы напісана: «Ужо я здзяру з цябе, шэльма!» Ды і сам палец выглядае як сімвал перамогі. Ачумелаў пазнае, што гэта майстар залатых рэчаў Хрукін. Сярод натоўпу, растапырыўшы пярэднія ногі, сядзіць на зямлі і дрыжыць усім целам сам віноўнік скандалу — белы шчанюк-ганчак з востраю мордаю і жоўтаю плямаю на спіне. У слязлівых вачах яго відаць выраз тугі і жаху.

— З якой гэта прычыны тут? — пытаецца Ачумелаў, урэзваючыся ў натоўп. — Чаму тут? Гэта ты нашто палец?.. Хто крычаў?

— Іду я, ваша благароддзе, нікога не чапаю...— пачынае Хрукін, кашляючы ў кулак.— Наконт дроў з Мітрыем Мітрычам,— і раптам гэты падлюга ні з таго ні з сяго за палец... Вы мне даруйце, я чалавек такі, што трэба работу рабіць... Работа ў мяне дробная. Няхай мне заплацяць, бо я гэтым пальцам, можа, тыдзень не паварушу... Гэтага, ваша благароддзе, у законе няма, каб ад жывёлы зносіць... Калі кожны будзе кусацца, то лепш і на свеце не жыць...

— Гм!.. Добра...— кажа Ачумелаў строга, кашляючы і крытаючы брывамі.— Добра... Чый сабака? Я гэтага так не пакіну. Я пакажу вам, як сабак распускаць! Пара звярнуць увагу на такіх паноў, што не хочуць падпарадкавацца пастановам! Як аштрафую яго, паскудніка, дык ён будзе ведаць у мяне, што значыць сабака і іншая валачашчая жывёла! Я яму пакажу кузькіну маць!.. Ялдырын,— кажа наглядчык гарадавому,— даведайся, чый гэта сабака, і складай пратакол! А сабаку знішчыць трэба. Зараз жа! Ён, мусіць, шалёны... Чый гэта сабака, пытаюся?

— Гэта, здаецца, генерала Жыгалава...— кажа нехта з натоўпу.

— Генерала Жыгалава? Гм... Знімі, Ялдырын, з мяне паліто... Страшэнна горача! Мусіць, перад дажджом... Аднаго толькі не разумею: як ён мог цябе ўкусіць? — звяртаецца Ачумелаў да Хрукіна.— Хіба ён дастане за палец? Ён маленькі, а ты ж вунь які здаравяка!.. Ты, мусіць, раскалупаў палец цвічком, а потым прыйшла ў тваю галаву ідэя, каб садраць. Ты ж... вядомы народ! Ведаю вас, чарцей!

— Ён, ваша благароддзе, цыгаркаю яго ў мызу жарцікамі, а сабака не быў дурны і цапнуў... Бязглузды чалавек, ваша благароддзе!

— Хлусіш, сляпак! Не бачыў, дык, значыць, нашто хлусіць? Іх благароддзе разумны пан і разумеюць, калі хто хлусіць, а хто па сумленню, як перад Богам... А калі я хлушу, дык няхай міравы рассудзіць. У яго ў законе сказана... Цяпер усе роўныя... У мяне ў самога брат у жандарах... калі хочаце ведаць...

— Не разважаць!

— Не, гэта не генеральскі!..— глыбакадумна заўважыў гарадавы.— У генерала такіх няма. У яго найбольш выжлы...

— Ты гэта напэўна ведаеш?

— Напэўна, ваша благароддзе...

— Я і сам ведаю. У генерала сабакі дарагія, парадзістыя, а гэта — чорт ведае што! Ні шэрсці, ні выгляду... подласць адна толькі... І гэтага сабаку трымаць?! Дзе ж у вас розум? Каб папаўся гэтакі сабака ў Пецярбургу альбо ў Маскве, то ведаеце, што было б? Там не паглядзелі б у закон, а ўміг — не дышы! Ты, Хрукін, маеш утрату і справы гэтай так не пакідай... Трэба правучыць! Пара...

— А можа, і генеральскі...— думае ўслых гарадавы.— На мордзе ў яго не напісана... Надоечы ў двары ў яго такога бачыў.

— Вядома, генеральскі! — чуваць голас з натоўпу.

— Гм!.. Надзень, брат Ялдырын, на мяне паліто... Нешта вецер падзьмуў... Холадна... Ты завядзеш яго да генерала і запытаешся там. Скажаш, што я знайшоў і прыслаў... І скажы, каб яго не выпускалі на вуліцу... ён, можа, дарагі, а калі кожная свіння будзе яму ў нос цыгаркаю тыцкаць, дык ці доўга сапсаваць. Сабака — далікатнае стварэнне... А ты, балван, апусці руку! Няма чаго свой дурнецкі палец выстаўляць! Сам вінават!

— Повар генеральскі ідзе, яго запытаем... Гэй, Прахор! Падыдзі, даражэнькі, сюды! Паглядзі на сабаку... Ваш?

— Выдумаў! Гэтакіх у нас зроду не было!

— І пытацца тут доўга няма чаго,— кажа Ачумелаў.— Ён валачашчы! Няма чаго тут доўга гаварыць... Калі сказаў, што валачашчы, значыць, і валачашчы... Знішчыць, вось і ўсё.

— Гэта не наш,— кажа далей Прахор.— Гэта генералавага брата, што надоечы прыехаў. Наш не ахвотнік да ганчакоў. Брат іхні ахвотнік.

— Ды хіба браток іхні прыехалі? Уладзімір Іваныч? — пытаецца Ачумелаў, і ўвесь твар яго залівaецца замілаванаю ўсмешкаю.— Бач ты, божухна! А я і не ведаў! У госці прыехалі?

— У госці...

— Бач ты, божухна... Замаркоціўся па брату... А я ж і не ведаў! Дык гэта іхні сабачка? Вельмі рад... Вазьмі яго...

Сабачка нічога сабе... Шустры такі... Цап гэтага за палец! Ха-ха-ха... Ну, чаго дрыжыш? Ррр... рр... Злуецца, шэльма... цюцік гэтакі...

Прахор кліча сабаку і ідзе з ім ад дрывянога склада... Натоўп рагоча з Хрукіна.

— Я яшчэ дабяруся да цябе! — пагражае яму Ачумелаў і, захінаючыся ў шынель, ідзе далей па рыначнай плошчы.

*1884*

## Уладзімір Маякоўскі

### НЕЗВЫЧАЙНАЯ ПРЫГОДА, ШТО АДБЫЛАСЯ З УЛАДЗІМІРАМ МАЯКОЎСКІМ НА ДАЧЫ

*(Пушкіна, Акулава гара, дача Румянцава, 27 вёрст па Яраслаўскай чыгунцы)*

У сотні сонц заход палаў.
У ліпень перла лета,
гарачыня,
як вар,
плыла —
было на дачы гэта.
Прыгорак Пушкіна гарбіў
Акулавай гарою,
а ніз прыгорка —
вёскай быў,
крывіўся стрэх карою.
А там, за вёскаю,—
дзіра
была, напэўна, ў доле,
і ў дзірку сонца кожны раз
спускалася паволі.
А заўтра —
свет заліты зноў
барвоваю навалай.
Мне гэта ўсё ўзбурыла кроў,
страшэнна раззлавала.
І так абурыўся я раз,
што ўсё ад страху зблекла;
у твар я сонцу крыкнуў:
«Злазь!
Пакінь цягацца ў пекла!»
Я крыкнуў сонцу:
«Дармаед!
Пястун аблочнай ваты!
А тут — не знай ні зім, ні лет,
сядзі, малюй плакаты!»

Я крыкнуў сонцу:
«Пачакай,
гультай залаталобы!
Чым так заходзіць,
лепш на чай
ты да мяне
зайшло бы!»
Ах, я ж загінуў!
Назнарок
ка мне,
па добрай волі,
само,
распяўшы промень-крок,
ідзе яно па полі.
Стаіўшы страх,
я стаў хутчэй
рэціравацца задам.
У садзе зірк яго вачэй.
Яно ўжо крочыць садам.
Праз дзверы,
шчыліны,
акно
ўваліла сонца маса,
і,
ледзь адсопшыся,
яно
загаварыла басам:
«Назад пагнала я агні
раз першы ад стварэння.
Мяне ты клікаў?
Чай гані,
гані, паэт, варэнне!»
Сляза з вачэй —
гарыць мой твар,
такая спёкі сіла,—
ды я яму —
на самавар:
«Ну, што ж,
сядай, свяціла!»
І чорт жа глотцы даў маёй
крычаць яму дакоры!
Сяджу на лаве,
сам не свой,
дрыжу — не выйшла б горай!

Да сонечных яснот,
аднак,
прывык я
паступова,—
за словам слова мы —
і так
пайшла у нас размова.
Я тое,
гэта гавару,
кажу — заела РОСТа,
а сонца:
«Ладна,
не гаруй,
глядзі на рэчы проста!
А мне свяціць
лягчэй?
Ну дзе ж!
Паспрабуй, даражэнькі!
А падручылася —
ідзеш
і свеціш на ўсе зрэнкі!»
Размова ў нас —
да цемнаты,
да быўшай, значыць, ночы.
Якая ж цемра?
Мы на «ты»,—
гляджу я смела ў вочы.
Мацнее дружба ўсё мая,—
б’ю па плячы яго я.
А сонца зноў жа:
«Ты ды я,
нас, таварыш, двое!
Хадзем —
заззяем,
запяём
між хламу і маркоты:
я сонца буду ліць сваё,
а вершамі —
сваё ты».
Сцяна цямноты
знемагла,
пад сонц двухстволкай пала.
Гармідар вершаў і святла —
смалі у што папала!

Яно змарнее —
хоча ноч
прыйсці,
тупая сонніца.
Тут — я
на ўсю заззяю моц —
і зноўку дзень зазвоніцца.
Свяціць заўсёды,
ўсюды,
скрозь,
без краю
і бясконца,
свяціць да дзён астатніх! —
Вось
лозунг мой —
і сонца!

*1920*

## Аляксандр Твардоўскі

### ЯК ДАНІЛА ПАМІРАЎ

Жыў на свеце дзед Даніла
Сто гадоў ды пяць.
І сто шосты хутка стукне —
Час бы паміраць.

Ёсць адзенне, хлеб і сала,
І няма турбот,
Каб сумленне дазваляла,
Жыў бы дзвесце год.

Ды нявесела Данілу,
Хіба ж гэта рай?
Не даюць работы дзеду,
Кажуць: пагуляй.

Што ж гуляць так упустую,
Да якой пары?
Лепш сказалі б начыстую:
Памірай, стары!

Дошчак смольных дзед Даніла
Нанасіў цішком,
Дастае цвікі, рубанак,
Пілку з малатком.

Снасць рухава захадзіла,
Дошкі — нібы звон.
Што ўжо робіць дзед Даніла,
Моцна робіць ён.

Шчыльна збіў труну цвікамі —
Хоць бы дзе прасвет.

У далёкую дарогу,
Знаць, сабраўся дзед.

І ляжыць, як адубелы,
Тварам дагары,
Нацягнуўшы саван белы,
У труне стары.

Хоць людзей у вёсцы — сіла,
Ўсе прыйшлі спаўна.
— Вось і кончыўся Даніла!
— Вось табе і на!

Быў цясляр ён знакаміты,
Першы на сяле.
Усміхнуўся дзед паціху
Гэтай пахвале.

— Толькі слаб быў небарака,
Што ні гавары.
«Ох, і брэшаш жа, сабака»,—
Думае стары.

— Ну але ж сыноў пакінуў,
Хлопцы — на ўвесь свет.
«Вось што праўда ўжо, то праўда»,—
Ледзь не крыкнуў дзед.

Паўздыхалі людзі трошкі
Ды сказалі так:
— Выпіць трэба. Сам нябожчык
Выпіць быў мастак.

Гэта дзеда вельмі цешыць,
Што ж тут крыўдаваць?
Людзі добрыя не брэшуць,
Мог ён выпіваць.

Кажуць: — Ну, бывай, Даніла!
Просім даруваць!
Час такі... Ў бярвеннях нашы
Тапары тырчаць.

Кажуць: — Робяць хлопцы ўдала,
Цесляры — арлы.

Сам ты іх вучыў, бывала,
Высякаць вуглы.

Рукі ў хлопцаў залатыя
Ў лад калі дадуць,
Дык у іх бярвенні тыя
Проста аж гудуць.

Эх, Даніла! Эх, Даніла,—
Быў бы маладым!
Дык тады памераць сілы
Самы раз бы ім.

Меў ты, брат, кавалак сілы,
Быў такі ўвішны...
— Ах вы,— крыкнуў дзед Даніла,—
Сукіны сыны!

Ваша мне ныццё няміла,
Я яшчэ не труп.
Дзе тапор? — крычыць Даніла.—
Зараз жа на зруб!

*1938*

# Артыкулы, выступленні

## ЖАДАЮ ДАЛЕЙШЫХ ПОСПЕХАЎ!

Глядач радуецца, сумуе разам з героем ці абураецца на яго. Ён забываецца, што кожная рэч, кожны рух і кожнае слова зроблены, ён не ведае, што гэта вось такое прыемнае піанісіма ў аркестры дасягнута толькі дзякуючы «фартысіма» з боку мастацкага кіраўніка. Глядач нават забываецца часамі, што перад ім на сцэне актор. І няхай. Чым больш забываецца глядач пра мастацкага кіраўніка, пра рэжысёра, тым большая ім пахвала, тым больш прычын у іх радавацца сваёй удачы, бо гэта значыць, што ім добра ўдалося рэалізаваць творчую фантазію драматурга і сваю ўласную ў выглядзе людзей, рэчаў, фарбаў, святла і гукаў так, што гэта ўсё дае кусок сапраўднага жыцця ў яскравым і тыповым яго праяўленні. Але шлях да такой творчай радасці досыць цяжкі і ўхабісты. Апрача таго, што тут трэба вельмі шмат ведаць і мець мастацкі густ, трэба яшчэ мець шмат энергіі і цвёрдую волю, каб перамагаць сваю і чужую інертнасць, іначай самыя прыгожыя замыслы могуць застацца толькі марамі альбо ператварыцца ў вельмі непрыгожыя (няпраўдзівыя) вобразы і рэчы на сцэне.

Калі я ўпершыню ўбачыў на рабоце т. Літвінава, мне зразу кінулася ў вочы вось гэта яго здольнасць перамагаць сваю і чужую інертнасць, а яго веданне справы і мастацкі густ досыць выявіліся ў пастаноўках Першага дзяржаўнага тэатра за апошні час. Я асабіста вельмі задаволен тым, што мне над маёй п'есай «Канец дружбы» давялося працаваць з т. Літвінавым. Разам з дапамогай пісьменніцкай грамадскасці і тэатральнага калектыву дапамога т. Літвінава як мастацкага кіраўніка і рэжысёра была для мяне вельмі каштоўнай.

Цісну руку, Леў Маркавіч, і жадаю вам далейшых поспехаў. Няхай пра нас часцей забываецца глядач у часе спектакля і ўспамінае цёплым словам, выходзячы з тэатра.

*1934*

## ГЛЯДЯ НА ЭКРАН

Мы все помним тот незабываемый декабрьский вечер, когда советское радио возвестило о провале плана немецкого командования захвата Москвы. Стоя у репродукторов, мы, затаив дыхание, ловили каждое слово диктора. Вслед за ним мы повторяли названия городов, освобожденных от немецких захватчиков. Мы запомнили имена героев, которым выпала великая честь нанести врагу под Москвой первые сокрушительные удары. Мы записали цифры, огромные цифры уничтоженных и захваченных танков, орудий, пулеметов, автомашин. Нас поражали грандиозность битвы и размеры понесенных противником потерь. Нас бесконечно радовало и окрыляло известие о наших крупных победах над врагом. Вздох облегчения вырвался тогда из груди каждого советского патриота: «Москва спасена!» Все мы поняли, что это — начало того разгрома врага, который подсказал и организовал товарищ Сталин.

Теперь, когда мы увидели фильм «Разгром немецких войск под Москвой», мы снова пережили огромную радость наших побед, радость за нашу любимую родную Москву, за наше будущее, за нашу жизнь, так как эти победы были поворотным пунктом в великой борьбе. Эту радость мы переживаем столь интенсивно, потому что видим на экране все основные моменты и детали грандиозного и победоносного для нас сражения за Москву. Видим любимого вождя и организатора наших побед, произносящим историческую речь, которая вселила веру в наши сердца, подняла наш дух, воодушевила миллионы людей на подвиги во славу нашей любимой Родины. Мы видим любимых генералов, осуществляющих планы великого стратега.

Вот грохнули первые залпы орудий, взметнулись в небо черные столбы, и мы радуемся каждому удачному попаданию. Распластанные на снегу трупы гитлеровских разбойников вызывают у нас чувство глубокого удовлетворения. Вот рванулись с исходных позиций наши танки и вслед за ними устремились в атаку славные пехотинцы. В яростном карьере, взметая снежную пыль, широкой лавой идут на врага конногвардейские полки. Зрители приподнимаются со стульев и устремляются корпусом вперед — «так их, разбойников, так их, душегубов»... Враг сломлен, враг разбит.

Тысячи трупов фашистских захватчиков устилают снежный простор и изрытые снарядами дороги. Яркое доказательство того, что не взять немцам Москвы. А наши героические полки, преодолевая сопротивление противника, глубокий снег

и жестокие морозы, идут дальше на запад, туда, где под кованым немецким сапогом истекает кровью моя родная Белоруссия. И хочется мне крикнуть: скорее, родные! Там страдают и умирают люди. Они ждут нас и ежедневно вслушиваются в ночную тишину, стараясь уловить далекие раскаты орудийных выстрелов.

Я вижу на экране сожженные города и села и думаю о родном мне Минске, о Гомеле, о Витебске и ярко представляю себе картину опустошений. Я вижу на экране, как со слезами на глазах встречает народ своих освободителей, как эта милая старушка крестится и целует бойцов.

Я вижу исстрадавшуюся человеческую душу, я вижу страдания белорусских женщин, наших сестер и матерей. Я вижу на экране обгорелые, истерзанные трупы женщин, детей и стариков, трупы восьми повешенных в Волоколамске и думаю о 50 тысячах трупов в городе Минске, и сжимаются кулаки, и я готов крикнуть на весь мир: «Бейте их, сволочей, за слезы, за кровь, за страдания моего народа! Смерть немецким оккупантам!»

Сеанс окончен. Включается свет, и на всех лицах я вижу одно и то же выражение, за которым угадываю одни и те же чувства, так близкие мне и понятные.

*1942*

## НЕ БУДЗЕМ СПРАЧАЦЦА

Фашысцкі обер-цюцька Гебельс у газеце «Дас райх» піша: «Мы пацярпелі няўдачу на Усходзе. Гэта бясспрэчна, і супроць гэтага не варта спрачацца».

Няхай бы сабе паспрачаўся, што б яму сказаў на гэта генерал-фельдмаршал фон Паўлюс, дваццаць тры яго генералы і дзевяноста адна тысяча іншых палонных, узятых нашымі войскамі пад Сталінградам? Што б яму сказалі астатнія 240 тысяч з арміі Паўлюса? Урэшце з гэтымі Гебельс можа спрачацца: яны нічога не скажуць. Калі і будуць супярэчыць, дык з-пад зямлі іх голас да яго не дойдзе. А Паўночны Каўказ, Растоў, Варашылаўград, Курск, Харкаў? Гэта ўсё факты, адмаўляць якія нават у Гебельса язык не паварочваецца, а нашто ўжо адважны наконт брахні.

У гэтым жа артыкуле ён піша: «У нямецкага народа яўна добры настрой».

Вось з гэтым-то ўжо можна спрачацца. Але не будзем. Калі фашыстам весела ад таго, што мы іх лупім, дык, калі ласка,— зробім такую прыемнасць: пастараемся, каб ім было яшчэ весялей.

*1943*

## ЯК НАРАДЗІЛАСЯ «ВУТКА»

Прайшло з гадзіну, як адгулі гудкі, абвясціўшы адбой паветранай трывогі. Шыкарная машына, пабліскваючы чорным лакам, ледзь прабіралася паміж развалін дамоў. Пад калёсамі густа хрусцела шкло. У заходняй частцы горада бушавала агнявое мора, і злавесныя крывавыя водблескі мяняліся на твары карліка, які сядзеў, уціснуўшыся ў куток машыны.

Вуліца была запоўнена людзьмі, узбуджанымі, разгубленымі і злымі. Жанчыны — старыя і маладыя, у капелюшах і проставалосыя — некуды спяшаліся, неслі на плячах хатнія рэчы, вялі за рукі заплаканых дзяцей. Перакрываючы гоман натоўпу, прарэзлівы жаночы голас выкрыкваў імёны Гітлера, Герынга і яго, карліка.

Што гаварыла жанчына, дакладна нельга было разабраць, але паасобныя словы чуліся выразна: не хвалу яна ім выкрыквала. Каб тое сталася, што гэта жанчына зычыла, дык карлік напэўна не даехаў бы да сваёй кватэры. Але маўчаў і панура глядзеў на тое, што рабілася наўкола.

Што яму было рабіць? Не вылезці ж з машыны і не крыкнуць: «Як вы смееце! Я — Гебельс». Яшчэ невядома, ці спужаліся б яго гэтыя ашалелыя ад гора людзі. А калі б не спужаліся, тагды... Што тагды магло быць?

Раптам карлік заўважыў нешта такое, што затрымала на сабе яго ўвагу. На рагу вуліцы гарэў вялікі шасціпавярховы дом. Агнём ахоплены былі ніжнія паверхі, а на балконах і ў вокнах верхніх мітусіліся людзі. Яны працягвалі рукі да машыны і нешта крычалі. Да вушэй карліка выразна данесліся словы аб паратунку і плач жанчыны. Ён паморшчыўся і загадаў шафёру ехаць хутчэй.

Выбраўшыся на шырокую вуліцу, дзе не было разбураных дамоў, машына шпарка пакацілася па гладкім асфальце.

Назаўтра ў газеце «Дас райх» берлінцы прачыталі артыкул, у якім доктар Гебельс хваліў нямецкі народ за тое, што ён мужна пераносіць нягоды вайны і не падае духам.

«Праязджаючы па кварталах Берліна, якія пацярпелі ад бамбёжкі, я сам бачыў,— пісалася ў артыкуле,— як людзі весела смяяліся, паказваючы гэтым сваю маральную перавагу над ворагамі. З балконаў дамоў да нас цягнуліся рукі гарачых патрыётаў з радаснымі выгукамі: «Хайль Гітлер!».

*1943*

## ШТО ЯНЫ САБЕ ДУМАЮЦЬ...

*Берлінская сцэнка*

— Гутэн таг, гер Пільцэ.

— Гутэн таг, гер Крохер. З Новым годам, з новым шчасцем.

— Дзякую. Няхай мае шчасце нашаму фюрэру.

— То ён бы і рад быў.

— Да чаго яны нас давялі? Што яны сабе думаюць?

— Я вам скажу, гер Крохер, што яны думаюць. Герынг думае аб тым, чым яму ў сорак пятым годзе свой трыбух напхаць. Трыбух жа ў яго, дзякаваць богу, як сяннік, пашыты ў чатыры полкі. Калі саломай напіхаць, дык і то трэба воз. Але ж пан міністр да саломы не прывык. Ён налівае свой бурдзюк французскімі вінамі, трыбух напіхаў булкамі з украінскай пшаніцы ды беларускімі кілбасамі. А цяпер жа гэта ўсё мінулася: немцы вымушаны жывіцца аднымі сваімі эрзацамі. То мы з вамі, гер Крохер, перацягнулі свае жываты папружкамі і церпім. А ўтаймаваць сяннік пана міністра не так-то лёгка.

Гебельс думае аб тым, якую работу даць свайму языку. Ён прывык у яго матляцца ля вушэй і балбатаць толькі аб перамогах. Але на сорак пяты ніякіх перамог не прадбачыцца нават у стаўцы Гітлера, дык яму гэты язык хоць чорт ведае куды заткні.

Гімлер заклапочан тым, дзе яму ўзяць столькі вісельняў, каб на іх павесіць усіх «шаптуноў». Я ўпэўнен, што наша

дрэваапрацоўчая прамысловасць з яго заданнем не справіцца і мы з вамі, гер Крохер, яшчэ пажывём.

Гітлер... Цяжка сказаць, што думае гэты вар'ят. Адно ясна, што аб заваяванні свету ў сорак пятым годзе ён не думае. Вы зычылі яму сваё шчасце. А я вам скажу, гер Крохер: хоць мы з вамі галодныя, няшчасныя старыя фрыцы, але я не памяняюся сваім лёсам з нашым фюрэрам. Каму прыйдзе ў галаву мяняцца лёсам з шалёным сабакам, якога заўтра зловяць і затаўкуць. Аўхвідэрзэен, гер Крохер. Пойдзем сустракаць Новы год.

— Да пабачэння, гер Пільцэ. Дзякую за растлумачэнне. У мяне цяпер увесь сорак пяты год як на далоні. Весела, няма чаго сказаць.

*1945*

## БЕЛОРУССКАЯ ДРАМАТУРГИЯ

Белорусская драматургия начала развиваться вместе с зарождением новой белорусской литературы — с первой половины XIX века.

Первым белорусским драматургом был В. Дунин-Марцинкевич, писатель либерально-дворянского направления, проводивший в своих произведениях идею примирения противоречий между крепостным крестьянством и помещиками. Средством к этому он считал моральное усовершенствование тех и других. Первым его драматическим произведением было оперное либретто «Селянка» (положено на музыку великим польским композитором Манюшко), с которым автор находился в приятельских отношениях.

Значительно более совершенными по своим идейным и художественным качествам были комедии Дунина-Марцинкевича, написанные в пореформенный период,— «Залёты» и «Пинская шляхта». Здесь автор сделал определенный шаг по пути реалистического отображения действительности. Острие сатиры этих произведений направлено против произвола царских чиновников, косности застенковой шляхты, жадности и бессловесности нарождающейся деревенской буржуазии.

Дальнейшее свое развитие белорусская драматургия получает в начале XX века, когда все чаще стали появляться

одноактные пьесы, написанные главным образом на фольклорном материале. Значительным вкладом в белорусскую драматургию этого периода явилась драма Янки Купалы «Разоренное гнездо», в которой ярко и правдиво показана трагическая судьба белорусского крестьянина, гибнущего от нестерпимого гнета помещиков и капиталистов.

Перу народного поэта принадлежат также комедии «Примаки» и «Павлинка», которые и до сих пор не сходят со сцены профессиональных и самодеятельных театров. Особенным успехом пользуется «Павлинка» в постановке театра имени Янки Купалы.

Однако в дореволюционный период, в условиях жестокого социального и национального гнета, когда белорусское слово было под запретом и в стране не было, по сути, ни одного профессионального театра, белорусская драматургия не могла успешно развиваться. В самом деле, на кого могла опираться, скажем, драматургия Дунина-Марцинкевича? На любительский театр помещичьей усадьбы. В дальнейшем белорусская драматургия могла ориентироваться на любительские кружки немногочисленной белорусской интеллигенции и на такой полупрофессиональный с небольшими материальными и творческими возможностями коллектив, каким был театр Игната Буйницкого, просуществовавший в Вильне с 1906-го по 1914 год. Этим в значительной мере объясняется то обстоятельство, что белорусская драматургия дооктябрьской поры представлена главным образом одноактными пьесами, рассчитанными на любительский кружок. Когда же появилось более значительное произведение наподобие названной выше драмы «Разоренное гнездо», то оно не могло быть должным образом поставлено на сцене. Достаточно сказать, что постановка этого замечательного произведения осуществлена по-настоящему только в наше время Витебским театром имени Якуба Коласа, причем спектакль пользуется неизменным успехом у зрителя.

Положение коренным образом изменилось после Октября, когда народные таланты получили полную возможность для своего всестороннего развития и когда, благодаря заботам Советской власти, были созданы белорусские профессиональные театры.

Начиная с двадцатых годов белорусскими драматургами написано несколько десятков пьес. В лучших из них нашли отражение существенные явления и события в жизни нашего народа.

Правда, на первых порах внимание драматургов привлекали сюжеты, взятые из народного творчества, и темы исто-

рические. В разработке этих тем иногда сказывалось заметное влияние белорусских буржуазных националистов. К лучшим произведениям этого периода надо отнести пьесы Е. Мировича «Кузнец-воевода», «Машека», «Кастусъ Калиновский».

По мере укрепления Советской власти и успешного осуществления социалистических преобразований, а также в результате успешной борьбы с буржуазными националистами, стремившимися увести колеблющихся писателей в сторону от действительности, белорусские драматурги все решительнее обращаются к современной тематике. В этом отношении значительную роль сыграла русская советская драматургия, особенно если принять во внимание, что такие произведения, как «Любовь Яровая» К. Тренева, «Бронепоезд» Вс. Иванова, «Мятеж» Д. Фурманова, «Шторм» В. Биль-Белоцерковского, «Разлом» Б. Лавренева, были поставлены на белорусской сцене. В таких пьесах белорусских авторов, как «Гута» Р. Кобеца, «Запоют веретена» и «Победа» Е. Мировича, также делается попытка показать людей социалистического производства. Не лишенные некоторых недостатков, пьесы эти были ценны прежде всего тем, что они вносили свежую струю в белорусскую драматургию, ориентировали драматургов на актуальную тематику социалистического строительства.

К серии этих пьес примыкает и пьеса Е. Романовича «Мост», в которой показывается борьба советских людей с вредителями и диверсантами на фронте социалистического строительства.

Тридцатые годы, годы успешного осуществления социалистических планов первых пятилеток, ознаменовались новым подъемом белорусской драматургии.

За написание пьес впервые взялись писатели и поэты, имеющие значительный опыт литературной работы, талант которых до этого ярко и многогранно проявился в других жанрах.

Пьесу «Война войне» написал народный поэт Якуб Колас. В этой пьесе убедительно показаны рост революционных настроений в тылу и на фронте и перерастание империалистической войны в гражданскую.

Показу событий гражданской войны посвящена написанная в стихах пьеса П. Глебки «Над Березой-рекой», центральным образом которой является один из выдающихся деятелей революции Серго Орджоникидзе.

Значительным явлением в белорусской драматургии явилась пьеса Кузьмы Чорного «Отечество» («Бацькаўшчына).

Центральным героем этой пьесы является Леопольд Гушка — батрак, сын силезского ткача, который, спасаясь от преследований в родной стране, очутился в России без средств к жизни. Всю жизнь бился Леопольд Гушка, чтобы приобрести земли, для чего ему предварительно необходимо было добиться русского подданства. Став подданным царской России, Гушка, однако, не обрел себе другой родины, не нашел и счастья, к которому он стремился. Жестокая эксплуатация со стороны помещика и кулака, притеснение и издевательства царских чиновников, грабительская империалистическая война, на которую угнали его сына, поскольку он стал русским подданным,— постепенно привели Леопольда Гушку на путь революционной борьбы. Родину свою он нашел вместе со всеми трудящимися царской России. Родиной этой стала для него Страна Советов, рожденная Великой Октябрьской социалистической революцией.

В этот же период были написаны такие значительные произведения белорусской драматургии, как пьеса З. Бядули «Соловей», в которой в историческом плане показывается борьба белорусского крепостного крестьянства с помещиками, как «Гибель волка» Эдуарда Самуйленка, в которой показываются успехи и трудности социалистического строительства в деревне, высокая сознательность и патриотизм рядовых колхозников, успешно борющихся с вредителями и диверсантами.

Виталием Вольским была написана по мотивам народного творчества комедия «Нестерка», которая и в настоящее время с успехом идет на белорусской сцене.

Все перечисленные пьесы вошли в основной фонд белорусской драматургии и значительно пополнили репертуар белорусских театров в предвоенные годы, сделав его богаче и разнообразнее.

Автором этих строк в довоенный период написаны пьесы «Конец дружбы», «Партизаны», сатирическая комедия «Кто смеется последним», постановка которых была осуществлена театром имени Янки Купалы.

Декада белорусского искусства и литературы в Москве, проведенная летом 1940 года, явилась своеобразным подведением итога тому, что было сделано за годы Советской власти белорусскими писателями и работниками искусства. В числе других достижений московская пресса единодушно отмечала большой рост белорусской драматургии и театра.

Вторгшиеся в нашу страну гитлеровские полчища прервали созидательный мирный труд советских людей. Неис-

удзельнічаць разам у абмеркаванні спектакляў. На мяне рабілі вялікае ўражанне яе надзвычайная працавітасць, высокая патрабавальнасць да сябе і да сяброў па працы (і да аўтара ў тым ліку), вернасць жыццёвай праўдзе, глыбокае пранікненне ў псіхалогію вобраза. Сустрэчы гэтыя я ўспамінаю з вялікай прыемнасцю і глыбока ўдзячны Лідзіі Іванаўне за вобраз цёці Каці, за ролі Аўдоцці Вярбіцкай, Наталлі Мікалаеўны і за многае іншае, што яна зрабіла для мяне як для драматурга.

Далучаючы свой голас да шматлікіх сяброў Лідзіі Іванаўны і паклоннікаў яе таленту, я горача віншую яе з 70-годдзем з дня нараджэння і жадаю далейшых творчых поспехаў. Няхай яе цудоўны талент яшчэ доўгія гады радуе савецкага гледача.

*1969*

## СПАСИБО ТЕБЕ, ДЕДУШКА КРЫЛОВ,—

говорят белорусы, отмечая двухсотлетие со дня рождения великого баснописца. Это искреннее выражение глубокой любви и благодарности замечательному мастеру художественного слова, произведения которого пользовались и пользуются большой популярностью среди белорусского народа. Басня в Белоруссии получила широкое распространение задолго до того, как у нас появились свои белорусские баснописцы. Этот жанр оказался весьма действенным в условиях дореволюционной белорусской действительности. Особенно пришлась по душе басня простому труженику, который в аллегорических образах, наделенных клыками, когтями, длинными ушами и прочими характерными атрибутами, легко узнавал своих обидчиков и захребетников, хитроумных крючкотворов и тупоголовых управителей, от которых зависела его судьба. Басенные зверюшки являлись олицетворением и тех пороков и человеческих слабостей, которые он видел в своих ближних и которые так тонко подмечал и так остроумно высмеивал дедушка Крылов.

Впервые в белорусской литературе басня появилась в конце прошлого столетия. Она естественно вписалась в об-

щее направление творчества таких поэтов-демократов, как Альберт Обухович и Францишек Богушевич, критически относившихся к современной им действительности. Это были первые попытки в этом роде, осуществленные под явным влиянием Крылова, о чем свидетельствуют и заимствованные у него басенные сюжеты.

Гораздо большего развития и совершенства достигла басня в творчестве народных поэтов Белоруссии Янки Купалы и Якуба Коласа, которые использовали этот жанр как оружие в борьбе с царским самодержавием, придав ему особую политическую остроту. Благотворное влияние Крылова безусловно имело место и в данном случае. Об этом прямо говорит Якуб Колас в своей автобиографии. Первой книгой, которую ему подарили в детстве, был именно сборник басен Крылова. Они так его очаровали, что он почти все их выучил наизусть. По его собственному признанию они в значительной мере определили и его интерес к писательскому творчеству.

Так, прожив многие века, обойдя многие страны, пришла басня при помощи дедушки Крылова на белорусскую землю, чтобы помочь нашему народу в его борьбе за социальное и национальное освобождение.

И в наше время служит она верой и правдой добрым людям в их борьбе с пороками, извращениями и человеческими слабостями, которые еще имеют место в нашей жизни. Живы славные крыловские традиции в белорусской литературе.

Да, живучим оказался этот древний жанр. А ведь сколько раз пророчили ему полное забвение! Сколько недоброжелателей видел он на своем веку!

Да, в самой басне, в ее аллегорической оболочке скрыто действенное средство защиты. Достаточно недоброжелателю неосторожно задеть ее, как на него обрушивается ответный разящий удар. Ведь нападение на басню означает, что нападающий узнал себя в аллегорическом зверином облике. А кто же решится на такое, чтобы выставить себя на всеобщее посмешище?

Вот и живет басня до сих пор. И пусть живет, сохраняя прежние достоинства и приобретая новые боевые качества.

*1969*

## НАША СВЯТА

Сёння ўся Беларусь у святочным убранні. Гучаць урачыстыя прамовы. Людзі гавораць аб сваёй радасці, аб сваіх здабытках, матэрыяльных і культурных скарбах, набытых за 50 гадоў натхнёнай працы.

Не лёгкім шляхам прыйшоў беларускі народ да гэтай слаўнай даты. Шмат на гэтым шляху было праліта салёнага поту ў цяжкай працы, гарачай крыві — у зацятай барацьбе з ворагамі. Шмат мужных і сумленных сыноў народа пала ў бітве за шчасце працоўнага чалавека.

А людзі ішлі і ішлі, з'яднаныя воляй партыі, натхнёныя мудрым вучэннем вялікага правадыра. Ішлі ўпарта і няспынна, узнімаючыся са ступені на ступень. Пяцьдзесят ступеней. Не так і шмат, а як высока мы ўзняліся! Адзін наш год самаадданай працы змяшчае ў сабе восемдзесят дарэвалюцыйных гадоў.

Далёка ўнізе засталося наша мінулае. Як на далоні перад нашым зрокам яго выразныя адзнакі: саха і лапаць, каўтун і трасца, цемра і галеча. Багатыя экспанаты для музея людской нядолі. А гэта ж была наша рэчаіснасць, наша штодзённае жыццё! З якога ж пекла выйшаў ты, «пан сахі і касы», на вольны свет, на шырокі прастор, стаўшы панам трактара і камбайна, аўтаматычнай лініі і электронна-вылічальнай машыны! І зямля тая — «лес, балота ды пясок», на якой ты надрываўся ад непасільнай працы, якая заўсёды была для цябе скупой мачахай, абярнулася добрай маці і не шкадуючы аддае табе багатыя скарбы, якія так доўга хавала ад вока прагных драпежнікаў. Для цябе берагла, для свайго любімага сына, чакаючы, пакуль ты станеш сапраўдным яе гаспадаром.

Гляньце, людзі добрыя, дарагія савецкія браты! — заклікаюць працоўныя Беларусі.— Паглядзіце, якім стаў сёння беларус! Той самы занядбаны, забіты, які вуснамі нашага народнага паэта казаў некалі з горкай іроніяй: «Палешукі мы, а не чалавекі». Гляньце і парадуйцеся разам з намі. І прыміце наш нізкі паклон і шчырую падзяку. За падтрымку ў цяжкія часіны, за брацкую дапамогу. Сярод нашых здабыткаў і скарбаў ёсць доля і вашай працы, і вашых братніх клопатаў. Запрашаем вас за наш бяседны стол. Самае пачэснае месца — нашаму вялікаму рускаму брату, які заўсёды быў нам галоўнай апорай.

Хораша нам сёння. Лёгка дышацца і добра марыцца. Свята — чаму і не памарыць, калі мары гэтыя не марныя, не бясплённыя. Калі ў іх наш заўтрашні дзень — светлы і

велічны. Ужо мары гэтыя авалодалі нашай свядомасцю, сталі нашымі задумамі. Яны ператварыліся ўжо ў шматзначныя лічбы нашых планаў. Ляглі на паперы чарцяжы велічных будоўляў. З радасным хваляваннем думаем мы аб іх здзяйсненні. Нам ператвараць у жыццё гэтыя вялікія задумы.

Нам у дружбе і братнім адзінстве, усёй брацкай савецкай сям'ёй працягваць далейшы шлях да велічы і славы нашай Радзімы, да шчасця ўсяго чалавецтва.

Вялікая ноша і шчаслівая доля выпалі на вяку нам, савецкім людзям.

*1969*

## ВЯЛІКІХ ТВОРЧЫХ ПОСПЕХАЎ

Ад «Беларускай хаткі» да Акадэмічнага тэатра — такі шлях прайшоў калектыў купалаўцаў за пяцьдзесят гадоў сваёй творчай працы. Пачатак гэтай працы закладвалі аддадзеныя любімай справе таленавітыя юнакі і дзяўчаты, якія з часам выраслі ў выдатных майстроў сцэны і выгадавалі новае таленавітае пакаленне. Вялікі ўклад унёс тэатр у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва. Сотні спектакляў было пастаўлена на яго сцэне, і яны прынеслі савецкаму гледачу шмат радасці і вялікую эстэтычную асалоду.

Побач з творамі Астроўскага, Горкага, Шэкспіра, Мальера на сцэне тэатра знайшлі сцэнічнае ўвасабленне творы многіх савецкіх аўтараў, у якіх адлюстраваліся вялікія падзеі нашых дзён, ратныя і працоўныя подзвігі савецкіх людзей у іх барацьбе за стварэнне сацыялістычнага грамадства.

Значную ролю адыграў тэатр у развіцці беларускай драматургіі. Многія з вядомых нам цяпер беларускіх драматургаў упершыню прыйшлі ў гэты тэатр са сваімі яшчэ далёка не дасканалымі творамі. Уважлівыя адносіны калектыву да маладых аўтараў, кваліфікаваная дапамога выдатных майстроў — рэжысёраў і акцёраў — дапамаглі ім глыбей уразумець законы драматургіі і патрабаванні сцэны.

Мяне асабіста з калектывам гэтага тэатра доўгія гады звязвае плённая творчая дружба. Тут я ўпершыню пазнаў асалоду, якую дае людзям сапраўднае тэатральнае мастацтва,

калі глядзеў спектакль «На Купалле» з Г. Грыгонісам у галоўнай ролі. Больш блізкае знаёмства з тэатрам адбылося, калі мяне папрасілі перакласці камедыю Дз. Фанвізіна «Недарасль». У часе падрыхтоўкі спектакля я часамі прысутнічаў на рэпетыцыях і меў магчымасць наглядаць, як драматычны твор ператвараецца ў сцэнічны, якія намаганні патрабуюцца для гэтага ад рэжысёра і акцёраў. Нарэшце, заахвочаны прыкладам Кузьмы Чорнага, п'еса якога «Бацькаўшчына» ўжо з поспехам ішла на гэтай сцэне, я і сам адважыўся паспрабаваць свае сілы ў новым для мяне жанры. Вынікам была п'еса «Канец дружбы», з якой я нясмела пераступіў парог тэатра.

Сустрэлі мяне прыхільна і агульнымі намаганнямі пачалі прыводзіць п'есу «ў божаскі від» у сэнсе зручнасці яе для пастаноўкі на сцэне. Найбольш дапамагаў мне пры гэтым пастаноўшчык спектакля Л. Літвінаў.

Купалаўцамі былі пастаўлены ўсе напісаныя мною п'есы, апрача аднае. Ставілі іх Л. Літвінаў, Л. Рахленка, К. Саннікаў. Вялікую дапамогу ў пастаноўцы камедыі «Хто смяецца апошнім» аказаў рэжысёр МХАТа Іосіф Майсеевіч Раеўскі.

Некаторыя з гэтых спектакляў карысталіся поспехам у гледача, а былі і не вельмі ўдалыя. Залежала гэта ў асноўным ад якасці драматургічнага матэрыялу. Што да выканаўцаў, дык яны не шкадавалі сіл, каб зрабіць спектакль яркім і цікавым. А зрабіць яны маглі шмат. Каб у гэтым пераканацца, досыць назваць імёны такіх выдатных майстроў сцэны, як У. Крыловіч, Г. Глебаў, Б. Платонаў, Л. Ржэцкая, Л. Рахленка, У. Уладамірскі, Г. Грыгоніс, І. Ждановіч, К. Міронава, В. Галіна, У. Дзядзюшка, С. Бірыла, В. Пола, А. Бараноўскі, З. Стома, С. Станюта, З. Браварская, П. Пекур, І. Шаціла.

Яшчэ можна было б назваць многіх з слаўнай плеяды купалаўцаў, што здабывалі славу свайму тэатру і ўсяму беларускаму тэатральнаму мастацтву. Вялікае ім дзякуй, што ў сваёй творчай працы яны аддалі ўвагу і маім творам, зрабіўшы ўсё магчымае, каб данесці да гледача ўсё лепшае, што ў іх ёсць.

Ад усяго сэрца віншую калектыў роднага мне тэатра з слаўным юбілеем і жадаю яму далейшых творчых поспехаў на радасць савецкаму гледачу!

*1970*

## АНДРЕЮ МАКАЕНКУ — 50 ЛЕТ

Андрею Макаенку исполнилось пятьдесят лет. Юбилейный возраст никак не вяжется с его внешним видом и юношеским задором. Но факты биографии — упрямая вещь. Достаточно вспомнить, что наш юбиляр — участник Великой Отечественной войны, и прежде, чем пускать в ход стрелы сатиры, ему пришлось разить врага другим оружием.

Первые шаги А. Макаенка в драматургии относятся к началу пятидесятых годов, когда им были написаны одноактные пьесы «Перад сустрэчай» и «Жыццё патрабуе». В скором времени шаги эти приобрели необходимую твердость, и уже в 1953 году он уверенно взошел на театральную сцену со своей сатирической комедией «Выбачайце, калі ласка!». Поставленный по этой пьесе театром имени Янки Купалы спектакль полюбился зрителю своей сатирической остротой и актуальностью. В пьесе высмеиваются бюрократизм, очковтирательство, приспособленчество, выводятся на чистую воду карьеристы и комбинаторы, пытающиеся строить свое благополучие за счет интересов государства. С легкой руки купаловцев пьеса обошла многие театры и пользовалась неизменным успехом.

С тех пор яростные атаки комедиографа-сатирика на уродливые явления нашей жизни, на людские пороки и слабости следуют одна за другой. Следующей его пьесой была комедия «Каб людзі не журыліся», в которой берутся под обстрел отрицательные явления в жизни колхоза, подвергаются осмеянию нерасторопность и нерадивость некоторых руководителей.

Самый большой успех выпал на долю комедии «Лявоніха на арбіце», написанной в 1960 году. Это тоже о людях колхозной деревни. Огонь сатиры направлен здесь на тех, кто еще не отрешился от устаревших представлений о жизни, не распрощался с мелкособственнической психологией и никак не может выпутаться из противоречий между личным и общественным. Отсюда и возникают комические положения, в которые попадают герои произведения. Пьеса до сих пор с успехом идет на сцене многих театров страны. А в театре имени Янки Купалы, с которым у автора установилась тесная творческая дружба, спектакль прошел уже более 500 раз.

К своему пятидесятилетию Андрей Макаенок опубликовал новую пьесу под названием «Трыбунал». Уточняя жанр этого произведения, автор определяет его как трагикомедию, народный лубок. Такое уточнение понадобилось, по-видимому, для того, чтобы подчеркнуть необычность поставленной твор-

ческой задачи: показать сквозь смех драматизм событий Великой Отечественной войны, патриотизм советских людей.

Комедии Макаенка отличаются злободневностью тематики, остротой комедийных ситуаций, живостью диалога. Каждое новое произведение талантливого драматурга встречается общественностью с живым интересом.

Пожелаем же Андрею Макаенку на второе полстолетие доброго здоровья и дальнейших больших успехов в его нелегком труде комедиографа.

*1970*

## НІЗКА СХІЛЯЮ ГАЛАВУ...

Не стала Андрэя Упіта... Доўга і плённа яго магутны розум, яго шматграннейшы талент жывіў культуру братняга латышскага народа, культуру ўсёй савецкай краіны ў самых розных галінах інтэлектуальнай дзейнасці. Выдатны пісьменнік і мудры вучоны, грамадскі і дзяржаўны дзеяч, ён пакінуў іскрысты след у духоўным жыцці не аднаго пакалення.

Зямля Купалы і зямля Райніса былі заўсёды блізкімі. І сярод тых, хто шмат чаго зрабіў для гэтай блізкасці, быў і наш добры друг Андрэй Мартынавіч Упіт.

З нашым агульным смуткам зліваецца і мой асабісты боль...

Нізка схіляю галаву перад светлай памяццю народнага песняра.

*1970*

## ВІТАННЕ БЕЛАРУСКАМУ УНІВЕРСІТЭТУ

У 1926 годзе, калі мне было ўжо трыццаць гадоў, я паступіў вучыцца ў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Гэта дало магчымасць запоўніць вялікі прабел у маёй адукацыі, якой я не змог набыць у свае юнацкія гады.

Хай не дзівіцца гэтаму сённяшняя студэнцкая моладзь, якая часцей за ўсё трапляе ў вышэйшыя навучальныя ўстановы адразу пасля заканчэння сярэдняй школы. Мы ў тыя далёкія гады паступалі вучыцца, маючы за плячыма багаты жыццёвы гарт і вопыт самастойнай працы.

Студэнцкія гады захавалі ў памяці нямала светлых і яркіх старонак. Гэта — і надзвычай цікавыя, змястоўныя лекцыі прафесараў Замоціна, Піятуховіча, Барычэўскага, Пічэты, Вальфсона, Бузука, Воўк-Левановіча, якія я і мае таварышы па курсе заўсёды акуратна наведвалі. Гэта і бурлівыя студэнцкія сходы, і таварыскія дыскусіі, і літаратурныя вечары. Нас, студэнтаў, хвалявала ўсё новае, што нараджалася ў жыцці. Хацелася быць перадавым, свядомым будаўніком новай явы. Мы ішлі ў паход за ліквідацыю непісьменнасці, памагалі ў калектывізацыі вёскі, пісалі творы па гарачых слядах падзей.

Ад шчырага сэрца віншую калектыў выкладчыкаў універсітэта-юбіляра, усіх студэнтаў. Веру, што маладыя выхаванцы універсітэта будуць актыўнымі будаўнікамі светлай будучыні — камунізму.

*1971*

## ГРАМАДСКАЯ НЕАБХОДНАСЦЬ І БЕСПАДСТАЎНАЕ НАВАТАРСТВА

З таго часу, як першы чалавек прамовіў да свайго сабрата першае, яшчэ не членападзельнае слова, чалавечая мова няспынна развіваецца і ўдасканальваецца. Чалавек набываў жыццёвы вопыт, вучыўся вырабляць прылады працы і карыстацца імі не ў адзіночку, а сумесна, ва ўзаемадзеянні з іншымі людзьмі. Ім неабходна было дамаўляцца, абменьвацца вопытам, выказваць свае думкі і пачуцці так, каб гэтыя выказванні былі зразумелымі тым, каму прызначаліся. Так з самага пачатку мова з'яўлялася жыццёвай неабходнасцю супольнага чалавечага жыцця, вынікам і важнейшым фактарам развіцця чалавецтва ў яго шматвяковай эвалюцыі. Па меры таго як ускладнялася жыццё, развівалася і чалавечая думка, а разам з ёй і слова як неабходная ўмова мыслення. І нічога ў мове не было такога, што б не выклікалася жыццёвымі патрэбамі людзей — членаў чалавечага грамадства.

Па меры свайго развіцця мова набывала пэўную структуру: словы і словазлучэнні ўкладваліся ў адпаведныя сістэмы, катэгорыі. Устанаўліваліся няпісаныя, а з часам і пісаныя правілы карыстання мовай. Для ўсёй супольнасці людзей, аб'яднаных той ці іншай мовай, правілы гэтыя з'яўляюцца неабходнымі. Яны павінны быць адзінымі, усім зразумелымі і для ўсіх абавязковымі, як і правілы кожнай, нават элементарнай, гульні. Калі гэтыя правілы не будуць захоўвацца, гульня не атрымаецца. Тым больш неабходна прытрымлівацца правіл у такой «гульні», як карыстанне мовай, паколькі ў ёй прымаюць удзел не дзесяткі, а часта мільёны людзей.

Моўныя нормы і правілы не выдумляюцца мовазнаўцамі і не папярэджваюць моўнай практыкі, а ўтвараюцца самой моўнай практыкай, часта задоўга да таго, як набываюць сваё пісьмовае афармленне. У некаторых народаў нашай краіны з'явілася пісьменнасць толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, хоць да таго часу ў іх была развітая мова. Пісаныя нормы і правілы толькі фіксуюць стан той ці іншай жывой мовы на пэўным этапе, адлюстроўваючы ў граматыках, правапісах, нарматыўных слоўніках найбольш істотныя, агульныя для дадзенай мовы рысы. Запісаныя ў іх правілы з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх і спрыяюць павышэнню культуры як пісьмовай, так і вуснай мовы. Але гэтым не спыняецца працэс яе далейшага развіцця. Яна папаўняецца новымі словамі, засвойвае запазычанні з іншых моў, ператварае дыялектныя асаблівасці ў элементы агульнанароднай мовы. Павольна, але няспынна ў мове адбываюцца змены, і праз пэўны (вельмі не кароткі) час ствараецца неадпаведнасць паміж жывой агульнанароднай мовай і яе правапіснымі, а то і граматычнымі нормамі. Тады пачынаюць удакладняць і прыводзіць пісаныя правілы ў адпаведнасць з новым станам жывой агульнанароднай мовы. Але робіцца гэта не часта. Па-першае, таму, што, як было ўжо сказана, змены ў мове адбываюцца вельмі павольна. Па-другое, частыя змены і ўдакладненні хоць бы таго ж правапісу не дасягаюць мэты: замест таго каб зрабіць людзей больш пісьменнымі, частыя рэформы могуць зрабіць іх непісьменнымі. Людзі не паспеюць перавучвацца ўслед за гэтымі рэформамі.

Гэтыя агульныя меркаванні, якія не з'яўляюцца, вядома, маім адкрыццём, я лічыў патрэбным выказаць перад тым, як перайсці да высвятлення канкрэтных пытанняў нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы, якія ў апошні час непакояць нашу грамадскасць.

Беларуская мова на працягу вякоў праходзіла доўгі шлях развіцця ў нетрах праславянскай, агульнаславянскай і агуль-

наўсходнеславянскай моўнай супольнасці. Калі яна ў сілу гістарычных прычын пачала адасабляцца і набываць рысы ўласнабеларускія, яна ўжо была высокаразвітой мовай з багатым слоўнікавым фондам і ўсталяваным граматычным ладам. За шэсцьсот гадоў самастойнага развіцця ў ёй выкрышталізаваліся тыя характэрныя асаблівасці, якія давалі падставу лічыць яе не дыялектам, не гаворкай, а самастойнай мовай. У гэтым ёй доўгі час адмаўлялі, але прычынай тут быў не стан самой мовы, а вялікадзяржаўная палітыка царскага ўрада. Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя вызваліла беларускі народ ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску і зрабіла яго паўнапраўным сярод іншых народаў нашай краіны. Тым самым яна зрабіла паўнапраўнай і беларускую мову, даўшы ёй магчымасць усебакова развівацца і абслугоўваць новае, сацыялістычнае грамадства ва ўсіх сферах яго шматграннай дзейнасці.

Беларуская мова, як вядома, складаецца з двух асноўных дыялектаў: паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга. У выніку іх узаемадзеяння ўтварыліся сярэднебеларускія гаворкі, якія ўвабралі ў сябе найбольш істотныя рысы абодвух дыялектаў і стварылі аснову агульнанароднай беларускай мовы. Шырокая паласа гэтых гаворак праходзіць у агульным кірунку з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход (арыенціровачна ад Ашмян на Рагачоў). Гэтыя гаворкі і ляглі ў аснову сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Такой ролі сярэднебеларускіх гаворак спрыяла і тая акалічнасць, што выдатнейшыя пісьменнікі — пачынальнікі сучаснай беларускай літаратуры — Дунін-Марцінкевіч, Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Змітрок Бядуля — з'яўляюцца прадстаўнікамі гэтых гаворак і сваёй творчасцю замацавалі іх у гэтай ролі. Такім чынам, самім гістарычным лёсам суджана было сярэднебеларускім гаворкам стаць асновай сучаснай агульнанароднай беларускай літаратурнай мовы. Не сталі літаратурнай нормай толькі мала пашыраныя асаблівасці мясцовых гаворак.

Гэта магло паказацца крыўдным прадстаўнікам гэтых гаворак, а прадстаўнікоў розных гаворак сёння нямала ёсць сярод беларускіх пісьменнікаў, журналістаў, мовазнаўцаў. Для народнага паэта Петруся Броўкі, напрыклад, роднымі з'яўляюцца гаворкі Полаччыны, для народнага пісьменніка Міхася Лынькова — гаворкі Віцебшчыны, для народнага паэта Аркадзія Куляшова — гаворкі Мсціслаўшчыны, для народнага паэта Максіма Танка — гаворкі Вілейшчыны, для Івана Шамякіна — гаворкі Гомельшчыны, для Івана Мележа і Піліпа Пестрака — палескія гаворкі. Аднак яны не крыўдзяцца за

лёс сваіх гаворак і прытрымліваюцца тых норм літаратурнай мовы, якія склаліся гістарычна ў працэсе развіцця мовы. Бо што б было, калі б кожны з іх пачаў пісаць творы на сваёй мясцовай мове? Была б мова полацкая, віцебская, мсціслаўская і г. д., і не было б агульнабеларускай літаратурнай мовы. Ёсць, аднак, асобныя літаратары і мовазнаўцы, якія лічаць, што гісторыя несправядліва абышлася з іх гаворкамі, і спрабуюць узяць рэванш. Але пра гэта пасля.

Першай пісанай граматыкай, якая паслужыла добрым пачаткам далейшай нармалізацыі сучаснай беларускай мовы, была «Беларуская граматыка для школ». Аўтарам яе з'яўляецца вядомы грамадскі і культурны дзеяч Браніслаў Тарашкевіч. Упершыню яна была выдадзена ў Вільні ў 1918 годзе. Пасля перавыдавалася і ў Мінску (у 1921 годзе). У прадмове да свае працы аўтар гаворыць аб тых прынцыпах, якімі ён кіраваўся пры складанні падручніка. Я дазволю сабе прывесці ўрывак з гэтай цікавай прадмовы.

«Пакінуўшы даўно парваныя і заняпаўшыя традыцыі старасвецкай беларушчыны,— гаворыць аўтар,— мова новага пісьменства адразу пачала ўзрастаць з народнага карэння. А народнае карэнне — яно вельмі багатае. І нягледзячы на вялікую суцэльнасць усяе беларускае мовы, яна мае, як і кожная мова, колькі асобных, выразней азначаных гутарак. Кожная гутарка дабіваецца заняць пачэснае месца ў нашым пісьменстве. Дзеля гэтага і розныя, часта паміж сабой нязгодныя спосабы пісання.

Трэба было часу, каб само жыццё паказала, якая гутарка мае найбольш сілы і здатнасці на тое, каб зрабіцца асновай літаратурнай мовы. Трэба было часу, каб праявіліся ў пісьменстве ўсе, якія толькі ёсць у беларускіх гутарках, чыста беларускія асобнасці. Без гэтага не магло быць ніякае хоць большменш закончанае граматыкі, не магло быць і сталага, яснага правапісу. Бо граматыка і правапіс павінны толькі замацаваць і падраўняць тыя лініі, якія сама мова ўжо назначыла».

Такім чынам, аўтар першай беларускай граматыкі імкнуўся адлюстраваць найбольш характэрныя рысы агульнанароднай мовы, якія ўтварыліся ў выніку ўзаемадзеяння асобных гаворак і праявіліся ў «пісьменстве». А сучаснае яму «пісьменства» — гэта творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Змітрака Бядулі, Максіма Багдановіча.

Глыбокае разуменне сутнасці справы і правільны падыход да вырашэння пастаўленай задачы далі магчымасць Браніславу Тарашкевічу скласці падручнік, які саслужыў добрую службу справе нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы.

Аўтары, якія ў далейшым больш грунтоўна распрацоўвалі гэта пытанне, у тым ліку і аўтары двухтомнай «Граматыкі беларускай мовы», не парушалі прынцыпаў, якімі кіраваўся ўкладальнік першай беларускай граматыкі.

За гады Савецкай улады сфера ўжывання беларускай мовы нязмерна пашырылася. У адпаведнасці з грамадскай, гаспадарчай, навуковай, культурнай дзейнасцю народа развіваліся і моўныя стылі. Намнога ўзбагацілася лексіка, больш выкрышталізаваліся граматычныя формы, акрэсліліся арфаэпічныя асаблівасці беларускай мовы. За гэты час два разы — у 1933 і ў 1957 гадах — праводзілася ўдасканаленне правапісу беларускай мовы з мэтай больш дакладнага адлюстравання на пісьме яе характэрных асаблівасцей. Гэтыя ўдакладненні садзейнічалі далейшаму павышэнню культуры мовы. Зацверджаныя адпаведнымі ўстановамі і выдадзеныя ў 1959 годзе «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» з'яўляліся абавязковымі для ўсіх, хто карыстаецца беларускай мовай, і ўсе іх прытрымліваліся.

Так было да апошняга часу. Але ў апошнія два-тры гады, і што далей, то больш, у нашым друку, у радыёперадачах стаў заўважацца разнабой, парушэнне граматычных, арфаграфічных і арфаэпічных норм. Стварылася недарэчнае становішча, калі настаўнікі і вучні чытаюць у падручніках адно, а бяруць у рукі часопіс ці газету і бачаць там зусім іншае. Дзівяцца і не разумеюць, што здарылася з мовай. Тым часам з самой мовай нічога не здарылася. За пятнаццаць гадоў, з таго часу, як было праведзена апошняе ўдакладненне правапісу, не адбылося ў ёй ніякіх змен, апрача таго, што прыбавілася пэўная колькасць новых слоў, якія, аднак, добра ўкладваюцца ў існуючыя нормы.

Такім чынам, няма ніякіх аб'ектыўных прычын, якія вымагалі б правядзення новых рэформ. Хутчэй за ўсё мы тут маем справу з прычынамі суб'ектыўнага характару. Напэўна, ёсць людзі, якія лічаць нашу беларускую граматыку і правапіс недасканалымі. І яны маюць рацыю, калі прыняць пад увагу, што няма ў свеце такой ідэальнай граматыкі ці такога правапісу, якія б дасканала адлюстроўвалі стан той ці іншай мовы. Але, можа, у іх ёсць сур'ёзныя доказы таго, што змены з'яўляюцца неабходнымі, што іх трэба праводзіць неадкладна, у парадку самадзейнасці? У гэтым разбіраліся ўдзельнікі нарады па пытаннях культуры мовы, якая нядаўна адбылася ў Акадэміі навук БССР.

Як выявілася, больш за ўсё блытаніны вакол словазлучэння з прыназоўнікам *па* плюс назоўнік мужчынскага роду адзіноч-

нага ліку з канчаткам ***-у***. Прыхільнікі рэформы спасылаюцца на тое, што назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ў спалучэнні з прыназоўнікам ***па*** маюць канчатак ***-е*** або ***-і***, уласцівы меснаму склону, а канчатак ***-у*** з'яўляецца адзнакай давальнага склону. Таму, маўляў, нельга пісаць *па загаду, па заданню, па сэнсу, па густу*, ■ трэба пісаць і гаварыць: *па загадзе, па заданні, па сэнсе, па гусце*. Тады трэба ў іх запытацца: а ў словазлучэннях *ісці па шляху, родныя па духу, ударыць па ворагу, хадзіць па мурагу, па парку* таксама мы маем справу з давальным склонам? А як жа тут ад яго пазбавіцца? Пісаць *па шлясе, па дусе, па воразе, па мурозе*? А што рабіць з *паркам*? Аказваецца, рабіць нічога не трэба, бо ёсць група назоўнікаў з асновай на ***г, к, х***, якія і ў месным склоне маюць канчатак ***-у***. (Назоўнікі з асновай на ***к*** — заўсёды, а назоўнікі з асновай на ***г, х*** — за рэдкім выключэннем, заўважым мы ад сябе. Напрыклад, *па беразе*.) Такім чынам, у гэтым выпадку канчатак ***-у*** не з'яўляецца адзнакай давальнага склону. Чаму ж тады ў аналагічных канструкцыях толькі з назоўнікамі з іншай асновай канчатак ***-у*** лічыцца адзнакай давальнага склону? Відаць, таму, што з іншымі прыназоўнікамі гэтыя назоўнікі ў месным склоне маюць іншыя канчаткі (***-е, -і***). Аднак калі мы ў канструкцыях з прыназоўнікам ***па*** бяром гэтыя назоўнікі ў множным ліку, дык і тут тады выразна выступае канчатак меснага склону: *па загадах, па даннях, па курсах.*

Такім чынам, канчатак ***-у*** назоўнікаў адзіночнага ліку ў канструкцыях з прыназоўнікам ***па*** трэба разглядаць толькі як варыянт канчатка меснага склону. І з'явіўся ён не ўпершыню. Знаходзім мы яго і ў помніках пісьменнасці, чуем у жывой мове, бачым у сучаснай мастацкай, а яшчэ больш у публіцыстычнай і навуковай літаратурах. Падтрымліваецца гэты варыянт як канчаткамі назоўнікаў з асновай на ***г, к, х***, так і аналагічнымі канструкцыямі, запазычанымі з рускай мовы. Гэта не асаблівасць якой-небудзь мясцовай гаворкі, а рыса, уласцівая ўсёй агульнанароднай мове — пісьмовай і вуснай. Яе нельга ні ігнараваць, ні ўкласці ў пракрустава ложа граматыкі. Самадзейныя рэфарматары, якія пачалі гаварыць і пісаць — *па штаце, па росце, па разе, па сэнсе, па загадзе*, не павінны забываць, што за сценамі іх кабінетаў мільёны людзей гавораць і пішуць іначай. З гэтым нельга не лічыцца. Зусім слушна ўдзельнікі памянёнай вышэй нарады прызналі беспадстаўным імкненне выкараніць з беларускай мовы ў такіх канструкцыях канчатак ***-у***. Праўда, існуючы правапіс не ўдакладняе, у якіх выпадках такі канчатак ужываецца. Гэты прабел у пэўнай меры запаўняе Арфаграфічны слоўнік М. П. Лобана і М. Р. Судніка, які толькі што выйшаў з друку.

Прыведзенае там правіла, можа, не зусім поўна распрацаванае, указвае, аднак, на тыя сэнсавыя асаблівасці словазлучэнняў, пры якіх ужываецца канчатак *-у* ў канструкцыях з прыназоўнікам ***па***. У ім гаворыцца, што канструкцыю з канчаткам *-у* трэба захаваць у тых выпадках, калі яна мае:

а) размеркавальнае ці вылучальнае значэнне: *па кілаграму на чалавека, недакладны па сэнсу*;

б) значэнне адрэзку часу: *па году не бачыцца*;

в) значэнне параўнання па велічыні: *качаны па вядру*;

г) калі такая канструкцыя адпавядае значэнню слоў ***паводле, адпаведна***: *па загаду дырэктара, працаваць па плану*.

Трэба думаць, што правіла гэта будзе яшчэ ўдакладняцца, як і пытанне аб склонавым канчатку і аб дапасаванні прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў, што ўжываюцца з назоўнікамі ў такіх канструкцыях. Магчымыя супярэчнасці з граматыкай пры гэтым павінны вырашацца на карысць правапісу, заснаванага на шырокай моўнай практыцы.

Зусім ужо недарэчным выглядае паход супраць канструкцыі з прыназоўнікам ***аб*** плюс назоўнік у месным склоне. Як ні дзіўна, да гэтага далучыўся і такі вядомы знаўца і даследчык мовы, як Ф. М. Янкоўскі. У сваім артыкуле «Слухаць жывое слова», змешчаным у часопісе «Полымя», № 2 за 1965 год, аўтар слушна гаворыць, што жывой народнай мове больш уласціва словазлучэнне з прыназоўнікам ***пра*** і што яго часта беспадстаўна замяняюць словазлучэннем з прыназоўнікам ***аб***. Аўтар прызнае, што словазлучэнні з прыназоўнікам ***аб*** цвёрда замацаваліся ў мове афіцыйных дакументаў. Але ён лічыць недапушчальным ужыванне такога словазлучэння ў мастацкай літаратуры, асабліва ў паэзіі. «Але пісаць у вершы,— кажа аўтар,— «аб жахах лёсу», «аб аб'ёме нашай радасці», «аб яго пераходзе»... усё адно, што самому перакрэсліць свае ўласныя вершы».

Што да «аб'ёму нашай радасці», дык такі «аб'ём» і ў прозу не лезе, не толькі ў верш. А вось «пра яго пераход» наўрад ці лепш гучыць, чым «аб яго пераходзе». Аднак жа звернемся да самой паэзіі. Далёка не шукаючы, бяром «Новую зямлю» Якуба Коласа і чытаем: «...аб жыцці, долі іх пахілай», «...аб непарадку, запусценні, аб гаспадарчым нерадзенні». «Ну так: я чуў аб ім...», «...зусім забыўшыся аб лёсе»,

> Зайшла размова аб навуках —
> Старых, даўнейшых — і іх штуках,
> Аб кнігах з чорнаю пячаццю,
> Аб чараўніцтве, аб закляцці,
> Аб розных хітрасцях і зману.

Ну што ж, можа, Якуб Колас не вельмі прыслухоўваўся да жывога слова. Звернемся да Янкі Купалы:

...люд аб ім будзе песенькі пеці.
Верш «Лапці»;

...грай мне аб шчасці, грай аб вясне!
Верш «Вясна»;

За сталом ідзе бяседа аб жыцці, аб ураджаі...
Верш «Вечарынка»;

«Аб мужыцкай долі»
Загаловак верша;

Сні, таварыш, аб Камуне!
Рэфрэн з вядомага верша
«На смерць Сцяпана Булата»

Выходзіць, што нібы абодва народныя паэты не адчувалі жывога слова роднай мовы і бязлітасна «перакрэслівалі» свае творы ўжываннем словазлучэння з прыназоўнікам ***аб*** замест прыназоўніка ***пра***. Наяўнасць такога «разыходжання» мовы паэтаў з народнай мовай вынікае і з артыкула А. Каўруса і Л. Падгайскага «Знаходзіць той, хто шукае!» (Полымя. 1965. № 1). Уласна, з гэтага артыкула і пачаўся паход супраць небаракі-прыназоўніка ***аб***. Аўтары артыкула знайшлі, што ў гутарковай мове «канструкцыя месны склон плюс ***аб*** мае месца толькі ў асобных выпадках».

Знайшлі яны, напэўна, тое, што ім трэба было, але не тое, што вынікае з заканамернасцей развіцця мовы і аб чым сведчыць сама мова, як гутарковая, так і літаратурная. Тым не менш аўтарытэт Каўруса для самадзейных рэфарматараў аказаўся вышэйшым за ўсе іншыя аўтарытэты, і супрацоўнікі некаторых рэдакцый пачалі старанна выкрэсліваць канструкцыі з прыназоўнікам ***аб***, замяняючы іх, дзе трэба і дзе не трэба, канструкцыямі з прыназоўнікам ***пра***. Зусім зразумела, чаму такую самадзейнасць удзельнікі нарады прызналі неабгрунтаванай і нічым не апраўданай.

Ненармальнай з'яўляецца і залішняя прыхільнасць некаторых мовазнаўцаў і работнікаў друку да асаблівасцей мясцовых гаворак. Так, напрыклад, назоўнікі жаночага роду множнага ліку ў родным склоне, паводле літаратурнай нормы, павінны канчацца на чыстую аснову (*хат, кніг, вуліц, вішань, песень*), апрача тых назоўнікаў, у якіх аснова канчаецца *нязручным для вымаўлення* збегам зычных (*фарбаў, качэргаў, кафедраў, торбаў*). Аднак некаторыя часопісы і газеты сталі пісаць *хатаў, кнігаў, вішняў, песняў* і нават пашыраюць гэту форму на назоўнікі тыпу

*косць* — *косцяў, радасцяў, якасцяў* замест *касцей, радасцей, якасцей*. Такія канчаткі, як паказвае «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», уласцівы некаторым нашым заходнім гаворкам, галоўным чынам Гродзенскай вобласці. Яны могуць ужывацца як характэрныя асаблівасці мовы таго ці іншага персанажа ў мастацкім творы, але няма ніякай падставы замацоўваць іх у якасці нормы літаратурнай мовы.

Такое ж неправамернае пашырэнне пачалі набываць за апошні час і канчаткі прыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку роднага склону — *роднае, добрае, зялёнае, важнае*; займеннікаў — *гэтае, якое, такое*; лічэбнікаў — *першае, другое, пятае, восьмае* і г. д. замест прынятай за норму скарочанай формы — *роднай, добрай, гэтай, такой, пятай*. Дыялектная форма — *зялёнае, такое* — пашырана ў некаторых паўднёвых гаворках і дапускаецца падручнікамі як паралельная, але гэта не значыць, што ёю трэба замяняць больш пашыраную скарочаную форму, як гэта практыкуюць асобныя рэдакцыі газет і часопісаў. Удзельнікі нарады назвалі заганнай такую практыку рэдакцый, супрацоўнікі якіх падганяюць мову аўтараў пад свой густ і надуманыя стандарты, замяняючы літаратурныя нормы дыялектнымі варыянтамі.

Непаразуменнем з'яўляецца і тое, што прыназоўнік *к* ва ўсіх выпадках імкнуцца замяніць прыназоўнікам *да* на той падставе, што канструкцыі з гэтымі прыназоўнікамі нібыта сінанімічныя, але прыназоўнік *к* не ўласцівы беларускай мове. На самой жа справе гэты прыназоўнік таксама ўласцівы беларускай мове, як і *да*. Апрача таго, у пэўных выпадках кожны з гэтых прыназоўнікаў надае словазлучэнню асаблівы сэнс. Напрыклад, *спячы пірог да свята* не тое самае, што *спячы пірог к святу*. *Да свята* можна спячы ды з'есці, а *к святу* — гэта значыць, што ў свята ён павінен быць на стале. Такое ж рознае значэнне маюць выразы: *скончыць працу к тэрміну* і *скончыць працу да тэрміну; галлё звісала к зямлі* і *галлё звісала да зямлі; прыйсці к абеду* і *да абеду*. Такіх прыкладаў можна было б прывесці шмат.

Нямала непаразуменняў у друку з напісаннем уласных асабовых імён і прозвішчаў. Як вядома, тое ці іншае асабовае імя можа мець шмат варыянтаў з рознымі адценнямі ў залежнасці ад таго, галоўным чынам, у якіх адносінах знаходзяцца іншыя людзі з носьбітам імя. Бываюць імёны ласкальныя, памяншальныя, скарочаныя. Той самы Пётр для блізкіх і знаёмых можа быць і Петрусём, і Пецем, і Пецькам, і Петрыкам, і Пятруськам. Для Людмілы часта хапае і палавіны гэтага імя (Люда або Міла). Але для грамадскасці, для афіцыйных дакументаў імя павінна

быць адназначным. Тут варыянты могуць толькі пашкодзіць, калі з'яўляецца патрэба паводле дакументаў устанавіць асобу носьбіта. У абыходжанні варыянты асноўнага імя з'яўляюцца адзнакай фамільярных адносін, на што мае права толькі абмежаванае кола людзей. Часамі скажаюць напісанне асабовых імён дзеля беларускасці. Сцвярджаюць, напрыклад, што беларускім імёнам не ўласцівы канчатак *-й*, і пішуць *Валеры, Дзмітры, Віталі*. Сотні год пісалі, у тым ліку паўстагоддзя ў савецкі час, *Дзмітрый, Георгій, Ануфрый* — і было па-беларуску. Сотні хімічных тэрмінаў, такіх, як *барый, магній, стронцый*, таксама маюць канчатак *-й* і не псуюць беларускай мовы. Праблема гэта яўна надуманая і, апрача блытаніны, нічога не дае. Тым больш што ў «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» правіла напісання ўласных імён і прозвішчаў даволі падрабязна распрацавана. Найбольш цяжкія для напісання імёны і прозвішчы даюцца і ў Арфаграфічным слоўніку, на які я ўжо тут спасылаўся. За неабходнасць прытрымлівацца гэтых правіл і выказаліся ўдзельнікі нарады.

У сувязі з вышэйсказаным звяртае на сябе ўвагу выдадзеная ў 1970 годзе праца М. Ц. Кавалёвай і П. У. Сцяцко «Беларуская мова». Прызначаецца яна навучэнцам сярэдніх і спецыяльных навучальных устаноў і павінна, як гаворыцца ў прадмове, «павысіць моўную культуру, узбагаціць слоўнік, развіць вусную і пісьмовую мову». Дай божа, думае чытач, беручы кнігу ў рукі. Разгортвае і бачыць там параграфы з галіны лексікі, марфалогіі, сінтаксісу, арфаграфіі, якія ўвогуле не выклікаюць пярэчання. А яшчэ ён бачыць... усю тую блытаніну, пра якую толькі што ішла гаворка. Тут і канчаткі роднага склону назоўнікаў множнага ліку ўсіх скланенняў (*суседзяў, арцеляў, салдатаў, імёнаў, партызанаў, вокнаў, правоў, правілаў, печаў, мораў, журавінаў*). Тут і непрызнанне канструкцый з прыназоўнікам ***па*** плюс назоўнік з канчаткам ***-у*** і канструкцый з прыназоўнікам ***аб*** плюс назоўнік у месным склоне. Тут і блытаніна з напісаннем уласных асабовых імён і прозвішчаў. У аўтараў заўважаецца выразная тэндэнцыя, як ужо было сказана, «узяць рэванш» за нібыта пакрыўджаныя мясцовыя гаворкі, узвесці дыялектныя граматычныя формы ў ранг літаратурных норм. Прыклады ў кнізе прыводзяцца толькі такія, якія падмацоўваюць гэту тэндэнцыю, а куды больш шматлікія, што сведчаць аб агульнапрынятых літаратурных нормах, звычайна не даюцца.

Такім чынам, аўтары вучаць парушаць існуючыя літаратурныя нормы, не лічыцца з правіламі зацверджанага адпаведнымі ўстановамі правапісу. А між іншым, абодва аўтары з'яўляюцца

выкладчыкамі Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага. І гэта кніга рэкамендуецца ў якасці дапаможніка для сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Такім чынам робіцца спроба ўзаконіць разнабой, які ў апошні час непакоіць нашу грамадскасць.

Нядоўга прыйшлося чакаць гэтаму «дапаможніку» і хвалебнай рэцэнзіі. З такой рэцэнзіяй пад назвай «З клопатам пра культуру мовы» выступіў вядомы ўжо нам прыхільнік блытаніны А. Каўрус (Полымя. 1971. № 7). Рэцэнзент хваліць аўтараў за наватарства, за тое, што ілюстрацыйны матэрыял падбіраўся *належным чынам.* (Тут ужо было сказана, як ён падбіраўся.)

«Ствараючы дапаможнік, М. Кавалёва і П. Сцяцко,— піша рэцэнзент,— ішлі непратаптаным шляхам. Аднак дасканалае веданне беларускай мовы, шчырае жаданне падаць яе ва ўсім багацці і разнастайнасці дало плён — з'явілася яшчэ адна цікавая і патрэбная кніга пра роднае слова». Заўважаны і недахопы. Рэцэнзент робіць аўтарам заўвагу, чаму яны, прытрымліваючыся на гэты раз правапісу, прапануюць пісаць слова авёс у родным склоне з канчаткам ***-а*** — *аўса*. На думку рэцэнзента, трэба пісаць *аўсу*, паколькі гэта зборны прадмет. А чаму б тады не пісаць *кавалак хлебу*? Гэта ж таксама зборны прадмет.

Клопаты пра культуру мовы, калі яны сапраўдныя і сур'ёзныя,— вельмі добрая справа. Выступленні па гэтаму пытанню ў друку можна толькі вітаць. Час ад часу ўзнікае патрэба ўносіць і тыя ці іншыя змены і ўдакладненні ў існуючыя нормы і правілы. Але гэтыя змены павінны быць навукова абгрунтаваны і выклікаюцца патрэбамі грамадства, а не суб'ектыўным жаданнем асобных людзей. І ўжо, ва ўсякім разе, не павінны праводзіцца самачынна, без санкцыі тых устаноў, на якія ўскладзены абавязак наглядаць за станам літаратурнай мовы з яе адзінымі для ўсяго грамадства нормамі і правіламі.

Уважлівае вывучэнне тых «удакладненняў», якія застракацелі ў апошні час на старонках некаторых газет і часопісаў, паказвае, што яны не маюць пад сабой навуковага грунту і не выкліканы патрэбамі грамадства, а з'яўляюцца вынікам самачыннай дзейнасці асобных мовазнаўцаў і работнікаў друку.

Чым жа ўсё-такі кіраваліся самадзейныя рэфарматары ў сваёй актыўнай, але неправамернай дзейнасці? Ды нібыта ўсё тымі ж клопатамі пра культуру мовы. Некаторыя з іх лічаць, што беларуская мова не досыць беларуская. Што яна будзе больш беларускай, калі мы будзем пісаць і гаварыць *кнігаў, хатаў, бабаў, шапкаў*; стане больш багатай, калі мы падцярэбім сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам ***аб*** і ***па*** (з канчаткамі ***-у, -ю***) і будзем пісаць *пра праграму, пра пераразмеркаванне, закон пра зямлю, прасіць пра памілаванне; па сакрэце, па гусце*, будзем

вывучаць палітэканомію *па Марксе*. Хіба гэта і ёсць тая самая культура, аб якой трэба клапаціцца?

Мова як сродак зносін паміж людзьмі абслугоўвае грамадства ва ўсіх сферах яго дзейнасці і мае шмат розных аспектаў. Адным з важнейшых аспектаў, на які хацелася б тут звярнуць увагу, з'яўляюцца ўзаемаадносіны беларускай мовы з іншымі мовамі, у першую чаргу з брацкімі ўсходнеславянскімі мовамі — рускай і ўкраінскай. Зразумела, што ў нашай мовы шмат агульнага з гэтымі яе роднымі сёстрамі — у лексіцы, у марфалогіі, у сінтаксічным ладзе,— шмат таго, што склалася за доўгія вякі гісторыі, што падтрымліваецца і памнажаецца штодзённай моўнай практыкай. Гэта таксама наша нацыянальнае, моўнае багацце. Захоўваючы характэрныя асаблівасці беларускай мовы, клапоцячыся аб яе далейшым развіцці, мы павінны шанаваць і тое агульнае, што ёсць у нашых брацкіх мовах. Яно дапамагае нам лепш разумець нашых братоў, служыць дзейсным сродкам збліжэння і ўзаемнага ўзбагачэння нашых культур.

*1972*

## ПАМЯТНАЯ СУСТРЭЧА

Не помню дакладна, калі я першы раз сустрэўся на літаратурнай сцежцы з «Крокодилом». Помню толькі, як ахнуў: «Вось гэта зубы!»

Тут было і здзіўленне, і захапленне, і крышку прафесійнай зайздрасці. Зубы для сатырыка — гэта ж о-го-го!

З таго часу я пастарэў, а «Крокодил» толькі пасталеў. Бо што гэта значыць для кракадзільскага веку якіх-небудзь 50 гадоў! Пасталеў, падрос. І зубы — таксама. І прыхільнікаў у яго прыбавілася. Цяпер не толькі я, але і ўнукі мае пасябравалі з ім. Як убачаць мяне з газетамі, здалёк яшчэ крычаць: «Крокодил» ёсць?» Ім і не ў галаве, што «Крокодил» выходзіць на паляванне раз у дзесяць дзён. Што яму пасля гэтага і ў зубах пакалупаць трэба, і здабычу пераправіць. (Другога ж цвердалобага бюракрата і за тыдзень не пераправіш.) Ім штодзень «Крокодила» давай.

*1972*

## ВЕЛИКОЕ ЕДИНЕНИЕ

Приехали мы на съезд в ожидании больших перемен, которые были предопределены постановлением ЦК ВКП(б) «О перестройке литературно-художественных организаций» и вызваны самой жизнью. Они, эти перемены, к тому времени, собственно, уже начались. Созданные в центре и на местах оргкомитеты в течение двух лет проводили подготовительную работу. Были разобраны перегородки между литературными организациями, поутихли групповые страсти, начали налаживаться контакты между приверженцами разных группировок. Но следы прежних групповых перегородок и психологических барьеров ощущались еще весьма сильно, хотя всем было ясно, что пришла пора строить литературную жизнь на новых началах.

Программа съезда была обширна, списки ораторов безостановочно пополнялись новыми именами, но все с огромным интересом ждали слова Алексея Максимовича Горького.

После иссушающего рапповского догматизма ясная мудрость его доклада подействовала как живительная влага. Определив место советской литературы в нашем социалистическом обществе, Алексей Максимович указал на ее основную задачу — показывать человека труда. Призывая писателей проникнуться величием этой благородной цели, он осудил как недостойные великой литературы групповые склоки, игру в «вождизм», проработочную критику — одним словом, все то, что мешало творческой работе, сдерживало развитие искусства социалистического реализма. Этот метод, говорил докладчик, не ограничивает писателя в выборе стиля, жанра, темы, изобразительных средств, он требует только правильного, исторически конкретного изображения действительности в ее революционном развитии и активного участия литературы в воспитании трудящихся.

Нас, белорусских писателей, особенно взволновала забота Алексея Максимовича о развитии культуры в республике. Выражая уверенность, что там есть талантливые писатели, произведения которых заслуживают того, чтобы быть переведенными на русский язык и стать достоянием миллионов читателей страны, Горький настоятельно советовал больше переводить таких произведений и готовить для этого кадры переводчиков, рекомендовал создать также «Всесоюзный театр», в котором бы ставились пьесы писателей разных национальностей, что раздвигало бы горизонты советской сцены, обогащало ее новой тематикой и оригинальными творческими решениями.

Слушая Горького, мы поражались точности его анализа, проницательности выводов. Ведь в те времена произведения даже народных поэтов Янки Купалы и Якуба Коласа еще мало переводились на русский язык, не говоря уже о более молодых. Уверен, что чувство удовлетворенности от того, что они замечены и сопричастны общему делу, испытывали и представители других республик.

С тех пор прошло сорок лет. И каких лет! Теперь, с отдаленной дистанции, явственно видно, какое огромное значение имел Первый съезд для жизни писательской организации, для развития всей советской литературы. Многое из того, о чем говорил Алексей Максимович, осуществления чего горячо желали участники съезда, стало явью. Окончательно утвердился в советской литературе метод социалистического реализма, благотворность которого теперь для всех очевидна. Созданы выдающиеся произведения о советской действительности, пользующиеся заслуженной любовью у нас в стране, широкой известностью за ее пределами. Нет больше препятствий в общении национальных литератур. В республиках, краях и областях выросли писатели, труд которых стал достижением всесоюзной литературы. Каждое значительное, талантливое произведение, благодаря посредничеству русского языка, приходит к миллионам читателей всей страны. Умножаются и крепнут дружеские связи и личные контакты писателей братских республик, идет интенсивный обмен творческим опытом, взаимное обогащение и сближение культур советских народов. Одним словом, литературы сохранили свое национальное достоинство, развились, и каждый народ вносит теперь свою долю в многообразие единой советской литературы, приумножая ее общие богатства.

В творческой работе писателей есть, конечно, и пробелы и недостатки, которые не дают основания для благодушия, но многонациональная советская литература — в едином идейно-художественном строю, верно служит общему делу построения коммунизма. В этом единстве, в наших общих достижениях в полной мере проявляется мудрая политика партии, направленная на сплочение всех писателей для великого творческого труда.

*1974*

## МЫ СМЯЯЛІСЯ

Калі мы ў часы варожай навалы пакідалі родныя мясціны і ахопленыя полымем нашы гарады і вёскі і сэрца наша аблівалася крывёй, мы не толькі плакалі ад гневу і жалю, але і смяяліся. Смяяліся з ворага, з яго звярынага аблічча, высакамернай тупасці, маральнай нізасці. Смяяліся, бо ўсведамлялі сваю маральную перавагу над ворагам, ведалі высокі патрыятызм і магутную сілу нашага народа і верылі ў нашу перамогу.

Мы смяяліся, бо смех — гэта таксама зброя. Стрэлы нашай сатыры ляцелі на ворага разам з залпамі «кацюш», падалі на галавы акупантаў разам з бомбамі нашай авіяцыі.

Мы перамаглі, і тады смяяліся і плакалі ад радасці, калі ступілі на вызваленую родную зямлю. Смяяліся ад пагарды да ворага, калі бачылі разбітымі ўшчэнт хваленыя «непераможныя» дывізіі, паверper жанымі ў прах пыхлівых «заваёўнікаў свету».

Сёння я сардэчна віншую сваіх сяброў па зброі, ветэранаў вострага пяра і трапнага карандаша — былых супрацоўнікаў газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну» — з вялікім святам вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Сардэчна віншую калектыў рэдакцыі часопіса «Вожык» — прадаўжальніка баявых традыцый беларускай сатыры, які накіроўвае яе агонь на тыя аб'екты (яны ж і суб'екты), якія перашкаджаюць нашаму паступу наперад.

Добрых вам поспехаў і трапных сатырычных стрэлаў, дарагія сябры.

*1974*

## ДАВНЯЯ ПРИВЯЗАННОСТЬ

С драматургией я породнился сорок лет назад. Не сразу. До этого была проба сил в других жанрах. Были поиски своего пути, способа наилучшим образом выразить свои мысли и настроения, свое отношение к действительности. Намерение было агрессивное: активно вмешаться в жизнь и исправить в ней кое-что из того, что не соответствовало моим понятиям добра и зла. А поводов для такого вмеша-

тельства было в то время более чем достаточно. Шла ожесточенная борьба нового со старым, отжившим, но не желавшим сдавать свои позиции. Наиболее действенным средством при этих условиях для меня была сатира, которой я уделял больше всего внимания. Фельетоны, сатирические стихи, басни. А от басни недалеко уже и до драматургии. Ведь и тут добро и зло, человеческие достоинства и недостатки предстают перед нами в лицах, в живом, активном взаимодействии персонажей. Только дело тут посложнее. Ведь персонажи здесь не аллегорические, а живые люди с их сложными характерами и взаимоотношениями.

О трудностях драматургического жанра, о предъявляемых к нему специфических требованиях немало сказано. Особенно когда речь идет о комедии. Трудности эти я испытал на своем, не скажу — горьком, но не всегда приносившем одни радости опыте. Были и успехи, и огорчения. Но не было разочарования. Отдышишься от треволнений, от очередной удачи или неудачи и опять за свое. Вот и теперь — после довольно длительной паузы, заполненной совсем не творческой работой, меня опять потянуло на комедию. И опять я убеждаюсь в том, что предыдущий опыт не гарантирует нашему брату успеха в работе над новым произведением. Новый замысел, новая идея, новый человеческий материал и — изыскивай новую технологию. Никакого ГОСТа. Вот и на этот раз... Приходилось мне не однажды слышать да и читать о том, как люди мечтают о вечной жизни. В печати даже появились высказывания о возможности осуществления этой мечты. Достижения науки, мол, дают уверенность в том, что бессмертие достижимо. И, может быть, даже это случится в не столь отдаленном будущем. А как бы это выглядело? — подумал я. И... решил смоделировать бессмертие. Так, как моделируют ученые, создавая специфические условия эксперимента, чтобы ожидаемые результаты проявились более наглядно. Пусть будет бессмертие, сказал я, посмотрим, что из этого получится.

И вот одному выдающемуся ученому в результате многолетнего упорного труда удалось раскрыть механизм старения организма и сделать его управляемым. Бессмертие стало реальностью. Но тут сразу возникло много неразрешимых проблем — биологических, демографических, экономических, социальных, моральных. Обеспечить бессмертие всем невозможно — ворота в бессмертие недостаточно широки. Отобрать достойных — не так просто. А тем временем жаждущие бессмертия уже напирают. Наиболее напористые пыта-

ются пробиться силой, ищут лазейки. Создаются сложные, в том числе и комические, ситуации. Проявляются человеческие качества, которые в обычных условиях люди напоказ не выставляют. Так появилась фантастическая комедия «Врата бессмертия».

Над постановкой пьесы работает театр имени Янки Купалы, с которым у меня многолетняя творческая дружба.

«Посмотрим, что из этого получится»,— говорят зрители в ожидании премьеры.

*1974*

## БРАТАМ-СУСЕДЗЯМ — ШЧЫРАЕ ПРЫВІТАННЕ!

Дні беларускай літаратуры і мастацтва на Украіне — гэта радасная, хвалюючая падзея, адно з яркіх праяўленняў ленінскай інтэрнацыянальнай дружбы савецкіх народаў, якая стала слаўнай традыцыяй і законам нашага жыцця ва ўсіх сферах дзейнасці. Падзея гэта тым больш значная, што яна адбываецца неўзабаве пасля ўсенароднага свята — 30-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Загартаваная ў жорсткіх баях, спаяная сумесна пралітай кроўю, дружба савецкіх народаў з'яўляецца вечнай і непарушнай.

З даўніх часоў існуе брацкая дружба ўкраінскай і беларускай літаратур. Многія нашы пісьменнікі вучыліся і вучацца на творах вялікага Кабзара Украіны Тараса Шаўчэнкі, творчая і грамадская дзейнасць якога з'яўляецца высокім узорам служэння народу.

Расцілі гэту дружбу і саграваді цяплом брацкіх пачуццяў заснавальнікі і выдатныя творцы ўкраінскай і беларускай савецкіх літаратур — Паўло Тычына і Янка Купала, Максім Рыльскі, Аляксандр Карняйчук і Якуб Колас. Гэтыя слаўныя традыцыі свята захоўваюцца іх вучнямі і паслядоўнікамі.

Дружба нашых літаратур расце і мацнее, набывае новыя формы і ззяе новымі гранямі. Гэта могуць пацвердзіць нашы ўкраінскія сябры — Мікола Бажан, Міхаіл Стэльмах, Алесь Ганчар, Юрый Збанацкі, Васіль Казачэнка, Мікола Нагнібеда, Любамір Дзмітэрка, Леанід Навічэнка, Аляксандр Лявада і

шмат іншых нашых шчырых сяброў, якія разам з беларускімі пісьменнікамі ўзбагачаюць агульныя скарбы нашай дружбы.

Нядаўна мы мелі прыемную магчымасць сустракацца з украінскімі сябрамі ў Мінску на Усесаюзнай творчай нарадзе, прысвечанай 30-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, а працоўныя нашай рэспублікі мелі не меншую прыемнасць слухаць іх выступленні на творчых сустрэчах.

Дні беларускай літаратуры і мастацтва з'яўляюцца працягам творчых сустрэч ужо на зямлі Украіны, у часе якіх нашы пісьменнікі і мастацкія калектывы абмяняюцца вопытам з украінскімі сябрамі і падзеляцца сваімі творчымі здабыткамі з працоўнымі брацкай рэспублікі.

Не маючы магчымасці па стану здароўя прыняць непасрэдны ўдзел у гэтых сустрэчах, я шлю нашым украінскім сябрам шчырае прывітанне, жадаю вялікіх творчых дасягненняў і далейшай плённай працы на карысць брацкай дружбы нашых народаў.

*1975*

## БОЛЬШ ЯРКА РАСКРЫВАЦЬ ЧАЛАВЕЧЫЯ ЯКАСЦІ

Жыццё ў працэсе самаўдасканалення дасягнула вышэйшага свайго развіцця ў выглядзе чалавека. Такім чынам, яно набыло магчымасць асэнсоўваць само сябе. Клапаціцца аб прадаўжэнні жыцця ў сілу інстынкту, а пасля і свядома было ўласціва чалавеку з даўніх часоў. І не толькі думаць пра гэта, а і шукаць спосабу. Упачатку гэта былі мары аб жывой вадзе, наіўныя імкненні знайсці эліксір жыцця, які ўратаваў бы чалавека ад смерці, а ў апошні час усё часцей вучоныя пачалі выказваць думку, што вырашыць гэту праблему зможа ўсёмагутная навука, якая, калі не забяспечыць неўміручасць, то, ва ўсякім разе, зможа прадоўжыць жыццё чалавека на сотні гадоў. А некаторыя энтузіясты сцвярджалі, што пры дапамозе навукі чалавек зможа авалодаць сакрэтам неўміручасці.

Працуючы ў навуковай установе, я меў магчымасць назіраць, як тое ці іншае дасягненне навукі, калі яго прыходзілася ўкараняць, прыстасоўваць да патрэб грамадства, выклі-

кала розныя, часамі вельмі складаныя, праблемы. І я падумаў, а колькі ж бы праблем узнікла, калі б каму-небудзь сапраўды ўдалося знайсці сродак прадаўжэння чалавечага жыцця аж да неўміручасці? Падумаў і паспрабаваў гэта ўявіць, больш таго, паказаць у п'есе. Тут у маім уяўленні ўстала столькі праблем і такіх вялікіх, што вырашыць іх не было ніякай магчымасці, чаго я не меў намеру рабіць. Але наяўнасць гэтых невырашальных праблем давала мне магчымасць паставіць дзеючых асоб п'есы ў незвычайныя ўмовы, у якіх больш ярка раскрываюцца іх чалавечыя якасці. Гэта і было маёй асноўнай мэтай: у незвычайным ракурсе, перад веліччу вечнасці паказаць звычайных людзей, добрых і дрэнных, з іх характарамі, грамадскімі і асабістымі інтарэсамі і маральнымі якасцямі.

*1975*

## БАГАЦЦЕ ДУШЫ І ТАЛЕНТУ

Савецкая грамадскасць адзначае ў гэтыя дні 70-годдзе з дня нараджэння народнага паэта БССР Петруся Броўкі, мастацкае слова якога гучыць на ўсіх абшарах нашай Радзімы.

Зусім натуральна, што нам сёння разам з юбілярам хочацца акінуць поглядам тыя падзеі і той час, калі дванаццацігадовы юнак з вёскі Пуцілкавічы выйшаў на самастойны жыццёвы шлях здабываць свой хлеб, разам з ім спыніцца ля тае крынічкі, з якой пачалася шырокая плынь яго творчасці.

У гэтым памагае нам сам Пятрусь Броўка. Нядаўна выйшла з друку кніга яго аўтабіяграфічных апавяданняў і аповесцей «Разам з камісарам», і нам не цяжка ў вобразе юнака Федзі Марцінёнка, якога камісар Будай за добры почырк прызначыў у ваенкамат перапісчыкам, пазнаць самога аўтара.

Але перапісванне папер было не самым галоўным у жыцці Федзі. Самае галоўнае было тое, што, пішучы пад дыктоўку Будая загады і пратаколы, юнак акунуўся ў самую гушчу жыцця, калі ад подыху рэвалюцыйнай буры ламаўся і крышыўся стары лад і нараджалася новае жыццё. З вышыні цяперашняй сталасці аўтар з дабратлівай усмешкай расказвае пра наіўныя Федзевы мары аб неадкладнай сусветнай рэвалюцыі, пра яго гарачнасць і заўзятасць у змаганні з варожымі элементамі. а між тым гэта была вялікая жыццёвая школа, як бы

першы клас палітычнай вучобы на практыцы, якая мела важнае значэнне для фарміравання светапогляду будучага паэта.

Пасля юнак праходзіў гэту вучобу на камсамольскай працы, на пасадзе старшыні сельсавета, на працы ў рэдакцыі акруговай газеты «Чырвоная Полаччына». І калі ў 1930 годзе з'явіўся першы зборнік вершаў «Гады як шторм», не цяжка было заўважыць, што ў рады барацьбітоў за вялікую справу Леніна, за Савецкую ўладу, за шчасце народа ўступіў новы баец, які яшчэ, можа, недастаткова валодаў такой зброяй, як мастацкае слова, але беззапаветна быў адданы справе партыі і народа. Не хапала майстэрства, ведаў, але майстэрства — справа нажыўная, было б толькі жаданне авалодаць ім і, вядома, талент. Веды Пятрусь Броўка набываў у Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна, а майстэрству вучыўся на выдатных творах мінулага і сучаснага — у Пушкіна, Някрасава, Шаўчэнкі, Маякоўскага. Яго любімымі настаўнікамі, а пасля і чулымі старэйшымі сябрамі былі Янка Купала і Якуб Колас, слаўным традыцыям якіх ён застаецца верным да сённяшняга дня.

Добрыя вынікі вучобы і творчых пошукаў выразна праявіліся ўжо ў паэме «Праз горы і стэп», у якой з эмацыянальным уздымам паэт малюе адзін з эпізодаў грамадзянскай вайны, і ў паэме «1914», дзе ён расказвае пра лёс знявечанага вайной чалавека.

Упершыню чытаў нам аўтар гэты твор яшчэ да яго апублікавання на кватэры ў Кузьмы Чорнага. Гэта была бясспрэчная ўдача, і мы па-сяброўску шчыра павіншавалі Петруся з добрым поспехам.

Маладога паэта хвалявала ўсё, чым жылі савецкія людзі. Ён шмат і плённа працуе. Выходзяць яго зборнік «Прыход героя», паэма «Кацярына». Апошні перадваенны зборнік паэта «Шляхамі баравымі» радуе чытача свежымі фарбамі, глыбокімі пачуццямі, сведчыць аб творчай сталасці паэта.

Фашысцкая навала вымусіла Петруся Броўку, як і многіх з нас, пакінуць родныя мясціны. Сустрэліся мы з ім на Бранскім фронце, пад Карачавам, калі ён прыбыў у рэдакцыю франтавой газеты «За Савецкую Беларусь». Балела душа паэта за пакуты народа пад нямецка-фашысцкай акупацыяй, за разбураныя гарады і вёскі, за спалены родны Мінск. Высокім патрыятычным пачуццём, нянавісцю да ворага дыхаюць яго творы ваенных гадоў. Нягледзячы на цяжкія выпрабаванні, Пётр Усцінавіч ні на мінуту не траціў веры ў нашу перамогу. Гэту сваю веру ён красамоўна выказаў у вершы «Будзем сеяць, беларусы», напісаным у 1942 годзе задоўга да вызва-

лення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. А напярэдадні гістарычнага наступлення Савецкай Арміі, у выніку якога была вызвалена ўся беларуская зямля, ён пад Гомелем, на беразе Сожа, чытаў нам з Глебкам сваю паэму «Ясны кут», у якой расказваецца, як пасля цяжкіх пакут і трывог людзі вяртаюцца ў родны калгас і бяруцца за аднаўленне разбуранай гаспадаркі. І мы па-добраму зайздросцілі такой яго творчай актыўнасці.

За гады вайны ім напісаны такія значныя творы, як «Паэма пра Смалячкова», «Беларусь», «Кастусь Каліноўскі» і інш.

З твораў аб перажытым у час вайны і ў выніку яе асаблівай паэтычнай сілай, глыбокім пачуццём смутку і гневу вызначаецца паэма «Голас сэрца», прысвечаная памяці маці паэта, спаленай фашыстамі ў лагеры смерці Асвенцім. Паэт горача заклікае людзей быць пільнымі, каб не даць падпальшчыкам вайны распачаць новую бойню.

Увесь час Пётр Усцінавіч працуе многа і плённа.

Папаўняючы здабыткі савецкай паэзіі, адзін за адным з'яўляюцца ў друку яго зборнікі вершаў, паэмы. Паэт услаўляе працоўныя подзвігі савецкіх людзей, якія ўзнімаюць з руін разбураныя гарады і вёскі, радуецца кожнаму палетку, на якім зноў шуміць маладая ніва. Паэта хвалюе ўсё тое, чым жыве наша краіна: і велічныя справы, і надзённыя клопаты савецкіх людзей. У адным з сваіх вершаў Пятрусь Броўка гаворыць, што яму «да ўсяго сягоння справа». І гэта сапраўды так. Калі б мы прачыталі яго творы адзін за адным, то знайшлі б у іх водгук на ўсе важнейшыя падзеі, на ўсё тое, чым жыў і жыве наш народ. Ужо самі назвы зборнікаў і паэм гавораць аб гэтым: «У роднай хаце», «Хлеб», «Дарогай жыцця», «Думы пра Маскву», «Сонечныя далі», «Бацькаў кут», «Заўсёды з Леніным», «Пахне чабор», «Высокія хвалі», «А дні ідуць...».

Жывое слова Броўкавай паэзіі даходзіць да сэрца чытача на ўсіх прасторах нашай Радзімы. Яго творы перакладзены на многія мовы народаў Савецкага Саюза. Знаходзяць яны добры водгук і за яе межамі.

У творчасці Петруся Броўкі значнае месца займае тэма дружбы. У яго шмат сяброў сярод паэтаў і пісьменнікаў брацкіх рэспублік. Ён заўсёды цікавіцца, як жывуць і працуюць іншыя народы нашай краіны, і многія свае творы прысвячае слаўным справам і выдатным людзям гэтых народаў.

Дружбе народаў прысвечаны і яго раман «Калі зліваюцца рэкі», у якім расказваецца, як працоўныя трох брацкіх рэспублік — Беларусі, Літвы і Латвіі — самаадданa працуюць,

будуючы электрастанцыю, якая ўзнімаецца на мяжы трох рэспублік як сімвал іх брацкай дружбы. У гэтым творы ярка выявілася яшчэ адна грань таленту Броўкі-празаіка. І калі ўжо зайшла гаворка пра жанравую differences разнабаковасць яго творчасці, дык тут дарэчы ўспомніць і напісаныя ім лібрэта «Міхась Падгорны» і «Дзяўчына з Палесся». Спектаклі, пастаўленыя па гэтых творах Беларускім дзяржаўным тэатрам оперы і балета, карыстаюцца добрым поспехам у гледача.

Аднак назаўсёды верным застаўся Пятрусь Броўка адной паэзіі. Толькі яна здольна выказаць самыя задушэўныя, самыя запаветныя думы і пачуцці паэта, своечасова натхнёным словам адгукнуцца на ўсё, што яго хвалюе,— добрае ці благое. Давялося Пятру Усцінавічу ў складзе беларускай дэлегацыі быць у Нью-Йорку на Генеральнай Асамблеі Аб'яднаных Нацый, і з'явіўся цыкл вершаў «Далёка ад дому», у якіх паэт дзеліцца сваімі ўражаннямі ад сустрэчы з чужым светам, дзе часам шмат пустога бляску і мала чалавечай цеплыні. Знаходзячыся далёка ад дому, паэт яшчэ мацней адчувае, як яму дарага ўсё сваё, роднае: і велічныя справы Краіны Саветаў, і людзі, і дрэвы, і сцяжынкі, па якіх ён любіў хадзіць.

Мой родны край, мая Радзіма,
Як я сумую па табе! —

усклікае паэт.

Творы народнага паэта, высока ацэненыя савецкай грамадскасцю, адзначаны Дзяржаўнымі прэміямі СССР і БССР. За зборнік вершаў «А дні ідуць...» яму ў 1962 годзе прысуджана Ленінская прэмія. У тым жа годзе яму прысвоена званне народнага паэта БССР. У 1966 годзе Пётр Усцінавіч выбраны акадэмікам АН БССР.

Нягледзячы на свой сёмы дзесятак гадоў, Пётр Усцінавіч і цяпер шмат працуе. Піша, рэдагуе, выступае з прамовамі. За апошнія гады выйшлі яго зборнікі вершаў — «Між чырвоных рабін», «Калі ласка», «І ўдзень і ўночы», якія сведчаць аб тым, што яго паэзія, нічога не страціўшы з сваіх ранейшых якасцей, набыла новыя. Глыбокім лірызмам, душэўнай цеплынёй, філасофскім роздумам прасякнуты многія з яго вершаў апошняга часу.

З боку гледзячы, здаецца, што Пятру Усцінавічу ўсё гэта даецца лёгка. На самай справе мы ведаем, што кожны сапраўды мастацкі твор патрабуе напружанай працы. Уражанне лёгкасці ідзе, відаць, ад самога паэта — вялікага аптыміста, заўсёды дзейнага, бадзёрага. Як кожны чалавек, ён можа

быць і заклапочаным і засмучаным якой-небудзь бядой ці стратай, але ніколі я не бачыў яго панурым, зануджаным.

Думкі аб няўмольнасці закону прыроды, які ні для каго не робіць выключэння, часамі выклікаюць у паэта элегічны настрой, але ён суцяшае сябе тым, што людзі яго не забудуць. Ды і здавацца лёгка не збіраецца.

Наперакор мятлюгам зімнім
Хачу я сэрцам палымнець,
Наперакор гадам нястрымным
Я не збіраюся старэць,—

гаворыць ён у адным з сваіх вершаў.

Пры ўсёй жывасці характару Пётр Усцінавіч у той жа час чалавек арганізаваны і вельмі дысцыплінаваны. За доўгія гады майго блізкага з ім знаёмства і сяброўства я не помню выпадку, каб ён калі-небудзь спазніўся прыйсці туды, дзе яму трэба быць. Лепш прыйдзе на дзесяць мінут раней. Што трэба зрабіць сёння, ён ніколі не адкладзе на заўтра. Чым больш складаная справа, тым хутчэй ён за яе бярэцца.

Дома ў яго таксама пэўны распарадак. Ёсць час і для працы, і для адпачынку. Устае ён вельмі рана і, прайшоўшы спорным крокам кіламетры два-тры па лесе туды і назад, прыходзіць пасвяжэлы, бадзёры, гатовы да працы.

Пётр Усцінавіч Броўка шырока вядомы нашай грамадскасці не толькі як паэт. Яго літаратурная і грамадская дзейнасць шматгранная і разнастайная. У друку нямала змешчана яго артыкулаў, выказванняў, водгукаў на актуальныя падзеі часу. Амаль дваццаць гадоў працаваў ён старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў БССР і нямала зрабіў для развіцця беларускай літаратуры, для выхавання маладых пісьменнікаў. Пасля нядоўгага перапынку, адсвяткаваўшы шасцідзесяцігадовы юбілей, Пётр Усцінавіч зноў бярэ на сябе нялёгкі абавязак. На гэты раз — галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Дзякуючы энергіі і арганізацыйнаму вопыту галоўнага рэдактара, удаламу падбору кадраў справа па ажыццяўленню гэтага унікальнага выдання хутка была наладжана і ў гэтым годзе, з выхадам 12-га тома БелСЭ, будзе паспяхова закончана.

Пётр Усцінавіч з'яўляецца сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, членам Прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, членам многіх іншых арганізацый. Ён з гонарам нясе высокія абавязкі члена Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі і дэпутата Вярхоўнага Савета СССР.

За вялікія заслугі перад Радзімай Пятру Усцінавічу прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы.

Сардэчна віншуючы Пятра Усцінавіча са слаўным юбілеем, мы рады бачыць яго ў росквіце творчых сіл, жадаем яму добрага здароўя, далейшых творчых здабыткаў і поспехаў ва ўсёй яго шматграннай дзейнасці.

*1975*

## У ПРАЦЫ І Ў ДРУЖБЕ

*Да 70-годдзя з дня нараджэння Пятра Глебкі*

Да таго, як прачытаў першыя Глебкавы вершы, я дачуўся, што на Уздзеншчыне расце адзін малады паэт родам з Вялікай Вусы, што ён нават сябруе з маім аднавяскоўцам, таксама пачынаючым паэтам, Паўлюком Трусам. Зразумела, што першыя творы свайго земляка я прачытаў з вялікай цікавасцю. Прачытаў і пераканаўся — гэта-такі сапраўдны паэт.

Самога Глебку я ўпершыню ўбачыў, калі не памыляюся, на першым з'ездзе «Маладняка» ў 1925 годзе. А сустракаліся мы з ім, калі ўжо былі ў літаратурным аб'яднанні «Узвышша». Тады мы абодва вучыліся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Я быў старэйшы за свайго земляка на дзевяць гадоў, але ў вучобе апярэджваў яго толькі на адзін курс. Жыццё склалася так, што раней папаўняць веды ў мяне не было магчымасці.

Разам з Глебкам шукалі мы і правільных шляхоў у літаратуры. І тут я пераканаўся, што гэты юнак мае светлую галаву і здольны не толькі натхняць на паэтычны лад, але і слушна разважаць аб тых праблемах, якія тады нас клапацілі. У шматлікіх літаратурных спрэчках, якія адбываліся ва «Узвышшы» і за межамі аб'яднання, мы з Глебкам ды яшчэ Кузьма Чорны прытрымліваліся прыблізна аднолькавых поглядаў адносна развіцця беларускай літаратуры і абавязкаў пісьменніка перад грамадствам.

Запомнілася мне адна з першых сустрэч з Глебкам, пра якую не раз потым успамінаў і ён сам. Аб'яднанне «Узвышша» выдавала часопіс пад такой жа назвай. Рабілі мы яго, як

цяпер кажуць, на грамадскіх пачатках. Штату ніякага не было. Самі пісалі і заахвочвалі іншых да супрацоўніцтва, самі рэдагавалі, самі збіралі падпіску і самі ж рассылалі свежыя нумары падпісчыкам. Сабраных па падпісцы грошай не хапала на друкаванне і на выплату невялікага ганарару. На пакрыццё дэфіцыту мы атрымлівалі невялічкую датацыю ад урада. Я лічыўся намеснікам старшыні «Узвышша». На мяне ж усклалі і абавязкі казначэя. Уся наша казна знаходзілася ў мяне на кватэры. А жыў я тады з сям'ёй у Мінску на Старазагарадным завулку, займаў два пакоі ў работніка мясакамбіната Лейбы Пісарэўскага.

Там і знайшоў мяне аднаго разу Пятро Глебка. Увайшоў крыху збянтэжаны. Павітаўся. Пачаў пра нешта гаворку з маёй жонкай. (Яны былі знаёмыя з ранейшых часоў.) Але я заўважаю тым часам, што яму рупіць нешта іншае. Не гуляць жа ён прыйшоў з другога краю горада. Нарэшце ён адважыўся сказаць, што яго прывяло да мяне. Здаў верш у часопіс, а нумар запазніўся з выхадам. Чакаць ужо не стала змогі, і ён прыйшоў прасіць авансу. Цяжка было яму пра гэта гаварыць. А ўсяго авансу таго былі якія-небудзь рублёў дзесяць. Але ж нумар яшчэ не выйшаў, і аўтар не меў права на атрыманне ганарару. Тым больш што яму добра вядома было наша беднае становішча. Вось і мучыла яго сумленне.

Гэты нязначны эпізод сведчыў аб незвычайнай сціпласці маладога паэта, аб яго сумленнасці ў адносінах да справы, да людзей, да самога сябе. Гэтыя рысы характару ўласцівыя былі Пятру Глебку праз усё жыццё.

Пасля таго як «Узвышша» перастала існаваць і ўтварыўся адзіны Саюз савецкіх пісьменнікаў, мы з Глебкам сустракаліся не так часта, але нашы сяброўскія адносіны не аслабелі. Я з цікавасцю сачыў за новымі творамі свайго земляка, за тым, як мужнеў яго паэтычны голас і расшыраліся творчыя гарызонты.

А тады ім напісаны былі такія значныя творы, як паэма «Мужнасць», «У тыя дні», п'еса «Над Бярозай-ракой», выходзілі новыя зборнікі.

Часамі мы збіраліся ў мяне ці ў Кузьмы Чорнага (мы з Кузьмой Чорным жылі ўжо ў кааператыўным доме па вуліцы Свярдлова) або ў Глебкі на вуліцы Розы Люксембург — пагаварыць пра жыццё, пра літаратуру і пра што прыйдзецца. Дзяліліся сваімі творчымі планамі і задумамі. Асабліва багатыя яны былі ў Кузьмы Чорнага: ён задумаў быў напісаць цэлую серыю раманаў, у якіх меўся адлюстраваць важнейшыя падзеі з жыцця беларускага народа.

Усё часцей прымаў удзел у гэтых гутарках і блізкі сябар Глебкі Пятрусь Броўка. Асабліва пасля таго, як на кватэры ў Кузьмы Чорнага прачытаў нам сваю новую паэму «1914». Паэма ўсім спадабалася. Гэта было новае, значнае на той час дасягненне паэта.

У незвычайных абставінах Вялікай Айчыннай вайны і незвычайным выглядзе давялося мне ўбачыць Глебку ўжо не на беларускай зямлі. Убачыць тады, калі цяжка было разлічваць на сустрэчу. А здарылася гэта каля станцыі Гнёздава пад Смаленскам, дзе знаходзілася рэдакцыя нашай франтавой газеты «За Савецкую Беларусь». З'явіўся перад намі Глебка схуднелы і змарнелы, у лапцях, з дэмісезонным карычневым паліто ў руках. Выйшаўшы з ахопленага агнём Мінска, ён прайшоў пяшком не адзін дзесятак кіламетраў, пакуль знайшоў нас. Сумная гэта была сустрэча, але мы рады былі бачыць яго жывым сярод нас.

Праз кароткі час ён ужо быў уключаны ў спіс супрацоўнікаў рэдакцыі, абмундзіраваны і залічаны на ўсе віды забеспячэння, а яго дэмісезоннае паліто служыла нам падушкай (Лынькоў, я і Глебка спалі ў адной палатцы). Мы рады былі, што прыбавіўся яшчэ адзін добры работнік, але не доўга прыйшлося радавацца: наш Пятро сур'ёзна захварэў. У яго развілася флегмона, моцна распухла шчака.

З-пад Смаленска наша рэдакцыя пераехала пад Касню (станцыя недалёка ад Вязьмы). Гэта было ў той час, калі нашы войскі вялі цяжкія баі пад Ельняй. У хуткім часе рэдакцыю накіравалі на Цэнтральны фронт, і наша «калона» ў складзе дзвюх машын (адна з асабовым складам рэдакцыі на чале з адказным рэдактарам Міхасём Лыньковым, другая з друкарняй, якой пазней прысвяціў свой вядомы верш Пімен Панчанка) накіравалася па тылавых дарогах Смаленшчыны, Арлоўшчыны, Браншчыны ў Гомель, які яшчэ не быў заняты немцамі. Гэта быў для нас на пару дзён адпачынак ад франтавых турбот і трывог. Настрой быў прыўзняты ад таго, што мы ехалі на беларускую зямлю. Мы жартавалі, Давід Пінхасік расказваў анекдоты, а часамі і песню заводзіў, якую астатнія ахвотна падхаплівалі. Але Пятро з забінтаваным тварам сядзеў маўклівы і сумны. Відаць было, што яму не да песень. Не помню, з якога месца — да Гомеля ці пасля Гомеля, калі мы ўжо ехалі на Бранскі фронт,— прыйшлося накіраваць яго на лячэнне ў тыл. Вельмі не хацелася яму расставацца з намі, як і нам з ім. Пацалаваліся мы, не ўпэўненыя, што хутка ці наогул калі-небудзь сустрэнемся.

Сустрэліся ў пачатку 1942 года ўжо ў Маскве, дзе мы выпускалі сваю газету, знаходзячыся зноў у распараджэнні Палітупраўлення Заходняга фронту. У гэты час фарміравалася рэдакцыя новай франтавой беларускай газеты — «За свабодную Беларусь», і Пятро Глебка і яшчэ некалькі нашых хлопцаў на чале з адказным рэдактарам гэтай газеты Ільёй Гурскім накіраваліся на Калінінскі фронт.

Пры газеце выдаваўся і сатырычны дадатак «Партызанская дубінка», у якім часта можна было прачытаць творы за подпісам не толькі Пятра Глебкі, але і сатырычныя творы Язэпа Касілы (псеўданім Пятра Глебкі для такіх выпадкаў).

Вярнуўся Пятро ў Маскву нешта праз год. Прыехаў абсіверaны, абвеяны франтавымі вятрамі і, на зайздрасць многім з нас, з пышнымі аржанымі «фельдфебельскімі» вусамі.

Пасля разгрому арміі Паўлюса пад Сталінградам ніхто з нас не сумняваўся, што ўжо хутка мы будзем дома. У адпаведнасці з гэтым мяняўся і характар нашай работы: з прыцэлам на тое, што мы павінны будзем рабіць на роднай вызваленай зямлі сярод беларускага насельніцтва. І тут на долю Пятра Глебкі выпала заданне, выканаць якое мог, бадай, толькі ён адзін з яго настойлівасцю, грунтоўнасцю, упартасцю ў працы. Яму даручана было скласці руска-беларускі слоўнік, у якім тады адчувалася вялікая патрэба. Гэта лёгка сказаць — скласці такі слоўнік, калі няма ні матэрыялаў на беларускай мове, ні картатэкі, ні людзей, якія б мелі хоць які-небудзь вопыт у такой справе. Але, падабраўшы некалькі маладых работнікаў, якія былі на гэты час у Маскве і ведалі беларускую мову, Пятро Фёдаравіч узяўся за гэту справу. Узяўся і аддаў ёй дзесяць гадоў настойлівай, крапатлівай працы.

Праца, пачатая над слоўнікам у Маскве, працягвалася і заканчвалася ў спустошаным фашыстамі Мінску. У гэты час лёс зноў звёў нас у адно месца. Калі праца над слоўнікам канчалася, я быў ужо дырэктарам толькі што ўтворанага Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР і ў сілу сваіх дырэктарскіх абавязкаў павінен быў клапаціцца і аб своечасовым заканчэнні працы над слоўнікам. Слоўнікавая група працавала старанна, але аб'ём работы быў надзвычайна вялікі. Асабліва маруднай і адказнай была работа кіраўніка групы — рэдактара слоўніка. Кожную картку трэба было патрымаць у руках, удакладніць усе значэнні рускага слова і адпаведнасць іх у беларускай частцы, выверыць усе граматычныя і стылістычныя паметы. І Пятро Фёдаравіч усё гэта рабіў, уносячы папраўкі сваёй рукой, перапісваючы часамі карткі цалкам

нанова. А час ішоў, і тэрміны здачы слоўніка праходзілі. Я ў сваю чаргу турбаваў кіраўніка тэмы — калі ж будзе слоўнік? Але Глебка не такі быў чалавек, каб выпусціць з рук работу, не давёўшы яе да кандыцыі. І напамінкі, відаць, не дапамагалі яму ў рабоце. Нягледзячы на ўсю сваю лагоднасць і вытрымку, ён аднаго разу аж не ўцярпеў. «Ты думаеш, гэта так лёгка,— сказаў ён мне.— Сам бы паспрабаваў». Я падумаў: а Пятро мае рацыю. Сёе-тое я магу выкраіць са свайго службовага часу. І мы дамовіліся. Карыстаючыся распрацаванай пад кіраўніцтвам Пятра Фёдаравіча інструкцыяй, я ўзяўся рэдагаваць вылучаныя на маю долю літары.

Калі першыя артыкулы слоўніка гатовыя былі да друку, мы з Глебкам панеслі іх на апрабацыю да Якуба Коласа, які не толькі па абавязку віцэ-прэзідэнта Акадэміі зацікаўлены быў у паспяховай працы над слоўнікам. Пакуль мы з хваляваннем чакалі яго слова, Канстанцін Міхайлавіч уважліва прагледзеў некалькі старонак, пачытаў інструкцыю. «Што ж, хлопчыкі,— сказаў ён нарэшце, аддаючы нам рукапіс,— па-мойму, усё робіцца правільна, і мне няма патрэбы ўмешвацца. Чытаць увесь слоўнік я не маю магчымасці».

Мы на гэта і не разлічвалі. Нам патрэбна было яго аўтарытэтнае слова, каб з большай упэўненасцю працягваць працу над заканчэннем слоўніка, надрукаваць яго і вынесці на суд грамадскасці. Слоўнік, у які столькі працы ўклаў Пятро Фёдаравіч, выйшаў у 1953 годзе.

Пасля таго як у 1956 годзе я быў выбраны віцэ-прэзідэнтам Акадэміі, Пятро Фёдаравіч ненадоўга заняў пасаду дырэктара Інстытута мовазнаўства. Але хутка пачаў арганізоўвацца Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, узначаліць які даручана было яму. Шмат трэба было клопату і працы, каб арганізаваць такі шматпрофільны інстытут, падабраць кадры, даць правільны кірунак даследчай працы. Але Пятро Фёдаравіч захапіўся гэтай новай, цікавай для яго справай і, здавалася, не адчуваў усяго цяжару яе станаўлення. Распачатыя пад яго кіраўніцтвам такія працы, як шматтомнае выданне беларускага фальклору, Звод помнікаў гісторыі і культуры беларускага народа, цяпер з поспехам выконваюцца Інстытутам.

Да інстытуцкіх клопатаў Пятра Фёдаравіча прыбавіліся яшчэ клопаты аб дзейнасці ўсяго аддзялення грамадскіх навук. Апошнія два гады свайго жыцця ён нёс абавязкі акадэміка-сакратара гэтага аддзялення. Такім чынам, мне з ім і далей прыходзілася часта сустракацца і вырашаць важныя і не вельмі важныя, бягучыя, а часамі і «стаячыя», якія трэба было зрушыць з месца, справы.

З Пятром Фёдаравічам мы сустракаліся не толькі на працы. Летам мы нават жылі побач на дачы. Але і тут яму адпачываць вельмі не прыходзілася. Заўсёды на стале ў яго ляжалі розныя неадкладныя справы: або чыя-небудзь дысертацыя, або зборнік маладога пісьменніка, або свой пачаты артыкул, якога даўно чакалі ў рэдакцыі. Да яго звярталіся з просьбай прачытаць, даць водзыў, адрэдагаваць. І ён нікому не адмаўляў: чытаў уважліва ад пачатку да канца, рабіў грунтоўныя заўвагі, даваў слушныя парады. Бывала, зайду я да яго, а Пятро сядзіць у сваёй мансардзе, абклаўшыся рукапісамі. Павітаюся, скажу пару слоў — і ён у адказ, не адрываючыся ад работы. Бачу, што яму не да размовы, і збіраюся адыходзіць. «То ты ж, мусіць, хацеў у шахматы згуляць?» — пытаецца ён нарэшце. «Згуляў бы,— кажу,— дык табе ж часу няма».— «Пачакай, вось дачытаю...» Ён дачытваў, і мы садзіліся за шахматную дошку. Сам Пятро Фёдаравіч не быў заядлым шахматыстам, але мне часамі ўдавалася яго спакусіць.

Калі Пятро выходзіў у гарод, дык і тут праяўляліся ўласцівыя яму грунтоўнасць і дакладнасць. Градкі пад клубніку вымяраліся з дакладнасцю да сантыметра, ля кожнай ставілася дошчачка з назвай сорту, уся «плантацыя» абводзілася шпагатам, «каб Джульбарс не ўлез ды не patаптаў». Таму Джульбарсу ўлезці было, як кажуць,— раз плюнуць, але і ён як быццам разумеў, што парадку парушаць няможна.

Пішучы пра дзелавітасць Пятра Фёдаравіча, я баюся, каб у чытача не склалася ўражанне, што гэта быў рацыяналіст, сухі кабінетны работнік. Гэта было б вялікай памылкай. Пятро Фёдаравіч быў чалавекам чулай душы, багатай добрымі пачуццямі, заўсёды рады сустрэчы з цікавымі людзьмі. А нецікавых для яго як быццам не было. Ён адчуваў сябе добра і на шматлюдным сходзе, і ў цеснай кампаніі. Самай цеснай была кампанія ў маштабе «Канпетры». (Так Пімен Панчанка з нашых імён — Кандрат і два Петрусі — утварыў назву мясціны, дзе пабудаваны нашы дачы.) Калі збіраліся ўтрох, тут былі і сур'ёзныя гутаркі, і жарты, а часамі і песні, калі гэтаму спрыялі абставіны. А абставіны гэтыя ўмела ствараць дбайная гаспадыня, жонка Пятра Фёдаравіча Ніна Іларыёнаўна. Яна і сама магла добра падцягнуць двум галасістым Петрусям. А ўжо калі здаралася Глебку быць удзельнікам больш шырокай бяседы, з прычыны якога-небудзь юбілею ці сямейнага свята, яго якасці субяседніка праяўляліся на поўную сілу. Нездарма, калі трэба было выбраць тамаду, першым звычайна называлі Пятра Глебку. І ён выконваў свае абавязкі з тактам, з гумарам, з душой.

Пры ўсім гэтым і перш за ўсё Пятро Глебка — выдатны паэт, які шмат зрабіў для ўзбагачэння беларускай савецкай літаратуры. Я тут не гавару пра гэта падрабязна таму, што яго творы грунтоўна разгледжаны літаратуразнаўцамі, высока ацэнены грамадскасцю. Але зрабіў ён не ўсё, што было задумана. Рыхтуючы трохтомнае выданне сваіх твораў, Пятро Фёдаравіч да апошніх дзён працаваў над оперным лібрэта «Андрэй Касценя». На аснове гэтага лібрэта ён меўся напісаць паэму аб гераічных подзвігах Канстанціна Заслонава. На вялікі жаль, яму не суджана было давесці да канца гэтую задуму, як і ўбачыць сцэнічнае ўвасабленне «Андрэя Касцені» ў оперным тэатры.

Даўняя хвароба (кампенсаваны парок сэрца) усё часцей напаміналa аб сабе, але ніхто не чакаў блізкай трагічнай развязкі. Не чакаў яе і сам вялікі аптыміст і жыццялюб Пятро Фёдаравіч. Яшчэ напярэдадні абвастрэння хваробы ён збіраўся ляцець у Ерэван на святкаванне юбілею Саакяна, а адтуль у Кішынёў на куставую канферэнцыю па грамадскіх навуках, дзе меўся выступіць з дакладам, але замест гэтага яму прыйшлося легчы ў бальніцу. Тыдні праз тры ён выпісаўся. Мы сустрэліся на дачы, і я рады быў бачыць яго, як мне здалося, у добрым стане. «Дык ты ж маладзец»,— сказаў я, вітаючыся. «А што ж ты думаў — я так ужо і здаўся»,— адказаў ён мне ў тон. Але сказаў гэта няўпэўнена, і я падумаў, што ён не адчувае сябе так, як выглядае.

Больш мне не суджана было яго ўбачыць. Хутка я сам лёг у бальніцу і праз нейкі час, будучы там, пачуў сумную вестку, што майго блізкага сябра, слаўнага паэта і чалавека, няма на свеце.

*1975*

## ПАМЯЦІ НАРОДНАГА ПІСЬМЕННІКА БЕЛАРУСІ АКАДЭМІКА АН БССР М. Ц. ЛЫНЬКОВА

Перастала біцца сэрца выдатнага пісьменніка, вядомага вучонага, грамадскага дзеяча, акадэміка АН БССР Міхася Ціханавіча Лынькова. З імем Міхася Лынькова звязан вызначальны этап у развіцці беларускай літаратуры, калі яна, акрыленая ідэаламі Кастрычніка, пачала паказваць новага чалаве-

ка, народжанага ў гарніле рэвалюцыйнага змагання і стварэння новай, сацыялістычнай явы. Апавяданні «Над Бугам», «Андрэй Лятун», «Баян» і іншыя сёння можна назваць не толькі класічнымі, але і бессмяротнымі, бо ў іх вытокі таго духу, пафасу, таго непадзельнага народнага погляду на навакольны свет, якія трывала леглі ў падмурак беларускай савецкай літаратуры і вызначылі шляхі яе далейшага развіцця.

М. Ц. Лынькоў прыйшоў у літаратуру з самых глыбінь жыцця, абуджанага Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыяй. У суровых жыццёвых выпрабаваннях набываў сілу і гартаваўся яго талент пісьменніка, надзвычай патрабавальнага да сябе, тонкага аналітыка і даследчыка чалавечай душы, нястомнага і праўдзівага летапісца працоўных і гераічных здзяйсненняў свайго народа.

Удзельнік грамадзянскай вайны, збіральнік маладых літаратурных сіл і іх настаўнік, паплечнік Янкі Купалы і Якуба Коласа, рэдактар часопіса «Полымя рэвалюцыі», адзін з першых кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў БССР, арганізатар і супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР некалькіх скліканняў, дэлегат ад Беларусі ў ААН, Міхась Ціханавіч на працягу ўсяго свайго свядомага жыцця быў яркім прыкладам грамадзяніна-патрыёта, пісьменніка-камуніста, чалавека вялікага і чулага сэрца.

Міхасю Лынькову, як аднаму з самых яркіх нашых пісьменнікаў, было суджана паказаць гераічную душу роднага народа, які расправіў плечы, паўстаў ва ўвесь свой рост у спрыяльным савецкім клімаце... І зусім невыпадкова ад рамантычных, узнёслых апавяданняў 20-х і 30-х гадоў пісьменнік прыйшоў да рамана-эпапеі «Векапомныя дні», у якім шырока і глыбока паказаў бяспрыкладныя мужнасць і гераізм беларускага народа ў час Айчыннай вайны. Твор гэты па праву ўвайшоў у залаты фонд савецкай шматнацыянальнай літаратуры.

Кнігі Міхася Лынькова, у якіх глыбока адлюстравана жыццё роднага народа, заваявалі шырокае прызнанне і любоў чытачоў. Яны перакладаліся на рускую, украінскую, літоўскую і іншыя мовы народаў Савецкага Саюза, а таксама выдаваліся за рубяжом. Творчасць пісьменніка-патрыёта, камуніста — прыклад самаадданага служэння роднай партыі, савецкаму народу.

Гэтай справе ён служыў, калі са зброяй у руках абараняў ад ворага заваёвы рэвалюцыі, калі ў паходнай франтавой палатцы чытаў свежыя гранкі баявой газеты «За Савецкую Беларусь», працаваў над сваімі выдатнымі творамі, у якіх адлюстроўваў гераічнае змаганне савецкага народа з нямец-

ка-фашысцкімі захопнікамі. І заўсёды партыйная прынцыповасць і чалавечая добрасумленнасць вызначалі яго адносіны да справы і да людзей. Верны сын працоўнага народа, ён аддаў свайму народу, яго вялікім здзяйсненням усё, што мог аддаць: усе свае сілы і самаадданую працу, выдатны талент, усё сваё жыццё. За выдатныя заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і актыўную грамадскую дзейнасць М. Ц. Лынькоў узнагароджаны трыма ордэнамі Леніна, ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі, трыма ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Чырвонай Зоркі і медалямі.

Нас пакінуў вялікі майстар слова, вядомы вучоны, чулы, добры таварыш, сардэчны і просты чалавек. Імя Міхася Лынькова вечна будзе жыць у памяці народа.

*1975*

## ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА

Мне ўспамінаецца мая першая творчая сустрэча з Беларускім дзяржаўным драматычным тэатрам імя Якуба Коласа. (Тады гэта быў Другі беларускі тэатр.) Сустрэча адбылася ў цяжкі час, калі на беларускай зямлі лютаваў вораг, значная тэрыторыя нашай краіны была яшчэ пад нямецка-фашысцкай акупацыяй і ішлі жорсткія баі за вызваленне савецкай зямлі. Эвакуіраваўшыся з Беларусі, БДТ-2 працаваў у далёкім Уральску, дзе знайшлі прытулак некалькі сем'яў беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і мая сям'я. Тэатр ставіў тады толькі што закончаную мной п'есу «Проба агнём».

Калі, пасля разгрому немцаў пад Сталінградам, я прыехаў (летам 1943 года) у Уральск, каб забраць сям'ю, спектакль ужо быў пастаўлены, і я меў магчымасць паглядзець прэм'еру.

Я быў усхваляваны ўжо самім фактам пастаноўкі. Яна была сведчаннем, што, нягледзячы на ўсе спусташэнні, пакуты і фашысцкія зверствы, беларускі народ змагаецца за сваё вызваленне, што беларускае тэатральнае мастацтва жыве, тэатр ставіць новыя п'есы беларускіх аўтараў.

Гэта пастаноўка з'явілася важнай для мяне і ў тым сэнсе, што яна дала мне магчымасць праверыць п'есу на гледачу. Больш яна нідзе не ставілася. Відаць, тэатры не вабіла лірычная драма, у якой ва ўмовах вайны, у баявых абставінах

герої высвятляюць асабістыя адносіны, у той час, калі тэатры хацелі б паказваць п'есы аб гераізме савецкіх людзей.

Я з хваляваннем наглядаў за рэакцыяй зала і быў усцешаны, што гледачы жыва рэагуюць на тое, што адбываецца на сцэне, што над усімі пачуццямі ў спектаклі пануе пачуццё савецкага патрыятызму, перад якім на задні план адыходзяць усе «дробязі жыцця», асабістыя крыўды і нягоды.

Адэкватнаму (пажаданаму для мяне) успрыманню спектакля садзейнічала ўдумлівая работа пастаноўшчыка — рэжысёра Н. Лойтэра і выдатная ігра такіх майстроў сцэны, як П. Малчанаў (маёр Караневіч), А. Радзялоўская (Наталля Мікалаеўна — яго жонка), А. Шэлег (Перагуд), А. Трус (Родны), М. Звездачотаў (Рыбнікаў), Ф. Шмакаў (Бондараў), І. Матусевіч (Шумейка) і інш. Спектакль добра быў афармлены старэйшым беларускім мастаком А. Марыксам. Усім ім я быў глыбока ўдзячны за выдатную работу.

Пасля былі ў мяне з гэтым тэатрам і іншыя творчыя сустрэчы, калі ставіліся п'есы «Пяюць жаваранкі» і «Людзі і д'яблы». Ад гэтых сустрэч у мяне заставаліся таксама добрыя ўспаміны, але самае глыбокае ўражанне засталося ад першай сустрэчы, якая адбылася ў асаблівых умовах і мела для мяне асаблівае значэнне.

Тэатр імя Якуба Коласа прайшоў вялікі творчы шлях і сваімі яркімі спектаклямі ўнёс багаты ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва.

Грамадскасць Беларусі ў гэтым годзе будзе адзначаць слаўны 50-гадовы юбілей тэатра, і я хачу пажадаць яго таленавітаму калектыву далейшых вялікіх творчых здабыткаў на радасць савецкаму гледачу.

*1976*

## СКАРБЫ ТВОРЧАЙ ДРУЖБЫ

Свята брацкай дружбы — заўсёды радасць. Асабліва калі яно ўпрыгожана выдатнымі творчымі здабыткамі. Цудоўныя скарбы шчодра, ад усяго сэрца дараць нам у гэтыя дні нашы ўкраінскія браты. Па ўсёй Беларусі гучыць слаўная на ўвесь свет украінская песня, на сцэнах тэатраў і Дварцоў культуры радуюць гледачоў і слухачоў яркія спектаклі і канцэрты

украінскіх майстроў сцэны, у многіх аўдыторыях гучыць натхнёнае слова украінскіх паэтаў і пісьменнікаў. Гэта — свята вялікай дружбы нашых народаў. Тае цудоўнай ленінскай дружбы, якая так дабратворна праяўляецца ва ўсіх сферах нашага жыцця, якая згуртоўвае савецкіх людзей у адзіную магутную сям'ю для здзяйснення велічнай справы — пабудовы камунізму, якая ўзаемна ўзбагачае наш розум і нашы душы дасягненнямі навукі, творчымі здабыткамі. Адным з яркіх праяўленняў гэтай дружбы з'яўляюцца Дні украінскай літаратуры і мастацтва ў Беларусі.

Дружба украінскага і беларускага народаў, з'яднаных агульным гістарычным лёсам, мае даўнія і слаўныя традыцыі. Яна кавалася яшчэ нашымі продкамі, калі яны змагаліся за нацыянальнае вызваленне і за ўз'яднанне з вялікім рускім народам. Умацоўвалася ў сумеснай гераічнай барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ў дні Кастрычніка. Нязмерна ўзраcла, расквітнела яна за гады Савецкай улады, у працэсе стваральнай працы савецкіх людзей — будаўнікоў камунізму.

Жыватворнай крыніцай дружбы украінскай і беларускай літаратур з'явілася творчасць слаўнага Кабзара украінскага народа Тараса Шаўчэнкі, які нараўне з вялікімі рускімі паэтамі і пісьменнікамі — Пушкіным, Някрасавым, Гогалем, Талстым — карыстаўся і карыстаецца глыбокай пашанай і любоўю беларускага народа. Яго неўміручыя творы і самаадданае служэнне народу жывілі думкі і пачуцці пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры, натхнялі творчасць нашых народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія з любоўю перакладалі творы свайго украінскага настаўніка на беларускую мову. Гэтыя слаўныя традыцыі развівалі разам з імі далей і іншыя старэйшыя беларускія пісьменнікі — у творчых кантактах, у асабістых сяброўскіх сустрэчах з Паўлам Тычынай, Максімам Рыльскім, Аляксандрам Карнейчуком, Уладзімірам Сасюрай, Андрэем Малышкам.

Гэтыя слаўныя традыцыі захоўваюцца і паспяхова развіваюцца і сёння, калі нашы літаратурныя арганізацыі яшчэ больш выраслі і творчыя кантакты на розных узроўнях сталі больш частымі.

Аб цеснай дружбе нашых літаратур, нашых паэтаў, пісьменнікаў і драматургаў, аб яе плённых выніках сведчаць шматлікія ўзаемныя пераклады і выданні, у тым ліку і такія значныя і важныя выданні, як анталогіі беларускай і украінскай літаратур.

Я таксама меў гонар прымаць удзел у перакладзе на беларускую мову твораў вялікага Кабзара, з прыемнасцю

перакладаў гумарэскі Астапа Вішні, творы іншых пісьменнікаў. У сваю чаргу я ўдзячны ўкраінскім сябрам за пераклады і выданні на Украіне маіх баек і п'ес, што дало магчымасць пазнаёміцца з імі ўкраінскаму гледачу і чытачу.

У гэтыя дні вялікага свята літаратуры і мастацтва братняга народа я сардэчна вітаю ўсіх яго ўдзельнікаў — нашых дарагіх гасцей. Па-сяброўску моцна цісну рукі братам-пісьменнікам — Алесю Ганчару, Міхайлу Стэльмаху, Васілю Казачэнку, Юрыю Збанацкаму, Міколу Нагнібедзе, Барысу Алейніку, Аляксандру Лявадзе, Міколу Заруднаму, Багдану Чаламу. Жадаю ўсім нашым сябрам радасных творчых сустрэч і шчаслівых дзён на гасціннай беларускай зямлі.

*1976*

## ПАМЯТНЫЕ ВСТРЕЧИ

Литовских писателей я знаю в основном по произведениям, которые печатались на русском и белорусском языках. Со многими знаком лично. Не однажды приходилось встречаться на съездах, пленумах, в Дни литературы и во многих других случаях.

Пожалуй, наиболее близкое знакомство у меня было с Пятрасом Цвиркой. В 1942 году наша группа белорусских писателей, работавших в редакции фронтовой газеты «За Савецкую Беларусь», предназначенной для забрасывания во вражеский тыл, находилась в Москве и жила в гостинице. Тут мы и встретились с братьями-литовцами. Пятрас Цвирка, если не ошибаюсь, возглавлял тогда литовскую писательскую организацию. Встречались мы довольно часто — на собраниях в Доме литераторов, в столовой, и просто для того, чтобы побеседовать.

Пятрас Цвирка был в дружеских отношениях с Михасем Лыньковым — редактором нашей газеты и председателем правления Союза писателей БССР — и нередко заходил к нам «на огонек», хоть и прикрытый зашторенными окнами. Нас объединяли не только литературные интересы, не только традиционная дружба белорусского и литовского народов, но и ненависть к врагу, гнев и возмущение чинимыми на нашей земле зверствами фашистских оккупантов, тревога за судьбу

близких людей. Но мы ни на минуту не теряли веры в нашу окончательную победу.

Часто заходил разговор и о литературе. Пятрас Цвирка рассказывал нам о жизни литовских писателей при буржуазном правительстве. О том, как многие из них боролись против реакции, за социальный прогресс, за интересы народа. Обсуждались и текущие литературные дела. Говорили о том, кто что написал в последнее время, обменивались мнениями о появившихся в печати литературных новинках. Случалось, что Пятрас Цвирка читал нам свой новый рассказ. Как известно, он был мастер короткого рассказа, и мы слушали его с удовольствием.

В конце 1943 года мы расстались, и после войны я его больше не встречал. Известие о том, что Пятраса Цвирки не стало, глубоко опечалило и ошеломило всех нас — его белорусских друзей. Ведь он был всегда бодрый и жизнерадостный, физически крепкий. Непонятно, как его так быстро могла одолеть смерть. Ведь ему было всего 38 лет.

Пятрас Цвирка был не только замечательным писателем, но и прекрасным человеком, простым, общительным и мудрым. О таком человеке у людей остается подлинно светлая память.

В то время в Москве мы встречались и с другими литовскими товарищами. Часто нашим собеседником был Костас Корсакас. Писатель и литературовед — он не только прекрасно знал литовскую литературу, но глубоко интересовался и литературой других братских народов, и советской литературой в целом, с которой встретился, так сказать, лицом к лицу незадолго до этого. С белорусской литературой он был знаком и раньше, но живое общение с ее представителями давало ему возможность лучше познакомиться с ее характерными особенностями и конкретными фактами. Мы, в свою очередь, всегда с интересом выслушивали его беспристрастные, часто оригинальные оценки и суждения. Но говорили мы, конечно, не только о литературе. С ним приятно было поговорить на любую тему. Мне и после войны в определенный период нередко приходилось встречаться с Костасом Корсакасом. Чаще всего на сессиях Академии наук СССР, поскольку и я имею некоторое отношение к науке, в частности к филологии. Между прочим, научные связи между Академией наук БССР и Академией наук Литовской ССР крепнут и развиваются. Как и наши республики в целом, Академии наши тоже соревнуются за лучшие достижения в своей области. Недавно были в Вильнюсе и наши филологи.

Я рад был услышать от них, что Костас Францевич находится в добром здравии и по-прежнему успешно руководит Институтом языка и литературы Академии наук Литовской ССР, с которым наши литературоведы и лингвисты также заключили социалистический договор. Пусть развивается дружба, подкрепленная наукой.

*1977*

## ПЕРВАЯ ЛАСТОЧКА

Война, развязанная фашистской Германией, была не первой, в которой мне пришлось участвовать, но самой жестокой и опустошительной. Глубокие следы оставила она не только на теле, но и в памяти, и в сердце советских людей. На Белоруссию с первых же дней враг обрушил шквал огня и металла, рассчитывая ошеломить, подавить, предупредить всякую попытку сопротивления. Ответом на это была самоотверженная всенародная борьба. Удары партизан фашистские захватчики почувствовали на себе сразу же после вступления на белорусскую землю. Удары эти множились и крепли из месяца в месяц вплоть до разгрома гитлеровских полчищ Советской Армией, до долгожданного, радостного дня освобождения.

Многие белорусские писатели также активно участвовали в борьбе с врагом — как пламенным патриотическим словом, так и с оружием в руках — в рядах Советской Армии и партизанских отрядах.

Я на этот раз, после финской войны, то ли потому, что мне было уже сорок пять лет, то ли по другой причине, приписан был не к строевой части. Явился в пункт приписки (это была редакция газеты «Красноармейская правда») в первый день войны. Здесь я встретил Михася Лынькова, Илью Гурского, Алеся Стаховича, Василя Борисенко и других собратьев по перу. Спустя два дня, пережив жестокую бомбежку Минска, мы на рассвете, с болью в сердце, оставили охваченный пожаром город. Вскоре нам попалась случайная машина, и мы направились на восток по Московскому шоссе. Узнав, что под Борисовом выброшен немецкий десант, повернули на Могилевское шоссе, запруженное машинами,

повозками, уходящими на восток людьми. Не однажды пришлось нам нырять в кювет от «юнкерсов», но доехали мы до Могилева без потерь и поступили в распоряжение Политуправления Западного фронта, членом Военного совета которого был первый секретарь ЦК КПБ Пантелеймон Кондратьевич Пономаренко. По его предложению нашей белорусской группе литераторов было поручено издавать газету на белорусском языке «За Савецкую Беларусь», предназначенную для забрасывания во вражеский тыл для населения оккупированной (тогда еще не всей) Белоруссии и партизан. В наше распоряжение выделили «типографию», весь наборный и печатный цех которой вместе со штатом вмещался в трехтонке. Крутили мы свою печатную машину вручную, а чаще всего возили набор печатать в ближайший большой город.

Редактором нашей газеты был Михась Лыньков, секретарем редакции — Илья Гурский. В газете мы печатали материалы, которые поступали к нам непосредственно с фронта, сводки Совинформбюро, скупые тогда еще вести, которые доходили до нас с белорусской земли, патриотические статьи, фельетоны, иногда стихи. Вся наша продукция сразу направлялась на аэродром. По распоряжению Политуправления фронта самолеты, которые летели в немецкий тыл на бомбежку, на разведку, на связь с партизанами, брали нашу газету и сбрасывали в подходящем месте. Трудно сказать, сколько ее доходило по назначению при таком способе доставки, но, по получаемым нами сведениям, она все-таки попадала к партизанам, и это нас радовало. Кроме содержания самой газеты, нам важно было подать весть своему народу, что белорусские писатели живы, борются и твердо верят в победу над врагом.

За 1941 год мы выпустили 37 номеров газеты общим тиражом в 3 миллиона двести семьдесят тысяч экземпляров. Кроме того, было издано 10 листовок общим тиражом в 2 миллиона экземпляров. Это были листовки-обращения к рабочим Белоруссии, к молодежи, к женщинам, к партизанам, на международные темы, о разгроме немцев под Москвой.

Выпускали мы свою газету на разных фронтах (дислокация зависела от обстоятельств). На Западном — под Смоленском и у станции Касня во время тяжелых боев под Ельней, на Центральном — под Гомелем, на Брянском — под Карачевом. Редакция наша тем временем пополнялась. Под Смоленском пришел к нам (в лаптях, с демисезонным пальто в руках) Петро Глебко. Пальто это служило общей подушкой, когда мы — Лыньков, Глебко и я — спали в одной палатке. Под

Ельней присоединился к нам Пимен Панченко, а на Брянском фронте — Петрусь Бровка, Максим Танк и Алесь Кучар. Здесь, во время наступления немцев на Москву, нам пришлось выбираться из «мешка», который мог захлестнуть всю нашу группу во главе с руководством Союза писателей БССР, председателем правления которого был Михась Лыньков. К счастью, мы имеем возможность сегодня вспоминать об этом.

Кроме нашей газеты, несколько позже, стала выходить на Калининском фронте такая же газета «За свабодную Беларусь», а в Москве издавалась газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну». Они забрасывались во вражеский тыл таким же способом.

Газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну» выходила и после освобождения Белоруссии — до конца войны. С апреля 1943 года я был ее редактором.

*1978*

## ЖЫЦЦЁ ПАТРАБУЕ

Працоўныя Беларусі рыхтуюцца дастойна сустрэць вялікае свята — шасцідзесяцігоддзе Рэспублікі і Кампартыі Беларусі.

Дастойна сустрэць — гэта значыць прыйсці да гэтай слаўнай гадавіны з добрымі вынікамі свае працы, унесці і свой пасільны ўклад у вялікую справу пабудовы камунізму. Пры гэтым яны не толькі падводзяць вынікі праробленай працы, а і вызначаюць задачы на далейшае, падлічваюць свае магчымасці і збіраюць сілы для новых здзяйсненняў.

З вялікім агульнаграмадскім святам нашай рэспублікі супадае і свята навукі — пяцідзесяцігоддзе Акадэміі навук БССР. У беларускіх вучоных таксама ёсць чым сустрэць гэта падвойнае свята. У кожнага атрада свае здабыткі і дасягненні, свае клопаты і планы на будучае. «А як вы ўяўляеце сабе далейшую працу беларускіх мовазнаўцаў?» — запыталіся ў мяне.

Двума словамі на гэта не адкажаш. У мовы служба вялікая. Ад слова «мама», якое ўпершыню вымаўляе малое дзіця, да прамовы дзяржаўнага дзеяча з высокай трыбуны, да трактата даследчыка мікрасвету, да ярка-вобразнага, натхнё-

нага слова паэта. Мова служыць людзям і ў сяброўскай гутарцы, і ў вострай дыскусіі, і для выказвання глыбокіх пачуццяў любімаму чалавеку. І для кожнага выпадку ў яе свой характар, свае сродкі, свой стыль. Для такой вялікай службы мове заўсёды належыць быць у добрай (ледзь не сказаў — спартыўнай) форме.

Моўныя формы выпрацоўвае сам тварэц мовы — народ. Не адвольна, а ў адпаведнасці з выпрацаванымі за многія вякі заканамернасцямі (унутранымі законамі) развіцця мовы. І ўсё ж не дакладна па адной мадэлі. Задача мовазнаўцаў — прывывучаць гэтыя заканамернасці і выпрацаваныя формы, прывесці іх у пэўную сістэму, вызначыць найбольш усталяваныя, найбольш прыдатныя для агульнага карыстання моўныя нормы: граматычныя, лексічныя, арфаграфічныя, арфаэпічныя, акцэнтуальныя. Вызначыць для таго, каб словы і выразы людзі разумелі па магчымасці аднолькава і такім чынам аблягчалася б ім узаемнае паразуменне. Гэтай справе могуць саслужыць добрую службу нарматыўная граматыка, тлумачальныя, арфаграфічныя і перакладныя слоўнікі, над якімі нашы мовазнаўцы працуюць ужо і маюць пэўныя вынікі.

Мова не з'яўляецца застылай інертнай масай. Гэта жывы працэс. Яна ўвесь час аднаўляецца і ўзбагачаецца. Невычэрпнай крыніцай узбагачэння літаратурнай мовы з'яўляецца жывая мова народа, яе мясцовыя гаворкі. Каларытныя словы і выразы, трапныя выслоўі народных гаворак надаюць мове новыя яркія фарбы, раскрываюць новыя паняцці. Апрача таго, у мясцовых гаворках дзе-нідзе захаваліся старажытныя моўныя пласты, па якіх можна меркаваць аб гістарычным развіцці самой мовы і жыцці яе носьбітаў. У гэтай галіне ў Беларусі праведзена і далей вядзецца значная работа, і яе не трэба аслабляць. Тым больш што мясцовыя гаворкі пад уплывам літаратурнай мовы хутка нівеліруюцца і людзей, якія добра ведаюць сваю традыцыйную мясцовую гаворку, становіцца ўсё менш. Яшчэ я хацеў бы сказаць, што гэту працу варта было б больш упарадкаваць, надаць ёй большую планамернасць. Ахоплівае яна асобныя тэрыторыі рэспублікі нераўнамерна. Больш за ўсё пашанцавала Магілёўшчыне, гаворкам якой прысвечана не адна праца. У тым ліку такія капітальныя, як слоўнікі І. І. Насовіча і І. К. Бялькевіча. А ў іншых месцах ёсць яшчэ амаль што «белыя плямы». Варта было б удзяліць больш увагі вывучэнню цэнтральных гаворак, гаворак Случчыны, усходняй часткі Палесся. Можа, варта было б правесці рэспубліканскую нараду дыялектолагаў, абмяняцца вопытам і арганізаваць працу больш рацыянальна, па адзінаму плану.

Словы ў мове рэдка жывуць у адзіночку. Часцей за ўсё яны маюць сваіх продкаў і нашчадкаў, блізкіх і далёкіх сваякоў. Часамі зразу і не распазнаеш, з кім у радні тое ці іншае слова. Узяць хоць бы слова *абруч*. Гэта, як тлумачыць слоўнік (ды як і самі мы ведаем), сагнутая ў кольца жалезная ці драўляная пласцінка, якая набіваецца на бочку. Здаецца, і сваякоў у гэтага слова ніякіх няма, адзін толькі прыметнік *абручны*. Але калі мы прыгледзімся больш пільна, дык заўважым, што гэта слова складаецца з каранёвай часткі нейкага слова — *руч* і прыстаўкі *аб-*, якая ўжываецца тады, калі гаворка ідзе пра аб'ём, ахоп, акружэнне. Параўноўваючы гэта слова з іншымі, не цяжка заўважыць, што корань *руч (рук)* належыць слову *рука* і вытворным ад яго. Такім чынам, наш *абруч* атрымаў сваю назву ў спадчыну ад такога прадмета, які ахопліваў руку. Такія прадметы археолагі знаходзяць пры раскопках. Імі жанчыны ўпрыгожвалі свае рукі задоўга да таго, як людзі навучыліся рабіць бочкі. Тым часам ручная аздоба набыла новую назву (бранзалет), а ранейшая засталася за кольцамі наогул. Прыдалася яна і таму кальцу, якое набіваецца на бочку. І тут зразу высвятляецца, што наш абруч належыць да вялікай сям'і слоў, прарадзіцельніцай якіх з'яўляецца *рука: рукаў, нарукаўнік, наручнік, ручка, ручнік, падручнік, заручаны, парука, даручэнне, выручка* і шмат іншых.

Прыклад гэты я прывёў для таго, каб падкрэсліць важнасць і неабходнасць этымалагічных даследаванняў. Калі высвятляецца паходжанне слова, тады і само яно становіцца больш блізкім, і працэс славаўтварэння больш зразумелым. Добра, што ў Інстытуце мовазнаўства гэта работа вядзецца і ўжо выдаецца этымалагічны слоўнік беларускай мовы.

Словамі-адзіночкамі ці малапрадуктыўнымі з'яўляюцца больш за ўсё словы-прышэльцы, якія трапілі да нас з іншых моў. Яны адчуваюць сябе ў чужародным моўным асяроддзі не вельмі ўтульна і не маюць тут вялікай радні, але разам узятыя складаюць вялікі атрад слоў-тэрмінаў, патрэбных спецыялістам розных галін ведаў і работнікам вытворчасці. Усё ў большай меры становяцца яны патрэбны і шырокай грамадскасці. Часткова спецыяльная тэрміналогія распрацавана ў нас у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, у слоўніках, але гэтага мала. Жыццё патрабуе сістэматычнай распрацоўкі тэрміналогіі ва ўсіх галінах ведаў, і мовазнаўцам неабходна прыняць у гэтым самы актыўны ўдзел.

Кожнаму з нас прыходзіцца мець дачыненне і размаўляць з людзьмі не толькі ў межах свае нацыянальнасці, але і з

прадстаўнікамі іншых шматлікіх нацыянальнасцей нашай краіны, абменьвацца вопытам працы, культурнымі і творчымі здабыткамі. Вывучыць мову ўсіх народаў немагчыма, і як жа добра, што ў нас ёсць мова-пасрэднік, якая стала для нас другой роднай мовай, — вялікая, багатая, высокаразвітая руская мова, якая дае нам магчымасць карыстацца навуковымі дасягненнямі, культурнымі і творчымі здабыткамі рускага народа і іншых брацкіх народаў нашай вялікай краіны, нясе высакародную службу міжнацыянальных сувязей. У нас міжнацыянальныя кантакты ў розных сферах жыцця і на розных узроўнях становяцца з кожным годам усё больш цеснымі і частымі, і нашым людзям усё ў большай меры трэба дасканала авалодваць рускай мовай. І ў гэтым ім неабходна дапамагаць. Задача гэта стаіць як перад школай, так і перад навуковымі работнікамі — педагогамі і мовазнаўцамі. Двухмоўе (па-вучонаму — білінгвізм) — гэта рэальнасць нашага часу, выкліканая самім жыццём. Яно шырока бытуе ў нашым грамадстве і патрабуе глыбокага і ўсебаковага вывучэння ў святле ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі.

І гэта не ўсё, вядома, а толькі першачарговае з таго, што падказвае і чаго патрабуе жыццё. Актуальнымі для беларускіх мовазнаўцаў з'яўляюцца і больш глыбокія тэарэтычныя даследаванні мовы, розных яе аспектаў, устанаўленне заканамернасцей яе развіцця на падставе таго, цяпер ужо досыць багатага, матэрыялу, сабранага ў Інстытуце мовазнаўства і іншых мовазнаўчых асяродках рэспублікі.

Такім чынам, мовазнаўцаў чакае вялікая і патрэбная нашаму грамадству праца.

Пажадаем жа ім добрых поспехаў.

*1978*

## МОЙ РОДНЫ МІНСК

Нарадзіўся я не ў Мінску, але жыву ў ім ужо больш за пяцьдзесят гадоў. Тут нарадзіліся мае дзеці, унукі і праўнукі, адбыліся многія важнейшыя падзеі ў маім жыцці. Мінск стаў для мяне сапраўды родным горадам.

Упершыню я пазнаёміўся з ім у 1913 годзе, калі прыехаў у мінскую гімназію здаваць экстэрнам экзамен на званне

народнага настаўніка. Гэта быў першы горад, у якім мне давялося быць і пражыць некалькі дзён. Знаёміцца грунтоўна з ім я не меў часу і магчымасці, але ўспамінаю цяпер, як ён выглядаў: у сярэдзіне было крыху горада з цэнтральнымі вуліцамі — Захараўскай і Губернатарскай, а навокал — вялікае шэрае мястэчка.

Такім я ўбачыў яго і праз дзевяць гадоў, калі служыў тут у воінскай часці, але ў ім ужо кіпела новае жыццё, якое ўцягнула і мяне ў свой кругаварот.

У Мінску я ўпершыню ўбачыў надрукаваным у газеце «Савецкая Беларусь» свой верш на беларускай мове. Гэта быў першы крок, з якога пачынаўся мой творчы шлях у беларускай літаратуры. Праз тры гады, развітаўшыся з вёскай і школай, у якой працаваў пасля дэмабілізацыі з арміі, я пераехаў у Мінск на сталае жыццё. Паклікалі мяне сюды сябры як пачынаючага пісьменніка, хоць я не быў упэўненым, што заслугоўваю такой гучнай назвы.

З гэтага часу з Мінскам звязаў мяне лёс назаўсёды. Тут, у Беларускім дзяржаўным універсітэце, я набываў веды, у бурлівым літаратурным асяроддзі завязвалася і мацнела творчая дружба з сябрамі па працы, шмат з якіх, на вялікі жаль, ужо няма сярод нас. Тут фарміраваліся мае погляды на жыццё. У вялікім горадзе з яго разнастайнымі інтарэсамі і справамі я сустракаў шмат цікавых людзей, прадстаўнікоў розных прафесій, некаторыя з якіх сталі маімі добрымі знаёмымі, а то і прататыпамі тых ці іншых вобразаў у маіх творах.

Першымі чытачамі, гледачамі і суддзямі маіх твораў былі мінчане. Седзячы за пісьмовым сталом, я заўсёды адчуваў іх нябачную прысутнасць, іх зацікаўленыя адносіны да мае працы. Па іх рэакцыі і водзывах я меў магчымасць меркаваць, што мне ўдалося, а ў чым я схібіў.

Зраднілі мяне з мінчанамі і агульныя грамадскія інтарэсы, і справы роднага горада. Разам з імі я перажываў радасці і нягоды, якія выпадалі на яго долю. З болем у сэрцы пакідалі мы яго ў зарыве пажараў у час фашысцкай навалы. Вярнуўшыся на родную зямлю, стаялі мы ў смутку, як ля пасцелі цяжка знявечанага блізкага чалавека, глядзелі на яго руіны, не пазнаючы сваіх вуліц. З хваляваннем і радасцю наглядалі пасля, як горад ачуньвае, набывае сілу, расце і маладзее на нашых вачах, як здабывае добрую славу дзякуючы гераічнай працы савецкіх людзей пад мудрым кіраўніцтвам партыі Леніна, пры шчырай дапамозе народаў-братоў, якія не пакінулі яго ў бядзе.

І вось ён перад намі ва ўсім харастве — магутны, шыракаплечы, горад-барацьбіт, горад-працаўнік, слаўны сваімі справамі і людзьмі, адзін са славутай плеяды гарадоў-герояў краіны — горад-герой Мінск.

Расці яму і красавацца пад яркім сонцам Радзімы.

*1978*

## НА СКРЫЖАВАННІ ШЛЯХОЎ І ПАДЗЕЙ

Спачатку мы прыглядаліся адзін да аднаго здалёк. Прыехаў ён (Міхась Ціханавіч Лынькоў) у Мінск з Бабруйска, дзе працаваў да гэтага адказным сакратаром, а пасля рэдактарам акруговай газеты «Камуніст» і быў кіраўніком Бабруйскай філіі «Маладняка». Мы (я і мае літаратурныя сябры) меркавалі, што яго праслалі на ўмацаванне літаратурнай арганізацыі «Маладняк», аслабленай пасля таго, як з яе ў 1926 годзе выйшла група пісьменнікаў і ўтварыла літаратурнае аб'яднанне «Узвышша» і яшчэ некаторыя маладыя, якія спрабавалі ўтварыць свае літаратурныя арганізацыі. Хутка Міхась Лынькоў стаў адным з кіраўнікоў «Маладняка», а пасля і БелАППа.

Будучы чалавекам сціплым, ён не выстаўляў напаказ сваіх кіраўнічых якасцей, але паважная стрыманасць у рухах і гаворцы сведчыла аб усведамленні ім адказнасці за даручаную справу.

К таму часу «Узвышша» ўжо самаліквідавалася, былыя яго члены (у тым ліку і я) хадзілі ў папутніках і блізкіх кантактаў з БелАППам не мелі. У пісьменніцкім асяроддзі існавалі групавыя перагародкі, а часта і групавая крытыка, якая абвастрала асабістыя адносіны паміж прыхільнікамі розных груп.

Па гэтых прычынах і ў мяне з Міхасём Лыньковым кантактаў не было. У кожнага было сваё кола блізкіх сяброў.

Больш, чым выгляд, сказалі мне аб ім прачытаныя ў той час яго творы — «Над Бугам», «Гой» і некаторыя іншыя. Праўда, мне не асабліва падабалася яго манера пісьма, у прыватнасці рытмізаваная проза. Але гэта ўспрымалася як пошук маладым пісьменнікам свайго стылю, аднак пры гэтым выразна выяўляліся ідэйная пазіцыя аўтара, яго здоль-

насць паказаць унутраны свет чалавека ў складанай жыццёвай сітуацыі.

Як і можна было чакаць, з прыходам сталасці манернасць стылю адпала, а каштоўныя якасці набылі далейшае развіццё.

У 1932 годзе пастановай ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» усе ваппаўскія арганізацыі, у тым ліку і БелАПП, былі ліквідаваны. Такім чынам наш літаратурны статус ураўняўся: я ўжо не лічыўся папутнікам, а Міхась Лынькоў не быў больш кіраўніком пралетарскай пісьменніцкай арганізацыі. Пачаўся перыяд падрыхтоўкі да Першага ўсесаюзнага з'езда пісьменнікаў — перыяд кансалідацыі ўсіх пісьменнікаў, якія стаялі, як было сказана ў пастанове ЦК ВКП(б), «на платформе Савецкай улады». Пачалі паступова сцірацца перагародкі, якія падзялялі раней розныя пісьменніцкія арганізацыі, уціхала групавая барацьба, адбываліся агульныя сходы, на якіх сумесна абмяркоўваліся актуальныя творчыя і арганізацыйныя пытанні савецкай літаратуры, наладжваліся асабістыя кантакты паміж ранейшымі «праціўнікамі».

Хутка мне давялося працаваць з Міхасём Ціханавічам у часопісе «Полымя рэвалюцыі» — я быў загадчыкам аднаго з аддзелаў, а ён — адказным рэдактарам. Гэта пасада патрабавала ў той час асаблівай пільнасці і ідэйнай прынцыповасці, аб чым Міхась Ціханавіч ніколі не забываў. Ён уважліва чытаў усе матэрыялы, якія прапанаваліся для надрукавання. У адносінах да супрацоўнікаў быў патрабавальны, але заўсёды карэктны. Знікла і ранейшая наша з ім групавая адчужанасць. Працавалі мы дружна, і я не помню, каб паміж намі былі якія-небудзь прынцыповыя разыходжанні ці рознагалоссі. Непрыемнасці, праўда, здараліся, але гэта не паміж намі, а з намі. Адна з іх асабліва нас уразіла і парушыла нашу душэўную раўнавагу. Гэта прыкрае здарэнне, калі, нягледзячы на ўсю рэдактарскую пільнасць, у тэкст аднаго артыкула ўкралася (а можа, і была падстроена) грубая памылка. Праз гэта мы на доўгі час страцілі з поля зроку аднаго з супрацоўнікаў рэдакцыі, які быў адказным за выпуск нумара.

У гэты перыяд мне часта даводзілася бачыць Міхася Лынькова і ў неслужбовых абставінах. Нашы сем'і летам звычайна былі ў доме адпачынку Саюза пісьменнікаў у Пухавічах, дзе і мы праводзілі свой адпачынак або прыязджалі на выхадныя дні. Міхася заўсёды чакала з малым Марыкам на руках яго жонка Хана Абрамаўна — жанчына сціплая, заўсёды ветлівая, без якога-небудзь праяўлення адзнак «начальніцы». (Яна, відаць, і была прататыпам Рывы з

аповесці «Гой».) Міхась браў Марыка на рукі і ўжо не расставаўся з ім цэлы дзень.

Ён наогул любіў дзяцей і не прапускаў зручнага выпадку, каб распачаць з імі цікавую гутарку. Цешыўся з іх непасрэднасці і кемлівасці. Гэта любоў ярка праявілася і ў яго «дзіцячых» творах — «Міколка-паравоз», «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» — і на многіх старонках яго «дарослых» твораў.

Канчаткова зблізіла нас вайна. У першы ж дзень пасля вераломнага нападу гітлераўскіх нелюдзяў на нашу краіну мы з'явіліся ў пункт прыпіскі. Гэта была рэдакцыя газеты «Красноармейская правда» — орган Заходняй ваеннай акругі. Апрача Міхася Лынькова тут былі Ілья Гурскі, Васіль Барысенка, Алесь Стаховіч і яшчэ некаторыя знаёмыя літаратары.

У час жорсткай бамбёжкі Мінска 24 чэрвеня мы знаходзіліся ў падвале памяшкання АБВШ (Аб'яднанай беларускай вайсковай школы) каля Тэатра оперы і балета. Больш за ўсё мы непакоіліся за нашы сем'і: мая была ў гэты час у доме адпачынку ў Пухавічах — у небяспечнай блізкасці ад вайсковага аэрадрома. Міхасёва сям'я была ў Мінску на вуліцы Апанскага, але і ён не меў магчымасці яе наведаць. Мы вось-вось павінны былі выйсці з горада, і ён, як дысцыплінаваны салдат, не мог дазволіць сабе ў такіх абставінах самавольную адлучку.

На досвітку пад камандай кадравага камандзіра камбата Батанава мы з болем у сэрцы пакідалі ахоплены агнём Мінск. Барвовыя водсветы пажараў асвятлялі вуліцы, па якіх мы ішлі. Балюча было глядзець, як дагарае будынак выдавецтва, дзе гінулі ў агні нашы рукапісы. Прыпыніліся за горадам у нейкім ляску. Тады мы яшчэ не думалі, што развітваемся з Мінскам надоўга. Яшчэ была надзея, што часці Чырвонай Арміі адкінуць ворага за межы краіны. Але хутка высветлілася, што нам тут заставацца нельга. Машын у нас не было, і мы пешкі рушылі на ўсход па Маскоўскай шашы. Хутка, праўда, нам удалося затрымаць дзве парожнія грузавыя машыны. Трывога ўжо не толькі за лёс нашых сем'яў, але ўсяго беларускага народа, за лёс краіны панавала цяпер над усімі нашымі пачуццямі.

Не даязджаючы да Смалявіч, мы даведаліся, што каля Барысава вораг выкінуў дэсант, і павярнулі на Магілёўскую шашу, запоўненую натоўпамі людзей, якія, ратуючыся ад фашысцкай навалы, рухаліся на ўсход. Сям-там на абочынах ляжалі разбітыя машыны і свежыя ахвяры налётаў фашысцкай авіяцыі, ад якіх і нам не раз прыходзілася ныраць у

кюветы. Міхась быў сумны, але маўчаў. У кожнага з нас быў свой боль, але гаварыць пра сваё гора ў час агульнага бедства ніхто не адважваўся.

Днепр, на левым беразе якога мы асталяваліся праз некалькі гадзін, усяляў у нашы душы яшчэ некаторыя надзеі: а можа, гэты водны рубеж акажацца шчаслівым для нас і пагібельным для ворага. Але пасля ўпартых і жорсткіх баёў нашы часці вымушаны былі адысці. На гэты раз мы спыніліся пад Смаленскам у раёне станцыі Гнёздава, недалёка ад штаба Заходняга фронту, якому былі падпарадкаваны. Тут знаходзіўся і першы сакратар ЦК КПБ Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка. Ён зацікавіўся лёсам нашай групы беларускіх пісьменнікаў, і, відаць, па яго прапанове нам было даручана выдаваць на беларускай мове газету «За Савецкую Беларусь», прызначаную для партызан і насельніцтва акупіраванай (у той час яшчэ не ўсёй) Беларусі. Адказным рэдактарам прызначаны быў Міхась Лынькоў, а сакратаром — Ілья Гурскі. Абодва яны мелі пэўны вопыт газетнай работы.

Так былі вызначаны нашы задачы і наша месца ў справе ўсенароднай барацьбы з фашысцкімі захопнікамі.

Па распараджэнню Палітупраўлення фронту нам выдзелілі паходную «друкарню» — грузавую аўтамашыну з невялікай друкарскай машынай, якую трэба было круціць уручную, наборшчыка і яшчэ пару чалавек «друкарскага персаналу», і мы пачалі выпускаць газету. Вядома, што больш за ўсё было клопату адказнаму рэдактару. Трэба было падумаць з сакратаром рэдакцыі аб змесце нумара, дзе здабыць матэрыялы, дзе друкаваць газету, як своечасова даставіць на аэрадром, каб самалёты, якія ляцелі ў тыл ворага бамбіць варожыя аб'екты ці на сувязь з партызанамі, маглі ўзяць тыраж газеты і раскідаць у патрэбным месцы. Трэба было хадзіць у Палітупраўленне фронту дакладваць аб выкананні задання і атрымліваць новыя ўказанні. Усё гэта рабіў Міхась Ціханавіч з усведамленнем партыйнай адказнасці за даручаную важную справу.

Гэтыя штодзённыя клопаты адцягвалі яго ўвагу ад думак пра лёс сям'і. Толькі вечарамі, калі лажыліся спаць (мы з ім спалі ў адной палатцы) і калі над намі з цяжкім гулам і падвываннем ляцелі армады «юнкерсаў» бамбіць Маскву, думы яго былі там, дзе засталіся Марык і Хана Абрамаўна. У час такога роздуму ён неяк звярнуўся да мяне: «Як ты думаеш, што цяпер робіць мой Марык?» Я не мог сказаць праўду, што я думаю. Тады ўжо да нас даходзілі весткі аб зверствах фашыстаў, аб масавым знішчэнні імі яўрэяў. Сказаў — не ведаю, што і мае робяць і дзе яны наогул.

У той час яшчэ многія з нас не ведалі пра лёс сваіх сем'яў. Пасылалі пісьмы ў Маскву ў Саюз пісьменнікаў з надзеяй, што там ёсць якія-небудзь весткі. І вось нарэшце (калі не памыляюся, у жніўні месяцы) я атрымаў радасную вестку. Прынесла мне яе пісьмо Віктара Віктаравіча Гольцава, які паведамляў, што мая сям'я — Алена Канстанцінаўна з Ігарам і Людай — знаходзіцца ў Вялікіх Бурасах Саратаўскай вобласці. Цяпер я з імі мог звязацца непасрэдна. Як хутка высветлілася, там у гэты час былі сем'і і іншых нашых пісьменнікаў. Міхасёвай там не было.

Газету мы выпускалі больш-менш рэгулярна, калі гэтаму не перашкаджалі непрадбачаныя франтавыя прыгоды. Матэрыялам служылі зводкі Саўінфармбюро, навіны, якія мы атрымлівалі непасрэдна з фронту, а таксама скупыя весткі, што даходзілі да нас з роднай беларускай зямлі. Рэдакцыя папоўнілася новымі супрацоўнікамі, якіх мы сустрэлі з радасцю. Гэта былі Пятро Глебка, які прыйшоў пад Гнёздава ў лапцях, з пацёртымі нагамі, і Пімен Панчанка. А ў жніўні месяцы, калі мы былі на Бранскім фронце, прыехалі Пятрусь Броўка, Максім Танк, Алесь Кучар.

Як даходзіць газета да нашых «падпісчыкаў», мы пэўных вестак не мелі. Пры такім спосабе дастаўкі, якім мы маглі карыстацца, на многае разлічваць не прыходзілася. Часамі даведваліся, што «пошта» дайшла па назначэнню, і былі задаволены, што працуем не ўпустую.

Часамі наш адказны рэдактар прыходзіў з Палітупраўлення заклапочаным. Ёсць навіны, дагадваліся мы. І не вельмі прыемныя. Аказвалася, што франтавыя абставіны зноў прымушаюць пераязджаць на новае месца. Зараз жа Міхась расцілаў карту, і пачыналася вывучэнне маршруту: дзе тое месца і як да яго дабрацца. Адвячоркам Міхась падаваў каманду «па конях» і мы адпраўляліся ў дарогу. Паколькі ехаць прыходзілася ноччу з патушанымі фарамі, то не абыходзілася і без прыгод. Помню, як наша «друкарня» перакулілася ў кювет і пераламала нагу наборшчыку, як мы пры святле ліхтарыка збіралі прыгаршчамі перамешаны з пяском шрыфт. Былі мы на Заходнім фронце — пад Смаленскам і пад Ельняй, на Цэнтральным — пад Гомелем, на Бранскім — пад Карачавам. Тут і трапілі ў пераплёт, калі немцы рушылі на Маскву. Выбіраючыся з «мяшка», мы доўга ехалі па шпалах нейкай вузкакалейкі, пакуль праскочылі гарлавіну і накіраваліся на Бялёў.

Па волі таго, хто накіроўваў нашу работу, мы праз нейкі час апынуліся ў Маскве. Тут нам не прыходзілася круціць

саматугам нашу «друкарню», нам далі магчымасць друкаваць газету ў друкарні «Известий».

Апрача скупых старонак свае газеты, мы цяпер мелі магчымасць друкавацца і ў іншых газетах і часопісах. Усе нашы творы заклікалі на бязлітасную барацьбу з ворагам, выкрывалі фашысцкія зверствы, выказвалі ўпэўненасць у хуткай перамозе.

Пасля разгрому немцаў пад Масквой мы спадзяваліся, што недалёка той час, калі і наша шматпакутная Беларусь будзе вызвалена. Аднак прайшло яшчэ нямала часу, адбылося шмат грандыёзных бітваў, пралілося шмат крыві, пакуль нашы надзеі збыліся. Але мы цвёрда верылі ў блізкую перамогу і рыхталіся да жаданага звароту на родную беларускую зямлю.

Вялікую работу ў гэтым кірунку праводзіў Цэнтральны Камітэт КПБ, які знаходзіўся ў Маскве. Браліся на ўлік беларускія кадры, што знаходзіліся ў эвакуацыі ў розных гарадах краіны, у радах Савецкай Арміі, у нямецкім тыле. Улічвалася ўсё, што патрэбна будзе, каб разгарнуць работу на роднай зямлі, як толькі вернемся. Пад Масквой хутка пачаў работу Беларускі дзяржаўны універсітэт, было створана Беларускае выдавецтва, якое пачало выдаваць сваю прадукцыю.

Міхасю Ціханавічу таксама работы прыбавілася. Апрача абавязкаў рэдактара газеты клікалі да справы і абавязкі старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Ён выступаў у друку з публіцыстычнымі артыкуламі, удзельнічаў у літаратурных сходах і нарадах, якія адбываліся ў клубе Саюза пісьменнікаў СССР, наладжваў сувязі з беларускімі пісьменнікамі, якія былі ў іншых месцах, у першую чаргу з народнымі пісьменнікамі — Янкам Купалам і Якубам Коласам, з якімі ў яго былі цёплыя сяброўскія адносіны.

У Маскве мы часта сустракаліся з нашымі сябрамі — рускімі пісьменнікамі, з нашымі суседзямі — украінцамі, літоўцамі, народы якіх таксама пакутавалі пад фашысцкай акупацыяй. Прыходзячы да нас, яны, зразумела, траплялі перш за ўсё да старшыні — Міхася Лынькова, які заўсёды рад быў такому здарэнню і клікаў нас на сяброўскую сустрэчу.

Здаралася нам час ад часу сустракацца і з народнымі мсціўцамі, якія на кароткі час прыляталі ў Маскву па выкліку партызанскага штаба. Іх расказы аб гераічнай барацьбе народа, аб фашысцкіх зверствах, аб подзвігах савецкіх людзей мы слухалі з вялікім хваляваннем.

У тое лета пасцігла нас вялікае гора, якое адазвалася болем у сэрцы ўсяго беларускага народа, — трагічна загінуў народны паэт Янка Купала.

Гэта жахлівае здарэнне глыбока ўразіла і засмуціла ўсіх нас. Калі, даведаўшыся пра гэту бяду, я зайшоў да Міхася Ціханавіча (у гасцініцы «Масква»), то застаў яго ў слязах. У такім стане я ніколі не бачыў гэтага мужнага, стрыманага ў выражэнні сваіх пачуццяў чалавека.

Пасля разгрому гітлераўцаў пад Сталінградам мы былі цвёрда ўпэўнены, што ўжо недалёка той дзень, калі вернемся на родную беларускую зямлю. У канцы 1942 года асноўная група работнікаў рэдакцыі нашай газеты была дэмабілізавана і паступіла ў распараджэнне ЦК КПБ. Кожнаму з нас была даручана пэўная работа з улікам блізкага звароту на радзіму.

Вызваліўшыся ад абавязкаў рэдактара газеты «За Савецкую Беларусь», Міхась Ціханавіч цяпер больш увагі аддаваў пісьменніцкім справам. Прыходзілі весткі аб тым, што яшчэ адзін беларускі пісьменнік аказаўся жывы і здаровы і знаходзіцца на фронце або дзе-небудзь працуе на гэтым баку фронту. Міхась заўсёды рад быў гэтай вестцы. «Кондрацій! (так ён звычайна называў мяне на царкоўны лад). Возрадуемся і возвеселімся. Яшчэ адзін наш соплеменнік і сочлен Союза нашага обретошася во живых». І зараз жа спяшаўся наладзіць сувязь з гэтым «сочленам».

Усё часцей здаралася нам цяпер сустракацца з землякамі, якія прыбывалі ў Маскву з варожага тылу, — з партызанамі, падпольшчыкамі, якія прыносілі нам і сумныя і радасныя весткі з беларускай зямлі, расказвалі, як наш народ гераічна змагаецца з ненавісным ворагам. Калі чалавек расказваў нешта пра Мінск, Міхась з затоенай надзеяй пытаўся, ці не чуў той чаго-небудзь пра яго сям'ю. Неяк нават была з'явілася чутка, што сям'я яго жыва і здарова, але хутка высветлілася, што гэта было толькі выказанае некім меркаванне.

Такія сустрэчы і асабістыя франтавыя ўражанні жывілі нашу тагачасную творчасць. Міхась Лынькоў, апрача публіцыстычных артыкулаў, напісаў шэраг апавяданняў, якія былі выдадзены асобным зборнікам пад назвай «Астап». Але на ўвазе ён меў нешта куды больш значнае і ўжо ў той час збіраў матэрыял і рыхтаваўся да ажыццяўлення свае вялікай задумы.

У Мінск мы прыехалі дні праз чатыры пасля яго вызвалення часцямі Савецкай Арміі. Усе гэтыя дні ад пачатку аперацыі «Баграціён» мы былі ва ўзнятым, радасным настроі, але, калі ўбачылі Мінск сваімі вачамі, смутак і боль сціснулі нашы сэрцы. Ён увесь ляжаў у руінах, і нават цяжка было пазнаць вуліцы, на якіх мы некалі жылі. Цяжка было ўявіць, колькі спатрэбіцца часу і самаахвярнай чалавечай працы, каб

узняць яго з руін. Цяжка было пра тое думаць, колькі людзей, як і Міхасёў Марык, не ўстануць, каб прыняць удзел ва ўсенародным працоўным подзвігу.

Пісьменніцкае жыццё ў Мінску было складаным. Не было дзе пакуль што не толькі друкаваць свае творы, але многім і жыць. І з творчымі і з бытавымі пытаннямі звярталіся да старшыні. Прыходзілі з клопатамі аб жыллі і аб прадуктовых картках і з свежымі рукапісамі. І кожнаму Міхась Ціханавіч стараўся дапамагчы. А былі ж яшчэ і іншыя важныя грамадскія справы і партыйныя даручэнні. У 1945 годзе ў складзе беларускай дэлегацыі прыйшлося ехаць у Сан-Францыска на канферэнцыю па ўтварэнню Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. А яшчэ ж па сумяшчэнню трэба было несці абавязкі дырэктара Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР і аднаўляць навуковую працу на руінах раней створанага і здабытага.

А яшчэ чакаў пісьмовы стол, за які не было часу сесці, каб рэалізаваць творчыя задумы. А задума была глыбокая: адлюстраваць у шырокім ахопе веліч падзей, гераічныя подзвігі савецкіх людзей у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Грунтоўна ўзяцца за гэту працу змог Міхась Ціханавіч толькі тады, калі больш-менш усталявалася ўзрушанае вайной жыццё, калі наладзіўся асабісты побыт. У гэты час спадарожніцай і добрай памочніцай ва ўсіх яго справах стала Соф'я Захараўна.

Спатрэбілася дзесяць гадоў напружанай працы, пакуль творчая задума пісьменніка стала рэальнасцю і з'явіўся найбольш значны твор Міхася Лынькова — раман-эпапея «Векапомныя дні», высока ацэнены савецкай грамадскасцю.

Калі твор рыхтаваўся да выхаду ў свет асобным выданнем, Міхась Ціханавіч папрасіў мяне быць яго рэдактарам. Я даў згоду... падумаўшы. На роздум наводзіла пэўная несумяшчальнасць нашых з ім літаратурных жанраў і стыляў. Маючы справу з драматургіяй і байкамі, я па неабходнасці павінен быў імкнуцца да сціслага выражэння думкі, клапаціцца аб стройнасці кампазіцыі, аб выразнасці сюжэтнай лініі.

Міхась любіў шырокі прастор, які б даваў яму магчымасць абмаляваць сітуацыю з усіх бакоў, «абсмактаць», так сказаць, кожную дэталь, і з тым большым смакам, чым больш яна з'яўлялася камічнай або забаўнай.

І гэта не толькі ў творчасці. У сяброўскай кампаніі ён любіў расказваць розныя гісторыі, якія здараліся з ім самім ці з кім-небудзь іншым. Некаторыя з гэтых гісторый былі вядомы слухачам і раней, але, дасціпна расказаныя аўтарам, упрыгожаныя яркімі штрыхамі і дэталямі, якіх у сапраўднасці

магло і не быць, яны слухаліся з цікавасцю і выклікалі жывую рэакцыю. Калі ж знаходзіўся які-небудзь Фама Няверны і заўважаў, што гэтага не магло быць або было не так, Міхась коратка парыраваў: «Уюнаша! Не люба, не слухай, а лгаць не перашкаджай» — і працягваў далей.

Некаторыя з гэтых гісторый мы слухалі па некалькі разоў і амаль кожны раз з новымі прыдумкамі. Усе разумелі, што гэтыя прыдумкі — не якая-небудзь банальная хлусня, а праяўленне пісьменніцкай творчай фантазіі, у выніку чаго звычайны факт можа стаць яркай дэталлю мастацкага твора.

Ужо чытаючы раман, надрукаваны спачатку ў часопісе «Полымя», я звярнуў увагу на гэтыя ўласцівыя яго аўтару асаблівасці. Шырокі ахоп падзей у часе і ў прасторы, неабавязковасць прытрымлівацца цесных сюжэтных рамак абумоўлівалі пэўную кампазіцыйную рыхласць твора; захапленне асобнымі дэталямі часамі выводзіла апавяданне з агульнага, і без таго шырокага, рэчышча далёка на абалону. Я сумняваўся, ці спраўлюся з рэдагаваннем такога твора, прывыкшы да маламерных габарытаў сваіх твораў і жорсткіх патрабаванняў у дачыненні да кампазіцыі і сюжэта. Аднак усё абышлося без канфліктаў і рознагалоссяў. Былі толькі разважанні і меркаванні. Часамі, пачуўшы нечаканую для сябе маю прапанову, Міхась надзімаў шчокі, як ён рабіў гэта заўсёды, калі трэба было падумаць раней, чым сказаць, а пасля з шумам выпускаў паветра і гаварыў: «Глядзі, уюнаша, ці не занадта ты тут». «Можа, і занадта, — адказваў я. — Глядзі сам. Май на ўвазе, што я драматург. Мае меркі, можа, табе і не падыходзяць». Аўтару, вядома ж, шкада было эпізоду, у які ён улажыў шмат працы і творчай фантазіі. Мне таксама падабаўся напісаны па-майстэрску эпізод. Але, паўздыхаўшы, мы нарэшце выра шылі ахвяраваць ім у імя цэлага і больш значнага. У выніку нашай такой работы аб'ём рамана зменшыўся аркушаў на чатыры ці на пяць.

Я думаў, што Міхась, чаго добрага, агледзіцца і будзе каяцца, што запрасіў мяне ў рэдактары. Аднак, калі праз некалькі гадоў пачалася падрыхтоўка твора да новага выдання, ён зноў запрасіў мяне быць рэдактарам. На жаль, я быў заняты нейкай тэрміновай справай, што не давала мне магчымасці выканаць Міхасёву просьбу ў патрэбны тэрмін. Цяпер я думаю, што Лынькоў прасіў мяне рэдагаваць яго твор, якраз маючы на ўвазе тую несумяшчальнасць нашых жанраў і стыляў.

Пасля таго як праз хваробу лёгкіх Міхась Ціханавіч вымушаны быў пакінуць работу ў Інстытуце літаратуры АН БССР, мы нячаста з ім сустракаліся: на пісьменніцкіх

сходах або калі ён прыходзіў у Акадэмію на сесію ці на пасяджэнні вучонага савета па абароне дысертацый. Прыходзілася падымацца на чацвёрты паверх. Для яго гэта было з кожным годам усё цяжэй. Спачатку ён спыняўся перадыхнуць на кожным паверсе, а пасля ледзь не на кожнай ступеньцы. Балюча было глядзець, як ён задыхаецца і зяхае, ловячы паветра. Але і ў гэтыя гады ён не адчуваў сябе адзінокім. Да яго прыходзілі пісьменнікі — і старэйшыя і маладзейшыя — атрымаць параду, з новымі творамі, проста пагутарыць. З Акадэміі прысылалі на водгук або на рэдагаванне навуковыя працы, пісалі пісьмы выбаршчыкі з просьбай дапамагчы ў якой-небудзь справе. Акуратны і дысцыплінаваны ва ўсіх справах, ён адносіўся да ўсіх, хто да яго звяртаўся, самым уважлівым чынам, стараўся дапамагчы і словам і справай. Ад яго ніхто і ніколі не выходзіў пакрыўджаны і незадаволены.

Летам Міхась Ціханавіч адпачываў на Нарачы. І тут яго часта наведвалі сябры-прыяцелі і добрыя знаёмыя, якія заўсёды сустракалі сардэчную гасціннасць гаспадара і гаспадыні. Самым першым пачастункам, вядома ж, была рыбалка. Міхась Ціханавіч, якога мы жартуючы называлі марскім воўкам, стараўся прадэманстраваць рыбацкую снасць — спінінгі, дарожкі, лодачныя маторы розных марак і свае «марацкія» якасці.

Летам мы з ім адпачывалі ў розных месцах. Не звязаны цяпер са службовымі абавязкамі, Міхась праводзіў лета на Нарачы, палюючы, наколькі дазваляла яму здароўе, на шчупакоў, а я ў час адпачынку вудзіў яршоў у Мінскім моры. Гэтымі, у значнай меры міфічнымі для мяне, шчупакамі ён часта і спакушаў пры сустрэчы: «Дай ты адпачыць сваім небаракам-яршам. Нарачанскія шчупакі чакаюць цябе — хочуць паглядзець, што ты за рыбак такі. Прыязджай са чады і дамачадцы. Месца ў мяне хопіць для ўсяго твайго кааператыва, а вадзіцы ў Нарачы — тым больш». Я абяцаў, але ўсё адкладваў: то мне самому што-небудзь перашкаджала, то «чады» былі не ў парадку. Нарэшце ў 1972 годзе я ўсё-такі сабраўся і, як запрашаў Міхась Ціханавіч, «са чады і дамачадцы» прыбыў на славутыя берагі Нарачы, і мы запоўнілі ўсе свабодныя пакоі Міхасёвай хаты. Тут было ўсё для прыемнага адпачынку ў найлепшым выглядзе: і ласкавыя нарачанскія хвалі, і цёплыя прамяні летняга сонца, і не менш цёплая гасціннасць гаспадара і гаспадыні — Соф'і Захараўны. Міхасёва хвароба не давала яму, як бы таго хацелася, самому завінуцца каля матораў, але пад яго камандай быў

устаноўлен на лодку самы магутны матор, і мы пусціліся ў круганарачанскае падарожжа. Адганяючы спёку, сустрэчны вецер трапаў наша лёгкае адзенне, а на карме ў сінім спартыўным касцюме і ў шэрым берэце з усведамленнем адказнасці моманту кіраваў маторам сам «марскі воўк», выпісваючы віражы ўздоўж нарачанскага ўзбярэжжа. Шчупакоў я, праўда, не бачыў ды і не спрабаваў іх турбаваць. Яны мяне таксама, напэўна, не ўспелі разгледзець, але прагулка ўдалася на славу, і мы шчасліва прыбылі ў родную Міхасёву «гавань». Праўда, «марскому воўку» нават з нашай дапамогай цяжкавата было ўзбірацца на круты бераг, але ён быў задаволены, што выканаў абавязак гасціннага гаспадара — пачаставаў нас тым, што для самога было вялікай асалодай.

Другая ў літаратурным сэнсе «пламенная страсть» Міхася Ціханавіча — «цяпельца» — таксама была ўсім вядома. У садзе ў яго было адмысловае месца для вогнішча і падрыхтаваны запас гаручага. І на гэты раз ён развёў сваё ўлюбёнае цяпельца, сеў на прыладжаную тут жа каля плота лаўку і запрасіў мяне. Спераду нас грэла цяпельца, зверху негарачае ў гэты дзень жнівеньскае сонца, а ззаду, з возера, павяваў лёгкі ветрык. Падышоў яшчэ нехта, мы загаварыліся і прасядзелі так гадзіны дзве.

К вечару ў Міхася пачала падымацца тэмпература, а раніцай ён ужо не мог падняцца з пасцелі, і каля яго пачалі завіхацца доктар і сёстры з кіслароднымі падушкамі.

Мне цяжка было развітвацца з ім у такім стане. Я адчуваў і нейкую сваю віну — чаму не засцярог яго ад таго, як мне здавалася, лёгкага ветрыку.

На шчасце, на гэты раз небяспечнае абвастрэнне стараннем дактароў было ліквідавана. Мы з ім пасля гэтага яшчэ сустракаліся некалькі разоў. Неяк нават разам у бальніцы ляжалі, і я першы, пачуўшы па радыё, прынёс яму ў палату радасную вестку аб узнагароджанні яго ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння.

Тым часам цяжкая хвароба набліжала непазбежны фінал. У 1975 годзе я апошні раз бачыў яго на сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Ён зусім дрэнна сябе адчуваў, і ў перапынку я завёз яго дадому.

Вечарам 21 верасня пазваніў мне Максім Танк і паведаміў сумную вестку...

*1979*

## ЦІ БУДЗЕМ МЫ ЕЗДЗІЦЬ ПА ЛЕВЫМ БАКУ?

Еду я часамі па вуліцы ці па дарозе і думаю: «Як добра, што наша ДАІ (Дзяржаўная аўтаінспекцыя) так клапоціцца аб жыцці і здароўі людзей, перасцерагае ад паломкі машын». Толькі ты сабраўся зрабіць паварот, а перад вачыма вертыкальная страла — каці прама! І коціш. А не паслухаеш — дзірку праб'юць, а то і правы адбяруць. Смаліш далей, а тут ужо крывая стрэлка з надпісам: «Аб'езд», наперадзе нештанейкае: паедзеш, у бяду трапіш. Можа, яшчэ горшую, чым тая дзірка. Трасешся па калдобінах на аб'ездзе, дзякуеш «Правілам дарожнага руху» за іх гуманную перасцярогу і думаеш: «Вось бы такія правілы моўнага руху». Правілы такія, праўда, ёсць: граматыка, правапіс, нарматыўныя слоўнікі, але такія, ды не такія. У іх нічога не сказана пра дзірку: калі яе прабіваць, у якім месцы і хто гэта павінен рабіць. А трэба было б. І правілы ўсё яшчэ парушаюцца. Праўда, пасля пашыранай нарады, якая адбылася ў 1972 годзе, і выступленняў у друку па гэтаму пытанню аматараў ездзіць па левым баку стала менш і ў друку за блытаніну яны не выступаюць: калі блытаюць, дык паціху, без дэкларацый.

Адхіленні ад граматычных норм і правапісных правіл бываюць па розных прычынах. Пішуць у наш час усе, але не ўсе добра ведаюць гэтыя нормы і правілы. Калі закаханы юнак выказвае дзяўчыне ў пісьмовай форме свае палкія пачуцці і ў кожным радку робіць арфаграфічныя памылкі, дык гэта яшчэ паўбяды. Можа, яно ад вялікага хвалявання. Але калі такое трапляе на старонкі друку, дык тут ужо трэба біць трывогу. Яшчэ горш, калі мову псуюць «з добрымі намерамі».

Часамі можна пачуць заўвагу, што і «самі» пісьменнікі не прытрымліваюцца правіл. Такое бывае. Але часцей за ўсё не таму, што яны гэтых правіл не ведаюць. Выкарыстоўваючы багатыя маляўнічыя сродкі мовы, яны часцей за ўсё робяць гэта наўмысна і свядома. Каб надаць персанажам сваіх твораў характэрныя рысы, яны часамі дазваляюць ім гаварыць сваёй мовай, якая не заўсёды ў ладах з граматыкай і правапісам. І ў аўтарскай мове яны не цураюцца, бывае, слоў і выразаў роднай мясцовай гаворкі, што дапамагае ім больш ярка адлюстраваць багатае фарбамі жыццё, выказаць свае думкі і пачуцці. Гэтыя адхіленні — заканамерныя. Яны абумоўлены творчай задачай пісьменніка. Без патрэбы пісьменнік гэтага не робіць. Існуючыя нормы і правілы яму не перашкаджаюць, і без занядбання іх у яго ёсць шырокі прастор

для выяўлення сваіх здольнасцей і магчымасцей. Але ёсць сярод пісьменнікаў (іх, праўда, адзінкі) і аматары ездзіць па левым баку. Для іх агульнапрынятыя правілы і нормы не існуюць. Па шляху да хуткай славы яны імчаць напрасцяк, і ніякія дарожныя знакі — ні клічнікі, ні «цагліны» — іх не спыняюць.

Гэта пра індывідуальную мову пісьменніка, на якую ў разумных межах ён мае права.

А ці мае права на сваю асаблівую, так сказаць, «фірменную» мову тая ці іншая рэдакцыя? Такая тэндэнцыя ў некаторых рэдакцыях праяўляецца досыць выразна. Прыхільнікі гэтай тэндэнцыі стрыгуць усіх аўтараў пад свой грабянец. Аўтар піша: *«Дзякуючы клопатам гэтай добрай, чулай жанчыны...»*, ■ чытае надрукаванае: *«Дзякуючы клопатам гэтае добрае, чулае жанчыны...»* У аўтара было: *«Я напомніў яму, як мы ехалі разам у поездзе і, з выпадку юбілею аднаго знаёмага архітэктара, паслалі яму віншавальную тэлеграму і паднялі бакалы за яго здароўе»*. А пасля таго, як па аўтарскім рукапісе пахадзіла рука праўшчыка, стала: *«Я нагадаў яму, як мы ехалі ў цягніку і, з нагоды юбілею аднаго нашага знаёмага дойліда, даслалі яму віншавальную тэлеграму і ўзнялі келіхі за яго здароўе»*. А ў аўтарскім жа арыгінале як быццам не было ніякіх памылак. (Гэта не цытаты, але тыповыя ўзоры «стрыжкі пад фірменны грабянец».) Тым часам які-небудзь паспешлівы даследчык мовы ўжо і вывады робіць: «Такія формы прыметнікаў жаночага роду і новая лексіка пачынаюць браць верх над традыцыйнымі формамі і ўстарэлай лексікай». У доказ ён прыводзіць прыклады з твораў таго ці іншага «вядомага» ці нават «выдатнага» пісьменніка, які нібыта такія формы і словы шырока ўжывае. А «выдатны» тут, як той казаў, толькі богу душою вінават. Гэта рэдакцыйны праўшчык прычасаў яго пад свой густ.

Між іншым, канчаткі роднага склону прыметнікаў жаночага роду ***-ае (-яе)*** не з'яўляюцца агульнапрынятымі ў беларускай літаратурнай мове, а толькі варыянтнай формай, уласцівай мясцовым гаворкам на абмежаванай тэрыторыі, і намаганні замяніць гэтай формай кароткую форму ***-ай (-яй)***, якая пашырана амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі і даўно ўсталявалася ў літаратурнай мове, не маюць падстаў. Апрача гэтага, такая «стрыжка пад фірменны грабянец» не дае магчымасці меркаваць аб асаблівасцях мовы пісьменніка, на што ён, як гаварылася вышэй, мае поўнае права. У рэдакцыі шмат работы з рукапісам і без такой дробязнай, да таго ж яшчэ і няслушнай, апекі над аўтарам.

Калі ўжо зайшла гаворка аб тым, што ў літаратурнай мове з'яўляецца заканамерным і незаканамерным, дык нельга не сказаць яшчэ аб адной тэндэнцыі, якая, на маю думку, з'яўляецца не толькі незаканамернай, але і недарэчнай. Прыхільнікі гэтай тэндэнцыі (іх нямнога, але яны часамі маюць магчымасць прыкладваць руку да аўтарскага рукапісу) клапоцяцца ўжо не аб нейкай там прымітыўнай «фірменнай мове», а падводзяць пад сваю дзейнасць «тэарэтычную базу». Яны, бачыце, псуюць мову ў імя «высокай ідэі», змагаючыся за «беларускасць» беларускай мовы. Здавалася б, што ў гэтым дрэннага, калі людзі дбаюць пра якасць мовы, змагаюцца за яе ўзбагачэнне і ўдасканаленне. Дык жа не гэта яны маюць на ўвазе і робяць, калі ёсць у іх такая магчымасць. У імя «высокай ідэі» яны выкасоўваюць з рукапісу словы, якія з'яўляюцца агульнымі для беларускай і рускай моў, і замяняюць іх словамі мясцовых гаворак або штучнымі наватворамі, не заўсёды дакладнымі па значэнню, але затое «чыста беларускімі». Слова *палажыць* яны замяняюць словам *пакласці*, хоць *палажыць* беларусы гавораць з таго часу, як яны сталі беларусамі. *Пакласці* падыходзіць для тых выпадкаў, калі што-небудзь кладзецца не ўсё разам, а па адным прадмеце, па частках ці ў некалькі прыёмаў. Напрыклад, яблыкі на стол можна *палажыць* (скажам, разам з сеткай) і *пакласці* — кладучы па адным ці па некалькі. *Пакласці* ўжываецца ў некаторых гаворках і ў першым сэнсе, але гэта ўжо дыялектызм, і ніякай разумнай падставы няма для таго, каб замяняць ім ва ўсіх выпадках слова *палажыць*.

Выкасоўваюць слова *поезд* і пішуць *цягнік*. А між іншым, сам *поезд* з'явіўся значна раней, чым слова *цягнік*, якое пачалі ўжываць, калі не памыляюся, недзе ў дваццатыя гады. Гэта — калька, утвораная па ўзору польскага *поцёнг*, чэшскага *влак*, нямецкага *цуг*. А слова *поезд* беларусам не цяжка было засвоіць, бо яно, толькі з іншым націскам *(паязд)*, было ў народнай мове і да з'яўлення чыгункі. Гэта слова мае зборнае значэнне і азначае прылады для язды — калёсы, сані. А яшчэ — вясельны картэж, калі маладыя ехалі да вянца або з вянца. Таму слова *поезд* лёгка ўвайшло ў літаратурную мову. Дык хто ж мае права, фігуральна кажучы, сцягваць аўтара з поезда і садзіць на цягнік.

У сілу той жа недарэчнай тэндэнцыі выкасоўваюцца словы — *успомніць*, *напомніць*, *напамянуць*, і замяняюцца словамі — *згадаць*, *прыгадаць*, *нагадаць* у той час, як першыя з даўніх часоў з'яўляюцца пашыранымі ў беларускай мове, а

другія — вузкадыялектычныя і нават у мясцовых гаворках рэдка сустракаюцца. У слоўнікі яны трапілі з кніг і даюцца звычайна з пэўнымі стылістычнымі паметамі, але ў некаторых рэдакцыях зразу сталі фаварытамі.

Не даспадобы і такое абжытае і ўсім добра вядомае слова як *падняць*. Дзе слушна, а дзе (часцей за ўсё) няслушна, яно замяняецца словам *узняць*, хоць апошняе па значэнню не прыкрывае першага слова, якое можа ўжывацца ва ўсіх выпадках, калі гаворка ідзе пра дзеянне, якое тут маецца на ўвазе. *Узняць* больш падыходзіць для высокага стылю, а таксама ўжываецца ў тых выпадках, калі маецца на ўвазе *падняць* каго-небудзь ці што-небудзь на вялікую вышыню, калі дзеянне патрабуе вялікага намагання, калі трэба падкрэсліць яго асаблівую сілу, інтэнсіўнасць, значнасць: *узняць сцяг перамогі, узняць аж на дваццаты паверх, мех — як узняць, не ўзняць галавы ад падушкі, узняць буру пратэсту, узняць вытворчасць, узняць крык, узняць хмару пылу, узняць руку на жанчыну.* Але *карандаш з падлогі, руку для галасавання, тэмпературу на некалькі градусаў, падол сукенкі, пакрывала* і шмат што іншае, вядома ж,— *падняць*. Тым не менш — *«узнімаюць»*.

Непажаданым з'яўляецца і такое добрае, я б сказаў, цёплае слова як *пагода* і замяняецца словам *надвор'е*. Словы гэтыя ў беларускай мове раўнапраўныя, але зноў жа маюць пэўныя сэнсавыя адценні. Слова *пагода* проціпастаўляецца слову *непагадзь* і, калі яно ўжываецца без прыметніка, азначае сонечную пагоду. *«Два дні пагоды і сена будзе сухое»* — скажа старшыня калгаса. Зразумела, што тут гаворка ідзе пра сонечную пагоду. А пра надвор'е так не скажаш — трэба дадаваць эпітэт — *добрае, дрэннае*, бо ў паняцце *надвор'е*, апрача яснай ці дажджлівай пагоды, уваходзяць і іншыя кліматычныя адзнакі: *холад, цяпло, вільготнасць паветра.* Як ні здаецца гэта парадаксальным, але і пры «дрэннай» (нясонечнай) пагодзе можа быць добрае надвор'е. Нічога дзіўнага, калі вы пачуеце ад агародніка: *«На агуркі сёлета годзіць. Надвор'е добрае: ночы цёплыя, дажджы праходзяць».*

Слова *паслаць* (пасылку, пісьмо, карэспандэнцыю) замяняецца словам *даслаць*. Але гэта не тое ж самае. *Даслаць* што-небудзь можна ў дадатак пасланага ўжо або ў сэнсе — прымусіць дайсці да свайго месца (*даслаць* патрон у патроннік).

Слова *вызваліць* прапануецца замяняць *выслабаніць*; *архітэктар* — словам *дойлід*; слова *вывад* замяняецца наватворам *выснова*.

А што ж гавораць наконт гэтых слоў помнікі старабеларускай пісьменнасці? Часта сустракаецца ў іх (у розных фанетыка-марфалагічных варыянтах) слова *ўспомніць* (*успомнеце, успомнити, успоменути, успоменети* і г. д.). Выяўлены таксама формы *напоменути, напоменети, напоменуть*. Дзеясловаў *нагадаць, згадаць, прыгадаць* у гэтых помніках няма.

Дзеясловы *падняць* і *ўзняць* сустракаюцца прыблізна ў аднолькавай колькасці.

Вельмі часта ўжываецца слова *паслаць*, але не выяўлена слова *даслаць*.

Сустракаецца зрэдку слова *дойлід*, але толькі ў значэнні *цясляр*, а не *архітэктар*. Цяпер гэта слова даецца ў слоўніках з паметай *устар.* і адпавядае рускаму *зодчий*.

У картатэцы Гістарычнага слоўніка беларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН БССР налічваецца каля 300 картак на слова *причина*, але няма ніводнай *нагоды*. *Выпадку*, між іншым, таксама няма. У значэнні яго ўжывалася слова *припадок*.

*Палажыць* (*положить*) было ў старабеларускай мове пашыраным словам. *Пакласці* ўжывалася пераважна ў спецыфічным выразе *«покласти рубежи»*.

Форма *зялёнае* (родны склон) у помніках пісьменнасці з'яўляецца больш старажытнай. Пазней на яе месцы ўтварылася форма *зялёнай*, якая, як сведчаць матэрыялы, сабраныя дыялектолагамі, пашырана цяпер на большай частцы тэрыторыі рэспублікі. Старажытная форма захавалася ў асобных гаворках паўднёва-заходняй часткі Беларусі (слуцкіх, капыльскіх, любанскіх, драгічынскіх), але ў некаторых рэдакцыях *зялёная вуліца* даецца толькі гэтай больш архаічнай форме.

Словы *ўспомніць, прыпомніць, напомніць* пашыраны на ўсёй тэрыторыі Беларусі, а *прыгадаць* зафіксавана ў Капыльскім, Слуцкім, Любанскім, Драгічынскім раёнах; *нагадаць* — толькі ў Іўеўскім. Але і ў гэтым выпадку выключная перавага аддаецца рэдкім асаблівасцям мясцовых гаворак.

Словы *падняць* і *ўзняць* ужываюцца на ўсёй тэрыторыі, у асноўным ва ўласцівым ім значэнні, але для «фірменнай мовы» падыходзіць толькі *ўзняць*. *Паслаць* пашырана скрозь, а *даслаць* (у значэнні *паслаць*) выяўлена толькі ў асобных рэдкіх выпадках у Капыльскім і Карэліцкім раёнах.

*Прычына* і *выпадак* ёсць усюды, а слова *нагода* ў народных гаворках не выяўлена. Праўда, гэта слова ўтворана заканамерна ад дзеяслова *нагадзіцца*, што адпавядае рускім словам *повернуться, оказаться, случиться, встретиться,* і калі

рускае *по случаю* перакладаюць выразам *з нагоды*, то тут скажэння сэнсу няма, але калі ў аўтара напісана *з выпадку*, дык няма падставы яго папраўляць.

*Вывад* — у гаворках як слова кніжнае ўжываецца рэдка, а *выснова* не ўжываецца зусім.

*Палажыць* — ёсць усюды, а *пакласці*, калі гаворка ідзе пра адзін прадмет, ужываецца ў асноўным у гаворках Слуцкага, Капыльскага, Любанскага, Ашмянскага, Кобрынскага, Ушацкага, Полацкага і некалькіх іншых раёнаў.

*Гэта* пашырана на большай частцы тэрыторыі БССР, *гэтая* — у раёнах Капыльскім, Слуцкім, Карэліцкім і яшчэ некаторых.

*Поезд* ужываецца ўсюды, *цягнік* сустракаецца ў пісьмовых работах вучняў.

Звернемся цяпер да класікаў беларускай літаратуры. У першую чаргу да таго з іх, хто ўжыў найбольшую колькасць беларускіх слоў,— да народнага паэта Якуба Коласа. У 14 тамах яго твораў налічваецца каля мільёна славаўжыванняў. Сярод іх *успомніць* — 199, *прыгадаць* — 60, *згадаць* — 30; *напомніць* — 27, *нагадаць* — 1; *падняць* — 280, *узняць* — 60 (ва ўласцівым гэтаму слову значэнні); *паслаць* — 120, *даслаць* — 5; *пагода* — 125, *надвор'е* — 44; *вывад* — 25, *выснова* — няма (у вершах два разы сустракаецца слова *высноўка*); *палажыць* — 95, *пакласці* — 14 (аб адным прадмеце); *поезд* — 125, *цягнік* — 8; *жывой* (родны склон) — 22, *жывое* — 2; *добрай* — 25, *добрае* — 8.

Як бачым, і ў творчасці народнага паэта ў шмат разоў перавышае агульнапрынятая лексіка літаратурнай мовы, і толькі ў нязначнай меры адбіўся на яго мове ўплыў суседніх (пераважна паўднёвых) мясцовых гаворак.

Заглянем цяпер у картатэку сучаснай літаратурнай беларускай мовы. Гэта картатэка ў асноўным мастацкай літаратуры і налічвае ўжо больш за два з палавінай мільёны картак-слоў.

Як вядома, за пасляваенныя гады ў беларускую літаратуру прыйшло шмат маладых пісьменнікаў з розных мясцовасцей Беларусі. У іх мове ў пэўнай меры адлюстраваліся і родныя ім мясцовыя гаворкі. Але дзіўная рэч: некаторыя асаблівасці, якія не выяўлены ў помніках пісьменнасці і толькі зрэдку сустракаюцца ў асобных гаворках або з'яўляюцца штучнымі наватворамі, знаходзім мы і ў творах тых пісьменнікаў з розных куткоў Беларусі, родным гаворкам якіх гэтыя асаблівасці не ўласцівы. Прычым некаторыя з гэтых форм і слоў-заменнікаў мы знаходзім у картатэцы ў

вялікай колькасці. Калі на словы *ўспомніць, успамінаць* налічваецца 492 карткі, дык на словы *прыгадаць, згадаць, прыгадваць* — 710 картак. Што ж гэта за цуд такі, што пісьменнікі з усіх канцоў беларускай зямлі кінуліся, як мухі на мёд, на гэтыя словы? Цуд гэты ствараецца вельмі проста. У некаторых рэдакцыях сядзяць заўзятыя праўшчыкі аўтарскіх рукапісаў, якія старанна «вышпарваюць» словы *ўспомніць, успамянуць, успамінаць* і ўстаўляюць *згадаць, прыгадаць, прыгадваць*.

Такім чынам, раду слоў, большасць якіх з даўніх часоў ужывалася нашымі продкамі і якія ўсе разам шырока бытуюць у народных гаворках і адпавядаюць усталяванай літаратурнай норме, процістаўляецца рад слоў-заменнікаў, абмежаваных па тэрытарыяльнаму пашырэнню, па сэнсаваму значэнню і стылістычных адзнаках. Нават каб яны былі і паўнацэннымі сінонімамі да слоў першага рада, дык і тады адмаўляцца ад набытага багацця не было б сэнсу. Сінонімы — гэта ж таксама моўнае багацце. Успомнім, колькі цудоўных эпітэтаў ёсць у рускай мове для выражэння адабрэння, захаплення, высокай ацэнкі: *прекрасный, прелестный, чудесный, превосходный, великолепный, блестящий, изумительный, восхитительный.* І гэтыя эпітэты не перашкаджаюць адзін аднаму, а толькі служаць багатым сродкам выказвання чалавечага пачуцця.

А якая ж гэта, з дазволу сказаць, культура, якое гэта змаганне за высокую якасць мовы, калі ў выніку яго мова не ўзбагачаецца, а бяднее, калі з яе выкараняюцца словы залатога фонду нашай мовы, якія да таго ж родняць нашы братнія ўсходнеславянскія мовы?

Прыведзеныя прыклады далёка не ахопліваюць усіх фактаў скажэння і псавання мовы «з добрымі намерамі», у імя заганнай ідэі, але іх дастаткова для таго, каб убачыць усю неправамернасць і недарэчнасць тэндэнцыі.

Гэта маё слова ў абарону законных правоў слоў-старажылаў, агульнапашыраных і ўсім зразумелых, адначасова беларускіх і рускіх. Дзіўна, што іх трэба абараняць, але ж прыходзіцца.

А што ж сказаць пра словы-заменнікі? Ці іх таксама «вышпарваць»? Ужытыя на сваім месцы, ва ўласцівым ім значэнні, яны ніякія не заменнікі, а самакаштоўныя словы. Што можна сказаць супроць слоў *надвор'е, узняць, пакласці, даслаць, цягнік*, калі гэтыя словы не прэтэндуюць на большае, чым яны ёсць? Калі я ў Максіма Лужаніна ці ў каго-небудзь з яго землякоў чытаю *прыгадаць, згадаць, нагадаць*, дык мне гэта не рэжа вуха. Гэта словы іх мясцовай ці асабістай,

індывідуальнай гаворкі, якія надаюць іх мове асаблівы каларыт. Нават слова *выслабаніць* можа гучаць натуральна ў вуснах, скажам, літаратурнага персанажа, які не валодае літаратурнай мовай, а ўжывае сваё простае слова, да якога прывык змалку. Не трэба толькі, каб заўзятыя праўшчыкі пры дапамозе гэтых слоў выкаранялі нялюбыя ім нармальныя, паўнапраўныя словы беларускай літаратурнай мовы.

Апрача гэтых, так сказаць, запраграміраваных ненармальнасцей, нямала сустракаецца ў друку і ненармальнасцей спарадычных, выпадковых, якія з'яўляюцца вынікам ці простага няведання мовы, ці пераймання дрэннай моды.

Інтэнсіўная словатворчая дзейнасць праходзіць, як відаць, у канцылярскіх нетрах некаторых гаспадарчых органаў, у выніку чаго мы маем такія «яркія» ўзоры гэтай творчасці, як *Смаргоньсілікатбетон*, *Ваўкавыскцэментаашыфер*, *Рагачоўдрэў*, *Бабруйскшына*, *Гомельграмадскапраект*, *Белэнергарэмналадка*, *Беларусьгуматэхніка*. Так і чакай, што хутка з'явіцца — *Целеханылыжы* і *Баранавічыкаструля*. (У Целяханах вырабляюць лыжы, а ў Баранавічах — каструлі.) Праўда, тут першыя часткі нязручныя для вымаўлення, занадта доўгія. Гэта, пэўна, будзе ўлічана, і мы будзем мець *Целяханлыжы* і *Баранкаструлю*.

Рознае напісанне некаторых катэгорый слоў бывае і ад таго, што ў правапісе беларускай мовы не ўсё рэгламентавана. Некаторыя правілы сфармуляваны не настолькі дакладна, каб паводле іх можна было лёгка вызначыць, як пісаць тое ці іншае слова. Наогул, я хачу паўтарыць сказанае раней, што няма такіх ідэальных граматык і правапісаў, якія б дакладна адлюстроўвалі жывую гаворку. Асабліва вялікія разыходжанні ў гэтых адносінах наглядаюцца ў тых народаў, дзе захоўваюцца старыя традыцыі пісьма. Недарэмна ж жартуюць, што, паводле правапісу англійскай мовы, пішацца — *Ліверпуль*, а чытаецца — *Лондан*.

Беларускі правапіс у асноўным грунтуецца на жывой гаворцы: «пішы, як чуеш». Але гэта лёгка сказаць. Папершае, людзі розных мясцовасцей Беларусі гавораць парознаму; па-другое, трэба ж захоўваць і граматычную структуру слова і адзнакі яго этымалагічнага паходжання. Тут воляй-няволяй укладальнікам правапісу прыйшлося ісці на кампраміс. А ён, як і кожны кампраміс, не вызначаецца закончанасцю і адназначнасцю. Прыходзілася рабіць уступкі то на карысць жывой гаворкі, то на карысць граматыкі. У выніку з'явіліся такія не да канца акрэсленыя правілы, як правіла напісання складаных слоў або склонавых канчаткаў

назоўнікаў мужчынскага роду, што азначаюць асобу чалавека ў канструкцыях з прыназоўнікамі ***пры*** і ***па***. Пішуць — *жыць пры брату* і *пры браце*; *бедаваць па Васілю* і *па Васілі*. Не ўсталявалася яшчэ ў практыцы правіла аб напісанні канчаткаў агульных назоўнікаў мужчынскага роду ў канструкцыях з прыназоўнікам ***па*** (*па стале, па свеце, па носе, але — па прыкладу, па ранжыру, кожнаму па рублю, па карандашу*). Гэтыя моўныя з'явы знаходзяцца, так сказаць, у стане няўстойлівай раўнавагі. Мовазнаўцам да гэтага часу не ўдалося адносна іх выпрацаваць цвёрдых правіл. Але тут вялікай бяды няма, паколькі ад дваякага напісання сэнс напісанага не мяняецца. Правіла ўсё-такі ёсць: хоць дваякае, але не абыякае.

Пэўнай праблемай з'яўляецца і напісанне канчаткаў роднага склону назоўнікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку. Асноўная цяжкасць тут у тым, што напісанне прыходзіцца вызначаць не па граматычнай, а па лагічнай катэгорыі слова. У беларускай мове лагічныя катэгорыі назоўнікаў выразна адрозніваюцца. Назоўнікі мужчынскага роду, што абазначаюць рэчыўныя прадметы і ўсё тое, што ўяўляецца як адзінка, што мае пэўныя межы — прасторавыя, часавыя, геаграфічныя, адміністрацыйныя, арганізацыйныя, а таксама аднакратныя дзеянні (рывок, скачок, штуршок), якія маюць пэўную закончанасць, у родным склоне канчаюцца на ***-а(-я)***. Назоўнікі ж, якія абазначаюць аморфныя рэчывы, дзеянні, працэсы, стан, навуковыя тэорыі, вучэнні, грамадскія плыні і да т. п., канчаюцца на ***-у(-ю)***. Але гэта не так лёгка адрозніць. Тым больш што ёсць нямала слоў, якія паводле іх значэння могуць быць залічаны то да першай, то да другой катэгорыі. *Варона зляцела з дуба* (адзіночны прадмет), але *стол зроблены з дубу* (рэчыва) і *на Гомельшчыне шмат дубу* (зборнае). Такое ж дваякае значэнне часта маюць і назоўнікі, утвораныя ад дзеясловаў: *праход, пад'езд, прыток, пераезд* і шмат іншых. Пры распазнаванні катэгорый мяне ў такіх выпадках амаль заўсёды выручае часцінка ***паў-*** (толькі не *палавіна* і не *палова*). *Паўдома, паўгектара*, але нельга сказаць *паўячменю, паўдарвінізму, паўаналізу*.

Між іншым, спроба вырашэння ўсіх супярэчлівых момантаў правапісу была зроблена. Для гэтага пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР была створана камісія, якая прарабіла пэўную работу. Але ёй пакуль што не ўдалося пераадолець да канца, ці хоць у значнай меры, супярэчнасці, закладзеныя ў самім кампрамісным характары правапісу беларускай мовы. Унесеныя прапановы не настолькі

паляпшалі існуючы правапіс, каб дзеля гэтага варта было яго ламаць. А галаву ламаць над гэтым трэба будзе і далей.

Тым часам у рэспубліцы вядзецца вялікая мовазнаўчая праца. Апрача навукова-тэарэтычных даследаванняў, падрыхтавана і рыхтуецца шмат работ, якія маюць вялікае практычнае значэнне для ўзбагачэння і павышэння культуры беларускай мовы. Шырока разгорнута праца па вывучэнню мясцовых гаворак. У наш час пад уплывам літаратурнай мовы яны хутка нівеліруюцца, і, пакуль яшчэ не позна, трэба ўзняць з глыбінь гэты народны скарб, што з'яўляецца крыніцай узбагачэння літаратурнай мовы і захоўвае яшчэ там-сям моўныя рэлікты, па якіх можна меркаваць аб гістарычным шляху развіцця як беларускай, так і роднасных ёй моў.

Упершыню ў гісторыі Беларусі выдаецца пяцітомны Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У хуткім часе выйдзе яго трэці том. Чацвёрты ўжо таксама здадзены ў выдавецтва. Упершыню выдаецца і Этымалагічны слоўнік беларускай мовы, другі том якога выйдзе з друку ў гэтым годзе. Падрыхтаваны і да канца года будзе канчаткова адрэдагаваны для здачы ў выдавецтва двухтомны перакладны Руска-беларускі слоўнік. У параўнанні з папярэднім выданнем ён змяшчае тысяч на дваццаць больш слоў новых і тых нешырока ўжывальных у рускай мове, якія па прычыне абмежаваных магчымасцей таго часу не ўвайшлі ў ранейшае выданне. Раскрыты сэнс дадатковых значэнняў многіх слоў, якія хоць і былі ў ранейшым выданні, але недакладна распрацаваны.

У сувязі з надыходзячым стагоддзем з дня нараджэння нашых народных паэтаў рыхтуюцца да выдання слоўнікі іх мовы: Слоўнік мовы Янкі Купалы ў трох тамах і Слоўнік мовы Якуба Коласа ў чатырох тамах.

Паспяхова вядзецца праца і над Гістарычным слоўнікам беларускай мовы, першыя выпускі якога падрыхтаваны ўжо да друку. Хутка будзе здадзены ў выдавецтва і Нарматыўны слоўнік беларускай мовы. Усё гэта будзе служыць далейшаму ўзбагачэнню і павышэнню культуры беларускай мовы.

Канчаючы сваё слова аб некаторых ненармальнасцях у карыстанні моваі, я хацеў бы звярнуцца з заклікам да сваіх сяброў-пісьменнікаў і да ўсіх, хто мае дачыненне да друкаванага беларускага слова: *любіце сваю матчыну мову, родную мясцовую гаворку, але давайце будзем шанаваць і агульнанародны моўны скарб, які здабываўся на працягу вякоў як у часы самастойнага развіцця беларускай мовы, так і ў часы агульнарускай і нават агульнаславянскай моўнай супольнасці.*

А тым, хто мае магчымасць крэмзаць аўтарскі рукапіс, не маючы на гэта належных падстаў, я раіў бы пакінуць марныя клопаты аб недарэчнай «фірменнай мове», «выслабаніць» аўтара ад дробязнай апекі. Не «ўзнімайце» рукі на паўнапраўныя, законна ўжытыя аўтарам словы, не навязвайце яму сілком «нагоды», «высновы» і архаічнага «дойліда» замест сучаснага архітэктара. Не цягніце яго сілком на «цягнік», калі яму больш падабаецца поезд.

Давайце лепш не будзем ездзіць па левым баку.

*1979*

## У ПАМЯЦІ І Ў СЭРЦЫ

Мне не давялося быць у блізкіх адносінах з Янкам Купалам, але вобраз любімага народнага паэта, уражанні ад сустрэч з ім трывала замацаваліся ў маёй памяці і ў маім сэрцы. Чуў у юнацкія гады, што ёсць такі выдатны беларускі паэт — Янка Купала. Часам траплялася мне бачыць і «Нашу ніву», рэдактарам якой ён быў, але самога яго не бачыў. І творы яго не прыходзілася чытаць. З'явілася такая магчымасць толькі ў 1925 годзе, калі з вёскі, дзе працаваў настаўнікам, я пераехаў у Мінск на сталую працу. З вялікай цікавасцю і захапленнем я чытаў творы Янкі Купалы, змешчаныя ў зборніках «Жалейка» і «Шляхам жыцця», выдадзеных яшчэ да рэвалюцыі. Чытаючы іх, я вучыўся пазнаваць глыбіню і хараство яго паэзіі, багацце роднай беларускай мовы, якою можна так хораша і дасканала выказваць свае думкі і пачуцці. Такое ж уражанне на мяне рабіла і першае знаёмства з творамі Якуба Коласа. Сам я хоць ужо і пісаў патроху, нават друкаваўся, але не лічыў сябе сапраўдным пісьменнікам.

У той час, калі я дачыніўся да літаратуры і больш блізка пазнаёміўся з літаратурным асяроддзем, з'яўляючыся членам «Маладняка», пісьменніцкія арганізацыі і розныя іх групоўкі жылі адасоблена і вялі паміж сабою барацьбу, часамі непрынцыповую, змагаючыся за сваё месца пад сонцам, імкнучыся прыцягнуць увагу грамадскасці і заваяваць прыхільнасць і сімпатыі чытача. Змагаліся паміж сабой арганізацыі «Маладняк», «Узвышша», утворанае ў 1926 годзе групай пісьменнікаў, што аддзяліліся ад «Маладняка», «Полымя», у якую

ўваходзілі старэйшыя пісьменнікі, у тым ліку і Янка Купала. На месцы «Маладняка» ўтварылася БелАПП, якая, як і ВАПП, прэтэндавала на правядзенне генеральнай лініі ў літаратуры. Даводзілі грунтоўнасць сваіх пазіцый і прэтэнзій не столькі мастацкімі творамі, колькі дэкларацыямі. Маладыя папракалі «старых», што яны яшчэ не вызваліліся ад нашаніўскіх традыцый і не досыць актыўна змагаюцца за новае, а самі яны гатовы самааддана змагацца за ломку ўсяго старога, за рэвалюцыйныя пераўтварэнні ў сваёй краіне і ва ўсім свеце аж да сусветнай рэвалюцыі. Сярод маладнякоўцаў нават хадзячы лозунг бытаваў: «У рожкі са старымі». «Старыя» глядзелі на гэты малады задзёр хто з крыўдай, а хто з іроніяй: паглядзім, маўляў, што яшчэ з вас саміх атрымаецца. Часамі адказвалі вострай крытыкай з свайго боку.

Янка Купала не прымаў актыўнага ўдзелу ў гэтай барацьбе. У яго была свая думка наконт моладзі і сваё кола блізкіх яму па перакананнях сяброў: Якуб Колас, Цішка Гартны, сёй-той з маладых пісьменнікаў і з работнікаў Інстытута беларускай культуры, у працы якога ён прымаў актыўны ўдзел.

Між іншым, у той час (на працягу аднаго года) і я працаваў у Інбелкульце — у Цэнтральным бюро краязнаўства. Бачыў часамі там і Янку Купалу, але мне ні разу не давялося з ім пагаварыць. Ён, відаць, не адчуваў у гэтым патрэбы, а я не адважваўся турбаваць яго, паказваць тое, што пісаў. Тым больш што яно было, так сказаць, не ў характары яго творчасці.

Больш зблізку я ўбачыў Івана Дамінікавіча на з'ездзе «Маладняка» ў лістападзе 1925 года. На з'ездзе, наколькі я помню, ён не выступаў, але бываў на пасяджэннях і разам з намі фатаграфаваўся. Сядзеў у паліто і зімовай шапцы не на пярэднім плане, а ўсярэдзіне і з ледзь прыкметнай лагоднай усмешкай пазіраў на маладнякоўцаў, якія сядзелі вакол яго. Я глядзеў на яго і думаў, што і яму ж, напэўна, крыўдным было тое задзірыстае маладнякоўскае «ў рожкі са старымі», але ён занядбаў гэтыя шпілечныя ўколы і, праявіўшы ўласцівую вялікаму паэту мудрасць і велікадушнасць, напісаў яшчэ за два гады да з'езда прысвечаны пісьменніцкай моладзі выдатны верш-запавст «Арлянятам», у якім завяшчаў маладому пакаленню, што толькі яшчэ ўступала на творчы шлях, «не гнуць плеч ніколі» ў змаганні за шчасце народа, заклікаў шанаваць заваяваныя здабыткі і самім «арлянятам» прарочыў шчаслівую долю.

У 1926 годзе прыехаў у Мінск, запрошаны на канферэнцыю па пытаннях беларускай мовы, выдатны латышскі паэт,

даўні і блізкі друг Янкі Купалы Ян Райніс. Нам, маладым узвышаўцам, вельмі хацелася сустрэцца з шаноўным госцем і сфатаграфавацца разам з двума вялікімі паэтамі. Далікатную місію дагаварыцца аб гэтым з Янкам Купалам узяў на сябе, наколькі я помню, Уладзімір Дубоўка. Іван Дамінікавіч дамовіўся з Райнісам, і мы сустрэліся, разам сфатаграфаваліся. Адбылася сардэчная гутарка, у час якой Іван Дамінікавіч прадставіў нас госцю, сказаўшы пра кожнага некалькі цёплых слоў, а мы падарылі Райнісу яшчэ першыя, тоненькія кніжыцы сваіх твораў.

Пасля ўтварэння адзінага Саюза савецкіх пісьменнікаў перагародкі паміж былымі літаратурнымі арганізацыямі былі ліквідаваны. Сціраліся межы і паміж «старымі» і былымі маладымі, якія к гэтаму часу значна пасталелі. Пачалі развівацца творчыя сувязі і наладжвацца больш цесныя асабістыя кантакты. Былі маладыя сябры і ў Янкі Купалы. Асабліва сярод паэтаў, якія прыносілі яму свае творы, каб пачуць аўтарытэтнае слова вялікага майстра. Часта бывалі ў яго Пятрусь Броўка і Пятро Глебка. Прыходзілі і з сваімі творамі, і за парадамі па розных іншых пісьменніцкіх справах.

У тыя часы адбываліся частыя, ужо агульныя пісьменніцкія сходы. Бываў на іх і Янка Купала, але я не помню, каб ён калі-небудзь выступаў на гэтых сходах у спрэчках. Іван Дамінікавіч наогул не любіў выступаць з прамовамі, але гэта не значыць, што ён абыякава ставіўся да таго, што адбывалася ў краіне і грамадскім жыцці, у літаратуры. На ўсе падзеі, якія яго хвалявалі, ён адгукаўся паэтычным словам. Аб гэтым сведчаць такія яго вершы, як «Вялікаму Кастрычніку», «Нашай Канстытуцыі», «Беларусі ардэнаноснай», «З'езду Саветаў», «Якубу Коласу», «Памяці Максіма Гарэцкага», «Джамбулу», «Сонечнаму Шата Руставелі», «Тры арліцы» і шмат іншых.

У 1936 годзе летам гасцінная цётка Уладзя (жонка Івана Дамінікавіча Уладзіслава Францаўна) запрасіла Кузьму Чорнага і мяне ў Ляўкі на дачу. Янка Купала працаваў тады над перакладам на беларускую мову паэмы А. С. Пушкіна «Медны коннік». Кожны дзень сядзеў падоўгу за пісьмовым сталом. Гаспадары далі нам поўную волю займацца чым хочам. Мы таксама стараліся не дакучаць дзядзьку Янку сваімі гутаркамі, не адрываць ад творчай працы. Адпачывалі, любаваліся навакольнай цудоўнай прыродай. А тым часам не забывалі і пра свае творчыя клопаты. Кузьма Чорны, у якога было шмат творчых задум, абдумваў чарговы раман, а я думаў пра тое, як скончыць п'есу «Партызаны», над якой

працаваў у той час. «Турбавала» нас толькі цётка Уладзя, якая клапацілася — хаця б мы не былі галодныя. З самім Іванам Дамінікавічам мы бачыліся і размаўлялі часцей за ўсё вечарамі, калі ён і сам адпачываў ад напружанай працы. Размова была неабавязкова пра творчасць, а так, пра што прыйдзецца. Часам ён чытаў нам асобныя мясціны з перакладу пушкінскай паэмы. Папярэджваў звычайна, што гэта яшчэ не канчатковы варыянт. Распытваўся, над чым мы працуем, але асабліва глыбока не ўнікаў у нашы творчыя інтарэсы.

Мы разумелі: у думках ён яшчэ не расстаўся з тым, што пакінуў на пісьмовым стале. У галаве, напэўна, узнікаюць розныя камбінацыі слоў і радкоў у пошуках беларускіх адпаведнікаў тэксту пушкінскай паэмы.

Іван Дамінікавіч заўсёды быў ветлівы і ўважлівы да людзей, але не сказаць, каб ён быў асабліва гаваркім. Пра гэта гаворыць у сваіх успамінах і Уладзіслава Францаўна. Сваімі творчымі задумамі не дзяліўся загадзя нават з большымі сваімі сябрамі, чым мы з Кузьмой Чорным. Наогул ён не меў прывычкі, без асаблівых на тое прычын, раскрываць, што ў яго на душы.

Мне ні разу не давялося бачыць, каб ён калі-небудзь бурна выказваў сваё захапленне або сваё абурэнне. Заўсёды знешне ён быў спакойны і ўраўнаважаны, хоць мы ведаем з біяграфіі, што ў яго жыцці было не толькі адно прыемнае, але і цяжкія перажыванні. Вялікі паэт мала гаварыў, але многа думаў і глыбока адчуваў, што так ярка адлюстравалася ў яго неўміручых творах.

У тыя часы мне даводзілася часамі выступаць разам з Янкам Купалам і іншымі паэтамі і пісьменнікамі на літаратурных вечарах у Мінску. Выступалі і ў Маскве ў 1940 годзе ў час Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва. Помню нашу сустрэчу з піянерамі і школьнікамі ў Мінску ў 1940 годзе, у якой прымалі ўдзел Янка Купала, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў, Змітрок Бядуля, Тарэнь Масэнка. Гэта былі дні, калі наша грамадскасць адзначала 35-годдзе творчасці Янкі Купалы. Горача сустрэты юнымі чытачамі, народны паэт прачытаў некалькі сваіх вершаў. Асабліва вялікім поспехам карыстаўся верш «Хлопчык і лётчык».

У лютым 1941 года мне давялося разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам у складзе беларускай дэлегацыі ехаць у Грузію і прымаць удзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных 20-годдзю ўтварэння Грузінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Па дарозе ў Тбілісі я ехаў з Іванам Дамінікавічам у адным купэ. Разам з намі ехала яшчэ адна жанчына — член

дэлегацыі. Я здзівіўся, што Івану Дамінікавічу дасталася верхняя паліца. Напэўна, думаў, пераблытаў той, хто браў для нас білеты. Прапанаваў Івану Дамінікавічу памяняцца. У мяне было ніжняе месца. Але ён адмовіўся, сказаў, што на верхняй паліцы яму спакайней — ніхто не турбуе. Я не ўпэўнены, што ў яго сапраўды былі такія меркаванні. Хутчэй за ўсё ён з далікатнасці адмовіўся. Помню, як, лежачы на паліцы, Іван Дамінікавіч гартаў зборнік сваіх твораў, выбіраў, што яму чытаць, як прыйдзецца выступаць на літаратурных вечарах у Грузіі. Некаторыя з вершаў, і, вядома ж, у першую чаргу прысвечаныя сонечнай Грузіі і яе слаўным людзям, ён прачытаў услых, каб і я чуў.

У дарозе Янка Купала і Якуб Колас, якія таксама ехаў у гэтым вагоне, толькі ў другім купэ, дамаўляліся, што яны будуць рабіць у Грузіі. Меркавалі пасля ўрачыстасцей паехаць на цёплыя воды ў Цхалтуба.

У часе вайны я сустракаўся з Янкам Купалам у чэрвені 1942 года, калі ён прыехаў з Казані ў Маскву, часцей за ўсё ў гасцініцы «Масква» ў нумары Міхася Лынькова, які быў тады старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Іван Дамінікавіч пытаўся, што чуваць з роднай беларускай зямлі, якая пакутавала пад нямецка-фашысцкай акупацыяй; распытваў пра беларускіх пісьменнікаў: дзе хто знаходзіцца, што чуваць пра тых, якія змагаюцца на фронце са зброяй у руках. Сам ён змагаўся сваім натхнёным гнеўным словам. Верш «Беларускім партызанам», які клікаў народных мсціўцаў на бязлітасную барацьбу з ворагам, напісаны ім яшчэ ў пачатку вайны.

Апошні раз я бачыў Янку Купалу зноў жа ў Міхася Лынькова за гадзіну да яго трагічнай смерці. Апрача нас трох, у нумары было яшчэ чалавек пяць нашых агульных знаёмых. Я на кароткі час адлучыўся ў горад, а калі вярнуўся ў гасцініцу, мяне як громам паразіла вестка: Янка Купала загінуў.

У глыбокім смутку мы разам з нашымі маскоўскімі сябрамі правялі ў апошні шлях слаўнага сына беларускага народа, імя якога дарагое кожнаму народу нашай вялікай Радзімы.

У 1962 годзе было прынята рашэнне перавезці урну з прахам паэта на родную зямлю. Ехаць па яе было даручана Петрусю Броўку і мне. У Маскве, пры перадачы нам урны, адбыўся мітынг пісьменніцкай грамадскасці, на якім з прачулай развітальнай прамовай выступіў Аляксей Суркоў.

Беражна, з пачуццём вялікай адказнасці везлі мы на родную паэту беларускую зямлю дарагую рэліквію.

2 ліпеня 1962 года ў Мінску на Вайсковых могілках адбыўся ўрачысты мітынг, і урна з прахам вялікага паэта была захавана ў пастаменце яго надмагільнага помніка, да якога ніколі «не зарастет народная тропа».

*1982*

## З ДУМАЙ АБ ШЧАСЦІ НАРОДА

Хораша, з глыбокай пашанай і гарачай любоўю адзначыла наша грамадскасць стогадовы юбілей вялікага песняра беларускай зямлі Янкі Купалы. І вось зноў у нас вялікае свята — стагоддзе з дня нараджэння яго равесніка, друга і саратніка — Якуба Коласа. У нашай памяці як жывыя ўстаюць яркія вобразы яго неўміручых твораў — вершаў, паэм, раманаў, з якімі мы зрадніліся яшчэ з юнацкіх гадоў. У памяці многіх людзей захаваўся і вобраз самога паэта, у тых, хто яго бачыў жывым, хто меў шчасце сустракацца з ім у розных жыццёвых абставінах. І кожны з такіх шчаслівцаў сёння рад падзяліцца дарагімі ўспамінамі аб сустрэчах з вялікім паэтам і цудоўным чалавекам, які так шчыра дарыў людзям скарбы сваёй душы і свайго таленту. Будучы адным з такіх шчаслівцаў, я хацеў бы спыніцца на тых момантах у маім жыцці, калі я ўпершыню пазнаў хараство коласаўскай паэзіі, а пасля меў шчасце сустракацца і з самім Канстанцінам Міхайлавічам, адчуваць на сабе дабратворны ўплыў не толькі яго твораў, але і жывой душы самога паэта.

Па коласаўскіх сцежках мне давялося хадзіць яшчэ тады ў Стаўбцоўскім чатырохкласным гарадскім вучылішчы і з сваёй вёскі Нізок ездзіў, а часамі і хадзіў у Стоўбцы пяшком цераз Акінчыцы, дзе, як вядома, была леснічоўка бацькі Якуба Коласа — Міхаіла Казіміравіча Міцкевіча — і дзе праходзіла дзяцінства Канстанціна Міхайлавіча. Тут жа, у Стоўбцах, я ўпершыню пазнаёміўся і з творамі Якуба Коласа. Гэта было ў канцы 1910-га ці ў пачатку 1911 года. У тым гарадскім вучылішчы ў адным класе са мной вучыўся брат паэта — Іосіф Міхайлавіч Міцкевіч (дзядзька Юзік, як мы ў пісьменніцкім асяроддзі называлі яго пасля, у гады сталасці). Праз усё сваё жыццё ён быў вялікім аматарам і папулярызатарам беларускага мастацкага слова. Ведаў шмат вершаў

беларускіх паэтаў і чытаў іх, звычайна не заглядаючы ў кніжку. Усю «Новую зямлю» ён мог прачытаць (і чытаў) на памяць ад пачатку да канца. Тады, на адной з пераменак, ён прачытаў верш Якуба Коласа «Плытнікі». На мяне гэты твор зрабіў вялікае ўражанне. І тым, што ўсё ў ім намалявана так ярка і праўдзіва, і тым, што верш напісаны «незвычайнаю» моваю. Уласна кажучы, гэта была звычайная, праўда, багатая і сакавітая беларуская мова. Незвычайным было тое, што я ўпершыню пачуў верш, напісаны такой мовай. Я чытаў Пушкіна, Някрасава. Але яны, як я ўяўляў, былі недзе ў недасяжных вышынях. А тут просты селянін, брат майго сябра, такі ж, як і я, напісаў такі цудоўны твор. Асабліва мне запомніліся радкі:

Вецер загуляе —
Хвойнік, лозы гнуцца,
Плытнік спачывае,
Як сабака ў будцы.

А гэтыя ж плыты з будкамі мы бачылі ранняй вясной ледзь не кожны дзень. Яны праплывалі па Нёмане міма акон нашага вучылішча, і мы з цікавасцю наглядалі, як на іх з прысамі і шарыгамі ўвіхаюцца плытнікі.

Тады ж я са смуткам даведаўся і пра тое, што сам паэт, аўтар такіх цудоўных твораў, сядзіць у турме, асуджаны царскім урадам за рэвалюцыйную дзейнасць. Для мяне гэта было балюча і незразумела: хіба можна такі талент саджаць за краты!

Больш грунтоўна я пазнаёміўся з творамі Якуба Коласа значна пазней, пасля таго як у 1925 годзе пераехаў з сям'ёй з вёскі ў Мінск. З захапленнем чытаў я «Новую зямлю», «Сымона-музыку», «У палескай глушы». У гэты час прыходзілася бачыць зрэдку і самога паэта. Калі не памыляюся, упершыню я ўбачыў яго ў 1926 годзе, тады, як адзначалася дваццацігоддзе творчай дзейнасці паэта і яму было прысвоена ганаровае званне народнага паэта БССР.

Пасля ўтварэння адзінай пісьменніцкай арганізацыі — Саюза савецкіх пісьменнікаў — даводзілася сустракацца і на пісьменніцкіх сходах. Ды і не толькі на сходах. Помню, аднаго года мы адпачывалі летам у адзін час у вёсцы Талька Пухавіцкага раёна. Грэліся на адным сонцы, купаліся ў адной рацэ — Свіслачы. Бываў я і ў хаце Канстанціна Міхайлавіча. Вось толькі грыбоў разам не збіралі. У яго былі свае запаветныя мясціны. Наогул Канстанцін Міхайлавіч часцей за ўсё праводзіў лета ў вёсцы Загібелька таго ж раёна. Гэта быў

ціхі, утульны куточак: лес, рэчка, грыбы, рыбалка, цішыня — усё тое, што так любіў паэт, што абуджала ў ім філасофскі роздум і творчы настрой.

Вось гэта Загібелька і прычынілася аднаго разу да своеасаблівай маёй творчай пераклічкі з Якубам Коласам. У 1935 годзе давялося Канстанціну Міхайлавічу ехаць у Парыж на Міжнародны кангрэс пісьменнікаў. Я ведаў, як яму не хацелася адрывацца ад утульнага кутка роднай прыроды, расставацца на нейкі час са сваімі творчымі задумамі і ехаць у сумятню вялікага горада, у незнаёмае асяроддзе, ды яшчэ выступаць там перад аўдыторыяй, дзе не так шмат было нашых прыхільнікаў. Калі Канстанцін Міхайлавіч вярнуўся з Парыжа, я напісаў жартоўную эпіграму. Надрукаваў, ды ўжо баяўся: ці не пакрыўдзіцца Канстанцін Міхайлавіч за такую фамільярнасць. Але ён прыняў гэты жартаўлівы выклік і напісаў у адказ цудоўны верш пад назвай «Загібелька», у якім з тонкім гумарам і замілаваннем уславіў Загібельку, выказаў сваю любоў да роднай прыроды. Вось гэты верш:

### ЗАГІБЕЛЬКА

*Прысвячаю К. Крапіве*

> Быў я ў Парыжы на кангрэсе —
> То ў Загібельцы, браце, лепш:
> Грыбоў няма ў Булонскім лесе,
> А ў Сене хоць бы адзін лешч.
>
> *К. Крапіва. Эпіграма*

Быць можа, я крыху дзівак,
Але люблю я Загібельку:
Там кожны хвойнік мне сваяк,
Там ясным днём надрэчны гак
Мне суліць мяккую пасцельку.

Хадзіў я там, вітаў усход
І першыя праменні сонца,
Штодзень выводзяць у паход,
А з ім і хмарак карагод,
Замлеўшы смехам на сасонцы.

Запыніш крок. Спакой і ціш —
Былінка нават не схіснецца,
А ты разважліва стаіш,
Бы нейкі сон дзівосны сніш,
І песня нейкая снуецца.

Зірнеш на дол — убогі ён,
Адзін пясок, сухі, нішчымны,
Ды колькі тут наткаў красён
Чаборык, мох, зязюльчын лён
І верасок агніста-дымны!

І колькі мілых красак тут
Разлівам чырвані палае!
Над імі звон, музычны гуд —
На пустцы сонца творыць цуд
І радасць шчодра пасылае.

Ідзеш у свой абход адзін,
Мінаеш сотні паваротак.
Ускрай баркоў шатры хваін
Стаяць у постаці жанчын, —
Вітаеш іх, як родных цётак.

Ідзеш кілометр, два і тры,
Праходзіш пусткі, пералескі,
А песні сыплюцца з гары,
Ды так, што слухаюць бары,
Надзеўшы вычварныя фескі.

А вось і возера-акно,
Якога мала дзе пабачыш,
Такое дзікае яно
Сярод балоцішча адно —
Завуць яго чамусь Грымячым.

Само ж балота — шыр і гмах,
Панурай немасцю акута.
Глядзіш, і горне цябе страх.
А хвоек там — мільён папах,
Дзесяткі тысяч парашутаў.

На філасофскі часам лад
Настроіш думкі ты ў самоце.
Што ні кажы, наш край багат!
Балотам зробім шах і мат,
І будуць нівы на балоце.

Калі агледзіш хвайнякі
І гэты кут пазнаеш бліжай,
Збіраючы баравікі,
То вывад я раблю такі:
Мне Загібелька лепш Парыжа.

Мала сказаць, што Якуб Колас любіў прыроду, ён жыў з ёй душа ў душу. Любіў не толькі як цаніцель яе хараства і спажывец дароў, але і як дбайны гаспадар зямлі, які заўсёды быў у клопаце аб тым, каб ёй ставала цяпла і вільгаці і каб на ёй добра жылося людзям. Калі Якуб Колас прыкладаў далонь да вачэй і ўглядаўся ў неба, гэта азначала, што патрэбен дождж, а яго ўсё няма. Такі свой непакой паэт вельмі добра выказаў у вершы «З майго летапісу».

Народ ведае Якуба Коласа не толькі як аўтара неўміручых твораў, але і як грамадскага дзеяча і вучонага. Мне асабіста пашанцавала ў тым сэнсе, што я меў магчымасць сустракацца з Канстанцінам Міхайлавічам і ў літаратурным, і ў навуковым асяроддзі.

Як я пісаў ужо ва ўспамінах пра Янку Купалу, у 1941 годзе мне давялося разам з народнымі паэтамі ў складзе беларускай дэлегацыі, якую ўзначальваў Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Н. Я. Наталевіч, ехаць у Тбілісі для ўдзелу ў святкаванні 20-годдзя ўстанаўлення ў Грузіі Савецкай улады.

Асаблівай была мая сустрэча з Канстанцінам Міхайлавічам у час вайны. У 1942 годзе, калі я прыехаў у Ташкент, дзе, будучы ў эвакуацыі, пражываў з сям'ёй Канстанцін Міхайлавіч, Нічыпар Якаўлевіч Наталевіч ад імя Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі і ўрада рэспублікі сардэчна павіншаваў Канстанціна Міхайлавіча з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння, а мне выпаў пачэсны абавязак выступіць з дакладам на ўрачыстым вечары, расказаць аб жыцці і творчасці народнага паэта. Мы перадалі Канстанціну Міхайлавічу нізкі паклон і шчырае, сардэчнае прывітанне ад беларускіх пісьменнікаў, якія тады знаходзіліся ў Маскве.

Грамадскасць сталіцы Узбекістана вельмі цёпла і сардэчна вітала юбіляра. Імя Якуба Коласа было прысвоена адной з

вуліц Ташкента. Але сам юбіляр выглядаў не вельмі вясёлым. Перад гэтым ён хварэў і яшчэ не зусім паправіўся. Засмучала яго і тое, што сваё шасцідзесяцігоддзе ён сустракае далёка ад роднай Беларусі, якая ў той час пакутавала пад нямецка-фашысцкай акупацыяй і за якую душой хварэў народны паэт.

Шэраг яго вершаў, а таксама паэмы «Суд у лесе» і «Адплата», напісаныя ў час вайны, прасякнуты гневам і нянавісцю да ворага, цвёрдай упэўненасцю ў нашай перамозе.

Пасля вайны мне часта прыходзілася сустракацца з Канстанцінам Міхайлавічам і на рабоце, і ў іншых абставінах. Канстанцін Міхайлавіч быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук ад пачатку яе заснавання, накіроўваў работу інстытутаў Аддзялення грамадскіх навук, прымаў актыўны ўдзел у вырашэнні ўсіх важнейшых пытанняў, звязаных з дзейнасцю ўсёй Акадэміі, а я пэўны час працаваў дырэктарам Інстытута мовазнаўства і часта звяртаўся да Канстанціна Міхайлавіча за рознымі парадамі. Помню, як мы з Пятром Глебкам прыходзілі да Канстанціна Міхайлавіча з пытаннямі, звязанымі з падрыхтоўкай да друку і выданнем Руска-беларускага слоўніка і ўдакладненнем правапісу беларускай мовы. Парады такога выдатнага знаўцы мовы, якім быў Якуб Колас, нам вельмі дапамагалі ў працы.

Бывалі мы, малодшыя яго сябры, і ў хаце Канстанціна Міхайлавіча за бяседным сталом, калі прыходзілі прывітаць яго з днём нараджэння. Прыходзілі часамі і так — даведацца, як жыве-маецца дзядзька Якуб. Тады пачыналася гаворка пра літаратуру, што новага надрукавана, якія новыя імёны маладых пісьменнікаў з'явіліся на старонках друку. Канстанцін Міхайлавіч заўсёды клапаціўся аб развіцці літаратуры, культуры, навукі, аб росце маладых кадраў. Мы ўсе адчувалі яго дабратворны бацькоўскі клопат.

Гаворка ішла і аб тым, што робіцца на свеце, аб падзеях далёкіх і блізкіх, аб тым, як жыве народ, як родзіць зямля. Канстанцін Міхайлавіч часта расказваў пра якія-небудзь здарэнні са свайго багатага жыццёвага вопыту. А расказваць ён умеў — з гумарам, з цікавымі характарыстыкамі, аздабляючы расказ народнымі прымаўкамі і выслоўямі.

Для нас, маладых пісьменнікаў, Якуб Колас быў не толькі старэйшым таварышам, але і настаўнікам, у якога мы шмат чаму вучыліся. Я маю на ўвазе не манеру пісьма. Манера ў кожнага свая. Мы вучыліся ў яго пазнаваць жыццё з яго складанымі супярэчнасцямі, пазнаваць душу людзей. Вучыліся вялікай справе служэння народу.

Шматграннай і плённай была дзейнасць Канстанціна Міхайлавіча. Высокімі і пачэснымі былі яго грамадскія абавязкі,

якія ён заўсёды з гонарам выконваў. Але самым галоўным у жыцці народнага песняра была дума аб шчасці народа. Бясцэнны дар свайго вялікага таленту, шчодрай душы і нястомнай творчай працы пакінуў паэт людзям у спадчыну, і народ глыбока ўдзячны свайму слаўнаму сыну за яго подзвіг.

*1982*

## ДАБРАТВОРНЫ ПАВАРОТ

*Да 50-годдзя Саюза савецкіх пісьменнікаў*

Падрыхтоўка да з'езда пачалася ў літаратурных арганізацыях адразу пасля таго, як у красавіку 1932 года была прынята пастанова ЦК ВКП (б) аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый і ўтварэнні адзінага Саюза савецкіх пісьменнікаў. У рэспубліцы быў створаны Арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы да з'езда, праводзіліся агульныя сходы пісьменнікаў, на якіх абмяркоўваліся задачы, што ўжо трэба было вырашаць сумесна, разбураліся ранейшыя арганізацыйныя і групавыя перагародкі, паступова наладжваліся кантакты паміж былымі «праціўнікамі», хоць псіхалагічныя бар'еры яшчэ давалі аб сабе знаць.

Мы, беларускія пісьменнікі, на чале з нашымі старэйшынамі — народнымі паэтамі Янкам Купалам і Якубам Коласам, ехалі ў Маскву з узнятым настроем і прадчуваннем нечага вялікага, што паверне ў лепшы бок ход усёй літаратурнай справы і адаб'ецца на творчай працы кожнага з нас. І яно сапраўды адбылося. Гэта мы адчулі ўжо ў кулуарах з'езда, на які сабраліся прадстаўнікі ўсіх рэспублік і нацыянальнасцей без падзелу на «артадаксальных» рапаўцаў, заслужыўшых іхняга давер'я «саюзнікаў» і ненадзейных «папутнікаў», ад якіх нібыта можна было чакаць розных «ухілаў». Гэта была радасць яднання сяброў па працы, якіх партыя заклікала рабіць адну вялікую справу. Чуліся радасныя прывітанні, завязваліся шматлікія знаёмствы, якія нярэдка перарасталі ў дружбу на ўсё жыццё.

Усе з хваляваннем чакалі выступлення Аляксея Максімавіча Горкага. Ужо ўступ, у якім ён зрабіў кароткі агляд стану сусветнай літаратуры і вызначыў месца савецкай літаратуры ў жыцці народа, сведчыў аб узроўні, на якім будзе весціся гаворка. Як на галоўную задачу савецкай літарату-

ры Аляксей Максімавіч указаў на неабходнасць усебакова і ярка адлюстроўваць жыццё, заклікаў пісьменнікаў паказваць у сваіх творах чалавека працы — стваральніка ўсіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей. Аляксей Максімавіч асудзіў, як няварты вялікай літаратуры, групавыя склокі, гульню ў правадырства, разносную крытыку і ўсё тое, што перашкаджала творчай працы, нармальнаму развіццю літаратуры. У вуснах пралетарскага пісьменніка атрымаў аўтарытэтнае пацвярджэнне метад сацыялістычнага рэалізму як найбольш уласцівы савецкай літаратуры. Гэты метад, як адзначыў дакладчык, не абмяжоўвае пісьменніка ў выбары стылю, жанру, тэмы, выяўленчых сродкаў, ён патрабуе толькі правільнага гістарычна-канкрэтнага паказу рэчаіснасці ў яе рэвалюцыйным развіцці і актыўнага ўдзелу літаратуры ў выхаванні працоўных. Спрэчкі былі гарачыя і прынцыповыя. Кожны гаварыў тое, што яму набалела, выказваў свае меркаванні аб тым, што трэба зрабіць, каб пазбавіцца ад ранейшай заганнай практыкі і стварыць нармальныя ўмовы для творчай працы пісьменніка.

Нас, беларускіх пісьменнікаў, асабліва ўсхваляваў клопат Аляксея Максімавіча аб развіцці літаратуры і культуры ў рэспубліках. Выказваючы ўпэўненасць, што там ёсць таленавітыя пісьменнікі, творы якіх заслугоўваюць таго, каб быць перакладзенымі на рускую мову і стаць здабыткам мільёнаў чытачоў краіны, ён настойліва раіў рыхтаваць для гэтага кадры перакладчыкаў. Раіў таксама стварыць усесаюзны тэатр, у якім бы ставіліся п’есы аўтараў розных нацыянальнасцей.

Прайшло цэлае паўстагоддзе з таго часу, як адбылася гэта выдатная, добра памятная мне падзея. Час бярэ сваё. У тым ліку і дарагіх нам людзей. Калі я аглянуся вакол сябе, дык ужо нікога не бачу з тых маіх сяброў па працы, якія ў саставе беларускай дэлегацыі былі ўдзельнікамі з’езда. Нарадзіліся новыя пакаленні пісьменнікаў, што ўзялі на свае плечы асноўны цяжар і адказнасць за далейшы лёс савецкай літаратуры. Новыя пакаленні вырашаюць новыя творчыя задачы, пастаўленыя перад імі сучаснасцю. Але нязменнай застаецца асноўная задача, пастаўленая з такой выразнасцю Аляксеем Максімавічам Горкім і аднадушна прынятая Першым з’ездам савецкіх пісьменнікаў, — паказваць чалавека працы, правільна, гістарычна-канкрэтна адлюстроўваць рэчаіснасць у яе рэвалюцыйным развіцці. Метад сацыялістычнага рэалізму канчаткова ўмацаваўся ў творчасці пісьменнікаў... паспяхова развіваецца многанацыянальная савецкая літаратура, мацнее брацкая інтэрнацыянальная дружба ўсіх яе атрадаў.

*1984*

## ОТЗЫВ НА РОМАН М. Т. ЛЫНЬКОВА «НЕЗАБЫВАЕМЫЕ ДНИ»

Роман М. Т. Лынькова «Незабываемые дни» является в белорусской литературе послевоенного времени самым значительным произведением на партизанскую тему. В нем автор задался целью нарисовать величественную картину героической борьбы белорусского народа с немецко-фашистскими захватчиками. Внезапное предательское нападение немецких фашистов на нашу страну принесло белорусскому народу неисчислимые бедствия. Читатель с первых страниц романа попадает в атмосферу жестокой истребительной войны. Одна за другой проходят ужасающие картины фашистских зверств: разрушение городов и деревень, массовое уничтожение ни в чем неповинных советских людей. Враг свирепствует. Временно оккупировав территорию Белоруссии, фашистские варвары стремятся кровавым террором сломить свободолюбивый дух белорусского народа, парализовать его волю к борьбе за свою свободу и независимость. Но напрасно они стараются покорить, поставить на колени белорусский народ. Под руководством Коммунистической партии он становится на путь вооруженной борьбы с ненавистными оккупантами. Коммунисты, не имевшие возможности эвакуироваться или же по указанию партии оставшиеся в немецком тылу для организации партизанской борьбы, сплачивают вокруг себя наиболее смелых и стойких людей, горячих советских патриотов, готовых с оружием в руках бороться против ненавистного врага. Так образуются первые, пока еще немногочисленные, группы народных мстителей, которые впоследствии перерастают в партизанские отряды и соединения. Подпольный обком партии, работники которого по заданию ЦК КП(б) Белоруссии пробрались через фронт в немецкий тыл, возглавляет и массовое партизанское движение, цементирует его единой большевистской волей, направляет действия партизан таким образом, чтобы они оказывали фронту как можно большую помощь. Летят под откос немецкие эшелоны с

живой силой и техникой, десятками выходят из строя паровозы, горят склады с бензином, падают от рук народных мстителей фашисты и их прислужники. Чем больше свирепствуют оккупанты, тем выше поднимается волна народного гнева, тем более мощные удары наносят им партизаны, выполняя наказ любимого вождя.

Роман «Незабываемые дни» является подлинно патриотическим произведением, которое учит советского читателя беззаветно любить свою Родину и ненавидеть всех и всяких ее врагов, учит самоотверженно бороться за честь и свободу нашего социалистического отечества.

Достоинством романа М. Лынькова является его жизненная правда, большая достоверность описываемых событий. Личные встречи и беседы автора с руководителями и участниками партизанской борьбы, проработка большого фактического материала дали ему возможность воспроизвести события правдиво и убедительно.

Многие герои романа имеют живых прототипов, непосредственных участников борьбы с немецко-фашистскими захватчиками в тылу врага. Таким в романе является образ секретаря подпольного обкома партии, Василия Ивановича Шершеня, руководителя и организатора партизанской борьбы на территории Белоруссии, такими являются его ближайшие помощники и соратники — Слышеня, Ельски, Бохан, Надя Конопелька.

В образе Константина Степановича Богуцкого читатель без труда узнает легендарного героя партизанской борьбы, славного сына белорусского народа Константина Заслонова.

Звериный облик врага вырисовывается перад нами в образах немецких офицеров — Фридриха Вейса и Эриха Коха. Несмотря на различия в характерах, их роднят общие черты, свойственные фашистским варварам. Вдохновляемые кровожадным фюрером, они бредят наяву о мировом господстве. Свирепые, коварные, изобретательные в жестокости и грабеже они в то же время проявляют поразительную слепоту в оценке развертывающихся событий и советских людей.

Презрением заклеймены в романе фашистские прислужники — начальник полиции Клопиков, бывший кулак Сипач, вышколенные в Берлине фашисты Акинчик и Козловский — те подонки, услугами которых вынуждены были пользоваться оккупанты.

К недостаткам романа надо отнести его композиционную рыхлость, недостаточную организованность материала. В романе не чувствуется того крепкого костяка, который склады-

вается из взаимоотношений главных действующих лиц, определяет структуру произведения и способствует более полному раскрытию образов.

Установка на широкий охват событий без крепкого сюжетного стержня приводит к некоторому разбуханию произведения. Первая книга романа объмом в 50 печатных листов охватывает только первые 8 месяцев войны.

Другим недостатком, на мой взгляд, является то, что автор, рисуя широкую эпопею борьбы белорусского народа, во время которой он прославил себя многими бессмертными подвигами, иногда чрезмерно увлекается показом забавного в своих героях, может быть, даже в ущерб героическому.

В середине книги (главы 4—5) автор на долгое время сосредоточивает свое внимание на представителях враждебного лагеря — фашистах, предателях, полицейских. Слишком подробно останавливается автор на их биографиях, планах и мечтах. Вследствие этого образы советских людей, с которыми читатель познакомился в начале произведения, на долгое время отходят в тень, не получая должного развития.

Все отмеченные недостатки не заслоняют собою большого идейного содержания романа, многих его художественных качеств, по-настоящему ярких картин и образов, нарисованных автором.

*1952*

## ВОДЗЫЎ НА ДЫСЕРТАЦЫЮ М. В. БІРЫЛЫ «ГАВОРКІ ЧЫРВОНАСЛАБОДСКАГА РАЁНА БАБРУЙСКАЙ ВОБЛАСЦІ»

Дысертацыйная праца М. В. Бірылы прысвечана вывучэнню гаворак Чырвонаслабодскага раёна Бабруйскай вобласці[1]. Сваю задачу дысертант бачыць у тым, як ён сам зазначае, каб даць дэтальнае апісанне фанетычнай і марфалагічнай сістэм гаворак, а таксама важнейшых асаблівасцей сінтаксічнага ладу і слоўнікавага саставу іх, вызначыць ступень устойлівасці паасобных дыялектных рыс, прасачыць пашырэнне гэтых рыс у іншых беларускіх гаворках, высветліць

[1] Цяпер Салігорскі раён Мінскай вобласці.

узаемадзеянне паміж гаворкамі, якія вывучаюцца, і літаратурнай мовай, раскрыць прычыны ўзнікнення паасобных дыялектных асаблівасцей, вызначыць месца вывучаемых гаворак сярод іншых беларускіх гаворак. Задачы, трэба сказаць, вельмі шырокія для кандыдацкай дысертацыі, хоць назва тэмы і абавязвае да гэтага. Мясцовы дыялект мае ў сабе ўсе тыя структурныя элементы, што і агульнанародная мова. Каб даследаваць яго ўсебакова і з дастатковай глыбінёй, патрэбен аб'ём работы, які далёка выходзіць за межы кандыдацкай дысертацыі. У працэсе працы над дысертацыяй т. Бірыла відаць, пераканаўся ў гэтым. Ён вымушан быў абмежаваць сябе, што знайшло сваё адлюстраванне як у змесце дысертацыі, так і ў яе структуры. Дысертацыя складаецца з уводзін, двух раздзелаў, якія адпаведна прысвячаюцца вывучэнню фанетычнай і марфалагічнай сістэм, і заключэння. У канцы другога раздзела аўтар у асобным падраздзеле коратка спыняецца на сінтаксічных асаблівасцях вывучаемых гаворак.

Што да выбару раёна, то трэба лічыць, што ён зроблен удачна. Гаворкі Чырванаслабодскага раёна адносяцца, па вызначэнню акадэміка Е. Ф. Карскага, да паўднёва-заходніх беларускіх гаворак, аднак гэта вызначэнне патрабуе некаторага ўдакладнення. За апошні час у нашых мовазнаўцаў наметілася пэўная і, на маю думку, правільная тэндэнцыя — адрозніць у паўднёва-заходніх беларускіх гаворках дзве групы гаворак: цэнтральную і паўднёвую, або палескую. Чырванаслабодскі раён цікавы ў тым сэнсе, што ён знаходзіцца на мяжы гэтых дзвюх груп гаворак. У яго гаворках, якія па большасці сваіх асаблівасцей належаць да цэнтральных, выразна выступаюць і рысы, уласцівыя палескім гаворкам.

Ва ўводзінах дысертант падкрэслівае значэнне геніяльнай працы І. В. Сталіна «Марксізм і пытанні мовазнаўства» для развіцця савецкага мовазнаўства наогул і дыялекталогіі ў прыватнасці. У адпаведнасці з указаннем І. В. Сталіна аб тым, што мову трэба вывучаць у непарыўнай сувязі з гісторыяй народа, які з'яўляецца яе стваральнікам і носьбітам, таварыш Бірыла прыводзіць цікавыя даныя аб гістарычным мінулым Чырванаслабодскага раёна, пачынаючы з даўніх часоў, гаворыць аб вялікім гаспадарчым і культурным росце раёна за часы Савецкай улады і падмацоўвае свае палажэнні статыстычнымі данымі.

У першым раздзеле дысертант усебакова і падрабязна разглядае фанетычную сістэму вывучаемых гаворак, адзначаючы ў ёй шматлікія і цікавыя асаблівасці. У чырванаслабодскіх гаворках т. Бірыла налічвае сем фанем, прычым гукі

***і*** і ***ы*** лічыць за адну фанему, а закрытыя ***о*** і ***е*** разглядае як самастойныя фанемы.

Закрытаму ***о*** і ***е*** аўтар удзяляе шмат увагі, высвятляючы падрабязна, у якім становішчы яны ўжываюцца, на месцы якіх старых гукаў яны з'явіліся, які іх лёс у сучаснай гаворцы. І гэта зусім зразумела, калі прыняць пад увагу, што гэта фанетычная асаблівасць некаторых беларускіх гаворак вельмі мала даследавана ранейшымі даследчыкамі. Параўноўваючы апісанні гаворак гэтага раёна ранейшымі даследчыкамі са сваімі ўласнымі наглядannямі, дысертант прыходзіць да цікавага вываду: аказваецца, што там, дзе гадоў шэсцьдзесят таму назад адзначаліся дыфтонгі, сёння на іх месцы знаходзяцца манафтонгі ў выглядзе закрытых ***о*** і ***е***. З іншых фанетычных асаблівасцей, уласцівых гэтым гаворкам, аўтар адзначае такія, як еканне нават на месцы этымалагічнага ***я*** *(цегну, заец)*; захаванне этымалагічнага ***о*** і ***е*** ў канцовым адкрытым ненаціскным складзе *(сено, много, хочэ, рэжэ)*; сцяжэнне галосных у канчатках прыметнікаў *(нова* хата, *далёке* поле*)*; ужыванне націскнога ***о*** ў абсалютным пачатку слова без прыстаўнога ***в*** *(озеро, осень)*; ацвярдзенне мяккіх губных *(м'ёт, п'яць)*; саканне *(памыўса, сабраласо)* і некаторыя іншыя.

У падрабязным разглядзе дысертантам фанетычнай сістэмы побач з правільнымі наглядannямі ёсць і паасобныя недакладнасці або памылковыя сцверджанні. Так, напрыклад, сцвярджаючы, што закрытае ***о*** ўжываецца ў закрытых складах на месцы этымалагічнага ***о*** і на месцы ***о***, якое ўтварылася з [illegible] і ***ъ***, аўтар спыняецца перад некаторымі адхіленнямі ад гэтага правіла. Ён канстатуе, напрыклад, што ***о*** закрытае ў поўнагалосных формах ужываецца непаслядоўна: з аднаго боку, мы маем *саломка*, *кароўка*, *мароз*, а з другога — *сарочка*, *салоткі*, *гарох*. Аднак, на нашу думку, гэта не адхіленне ад правіла ўтварэння закрытага ***о***. Хутчэй за ўсё мы тут маем справу з праявамі іншай гаворкі, якой закрытае ***о*** неўласціва. Сведчаннем гэтага служыць тое, што ў суседніх гаворках (напрыклад, у Уздзенскім раёне) словы *салоткі*, *сарочка*, *гарох* вымаўляюцца з закрытым ***о***, таксама як і словы: *саломка*, *кароўка*, *мароз*. Тое ж самае можна сказаць і пра такія выпадкі, як з аднаго боку — *ц'отка*, *ц'оска*, *кл'он*, *вячоркі*, а з другога — *б'орда*, *ц'опла*, *л'он* няма ніякіх прычын для таго, каб у адной той жа самай гаворцы такія словы, як *л'он* і *кл'он*, рэгулярна мелі ў адным выпадку закрытае ***о***, а ў другім адкрытае. Апрача таго, трэба крытычна ставіцца і да наглядannяў, калі яны зроблены не самім дысертантам, а, скажам, удзельнікамі экспедыцыі — студэнтамі, якія маглі і не ўлавіць адценняў вымаўлення.

На с. 105 дысертант сцвярджае, што ў слове *жукетка* гук ***у*** вымаўляецца на месцы ***е***. А, між іншым, слова *жакетка* (па-чырвонаслабодскаму— *жукетка*) французскага паходжання і мае пасля ***ж*** не ***е***, а ***а***. У Чырвонаслабодскім раёне яго толькі пераасэнсавалі, утварыўшы, відаць, ад слова *жук*.

На с. 123 дысертант сцвярджае, што гук ***у*** пасля зацвярдзелых у паслянаціскных неканцовых складах не адзначаны. Але гэта яшчэ не значыць, што ён не бывае ў такім становішчы. У чырвонаслабодскіх гаворках, напэўна, ёсць такія словы, як — *пошукі*, *росшукі*, *вышукаць*, *почуту*, *божухна*, *свежую*, *харошую*, *рыжую* і да т. п.

Гаворачы аб умовах аглушэння зычных, дысертант разгублена спыняецца перад словам *радуха*, дзе ***г*** нібыта аглушаецца наперакор усякім правілам. Але ж тут ніякага аглушэння няма. Справа ў тым, што гэта з'ява не фанетычная, а словаўтваральная. Тут мы маем справу з суфіксам *-ух* у спалучэнні з коранем ***рад***. Слова *радуха* ўтворана па ўзору такіх слоў, як *папрадуха*, *маладуха*, *саладуха*, *загладуха*.

На с. 178 дысертант сцвярджае, што мяккае ***с*** перад цвёрдымі і мяккімі задненёбнымі не ўжываецца. Гэтаму цяжка паверыць. Няўжо ж у чырвонаслабодскіх гаворках няма такіх слоў, як *Зоська*, *Ганусъка*, *Проська*, *коська*, *Антоська*, *буські*, *Марускі* і г. д.

У другім раздзеле дысертант падрабязна разглядае марфалагічную сістэму чырвонаслабодскіх гаворак і знаходзіць, што яна ва ўсім асноўным супадае з марфалагічнай сістэмай літаратурнай мовы. Разам з тым ён адзначае рад характэрных асаблівасцей, якія маюць месца галоўным чынам у склонавых канчатках назоўнікаў, прыметнікаў і займеннікаў, а таксама ў канчатках дзеясловаў. Спыняецца ён і на такой цікавай асаблівасці гэтых гаворак, як паўсямеснае і шырокае ўжыванне формы будучага складанага часу з дапаможным дзеясловам «іму»: *рабіцьму*, *рабіцьмеш*, *рабіцьмеце*, *рабіцьмем*.

У канцы другога раздзела, у спецыяльным падраздзеле, дысертант дае кароткую характарыстыку сінтаксічных асаблівасцей вывучаемых гаворак, такіх, як ужыванне неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду вінавальнага склону адзіночнага ліку ў форме роднага склону (вытры *стала*, купілі *задачніка*), ужыванне адушаўлёных назоўнікаў вінавальнага склону множнага ліку ў форме назоўнага склону (прывялі *коні*, я свае *дзеці* пагадавала), а таксама захаванне рэштак форм старога парнага ліку (*дзве хаце*, *дзве акне*, *тры вядрэ*). Значную ўвагу ўдзяляе дысертант асаблівасцям ужывання прыназоўнікаў, якія часта ўжываюцца з іншымі скло-

намі, чым гэта мае месца ў літаратурнай мове. Але і тут ёсць некаторыя недакладнасці.

Правільна зазначаючы, што ўласцівы гэтым гаворкам прыназоўнік ***паўз*** кіруе толькі вінавальным склонам, дысертант гаворыць, што гэты прыназоўнік абазначае рух уздоўж чаго-небудзь, і прыводзіць прыклад: *«Паўз машыну толькі мелькнуў»*. Трэба было б сказаць дакладней: што прыназоўнік ***паўз*** ужываецца ў спалучэнні з дзеясловам, які абазначае рух ***уздоўж*** або ***міма*** чаго-небудзь. Тады і прыведзены прыклад быў бы на месцы.

У заключэнні, падводзячы вынік сваім нагляданням, дысертант пералічае фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці, якія адрозніваюць гаворкі Чырвонаслабодскага раёна ад літаратурнай мовы. Ён зазначае, што значная частка гэтых асаблівасцей уласціва як больш паўднёвым, так і суседнім больш паўночным гаворкам, а другая, меншая, частка ўласціва толькі больш паўднёвым гаворкам. Аўтар адмаўляе сцверджанне А. Сабалеўскага аб тым, што чырвонаслабодскія гаворкі з'яўляюцца пераходнымі да паўночна-ўкраінскіх, матывуючы сваё адмаўленне тым, што вывучаемыя гаворкі не маюць тэндэнцыі да набліжэння да паўночна-ўкраінскіх, што асаблівасці, агульныя для чырвонаслабодскіх і паўночна-ўкраінскіх гаворак, з'яўляюцца не новымі, а спрадвечнымі. На нашу думку, дысертанту варта было б больш дакладна размежаваць асаблівасці, агульныя з паўночнымі гаворкамі, ад асаблівасцей, якія ўласцівы толькі больш паўднёвым гаворкам. Тады выразна было б відаць, што па большасці асаблівасцей гаворкі Чырвонаслабодскага раёна належаць да цэнтральных, але разам з тым у іх ёсць некаторыя рысы, асабліва ў галіне фанетыкі, якія ўласцівы паўночна-ўкраінскім гаворкам. У гэтым сэнсе і можна гаварыць аб пачатку пераходнасці да паўночна-ўкраінскіх гаворак. Гэта не значыць, што ў гаворках адбываюцца змены ў бок набліжэння да паўночна-ўкраінскіх гаворак. Пераходнасць — з'ява не аднабаковая. З такім жа правам можна гаварыць, што паўночна-ўкраінскія гаворкі (скажам, у Чарнігаўшчыне) з'яўляюцца пераходнымі да беларускіх, паколькі яны маюць у сабе выразныя рысы, уласцівыя беларускім гаворкам, і паколькі па меры прасоўвання на поўнач гэтыя рысы колькасна павялічваюцца.

Апрача асноўнага доследу, дысертацыйная работа т. Бірылы ўключае ў сябе «Дадатак». У «Дадатак» уваходзяць 9 карт, на якіх наглядна паказана тэрытарыяльнае размяшчэнне галоўных асаблівасцей вывучаемых гаворак, і слоўнік, які змяшчае ў сабе каля 500 слоў. У слоўнік уключаны словы, якія не ўжываюцца ў літаратурнай мове, або якія яшчэ не замаца-

валіся ў ёй. Аўтар поўна раскрывае значэнне кожнага слова, прыводзячы паралелі з літаратурнай мовы і з суседніх гаворак. Трэба сказаць, што пераважная большасць гэтых слоў бытуе і ў больш паўночных цэнтральных гаворках, адрозніваючыся часамі толькі фанетычнымі асаблівасцямі.

У заключэнне я хачу сказаць, што праца Мікалая Васільевіча Бірылы з'яўляецца сур'ёзным моваазнаўчым доследам. Яна дае нам яскравае ўяўленне аб гаворках Чырвонаслабодскага раёна, асабліва поўнае ў галіне фанетыкі і марфалогіі, і з'яўляецца каштоўным дапаўненнем да тае працы па вывучэнню беларускіх гаворак, якая за апошнія гады шырока разгарнулася ў нашай рэспубліцы. Свае доследы т. Бірыла правёў на вялікім матэрыяле, сабраным як ім самім у часе спецыяльных выездаў у раён, так і членамі дыялекталагічнай экспедыцыі па збіранню матэрыялу для беларускага дыялекталагічнага атласа. Ён таксама грунтоўна азнаёміўся з працамі папярэдніх даследчыкаў, якія ў той ці іншай меры закранялі гаворкі Чырвонаслабодскага раёна. Праца т. Бірылы сведчыць аб тым, што яе аўтар у дастатковай меры валодае метадам даследавання і мае значную навуковую падрыхтоўку ў галіне моваазнаўства. Тыя паасобныя недакладнасці і дробныя недахопы, на якіх я спыняўся ў сваім выступленні, не зніжаюць агульнай высокай якасці яго дысертацыі. Я лічу, што гэта праца ў поўнай меры заслугоўвае таго, каб яе аўтару была прысвоена ступень кандыдата філалагічных навук.

*1953*

## ОТЗЫВ О ДИССЕРТАЦИИ П. П. ДОЦЕНКО НА СОИСКАНИЕ УЧЕНОЙ СТЕПЕНИ КАНДИДАТА ФИЛОЛОГИЧЕСКИХ НАУК НА ТЕМУ «ЛЕКСИЧЕСКИЕ И ГРАММАТИЧЕСКИЕ ОСОБЕННОСТИ ПОЭМ А. МАЛЫШКО»

Среди научно-исследовательских трудов в области филологии весьма мало таких, которые бы ставили своей задачей изучение языка писателя. Поэтому выбор П. П. Доценко темы заслуживает одобрения. Т. Доценко ставит себе ограниченную задачу: изучение лексических и грамматических особен-

ностей поэм одного из выдающихся украинских советских поэтов Андрея Малышко.

Тем не менее и эта, казалось бы, небольшая по объему тема заключает в себе ряд трудностей, и для ее решения требуется достаточно широкая эрудиция как в области языкознания, так и литературоведения. Автор, как видно, серьезно готовился к решению поставленной задачи. Об этом свидетельствуют цитаты и ссылки, имеющиеся в диссертации, а также приложенный к ней довольно обширный список проработанной литературы.

Поскольку задачей является изучение особенностей языка писателя, то, естественно, встает вопрос, каким образом эти особенности легче всего выявить. Решая эту задачу, диссертант широко пользуется приемом сопоставления языка поэта с тем, что не является особенностью, т. е. с общепринятыми нормами литературного языка, с языком народного творчества, как и творчества советских и досоветских писателей, а также сопоставления языка произведений самого А. Малышко, написанных в разные периоды его творчества.

Поскольку речь идет об изучении языка художественных произведений, то, по-видимому, возникает необходимость различать обычные языковые средства коммуникации от изобразительных средств поэтической речи, в которой сплошь и рядом мы имеем дело не с общепринятым значением, а с его индивидуальным употреблением в образной системе произведения.

Работа состоит из пяти глав, из которых первые две посвящены изучению лексических особенностей поэм А. Малышко, в третьей и четвертой выясняется роль тех или иных морфологических особенностей и синтаксических конструкций в усилении изобразительных средств поэта.

В пятой главе диссертант выясняет наличие и значение реминисценций в произведениях А. Малышко.

Лексику диссертант рассматривает в зависимости от сферы ее применения и, таким образом, в зависимости от характера действующих лиц и той обстановки, в которой они действуют. Соответственно этому главы и разделы диссертации посвящены выяснению таких вопросов, как лексические средства изображения трудовой деятельности в советском обществе, общественно-политическая лексика, батальная и военно-бытовая лексика, лексические средства изображения пейзажа, лексические и фразеологические особенности исторической поэмы «Кармалюк».

В результате изучения многих произведений автор диссертации приходит к выводу, что поэтический язык А. Ма-

лышко обогащается по мере того, как расширяется его кругозор и углубляется познание им советской действительности, процессов социалистического строительства и самих строителей нового общества. Если в ранний период своего творчества поэт при изображении трудовой деятельности довольствовался использованием названий разных профессий и новых форм труда, то в дальнейшем его лексика становится более конкретной и более богатой, и поэт мастерски пользуется ей как средством поэтического изображения процессов труда и самих тружеников. Богатая общественно-политическая лексика поэм А. Малышко отображает огромную активность трудящихся масс в общественно-политической и культурной жизни страны, их высокий культурный уровень, сознательность всего советского народа.

Диссертант отмечает, что в произведениях, посвященных Великой Отечественной войне, участником которой является и сам поэт, А. Малышко освобождается от свойственных ему ранее традиционных приемов изображения войны, заимствованных из поэзии прошлого и народного творчества. При описании военных действий, военной техники и быта советских солдат и офицеров он обогащает свою лексику за счет слов, взятых непосредственно из жизни.

Во второй главе при рассмотрении лексических и фразеологических особенностей поэмы А. Малышко «Кармалюк» диссертант сопоставляет ее с произведениями на ту же тему дореволюционных писателей М. Вовчка, С. Васильченко, а также с пьесой советского драматурга В. Суходольского. Диссертант при этом отмечает, что язык Малышко выгодно отличается своей направленностью на раскрытие социальной сущности описываемых явлений, служит четкой классовой дифференциации при изображении действующих лиц, является определенным выражением партийности в изображении исторических событий. Умелый отбор лексико-фразеологических средств в соответствии с идейным содержанием произведения, помогает поэту создать реальный образ народного мстителя, вожака крестьянских масс Устима Кармалюка.

Все эти наблюдения и выводы автора диссертации являются правильными и подтверждаются многочисленными примерами, взятыми из художественных произведений. При этом в ряде случаев диссертант указывает и на неумное употребление поэтом тех или иных слов и выражений.

Как на недостаток анализа лексики следует указать на то, что диссертант сплошь и рядом не различает значения слова и его индивидуального употребления.

Часто там, где говорится о новой лексике в произведениях Малышко, мы имеем дело со словами, бытующими в общенародном языке и употреблявшимися не однажды самим поэтом, но в данном конкретном случае в целях этической изобразительности слова эти употреблены в необычном и неповторяемом значении.

При сопоставлении языка поэмы «Кармалюк» и рассказа-сказки М. Вовчка на ту же тему диссертант иногда не учитывает исторической ограниченности, в силу которой писательнице не дано было так четко видеть классовые противоречия, как это видит советский поэт А. Малышко. Не учитываются и цензурные условия, с которыми писательнице волей-неволей приходилось считаться, и особенности жанра.

В главах, посвященных выяснению грамматических особенностей языка А. Малышко, автор диссертации рассматривает такие приемы поэтической речи, как словообразование и словоизменение, имеющие целью сделать язык произведений более выразительным, придать описываемому явлению или лицу ту или иную эмоциональную окраску.

Диссертант прослеживает разные способы словообразования и словоизменения в поэмах А. Малышко и на многочисленных примерах показывает целесообразность и эффективность их применения.

В четвертой главе диссертант рассматривает синтаксические средства, которыми широко и умело пользуется поэт.

В отдельные группы объединяет диссертант такие приемы, как синтаксические средства поднятия эмоциональности поэтической речи, синтаксические конструкции разговорной речи, синтаксические средства, способствующие большей ритмичной выразительности стиха.

На ряде примеров диссертант показывает, как благодаря этим средствам поэт достигает того, что его произведения становятся более доходчивыми и легко воспринимаются читателем.

Отдельная глава в диссертации посвящена выяснению наличия реминисценций в творчестве А. Малышко, благодаря использованию которых поэт как бы перекликается со своими предшественниками и современниками. Особой любовью поэта пользуются произведения Шевченко и Маяковского.

В целом работа П. П. Доценко хотя и не является большим вкладом в филологическую науку, тем не менее содержит в себе большое количество интересных и верных наблюдений над языком одного из виднейших поэтов Советской

Украины. Таким образом она приумножает те необходимые научные данные, которые дадут возможность поставить более широкую задачу изучения языка художественной литературы.

Я считаю, что автору этой работы П. П. Доценко может быть присуждена ученая степень кандидата филологических наук.

*1953*

## ОТЗЫВ НА ДИССЕРТАЦИОННУЮ РАБОТУ В. В. ИВАШИНА «ТВОРЧЕСТВО ЯНКИ КУПАЛЫ ПЕРИОДА РЕВОЛЮЦИИ 1905—1907 гг.»

Василий Владимирович Ивашин избрал темой своей диссертации ранний период творчества народного поэта Белоруссии Янки Купалы. Несмотря на короткий отрезок времени, период этот имеет большое значение как и творчестве самого Купалы, так и в развитии белорусской литературы вообще. Выход Янки Купалы на литературную арену совпадает с революционным подъемом трудящихся масс, и это благотворно отразилось на формировании мировоззрения молодого поэта, который с первых шагов и на всю жизнь поставил себе высокую цель служения народу. В эти годы четко определилась идейная направленность его творчества, сложились в основном эстетические взгляды поэта. Начало литературной деятельности Янки Купалы и Якуба Коласа знаменует начало нового революционно-демократического направления в белорусской литературе.

Пользуясь диалектическим методом исследования, диссертант рассматривает творчество народного поэта в связи с конкретными историческими условиями, показывает социальные корни этого творчества, его роль в борьбе трудящихся Белоруссии за свое социальное и национальное освобождение, его место среди других литературных явлений того периода.

Прежде чем приступить непосредственно к исследованию творчества молодого Янки Купалы, т. Ивашин проделал значительную подготовительную работу, проработал большое количество печатного и рукописного материала, список которого прилагается в конце диссертации.

Особенно большое значение имело для диссертанта изучение им трудов В. И. Ленина и В. И. Сталина по аграрному и национальному вопросу, о революции 1905 года, по вопросам художественной литературы.

Диссертация состоит из вступления, пяти глав и заключения. Во вступительной части диссертант говорит о грандиозных социалистических преобразованиях, происшедших в экономике и культуре белорусского народа, о расцвете национальной по форме, социалистической по содержанию белорусской советской литературы, о большой роли в ней народных поэтов Янки Купалы и Якуба Коласа. Вместе с тем он отмечает, что огромное литературное наследство Янки Купалы мало изучено, ни один период его творчества с надлежащей полнотой не исследован. Сделав краткий обзор написанного ранее о Янке Купале, диссертант указывает на фальсификацию творчества поэта буржуазными националистами, на принижение роли Купалы представителями вульгарного социологизма. Вместе с тем он отмечает то положительное, что сделано исследователями творчества поэта за последний период.

В первой главе диссертации т. Ивашин ставит своей целью выяснение истоков творчества Янки Купалы. Руководствуясь ленинской теорией отражения, он прежде всего ищет корни творчества поэта в современной ему действительности. Основываясь на произведениях Ленина и Сталина, т. Ивашин рассматривает особенности исторического момента, с которым совпадает начало литературной деятельности Янки Купалы. Момент этот характеризуется тем, что широкие трудящиеся массы под руководством пролетариата поднялись на борьбу против царизма, против помещиков и капиталистов. Главным вопросом революции 1905 года является, по определению В. И. Ленина, аграрный вопрос, вопрос о коренном изменении условий жизни крестьянства. Национальный вопрос, как отмечает диссертант, в условиях Белоруссии также занимал значительное место, но он не имел самостоятельного и решающего значения в революционной борьбе масс, а был составной частью общего более важного вопроса разневоления страны.

Определяя основной источник творчества Янки Купалы, диссертант совершенно правильно утверждает, что идейное содержание произведениям молодого поэта дала борьба трудящихся масс за свое социальное и национальное освобождение. Янка Купала с самого начала своей литературной деятельности был выразителем революционно-де-

мократических устремлений и требований широких крестьянских масс.

Биография поэта является другим важным источником его творчества. На своем собственном опыте поэт изведал горькую долю безземельного крестьянина. С детства слышал он жалобы народа на свою судьбу и протесты против существующего порядка, с юных лет был свидетелем крайней нищеты и бесправного положения крестьянина-бедняка. Это придало его поэзии большую страстность и выразительность в изображении неприглядной действительности.

Диссертант много внимания уделяет выяснению литературных традиций, унаследованных Янкой Купалой. Он отмечает благотворное влияние на поэта русской классической литературы, особенно Некрасова, а также великого украинского поэта Тараса Шевченко.

Творчество белорусских писателей и поэтов — Дунина-Марцинкевича, Богушевича и Янки Лучины помогли Янке Купале осознать себя певцом белорусского народа. Высоким образцом для Янки Купалы были творчество и общественная деятельность Алексея Максимовича Горького.

Вторая глава диссертации посвящена характеристике литературно-общественного движения на Белоруссии в 1905—1907 гг. и выяснению роли в нем Янки Купалы. В связи с этим диссертант подробно останавливается на выяснении политической программы и роли в литературной жизни газеты «Северо-Западный край», на страницах которой было помещено первое стихотворение Янки Купалы «Мужик». Автор диссертации доказывает, что эта газета была тесно связана с социал-демократическим движением и являлась центром собирания сил пролетарской литературы на территории Белоруссии. Вопрос этот, бесспорно, интересный и мог бы послужить темой самостоятельного исследования. Заслугой т. Ивашина является то, что он первым поднял этот вопрос и положил начало его изучению, но мне кажется, что в диссертации можно было ограничиться более кратким определением роли газеты, а не отводить ей целых двадцать пять страниц.

Рассматривая белорусское литературное движение того времени, т. Ивашин приходит к выводу, что оно не было однородным, что в нем явственно выступает, с одной стороны, революционно-демократическое направление, представителями которого являются Купала, Колас, Тетка, с другой — либерально-буржуазное направление, представленное такими писателями, как Ядвигин Ш., А. Павлович, А. Пщелка. Раз-

новидностью этого направления является реакционный романтизм Алеся Гаруна с ярко выраженной националистической окраской. Сам перечень имен здесь говорит уже о том, на стороне какого направления была правда и сила. Подлинные художественные ценности создавали писатели, выражавшие интересы широких трудящихся масс, в первую очередь Янка Купала и Якуб Колас.

Купала в этот период много и с большим подъемом работает. Его страстное поэтическое слово пробивается сквозь рогатки свирепой царской цензуры и находит путь к сердцу трудящихся. Янка Купала становится любимым поэтом белорусского народа.

Третья глава является самой большой по размерам и центральной по своему значению. Она занимает более ста страниц текста и посвящена анализу богатого идейного содержания творчества Янки Купалы, в котором ярко отразились, как утверждает автор диссертации, особенности революции 1905 года.

На многочисленных примерах диссертант показывает, что основной проблемой творчества поэта является освобождение трудящегося крестьянства от гнета и эксплуатации. Отсюда понятно, почему центральной фигурой в его поэтических произведениях выступает малоземельный и безземельный крестьянин. В показе Купалой крестьянства диссертант отчетливо различает две стороны. С одной стороны, его герой — это человек подневольного труда, плоды которого присваивают себе эксплуататоры. Он предстает перед читателем голодным, оборванным, обиженным, лишенным элементарных человеческих прав. С другой стороны — это человек, который уже осознал причины своего тяжелого положения и необходимость уничтожения этих причин. Он знает, кто его обидчики, и поднимается на борьбу против них, чтобы навсегда разбить цепи, сковывающие его по рукам и ногам.

Янка Купала поэтизирует именно эти черты своего лирического героя: его высокие моральные качества, его волю к борьбе за свое освобождение. Он всячески осуждает пассивность, забитость, нерешительность. В показе Янкой Купалой активного и пассивного начала в своих героях диссертант видит правдивое отображение положения крестьянства в революции 1905 года.

Проводя параллель между Янкой Купалой и Богушевичем, т. Ивашин видит существенную разницу в том, что у Купалы народ выступает как активная революционная сила. Такой показ впервые имеет место в белорусской литературе

и сближает в этом отношении народного белорусского поэта с Алексеем Максимовичем Горьким.

Янка Купала является вдохновенным трибуном, убежденным сторонником революционного действия. Даже после спада революционной волны он не теряет веры в победу и не перестает звать на борьбу.

Однако Янка Купала, вследствие ограниченности мировоззрения, отмечает диссертант, не увидел социалистической тенденции в развитии русской революции, не понял руководящей роли пролетариата. Его положительные идеалы будущего социального устройства весьма неопределенны и неярко выражены.

Выясняя в четвертой главе эстетические взгляды Янки Купалы, автор диссертации исходит из правильного положения, что «эстетика писателя есть теоретическая основа его поэтической практики».

Обратившись к поэтической практике Купалы и проанализировав значительное количество художественных произведений, диссертант приходит к выводу, что в вопросах эстетики Купала стоял на позициях философского материализма. Задачу поэта он видел в правильном отображении действительности. Купала в полной мере осознавал себя поэтом-гражданином и служение трудовому народу считал единственной целью своей поэтической деятельности. Самым большим желанием поэта было то, чтобы его песни стали достоянием широких масс.

Диссертант отмечает благотворное влияние на формирование эстетических взглядов Купалы русских революционных демократов: Белинского, Чернышевского, Добролюбова, Некрасова, а также Тараса Шевченко, Богушевича. Особенное значение для народного поэта Белоруссии имела эстетика Горького.

Все эти утверждения правильны, и все они с надлежащей последовательностью изложены диссертантом в автореферате. Но в самой диссертации трактовка этого вопроса не имеет такой стройности и логической последовательности. Здесь автор попадает в некоторое противоречие от того, что не знает, которому из двух факторов, определяющих эстетику Купалы, отдать предпочтение: действительности или влиянию революционных демократов. Подытоживая сказанное в первом разделе четвертой главы, т. Ивашин говорит:

«Таким образом идейно-художественное развитие молодого Купалы определялось, с одной стороны, эстетикой Чернышевского, которая была воспринята через творческое ос-

воение поэтического наследства Некрасова, Шевченко и Богушевича, с другой стороны — революционной эстетикой Горького».

Следующий же раздел начинается словами:

«Кровная связь с народом и его освободительным движением определили глубокую народность, реализм и революционную идейность купаловской эстетики».

Каждое из приведенных положений сформулировано так, что любой из двух факторов как будто целиком определяет эстетику Купалы. Все же диссертант, по-видимому, отдает предпочтение влияниям, поскольку ставит их на первое место. Я считаю, что автор здесь не прав. Сознание писателя (в том числе и его эстетические взгляды) определяется в первую очередь общественным бытием класса, представителем которого он выступает. Влияния также могут иметь большое значение, но только в том случае, когда они попадают на благоприятную почву, как это и было в данном конкретном случае. На декадентов, например, эстетика Чернышевского не оказала никакого влияния, а если и оказала, так только обратное.

В отношении Янки Купалы тем более неправильно было бы говорить о преобладающем значении литературных влияний, поскольку он пришел в литературу не с университетской скамьи, а из народных масс, пришел в такое время, когда действительность воздействовала на него самым непосредственным и энергичным образом.

Пятая глава посвящена определению творческого метода Купалы и характеристике его стиля. Автор диссертации здесь часто повторяется, поскольку при определении творческого метода нельзя обойти ни идейного содержания творчества, ни эстетики поэта, которые рассматривались уже в предыдущих главах и определяются теми же социальными причинами.

Творческий метод Янки Купалы, как правильно утверждает т. Ивашин, определяется отношением поэта к действительности. Купала в своем творчестве продолжает традиции критического реализма Богушевича, с той, однако, разницей, что он утверждает необходимость революционного действия, чего мы не находим у Богушевича. Весь пафос обличительной поэзии Купалы направлен против царизма, против помещиков и капиталистов, против тех враждебных сил, которые являются источником всех бед крестьянина-бедняка. В этом отношении Купала продолжает традиции русских революционных демократов. Но этим реализм Купалы не исчерпывает-

ся. Сила купаловского реализма заключается в том, что он показывает поднявшиеся на борьбу революционные массы. Диссертант считает, что этой особенностью своего творчества Янка Купала приближается к методу социалистического реализма, который в это время складывался в творчестве Горького.

Правильными являются замечания диссертанта о романтике Купалы, являющейся следствием отрицательного отношения поэта к современной ему действительности и устремленной в будущее. Хотя сам поэт представлял себе это будущее довольно туманно, но его страстный призыв бороться за лучшую долю имел большую действенную силу.

Значительное место в своей диссертации т. Ивашин отводит анализу стиля поэта. Главным признаком этого стиля диссертант считает народность в лучшем смысле этого слова. Песенный лад купаловской поэзии, ее высокая эмоциональность, богатство лексики, лаконичность и афористичность поэтического языка, использование в большом количестве пословиц и метких народных оборотов свидетельствуют о том, что народное творчество и живой белорусский язык были для поэта неисчерпаемым источником изобразительных средств. Диссертант подробно останавливается на характеристике образных средств поэта и особенностях поэтического синтаксиса, выясняет смысловую и эмоциональную нагрузку, которую они несут в художественном произведении, будучи подчиненными идейному содержанию.

В диссертации попадаются отдельные неточные или даже неправильные положения. Но они не являются ошибками методологического характера, а скорее случайными описками и объясняются тем, что автор иногда употребляет ту или иную шаблонную фразу, не вдумавшись в ее содержание. Во вступлении, например, мы читаем:

«На художественных идеях Купалы росли и воспитывались лучшие поэты Советской Белоруссии — Кулешов, Танк, Бровка, Глебка».

Формулировка эта безусловно требует уточнения и расшифровки. Во-первых, необходимо разъяснить, что понимает автор под «художественными идеями». Вообще положение это можно принять в том смысле, что поэты послеоктябрьского поколения продолжают славные купаловские традиции служения народу. Но служение это приобрело в советский период как у названных поэтов, так и у самого Янки Купалы, новое, более высокое, качество. Что касается конкретного идейного содержания произведений, то поэты младшего

поколения черпают его из того же источника, из которого черпал и сам Купала в советский период: из нашей социалистической действительности, из произведений Ленина и Сталина, из решений нашей партии по важнейшим вопросам хозяйственного и культурного строительства. Это нисколько не уменьшает роли и значения Янки Купалы как великого поэта, который в своем творчестве ярко отобразил важнейшие моменты в жизни белорусского народа. Большому поэтическому мастерству, умению отобразить важнейшие моменты в жизни народа учатся у Янки Купалы все белорусские поэты.

Далее, в первой главе на 59 странице, мы читаем:

«Это демократическое наследство белорусской литературы прошлого столетия (имеется в виду публицистика Кастуся Калиновского, творчество Богушевича, Лучины, Гуриновича.— *К. А.*) и послужило творческой почвой для Купалы и Коласа». А на продолжении всей диссертации товарищ Ивашин доказывает (и совершенно правильно), что творческой почвой для Купалы была современная ему действительность.

Попадаются и просто неудачные выражения:

«Увесь год працавалі Луцэвічы разам з дзецьмі на арандаванай зямлі, купленай «мазалём і потам». Здесь слова «арандаванай» і «купленай» взаимно исключают друг друга.

Или:

«...тут народныя паэты Беларусі Купала і Колас змаглі рассеч гордзіеў вузел нацыянальнай абмежаванасці і этнаграфічнай адсталасці беларускай літаратуры...» Совершенно очевидно, что выражение «гордзіеў вузел», под которым принято понимать клубок неразрешимых противоречий, употреблено здесь совсем не к месту.

Однако отдельные неточные формулировки и стилистические шереховатости не снижают общего высокого уровня диссертации, которая является серьезным исследованием творчества молодого Янки Купалы. Работа эта показывает, что ее автор стоит на правильных методологических позициях и умело применяет диалектический метод при анализе художественного творчества. Я считаю, что работа является хорошим началом всестороннего и основательного изучения богатого наследства народного поэта. Василий Владимирович Ивашин безусловно заслуживает того, чтобы ему была присвоена ученая степень кандидата филологических наук.

*1953*

# ВОДЗЫЎ НА ДЫСЕРТАЦЫЮ Я. М. РАМАНОВІЧ «ГАВОРКІ УЗДЗЕНСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ»

Дысертацыя Яўгеніі Міхайлаўны Рамановіч з'яўляецца манаграфічным апісаннем гаворак Уздзенскага раёна. Актуальнасць гэтай тэмы стане для нас зусім зразумелай, калі мы прымем пад увагу, што за апошнія гады ў БССР шырока разгарнулася праца па вывучэнню гаворак у сувязі са складаннем дыялекталагічнага атласа беларускай мовы. Манаграфічнае апісанне гаворак з'яўляецца неабходным дапаўненнем да працы па складанню атласа. Яно дае магчымасць больш глыбока і ўсебакова даследаваць тую ці іншую гаворку і здабыць каштоўныя навуковыя даныя, неабходныя для вывучэння мясцовых дыялектаў.

Выбар дысертанткай аб'екта даследавання таксама трэба прызнаць мэтазгодным, калі мы ўлічым, што ўжо ёсць манаграфічнае апісанне гаворак Лунінецкага і Чырвонаслабодскага раёнаў. Уздзенскі раён знаходзіцца на поўнач ад Чырвонаслабодскага, і на яго гаворках можна прасачыць, як з прасоўваннем на поўнач (праўдзівей — на паўночны ўсход) паступова знікаюць асаблівасці палескіх гаворак і ўступаюць сваё месца асаблівасцям цэнтральных гаворак. На маю думку, нашым мовазнаўцам варта было б прадоўжыць манаграфічнае апісанне беларускіх гаворак іменна ў гэтым кірунку — на паўночны ўсход, у выніку чаго мы атрымалі б, калі можна так сказаць, папярочны разрэз усіх трох асноўных дыялектных паясоў: палескага, цэнтральнага і паўночна-ўсходняга.

Грунтоўнае азнаямленне з дысертацыяй Яўгеніі Міхайлаўны дае падставу заявіць, што яе праца з'яўляецца сур'ёзным мовазнаўчым доследам, праведзеным на багатым фактычным матэрыяле, сабраным як ёй самой, так і экспедыцыямі па збіранні матэрыялу для дылекталагічнага атласа. Выкарыстаны ёю і тыя нешматлікія друкаваныя матэрыялы (галоўным чынам фальклорныя запісы), у якіх зафіксаваны паасобныя рысы вывучаемых гаворак, а таксама творы мастацкай літаратуры, у якіх пракідаюцца дыялектныя асаблівасці данай мясцовасці.

Дысертантка не ставіць сабе задачы даць усебаковае апісанне гаворак Уздзенскага раёна. Такі аб'ём работы быў бы занадта вялікім для кандыдацкай дысертацыі. Яна бярэ за аб'ект свайго доследу фанетыку і марфалогію вывучаемых гаворак, коратка спыняецца на сінтаксісе і зусім не закранае лексікі. Адпаведна гэтаму будуецца і сама праца.

Яна складаецца з уводзін, двух асноўных раздзелаў, заключэння і дадатку.

Ва ўводзінах дысертантка вызначае мэту свае работы, якая заключаецца ў тым, каб усебакова даследаваць фанетычную сістэму і марфалагічны лад гаворак Уздзенскага раёна, вызначыць ступень устойлівасці паасобных дыялектных рыс, ускрыць па магчымасці ўмовы іх узнікнення, высветліць адносіны даных гаворак да літаратурнай мовы і іх месца сярод іншых гаворак. Ва ўводзінах таксама даюцца звесткі аб гістарычным мінулым Уздзенскага раёна і аб цяперашнім стане яго гаспадаркі і культуры.

У першым раздзеле, які складаецца з двух частак — «Вакалізм» і «Кансанантызм,— дысертантка падрабязна высвятляе фанетычныя асаблівасці, уласцівыя гаворкам Уздзенскага раёна. Пры гэтым яна ўстанаўлівае, што многія з гэтых асаблівасцей супадаюць з нормамі літаратурнай мовы. Аднак ёсць пэўная колькасць рыс, уласцівых гаворкам усяго раёна, якія адрозніваюць гэтыя гаворкі ад літаратурнай мовы. Выяўлены таксама і такія рысы, якія ўласцівы гаворкам не ўсяго раёна, а толькі частцы яго, і якія выразна адрозніваюць паўднёва-заходнія гаворкі раёна ад паўночна-ўсходніх. Так, дысертантка ўстанаўлівае, што для гаворак паўночна-ўсходняй часткі ўласцівы пяць галосных фанем: ***а***, ***о***, ***у***, ***е***, ***и(ы)***.У гаворках паўднёва-заходняй часткі яна адрознівае яшчэ дзве дадатковыя фанемы ***ê*** (закрытае) і ***ô*** (закрытае). Першая ўжываецца пад націскам на месцы старога **ъ**, а таксама ў новых закрытых складах на месцы этымалагічнага ***е***. Другая ўжываецца ў новых закрытых складах пад націскам на месцы этымалагічнага ***о*** і на месцы ***е*** перад цвёрдым зычным. Толькі для гаворак паўночна-ўсходняй часткі з'яўляецца характэрным наяўнасць ***о*** на месцы націскнога ***а*** перад нескладовым ***у*** *(доў, узёў, настоўнік, спроўка)*.

Правільна вызначыўшы многія характэрныя фанетычныя асаблівасці гаворак Уздзенскага раёна, дысертантка часамі дапускае і некаторыя памылкі або недакладнасці. Рысы, якія сустракаюцца вельмі рэдка або якія маюць месца толькі ў гаворках паасобных вёсак, яна часамі падае як характэрныя для гаворак усяго раёна. Яна сцвярджае, напрыклад, што «ў адмоўі *н'е*, у прыназоўніку *без*, у займенніках *м'ан'е*, *ц'аб'е*, *с'аб'е*, у прыслоўі *ц'ап'ер*, а таксама ў лічэбніках *дз'ев'аты*, *дз'ес'аты* вымаўляецца гук ***и*** *(н'и быў, б'из вас, ц'ип'ер, с'иб'е, ц'иб'е, дз'ив'аты)*». Гэта сцвярджэнне не адпавядае сапраўднасці. Апрача адмоўя *не* ў астатніх выпадках у большасці гаворак раёна тут мы маем на месцы ***е*** не ***и***, а ***а(я)***.

Яшчэ менш уласцівы гаворкам раёна сцягнутыя формы прыметнікаў *(нова хата, в'ал'ика дз'иц'а, шыроку дарогу, ржаву с'ак'еру).*

Не адпавядае сапраўднасці і тое, што «фанема ***и*** ў пачатку слова рэалізуецца без ётацыі». На самай справе ў адносінах ётацыі фанема ***и*** не адрозніваецца ад ***а, е, у (йа, йе, йу).***

Нельга згадзіцца і з тым, што «пасля цвёрдых зычных, якімі заканчваецца папярэдняе слова, ***и*** замяняецца галосным ***ы***» (пры чым падкрэслена — «паўсямесна»). Наколькі мне вядома, у Уздзенскім раёне гавораць не пад-ым, а пад йим, не аб-ых, а аб йих, такім чынам адзначаную дысертанткай асаблівасць нельга пашыраць на ўвесь раён і на ўсе выпадкі.

Памылковым з'яўляецца сцверджанне і аб тым, што ў займенніках *маё, тваё, сваё, усё*, ***е*** не пераходзіць у ***о***. Гэта асаблівасць мае месца толькі ў некаторай частцы гаворак.

І ўжо зусім не было падставы адзначаць як пашыраную з'яву замену ***ч*** на ***ц*** *(сястрыцка, паліцка, рукавіцка).* Мяне здзівіла, што наяўнасць гэтай асаблівасці паказваецца ў гаворках тых вёсак, якія я добра ведаю і ў якіх я такога вымаўлення ніколі не чуў.

У другім раздзеле, прысвечаным высвятленню марфалагічных асаблівасцей вывучаемых гаворак, дысертантка, у выніку падрабязнага разгляду часцін мовы, прыходзіць да вываду, што гаворкі Уздзенскага раёна маюць агульную з літаратурнай мовай сістэму скланення і спражэння, агульныя граматычныя катэгорыі ўсіх часцін мовы; што склонавыя і спрагальныя формы часта супадаюць з такімі ж формамі ў літаратурнай мове. Разам з тым яна налічвае каля пятнаццаці асаблівасцей у галіне марфалогіі, якімі гэтыя гаворкі адрозніваюцца ад літаратурнай мовы. Пры правільным увогуле асвятленні гэтых асаблівасцей дысертантка і тут дапускае некаторыя недакладнасці. Паўтараецца тое ж самае памылковае сцверджанне аб сцягнутых формах прыметнікаў і аб займенніках *мае, твае, свае, усе* (замест *маё, тваё, сваё, усё*).

На с. 178, 236 і ў іншых месцах дысертантка сцвярджае, што назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць неадушаўлёныя непадзельныя прадметы, у вінавальным склоне маюць форму роднага. Такая з'ява сапраўды часамі сустракаецца ў гаворках Уздзенскага раёна, але, па-першае, яна не з'яўляецца агульнапашыранай, а па-другое, дысертантка тут часта блытае вінавальны склон з родным. Аб гэтым сведчаць такія прыведзеныя ёю прыклады, як *пылу нарабіў, пазыч мяшка, пашукай гурка, баюся калгаснага быка, адламі бліна, адрэж каравая, дай нажа.* Справа ў тым, што дзеясловы

*нарабіць, пазычыць, пашукаць, баяцца* патрабуюць не вінавальнага, а роднага склону. Што датычыцца дзеясловаў *адламаць, адрэзаць, даць*, то яны могуць патрабаваць як вінавальнага, так і роднага склону ў залежнасці ад таго, што маецца на ўвазе. Калі маецца на ўвазе адламаць ці адрэзаць штонебудзь цалкам або даць беззваротна, тады ўжываецца вінавальны склон; калі ж маецца на ўвазе адламаць або адрэзаць частку чаго-небудзь або даць у часовае карыстанне, тады гэтыя дзеясловы патрабуюць роднага склону. Таму можна сказаць — *дай нож* (назаўсёды) і *дай нажа* (на час). Можна сказаць — *адрэж сук*, але нельга сказаць — *адрэж каравай*, а кажуць *адрэж каравая*, бо тут маецца на ўвазе кусок, частка. І дарэмна дысертантка сцвярджае, што ў літаратурнай мове пішуць — *адрэж каравай*. Ва ўсіх прыведзеных вышэй прыкладах мы маем справу не з вінавальным склонам у форме роднага, а з самым сапраўдным родным склонам. Дзеясловы з адмоўем у вывучаемых гаворках, як і ў літаратурнай мове, таксама патрабуюць роднага склону, і прыклад *«ні бачыла грыба»*, не падмацоўвае высунутага дысертанткай сцвярджэння. Не выратоўваюць яе і прыклады, узятыя з літаратурных твораў, бо і тут ва ўсіх выпадках мы маем родны склон, а не вінавальны.

На с. 197 сказана, што назоўнікі мужчынскага роду, якія належаць да 2-га скланення (г. зн. канчаюцца ў назоўным склоне на ***-а***, ***-я***), маюць ва ўскосных склонах тыя ж канчаткі, што і назоўнікі жаночага роду. На самай справе ў гаворках Уздзенскага раёна склонавыя канчаткі гэтых назоўнікаў у давальным і творным склонах як правіла, а ў месным вельмі часта адрозніваюцца: гавораць не *бацьцы, бацькай, аб бацьцы*; *мужчыне, мужчынай, аб мужчыне*, а *бацьку, бацькам, аб бацьку*; *мужчыну, мужчынам, аб мужчыну*. Толькі ў тых выпадках, калі націск прыпадае на канец слова, такія назоўнікі часцей заўсёды скланяюцца таксама, як і назоўнікі жаночага роду: *старшыня, старшынёй, аб старшыні*.

Пры разглядзе прыметнікаў і прыслоўяў дысертантка чамусьці не адзначыла ўжыванне найвышэйшай ступені іх з прыстаўкай ***най-***, хоць такая форма вельмі пашырана ў гаворках Уздзенскага раёна: *найменшы, найбольшы, найгоршы, найменей, наймацней*.

Няправільным з'яўляецца меркаванне дысертанткі, што форма будучага складанага часу з дапаможным дзеясловам *быць* з'явілася ў гэтых гаворках пад уплывам літаратурнай мовы. На самай справе гэта форма здаўна ўласціва гэтым гаворкам і распаўсюджана больш, чым форма з ***іму***. Разме-

жаванне паміж гэтымі формамі трэба шукаць не ў часе, а ў прасторы.

Усе адзначаныя недакладнасці доследу ў галіне фанетыкі і марфалогіі вынікаюць, відавочна, з таго, што дысертантка карысталася часамі не дастаткова праверaным дыялэкталагічным матэрыялам, які не даў ёй магчымасці прасачыць, наколькі тая ці іншая моўная асаблівасць з'яўляецца пашыранай і характэрнай для вывучаемых гаворак.

У невялікім падраздзеле, прысвечаным сінтаксісу, дысертантка адзначае некаторыя сінтаксічныя асаблівасці, якімі гаворкі Уздзенскага раёна адрозніваюцца ад літаратурнай мовы.

У заключэнні аўтар дысертацыі падагульняе ўсе характэрныя рысы гаворак Уздзенскага раёна і прыходзіць да вываду, што большая частка іх уласціва і гаворкам суседніх раёнаў, распалажаных як на поўдзень, так і на поўнач ад Уздзенскага. Але ёсць некаторая частка асаблівасцей, якія ўласцівы толькі больш паўднёвым або толькі больш паўночным гаворкам. Паводле назіранняў дысертанткі першыя з'яўляюцца больш старадаўняга паходжання. Гэта, на яе думку, сведчыць аб тым, што ў час фарміравання асноўных тэрытарыяльных дыялектаў беларускай мовы вывучаемыя гаворкі ўваходзілі ў склад паўднёва-заходніх дыялектаў і што ў пазнейшую пару носьбіты вывучаемых гаворак у эканамічных і культурных адносінах больш звязаны былі з цэнтральнымі раёнамі.

Думка гэта цікавая, але пытанне патрабуе спецыяльнага доследу, каб гэты вывад мог быць падмацаваным фактамі не толькі з фанетыкі і марфалогіі, але і з іншых галін навукі (і не толькі моваэнаўчых).

Апрача адзначаных ужо мною недакладнасцей у вызначэнні і асвятленні паасобных моўных асаблівасцей, праца Яўгеніі Міхайлаўны мае і іншыя, больш дробныя, недахопы: часамі недакладна выказаныя думкі, нязграбна пабудаваныя паасобныя сказы, выпадкі, калі прыведзеныя прыклады не адпавядаюць правілу, якое яны павінны ілюстраваць, проста апіскі. Усе заўважаныя мною недахопы такога характару адзначаны на палях дысертацыі. У далейшай рабоце Яўгенія Міхайлаўна без асаблівай цяжкасці зможа выправіць як паасобныя недакладнасці ў асвятленні моўных з'яў, так і тыя, я б сказаў, механічныя памылкі, якія ўкраліся ў тэкст яе дысертацыі. А папраўкі такія зрабіць я лічу неабходным, паколькі моваэнаўцы не раз будуць звяртацца да яе дысертацыі, будучы ўпэўненымі ў дасгавернасці пададзеных ёю фактаў.

Нягледзячы на адзначаныя мною недахопы, праца Яўгеніі Міхайлаўны з'яўляецца каштоўным моваэнаўчым доследам.

Дысертантка правяла гэты дослед на багатым матэрыяле, выявіла ўсе істотныя рысы вывучаемых гаворак у галіне фанетыкі і марфалогіі, у многіх выпадках высветліла іх паходжанне, за рэдкім выключэннем выказала правільныя меркаванні аб іх распаўсюджанні, правяла параўнанне вывучаемых гаворак з літаратурнай мовай, прасачыла распаўсюджанне многіх рыс у іншых гаворках, зрабіла спробу даць гістарычнае тлумачэнне моўных з'яў у сувязі з гісторыяй Уздзенскага раёна.

Усё гэта сведчыць аб тым, што Яўгенія Міхайлаўна з'яўляецца падрыхтаваным мовазнаўцам, што яна добра валодае метадам даследавання ў галіне дыялекталогіі і напісала працу, якая з'яўляецца пэўным укладам у справу вывучэння беларускіх гаворак і адпавядае патрабаванням, якія прад'яўляюцца да кандыдацкай дысертацыі. Агульны ўзровень гэтай працы гаворыць аб тым, што яе аўтар Яўгенія Міхайлаўна Рамановіч заслугоўвае таго, каб ёй была прысуджана навуковая ступень кандыдата філалагічных навук.

*1953*

## ВОДЗЫЎ АБ ДЫСЕРТАЦЫІ З. А. НЯТЫЛЬКА «ТЭМА ЎЗ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА Ў ТВОРЧАСЦІ ЯКУБА КОЛАСА»

Падзел Беларусі дзяржаўнай мяжой на дзве часткі, у адной з якіх беларускія працоўныя карысталіся ўсімі здабыткамі Сацыялістычнай рэвалюцыі, а ў другой гібелі ў паднявольным становішчы пад прыгнётам польскіх памешчыкаў і капіталістаў, заўсёды адчуваўся беларускім народам, як крывавая рана на яго целе, як жахлівая гістарычная несправядлівасць.

Зразумела, што як па гэты, так і па той бок мяжы лепшыя беларускія пісьменнікі, якія цесна звязалі свой лёс з лёсам народа, не маглі не ўдзяліць гэтаму пытанню вялікай увагі. У сваіх шматлікіх творах яны імкнуліся паказаць цяжкое становішча працоўных Заходняй Беларусі, заклікалі іх да барацьбы за сваё вызваленне і ўсялялі ў іх веру і надзею на хуткае вызваленне.

І зусім заканамерна, што гэтыя творы прыцягнулі да сябе ўвагу нашай дысертанткі. Не маючы магчымасці ахапіць усю

літаратуру на гэту тэму, дысертантка паставіла сабе мэтай даследаваць з гэтага боку творчасць народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Верны сын свайго народа, Якуб Колас заўсёды дзяліў з народам яго радасць і гора. Глыбока хвалявау яго і лёс працоўных Заходняй Беларусі, якія пакутавалі пад прыгнётам панскай Польшчы. Ім напісана нямала твораў, у якіх паказваецца цяжкое становішча працоўных і іх гераічная барацьба за сваё вызваленне.

Дысертацыя т. Нятылька складаецца з невялікага ўступу, трох глаў, заключэння і бібліяграфіі.

Ва ўступе дысертантка падкрэслівае вялікае грамадскае значэнне творчасці Якуба Коласа, коратка характарызуе важнейшыя крытычныя работы, прысвечаныя разгляду творчасці народнага паэта, і вызначае сваю задачу.

У сваёй рабоце дысертантка не абмяжоўваецца вузкімі рамкамі пастаўленай тэмы. Разгляду творчасці Якуба Коласа яна прадпасылае кароткі агляд усяе беларускай паэзіі, прысвечанай тэме ўз'яднання беларускага народа. Гэтаму пытанню прысвечана першая глава дысертацыі пад назвай «Ідэя ўз'яднання беларускага народа ў беларускай паэзіі». У пачатку главы дысертантка спрабуе намаляваць канкрэтную гістарычную абстаноўку, у якой расла і развівалася беларуская літаратура паабапал дзяржаўнай мяжы. Абстаноўка гэта вызначаецца двума рашаючымі фактарамі: наяўнасцю, з аднаго боку, Савецкай Беларусі як неаддзельнай часткі Вялікага Савецкага Саюза, дзе свабодны працоўны народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі будуе сваё ўласнае шчасце, і наяўнасцю, з другога боку, панскай Польшчы з яе рэакцыйным урадам, дзе бяспраўная нацыянальная меншасць адчувае на сабе ўсе жахі прыгнёту і эксплуатацыі. Шмат месца ў гэтай главе дысертантка ўдзяляе характарыстыцы творчасці паэтаў Заходняй Беларусі. Зусім справядліва яна ставіць на першае месца творчасць такіх паэтаў, як Максім Танк, Піліп Пестрак, Валянцін Таўлай, якія не толькі жылі і тварылі ва ўмовах панскай Польшчы, але і самі прымалі актыўны ўдзел у барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Дысертантка вызначае гэту прагрэсіўную плынь у літаратуры Заходняй Беларусі, як рэвалюцыйна-дэмакратычную. Такое вызначэнне можна прыняць толькі ўмоўна, прымаючы пад увагу, што гэта літаратура заклікала да рэвалюцыйнай барацьбы і выражала імкненні дэмакратычнага лагера. Аднак гэту літаратуру нельга ставіць у адзін рад з рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратурай прошлага стагоддзя па той простай прычыне, што яна стваралася ў іншых гістарычных умо-

вах і адлюстроўвала новы этап класавай барацьбы. У сувязі з гэтым сцверджанне дысертанткі, што ідэі Герцэна і Бялінскага, Някрасава і Дабралюбава, Чарнышэўскага і Салтыкова-Шчадрына ляглі ў аснову рэвалюцыйнай паэзіі Заходняй Беларусі, таксама трэба прыняць з папраўкай. Справа ў тым, што лепшыя паэты Заходняй Беларусі натхняліся ў першую чаргу і самым непасрэдным чынам ідэямі Леніна і Сталіна, Карла Маркса і Энгельса і вялікімі падзеямі Кастрычніцкай рэвалюцыі. У іх творах адлюстроўваецца жывая рэвалюцыйная барацьба мас. Пры гэтых акалічнасцях зразумела, што ідэі і эстэтычныя погляды рэвалюцыйных дэмакратаў прошлага стагоддзя хоць і з'яўляліся блізкімі і зразумелымі паэтам Заходняй Беларусі, але не яны ў першую чаргу вызначалі змест іх паэзіі.

Далей у гэтай жа главе дысертантка дае характарыстыку беларускай савецкай паэзіі, правільна падкрэсліваючы яе патрыятычны змест, выражаныя ў ёй трывогу і боль за лёс працоўных Заходняй Беларусі. Пры гэтым дысертантка падкрэслівае, якое вялікае месца займае тэма ўз'яднання беларускага народа ў творчасці Якуба Коласа і Янкі Купалы і якое вялікае значэнне мела іх творчасць для працоўных Заходняй Беларусі.

Шкада, што ў гэтым агульным аглядзе беларускай літаратуры т. Нятылька характарызуе толькі беларускую паэзію. Для паўнаты карціны карысна было б назваць і больш буйныя празаічныя творы беларускіх пісьменнікаў, прысвечаныя пастаўленай тэме, тады не выпалі б з поля зроку дысертанткі такія выдатныя беларускія пісьменнікі, як Кузьма Чорны і Эдуард Самуйлёнак.

У другой главе, якая называецца «Паэзія і публіцыстыка Якуба Коласа ў барацьбе за ўз'яднанне беларускага народа», дысертантка непасрэдна прыступае да аналізу творчасці народнага паэта.

У аснову пабудовы гэтай главы дысертантка кладзе тэматычны прынцып. У адпаведнасці з гэтым глава падзяляецца на раздзелы ў залежнасці ад таго, якія тэматычныя моманты дысертантка палічыла патрэбным вылучыць як састаўныя элементы агульнай шырокай тэмы вызвалення працоўных Заходняй Беларусі. Паасобныя раздзелы гэтай главы прысвечаны такім пытанням, як паказ Якубам Коласам паднявольнага становішча працоўных Заходняй Беларусі, выкрыццё здрадніцкай ролі беларускіх буржуазных нацыяналістаў, выкрыццё агрэсіўных намераў польскай ваеншчыны, выражэнне пратэсту супроць гвалтоўнай палітыкі польскага ўраду, накіраванай

на тое, каб удушыць усякую спробу працоўных беларусаў вырвацца з паднявольнага становішча. Трэба сказаць, што больш-менш дакладнага размеркавання матэрыялу па гэтых раздзелах не атрымалася, ды і не магло атрымацца, паколькі як у паэтычных, так і ў публіцыстычных творах адны і тыя ж самыя матывы паўтараюцца ў розных спалучэннях. Дысертантка вымушана была з раздзела ў раздзел называць тыя ж самыя вершы і артыкулы, а часамі прыводзіць і тыя ж самыя цытаты, як гэта мае месца на с. 94 і 135. У канцы главы дысертантка выказвае зноў тыя ж самыя думкі, якія былі выказаны ў пачатку, і ў якасці прыкладаў называюцца тыя ж самыя творы.

Ёсць у гэтай главе і некаторыя непрадуманыя палажэнні ці проста няўдала выказаныя думкі або не да месца прыведзеныя прыклады. Так, на с. 125 гаворыцца, што верш «На шлюб» пана Студніцкага» напісаны пад уплывам народнай сатырычнай паэзіі. Прычым дысертантка сцвярджае, што «ад вуснай народнай творчасці прыйшоў сюды і вялікі аптымізм». Палажэнне, бясспрэчна, няправільнае. Аптымізм уласцівы ўсёй творчасці Коласа, ■ не толькі гэтаму вершу. І паходзіць гэты аптымізм не ад народнай творчасці, а ад веры ў вялікую сілу паўстаўшых народных мас, у сілу вызваленчых ідэй, якімі яны кіруюцца.

Разглядаючы творчасць Якуба Коласа са зразумелай нам любоўю і пашанай, дысертантка часамі не адважваецца ўказваць на паасобныя слабыя бакі ў цэлым выдатных твораў народнага паэта. У выніку недахопы часамі падаюцца як дасягненні і нават робіцца спроба даць ім тэарэтычнае абгрунтаванне. На с. 146 дысертантка гаворыць: «Велічнасць задач, якія стаяць перад народам і аб якіх піша паэт, патрабуюць і высокага стылю для выражэння іх. Таму паэт звяртаецца да рытарычных зваротаў». Мы не можам згадзіцца з тым, што для адлюстравання велічных задач найбольш прыдатна рытарычная паэзія. А калі мы возьмем творчасць Якуба Коласа, то яна захапляе нас перш за ўсё не рытарычнасцю, а яскравым вобразным адлюстраваннем рэчаіснасці, як гэта мае месца, скажам, у «Новай зямлі» ды і ў многіх іншых творах.

На с. 153 мы чытаем: «Ва ўсіх разгледжаных творах далёка не апошнюю ролю адыгрывае асоба аўтара». З гэтым спрачацца не прыходзіцца, бо цяжка ўявіць сабе такі твор, у якім бы асоба аўтара адыгрывала апошнюю ролю. Але ці была патрэба выказваць гэту абсалютную ісціну?

Самым значным недахопам работы т. Нятылька і асабліва гэтай другой главы, з'яўляецца тое, што яна вельмі мала

ўдзяляе ўвагі разгляду мастацкіх сродкаў, з дапамогай якіх паэт вырашае пастаўленую творчую задачу. У гэтай главе дысертантка задавольваецца выключна сацыялагічным аналізам творчасці Якуба Коласа.

Яна настолькі мала цікавіцца мастацкімі якасцямі разглядаемых твораў, што нават не ставіць пытання аб тым, якія творы народнага паэта з'яўляюцца больш дасканалымі з мастацкага боку і чаму. Больш таго, дысертантка нават не аддзяляе мастацкіх твораў паэта ад яго публіцыстычных выказванняў і разглядае ўсе іх у агульным патоку.

Там жа, дзе т. Нятылька ўсё-такі нясмела спрабуе разабрацца ў мастацкіх сродках паэта, у яе выходзіць гэта не досыць удала. Такія спробы мы сустракаем, напр. на с. 106, дзе дысертантка разважае аб паланізмах у творчасці Коласа і гаворыць, што яны выкліканы ідэйнай накіраванасцю таго або іншага твора. Вядома, усе мастацкія сродкі служаць для таго, каб як мага больш поўна і ярка выказаць ідэю твора, але якую канкрэтную стылістычную функцыю нясуць паланізмы ў творах Коласа, як яны служаць перадачы нацыянальнага каларыту мовы таго ці іншага персанажа, дапамагаюць яго сацыяльнай і індывідуальнай характарыстыцы, гэтага дысертантка не паказала. Сустрэўшыся з тымі ці іншымі асаблівасцямі стылю аўтара, дысертантка не знаходзіць часамі патрэбнага тэрміна для іх азначэння. Там, дзе мы маем справу, напрыклад, з іроніяй або сарказмам, дысертантка гаворыць, што Колас «ужывае словы ў пераносным сэнсе» (с. 96).

Трэцяя глава дысертацыі прысвечана разгляду паэмы «Рыбакова хата».

Спыніўшыся коратка на гісторыі напісання паэмы, дысертантка аналізуе яе ідэйны змест і мастацкія якасці. Яна характарызуе паэму як глыбока рэалістычны і высокамастацкі твор, у якім паэт праўдзіва паказаў жыццё працоўных Заходняй Беларусі, іх імкненне да ўз'яднання ў адзінай Савецкай дзяржаве.

Спыняючыся на выяўленні паасобных кампанентаў паэмы, дысертантка ўказвае на сацыяльную прыроду канфлікту, у якім сутыкнуліся прадстаўнікі двух варожых лагераў. Прадстаўнікамі народа ў паэме з'яўляюцца такія любоўна выпісаныя аўтарам вобразы, як беззямельны селянін Даніла Смык, яго жонка Марына, бабыль-рыбак Сымон Латушка. Дысертантка падкрэслівае высокія маральныя якасці гэтых людзей, іх аптымізм і глыбокую веру ў лепшую будучыню.

Прадстаўнікам народа процістаўлены ў паэме такія слугі чорнай рэакцыі, як асаднік Богут, пан Глынка, верны паслу-

гач рэакцыйнага ўрада Пшэбора. З усёй страснасцю і вялікай дасціпнасцю, не шкадуючы сатырычных стрэл, паэт выкрывае звярынае аблічча эксплуатататараў і прыгнятальнікаў працоўных мас.

Дысертантка звяртае ўвагу і на тыя канкрэтныя гістарычныя абставіны, у якіх дзейнічаюць героі паэмы і якія ярка і праўдзіва паказаны аўтарам паэмы. Пры гэтым яна падкрэслівае асаблівую ролю Камуністычнай партыі ў барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за сваё вызваленне, рост свядомасці працоўных пад уплывам камуністычных ідэй, што ў паэме асабліва пераканаўча паказана на прыкладзе Данілы Смыка.

Вызначаючы жанравую асаблівасць паэмы «Рыбакова хата» як твора ліра-эпічнага, дысертантка ўказвае на тую акалічнасць, што ў ёй аўтар выказвае свае адносіны да рэчаіснасці не толькі праз паказ дзеючых асоб, але і ў непасрэдных выказваннях: у шматлікіх лірычных адступленнях, у малюнках прыроды, у разгорнутых характарыстыках дзеючых асоб і абставін. У выніку перад намі ва ўсёй паўнаце вырысоўваецца вобраз самога аўтара паэмы, гарачага патрыёта, які бясконца любіць свой народ, сваю Савецкую краіну і страсна ненавідзіць яе ворагаў; глыбокага знаўца чалавечай душы і выдатнага мастака слова, які з надзвычайнай трапнасцю і яркасцю ўмее перадаць і стан чалавечай псіхікі і хараство прыроды.

Трэцюю главу ў дысертацыі трэба лічыць найбольш удалай. У ёй найбольш поўна і ўсебакова робіцца аналіз выдатнага твора народнага паэта. Але што датычыцца разгляду мастацкіх сродкаў паэта, стылявых асаблівасцей яго творчасці, дык і гэта глава не можа нас цалкам задаволіць.

Ёсць у гэтай главе, як і ў папярэдніх, і такія палажэнні, з якімі нельга згадзіцца, ёсць рад мясцін, дзе думкі аўтара дысертацыі выказаны недакладна ці проста няўдала з боку стылю. Так, напрыклад, на с. 220, зазначаючы, што Марына разумела справядлівасць той справы, за якую змагаўся яе муж, але сама не прымала ніякага ўдзелу ў практычнай рэвалюцыйнай дзейнасці, дысертантка сцвярджае, што, «следуючы законам рэалістычнага мастацтва» паэт і не мог зрабіць Марыну рэвалюцыянеркай, бо «паводзіны Марыны абумоўлены самім жыццём, паднявольным становішчам жанчыны ў Заходняй Беларусі». Такое разуменне ролі жанчыны ў рэвалюцыйнай барацьбе з'яўляецца памылковым. Аб гэтым сведчаць шматлікія факты з гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы працоўных розных краін. Успомнім выдатных рускіх рэвалюцыянерак. Ды і ў Заходняй Беларусі было нямала жанчын, якія прымалі самы актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе. Ус-

помнім, напрыклад, такую гарачую патрыётку і выдатную рэвалюцыянерку, як Вера Харужая. Адлюстраванне падобных фактаў бачым мы і ў беларускай мастацкай літаратуры і зусім не лічым, што такі паказ жанчыны з'яўляецца парушэннем законаў рэалістычнага мастацтва.

Не зусім правільна асвятляе дысертантка выкарыстанне Я. Коласам вуснай народнай творчасці, калі гаворыць, што пры стварэнні такога вобраза, як Сымон Латушка, аўтар ішоў ад народнай творчасці. Перш за ўсё ён, бясспрэчна, ішоў ад жыцця.

Досыць наіўна выглядаюць разважанні дысертанткі аб мове станоўчых герояў. Зазначыўшы, што станоўчыя героі ў паэме гавораць на чыстай беларускай мове, дысертантка сцвярджае, што гэта тлумачыцца ідэйным зместам паэмы. «Вядома,— кажа яна,— што беларуская і ўкраінская мовы былі забаронены на «ўсходніх крэсах». Але станоўчыя героі паэмы гавораць толькі на беларускай мове, што з'яўляецца своеасаблівым пратэстам супроць захопнікаў». Па-першае, беларуская мова была забаронена не ў тым сэнсе, як уяўляе сабе дысертантка. Яна была забаронена як мова афіцыяльная, але ніхто не мог забараніць беларускаму насельніцтву размаўляць на гэтай мове паміж сабой. Па-другое, беларускія сяляне гаварылі па-беларуску не дзеля пратэсту супроць захопнікаў, а таму, што гэта іх родная мова і што другой мовы яны не ведалі.

Зазначаючы, што ў мове Коласа шмат прыказак, пагаворак і параўнанняў, узятых з фальклора, дысертантка прыводзіць зусім няўдалыя прыклады ў пацверджанне сваёй думкі. «Цяжкае становішча працоўных беларусаў у панскай Польшчы,— гаворыць яна,— аўтар падкрэслівае ў такой прыказцы:

> Калі ж бяда расчыніць дзверы,
> Дык верце, людзі, што яна —
> Ваўчыца тая, што адна
> Капэлю водзіць ваўкоў шэрых».

Па-першае, у гэтых радках нічога не гаворыцца аб становішчы працоўных беларусаў у панскай Польшчы. Па-другое, гэта выслоўе паэта ніяк нельга палічыць за прыказку. Прыказка, як нам вядома, вызначаецца надзвычайнай сціслацю выказанай думкі, а тут мы маем разгорнутае параўнанне бяды з ваўчыцай, якая водзіць за сабой зграю ваўкоў. Хоць у фальклоры сапраўды ёсць прыказкі, дзе выказваецца тая ж думка, такія, напрыклад, як: «Бяда адна не ходзіць»; «Бяда па бядзе, як па нітачцы, ідзе».

Або ўспомнім аналагічную рускую прыказку: «Пришла беда — открывай ворота».

Коласаўскія радкі:

> «Тэўтон як быў, дык і ёсць скула».
> І з тым жа норавам ваўкоў —

дысертантка таксама беспадстаўна называе прыказкай.

Можна было б зазначыць яшчэ на рад няўдалых мясцін у дысертацыі. Аднак гэта толькі паасобныя недахопы навукова аналізу або стылю дысертанткі. Нягледзячы на гэтыя недахопы, самым значным з якіх з'яўляецца недастатковая ўвага аўтара да мастацкага боку твораў, праца т. Нятылька ў цэлым мае пэўную навуковую каштоўнасць. Яна дае нам увогуле правільнае ўяўленне аб творах Якуба Коласа, прысвечаных вызваленню працоўных Заходняй Беларусі. Пры гэтым дысертантка асвятляе творчасць народнага паэта з таго боку, з якога яшчэ не падыходзілі да яе іншыя даследчыкі.

Аўтарэферат напісаны дысертанткай у адпаведнасці са зместам самой дысертацыі і добрай літаратурнай мовай. У ім правільна перададзены асноўныя палажэнні дысертанткі, якія ў самой дысертацыі больш поўна развіты і належным чынам абгрунтаваны.

Такім чынам праца т. Нятылька з'яўляецца карысным дапаўненнем да тых доследаў творчасці Якуба Коласа, якія ўжо зроблены іншымі даследчыкамі. Праца гэта сведчыць аб тым, што яе аўтар — Зінаіда Аляксандраўна Нятылька — заслугоўвае таго, каб ёй была прысуджана навуковая ступень кандыдата філалагічных навук.

*1954*

## ОТЗЫВ О ДИССЕРТАЦИОННОЙ РАБОТЕ М. Р. СУДНИКА «К ИСТОРИИ БЕЛОРУССКОЙ ЛЕКСИКОГРАФИИ (XVI—XVII вв.)»

Диссертационная работа Михаила Романовича Судника «К истории белорусской лексикографии» представляет большой научный интерес. Заслуживает всяческого одобрения

выбор темы, разработка которой в известной мере восполняет пробел, имеющий место в тематике научно-исследовательской работы Института языкознания АН БССР.

При выполнении избранной темы автору пришлось преодолеть значительные трудности. Одна из них заключается в том, что в советском языкознании до сих пор не разработаны теоретические основы лексикографии. Другая не меньшая трудность проистекает из того, что в белорусском языкознании подобная тема разрабатывается впервые, и автору пришлось идти по непроторенному пути как в выявлении и собирании ранних лексикографических материалов, так и в их освещении.

Благодаря проявленному упорству, а также умелому владению методом исследования диссертанту удалось преодолеть эти трудности и успешно справиться с поставленной задачей. В результате мы имеем ценный научный труд, в котором автор подробно исследует сохранившиеся памятники белорусской лексикографии XVI—XVII веков начиная с переводов и толкований отдельных слов на полях рукописей и кончая «Лексiсам» Лаврентия Зизания и «Лексиконом» Памвы Берынды. Специальную главу диссертант посвящает книжной деятельности Георгия Скорины и анализу глосс на полях напечатанных им книг.

В лексикографической работе рассматриваемого периода автор различает два этапа. На первом этапе глоссы и глоссарии существуют нераздельно с текстом, для пояснения которого они предназначены. На втором этапе словарь уже не связан с конкретным текстом, а существует отдельно как самостоятельное пособие. Значительное место отводится в диссертации словарям Л. Зизания и П. Берынды, имеющим большое значение для разработки истории белорусского литературного языка. В этих словарях, кроме лексики, нашли отображение многие фонетические и морфологические особенности белорусского языка. Кроме того, в них, по мнению автора, заложены все те принципы и структурные элементы, которые нашли свое широкое развитие в переводных и толковых словарях нашего времени.

Положительным в работе М. Р. Судника является и то, что он проводит свое исследование, не теряя из виду конкретного исторического фона. Автор убедительно доказывает, что лексикографическая работа в рассматриваемый период возникла не случайно, что она явилась ответом на возросшие культурные запросы общества.

Работа Михаила Романовича Судника выполнена на высоком теоретическом уровне, написана хорошим языком, отвечает всем требованиям, предъявленным к кандидатским диссертациям, и без сомнения может быть представлена к защите на соискание ученой степени кандидата филологических наук.

*1954*

## РЭЦЭНЗІЯ НА АПОВЕСЦЬ ЯКУБА КОЛАСА «НА РОСТАНЯХ»

З вялікай цікавасцю возьме ў рукі чытач гэты твор. Разгарнуўшы яго, ён адразу пазнае руку выдатнага майстра слова, які ўмее скупымі, але дакладнымі і выразнымі сродкамі намаляваць жывы вобраз чалавека, яркі малюнак прыроды. Зноў перад намі праплываюць, чаруючы сваім хараством, родныя лясы, лугі і нівы, праходзяць чарадою рознага стану і ўзросту людзі. З некаторымі з іх мы ўжо сустракаліся ў папярэдніх частках трылогіі, а з большасцю знаёмімся ўпершыню. Тут і авеяная паэзіяй юнацтва і першага нясмелага кахання Ліда, і бацька Уладзімір, падобны сваімі замашкамі хутчэй на гусара, чым на божага служаку, і простая, непісьменная, але разумная і далікатная ў сваіх пачуццях — бабка Параска, і дамарослы філосаф, але добры хлопец і дружбак Янка Тукала, і шмат іншых каларытных фігур, з якімі мы сустракаемся часамі толькі на кароткі час, але расстаўшыся, не можам забыць, бо кожная з гэтых фігур яркая і цікавая на свой адменны лад.

Аднак чытача ў першую чаргу цікавіць лёс яго любімага героя Андрэя Лабановіча. Што з ім сталася? Ці знайшоў ён сваё пэўнае месца ў жыцці? У чым ён бачыць свае грамадскія ідэалы і як думае іх ажыццяўляць? І, магчыма, што пашукаўшы адказу на ўсе гэтыя пытанні, чытач закрые кнігу з некаторым шкадаваннем. Не цалкам апраўдаў Лабановіч яго спадзяванні,— не вырас у выдатнага героя свайго часу. А чытач чакаў іменна гэтага, бо да гэтага як быццам вёў увесь папярэдні шлях Лабановіча: яго пошукі разумнага сэнсу жыцця, праўды і справядлівасці, яго першыя спробы памагчы працоўнаму народу ў яго барацьбе з прыгнятальнікамі. Які ж

поступ Лабановіча наперад бачыць чытач у трэцяй частцы? Гэта перш за ўсё крок Лабановіча да актыўнага ўдзелу ў рэвалюцыйнай барацьбе — удзел у з'ездзе настаўнікаў. Але гэты паважны крок, на жаль, не цягне за сабой паважных вынікаў. Сам з'езд арганізуецца і праводзіцца не сур'ёзна. (Што, між іншым, прызнае і сам Лабановіч.) Удзельнікі яго выглядаюць наіўнымі і няўмелымі ў палітычных справах людзьмі, чаму іх зараз жа і накрывае паліцыя. Праграма будучай арганізацыі вельмі неакрэсленая. Настаўнікі ставяць сабе мэтай змагацца з самадзяржаўным ладам за вызваленне народа. Аднак застаецца невядомым, на якую рэальную сілу збіраюцца яны апірацца, хто будзе вызваляць народ. Якіх-небудзь спроб наладзіць сувязь з народам для гэтай мэты не заўважаецца нават у самога Лабановіча. Чым жыве народ, што ён сам думае аб сваім вызваленні — чытачу таксама невядома. Другой значнай падзеяй у жыцці Лабановіча на гэтым этапе з'яўляецца тое, што яго пасадзілі ў турму за напісанне адозвы да настаўнікаў. Але ніякай адозвы ён не пісаў — яму прыпісалі чужыя заслугі, і гэта ідзе не на карысць цэнтральнаму герою аповесці. Прабыванне ў турме таксама не сведчыць аб духоўным росце Лабановіча. Ён проста адбывае пакаранне. Звыкшыся з абстаноўкай, ён нават памяркоўна адносіцца да ідыятызму турэмнага жыцця, які праяўляецца ў «пілаванні дуба» і іншых падобных забаўках. Такім чынам прабыванне ў турме амаль нічога не прыбавіла Лабановічу ў вачах чытача. Заключная фраза аповесці аб тым, што запавет сацыял-дэмакрата Галубовіча будзе асноваю жыцця і дзейнасці Андрэя Лабановіча, з'яўляецца толькі абяцаннем на будучае. У сучаснай дзейнасці Лабановіча яно амаль нічым не падмацавана. Размова Лабановіча з Галубовічам у турме, вельмі нязначная і неакрэсленая па свайму зместу, не апраўдвае гэтай фразы.

У апісанні абставін і штодзённага побыту Лабановіча таксама не ўсё з'яўляецца апраўданым у сэнсе паказу цэнтральнага вобраза. Часамі ён не ўзнімаецца вышэй таго абыватэльскага асяроддзя, у якім знаходзіцца. Паасобныя неабдуманыя ўчынкі Лабановіча і іншыя моманты часамі зніжаюць гэты вобраз. І дзве шклянкі гарэлкі ў Антаніны Міхайлаўны, і валачобнікі, і пабіты гладыш Базылёвай маці, і каровіны ляпёшкі, якія еў у сне Янка Тукала, і нават дваццаць капеек, якія Лабановіч плаціць пастуху, каб той гукаў перад пісаравымі вокнамі «выганяй»,— усё гэта не ўзвышае Лабановіча. Аднак у аповесці ёсць усе магчымасці, каб прыўзняць гэты вобраз. Для гэтага не шкодзіла б дадаць Лабановічу такія

учынкі, якія ўзвышалі б яго як грамадскага дзеяча і як чалавека наогул. Мне думаецца, што Лабановіч мог бы, напрыклад, наладзіць больш цесную сувязь і з сялянамі, чыіх дзяцей ён вучыць. Мог бы ён і ў турме больш праявіцца як палітычны і грамадскі дзеяч. Магло б у яго быць і больш грунтоўнае паразуменне з Галубовічам.

Шкада, што і каханне Лабановіча да Ліды не вырасла ў сапраўднае вялікае пачуццё.

З другога боку варта было б апусціць у аповесці тыя мясціны, якія так ці іначай зніжаюць вобраз Лабановіча.

Пры жаданні такі выдатны мастак, як Якуб Колас, мог бы надаць цэнтральнаму вобразу свайго выдатнага твора больш паважнае завяршэнне.

*1955*

## ОТЗЫВ О ДОКТОРСКОЙ ДИССЕРТАЦИИ В. В. БОРИСЕНКО НА ТЕМУ «Ф. БОГУШЕВИЧ И ПРОБЛЕМА РЕАЛИЗМА В БЕЛОРУССКОЙ ЛИТЕРАТУРЕ XIX ВЕКА»

Многотрудный и своеобразный путь развития белорусской литературы не получил еще достаточно полного и всестороннего освещения в трудах белорусских литературоведов. Многие значительные явления белорусской литературы, определявшие пути ее развития на разных исторических этапах, освещены только поверхностно. В оценке других имеют место противоречивые высказывания. Не вскрыта в полной мере фальсификация историко-литературного процесса со стороны литературоведов чуждой нам идеологии, в первую очередь со стороны белорусских буржуазных националистов.

Капитальный труд Василия Васильевича Борисенко в значительной мере восполняет эти пробелы. В нем освещается длительный период развития белорусской литературы — от ее зарождения до конца XIX века. Несмотря на такой широкий охват, работа не носит поверхностно-описательного характера. В ней автор умело сочетает выяснение исторической последовательности и обусловленности литературных явлений научным анализом всех наиболее значительных произведений.

Хорошо владея марксистско-ленинским методом исследования, В. В. Борисенко рассматривает развитие белорусской литературы неотрывно от конкретной исторической обстановки, убедительно показывая в каждом отдельном случае, в силу каких причин зарождались и развивались те или иные идейные течения, как они проявлялись в художественной или публицистической литературе, интересы какого класса или социальной прослойки они выражали.

Большой заслугой В. В. Борисенко является и то, что он разыскал в архивах и в редких печатных изданиях и ввел в научный оборот значительное количество литературных произведений, которые до сего времени не были известны исследователям белорусской литературы, но которые, как справедливо считает автор, имеют важное значение для понимания литературного процесса XIX века. Материалы эти представлены в виде отдельного приложения и составляют том объемом в 340 страниц машинописи.

Диссертация В. В. Борисенко состоит из введения, трех частей, из которых каждая включает несколько глав, и заключения.

Во введении диссертант указывает на большие успехи в развитии всей советской литературы, подчеркивает огромную роль ее в коммунистическом воспитании советских людей, указывает на большую ценность культурного наследия прошлого для развития советской литературы и на необходимость критического овладения этим наследием. Правильно отметив, что трудами молодых белорусских литературоведов положено хорошее начало изучению ценного наследия прошлого, диссертант называет целый ряд проблем в этой области, которые еще не получили своего разрешения. Одной из них является проблема развития белорусской литературы в XIX веке и становление в ней критического реализма. Решению этой проблемы и посвящает Василий Васильевич свой труд, ставя в центр внимания творчество виднейшего представителя критического реализма в белорусской литературе Франциска Богушевича.

Придавая большое значение преемственности в развитии литературы, т. Борисенко предпосылает исследованию белорусской литературы XIX века обобщающую характеристику предыдущих этапов ее развития. Этой характеристике посвящены первые три главы первой части диссертации. Здесь автор освещает исторические условия, в которых зарождалась и развивалась древняя белорусская литература в XIV—XVII веках. Основное ее направление характеризуется как

борьба лучших представителей белорусской культуры за национальную самостоятельность белорусского народа, за сохранение его веры, языка и обычаев. Развитию белорусской литературы в значительной мере способствовало возникновение в Белоруссии в XVI веке книгопечатания. Диссертант подчеркивает огромное значение в распространении книгопечатания выдающегося культурного деятеля того времени первопечатника Георгия Скорины.

Во второй половине XVI и в XVII веке усиливается стремление польских феодалов ополячить и окончательно покорить белорусское население. В соответствии с этим усиливается экспансия католицизма, активизируется деятельность иезуитов на белорусских землях, прилагаются огромные усилия к тому, чтобы обратить православное белорусское население, если не в католичество, то, по крайней мере, в униатство, которое Ватикан рассматривал как переходную ступень в процессе окатоличивания. Одновременно растет отпор этой экспансии со стороны белорусского населения. Передовые люди феодального общества все более активно выступают на защиту веры и обычаев народа. Борьба эта носила по преимуществу религиозный характер. На территории Белоруссии широкое распространение получила деятельность православных братств, которые в борьбе с католицизмом широко организовали печатание книг. Диссертант отмечает, что из среды братств вышли многие выдающиеся культурные деятели. Он выясняет характер и значение трудов таких деятелей того времени, как Симеон Будный, Василий Тяпинский, Лаврентий Зизаний, Мелетий Смотрицкий, Леонтий Карпович и другие. Главное место в письменной литературе того времени занимают полемические произведения на религиозные темы. Но в этот период начинает формироваться и светская литература: общественно-бытовая и политическая сатира, мемуарные и эпистолярные жанры.

Характеризуя состояние белорусской литературы в XVIII веке, диссертант отмечает усиление феодально-католической реакции и почти полное подавление всякой культурной деятельности на белорусском языке. Белорусское художественное слово развивается исключительно в форме устного творчества. Из анонимной печатной и рукописной литературы этого времени уцелело очень немногое. Тем не менее В. В. Борисенко считает, что появление во второй половине XVIII века пародийно-юмористических, сатирических и шуточных стихотворных рассказов, исторических и лирических песен, драматических сценок и т. п. свидетельствует «о зарождении

в белорусской литературе новых качественных особенностей, предвещавших наступление нового периода в ее истории».

В последней, самой обширной, главе первой части автор диссертации характеризует экономическое, политическое и культурное положение страны после присоединения белорусских земель к России в конце XVIII века. Указывая на положительное значение этого факта для дальнейшего хозяйственного и культурного развития Белоруссии, т. Борисенко подчеркивает огромное влияние передовой общественной мысли России и проникновение передовых идей в среду белорусской интеллигенции. Вместе с тем он отмечает и отрицательные факторы, тормозившие нормальное развитие новой белорусской литературы. К этим факторам в первую очередь относится жестокий социальный и национальный гнет со стороны царского самодержавия.

Прослеживая зарождение новой белорусской литературы в первой половине XIX века, автор диссертации большое внимание уделяет анонимной литературе, получившей широкое распространение в виде «гуторок» а также рассмотрению пародийных поэм «Энеида наизнанку» и «Тарас на Парнасе». Подробно характеризуя жанровые и стилистические особенности этих произведений и их идейное содержание, диссертант констатирует наличие в них элементов реализма.

Большое место уделяется в этой главе анализу произведений первого белорусского писателя-профессионала Дунина-Марцинкевича, творчество которого, по выражению диссертанта, способствовало утверждению и развитию белорусской национальной литературы, укреплению в ней реалистического направления. Подробно анализируя произведения писателя, диссертант вскрывает противоречивый характер его творчества. Причину этой противоречивости надо искать в противоречиях крепостнического строя, которые в творчестве Дунина-Марцинкевича нашли некоторое отражение, но не нашли правильного освещения. Будучи убежденным сторонником крепостнического строя, Дунин-Марцинкевич в то же время с глубоким сочувствием относился к крепостному человеку, ратовал за гуманное обращение с ним, доказывал полезность распространения грамотности среди простого народа. Причину антагонизма между крестьянами и помещиками он видел не в классовых противоречиях, а в нравственном несовершенстве людей. Задачу свою писатель видел в том, чтобы способствовать установлению доброжелательных отношений между крестьянами и помещиками. А средством к этому служит, по его мнению, нравственное усовершенствование.

Эту идею Дунин-Марцинкевич настоятельно проводит в своих произведениях. В подтверждение верности своих выводов диссертант приводит высказывание самого писателя: «Для того также я писал на языке крестьян,— говорит Дунин-Марцинкевич,— чтобы произведение, иной раз прочитанное им в праздничный день, могло привлечь их сердца к панам и теснее соединить их интересом общей выгоды».

Вскрыв социальную природу противоречий в творчестве Дунина-Марцинкевича на основе глубокого анализа его произведений, В. В. Борисенко внес определенную ясность в оценку писателя, в отношении которого до сих пор были разноречивые мнения.

Вторая часть диссертации, состоящая из двух глав, посвящена изучению литературного процесса во второй половине XIX века. Рассматривая литературный процесс в неразрывной связи с общественной жизнью страны, диссертант доказывает плодотворное влияние на развитие белорусской литературы освободительных идей русских революционных демократов: Белинского, Чернышевского, Некрасова, Щедрина.

Диссертант отмечает приход в белорусскую литературу писателей-разночинцев, внесших новое содержание, создавших новые художественные формы.

В первой главе подробно рассматриваются анонимные произведения шестидесятых годов, боевая публицистика Кастуся Калиновского, дается общая характеристика писателей-демократов: Я. Лучины, О. Топчевского, А. Гуриновича, О. Обуховича. В результате автор диссертации приходит к выводу, что на этом этапе белорусская литература глубже и правильнее, чем раньше, отображает существенные стороны современной ей действительности, что в ней все более нарастают элементы критического реализма. Даже Дунин-Марцинкевич с его патриархальными взглядами сделал, по мнению автора, заметный шаг в этом направлении в таких своих пореформенных произведениях, как «Залёты» и «Пинская шляхта», в которых он высмеивает царских судейских чиновников и представителей зарождающейся буржуазии.

В то же время диссертант отмечает наличие в белорусской литературе этого времени представителей антидемократического лагеря. В связи с этим он дает краткую характеристику таких малоизвестных реакционных писателей и публицистов, как А. Слупский, М. Запольский, Е. Ляцкий, М. Кохановский, А. Шункевич и других, а также писателей так называемого нового направления в литературе — М. Пщелко, М. Косич, К. Каганца.

В этой же главе, использовав новые биографические данные, диссертант характеризует жизненный путь Ф. Богушевича.

Все остальные главы диссертации посвящены всестороннему исследованию творчества Ф. Богушевича. В этой части работы с наибольшей полнотой проявилась зрелость исследователя. В свете его исследования перед нами раскрываются глубокое социальное содержание и замечательные художественные качества произведений наиболее яркого и талантливого представителя критического реализма в белорусской литературе конца XIX века.

Основными и определяющими чертами творчества Ф. Богушевича диссертант считает демократизм, реализм и народность. Он указывает, что в своей творческой деятельности Богушевич целиком исходил из интересов социального и национального раскрепощения родной страны и народа. Показ того, как пробуждается самосознание крестьянских масс, составляет демократическую сущность и гуманистический пафос творчества Богушевича. Этим поэт отобразил существенные черты современной ему действительности. Центральным героем его произведений является человек труда, белорусский крестьянин, пытающийся осознать свое положение в обществе, ищущий причину всех своих бед. Пройдя через жестокие испытания, он в конце концов приходит к убеждению, что корень зла в социальной несправедливости.

Вместе с тем диссертант отмечает и слабые стороны реализма Богушевича. Слабость эта является следствием исторической и классовой ограниченности писателя и выражается в том, что он весь народ отождествлял с крестьянством, причем в крестьянской среде не различал классовых противоречий. Видя в крестьянстве ту силу, которая может изменить существующий строй, Богушевич не понимал руководящей роли пролетариата в борьбе за создание нового общества.

Касаясь взглядов писателя на задачи литературы, диссертант устанавливает, что в этом вопросе Богушевич опирался на эстетические принципы русских революционных демократов. По его убеждению, литература должна опираться на действительность, служить жизненным интересам народа. Правдивое изображение народной жизни поэт считал высшим принципом, которым должен руководствоваться каждый писатель в своей деятельности.

В работе В. В. Борисенко Ф. Богушевич предстает перед нами как замечательный мастер художественного слова, обогативший белорусскую литературу новыми достижениями. Одной из особенностей художественной манеры Богушевича

является то, что он мастерски использовал традиционную форму «гуторок», оказавшуюся весьма удобной для того, чтобы устами крестьянина-рассказчика выразить свое отношение к существующему порядку, ярко обрисовать бедственное положение деревенского труженика. Замечательное умение Богушевича типизировать явления жизни выражается в том, что самые обыденные жизненные факты приобретают под его пером значение символов. Диссертант отмечает, что Богушевич создал художественно выразительные социальные типы современной ему эпохи — трудового крестьянина, с одной стороны, и его притеснителей — помещика, царского чиновника, с другой.

В творчестве Богушевича, носящем по преимуществу обличительный характер, большое место занимает сатира. Выяснению разных сторон и приемов этого вида творчества в диссертации уделяется значительное внимание. Особую ценность сатиры Богушевича т. Борисенко видит в том, что она направлена не на отдельные отрицательные явления, как это имело место до него, а на весь господствующий буржуазно-дворянский строй.

Анализ изобразительных средств и лексики поэта свидетельствует о том, что Богушевич широко пользовался сокровищами живого народного языка и фольклора и внес значительный вклад в обогащение и развитие белорусского литературного языка.

В диссертации отмечается большое значение творчества Богушевича для развития белорусской литературы позднейшего периода. Демократические и реалистические традиции поэта нашли свое дальнейшее развитие в творчестве писателей следующего поколения, особенно у таких корифеев белорусской литературы, как Янка Купала и Якуб Колас.

В целом работа В. В. Борисенко является весьма ценной. Она дает полное представление о развитии в белорусской литературе реалистического направления; дает всесторонний и глубокий анализ творчества наиболее яркого представителя критического реализма в белорусской литературе Францишка Богушевича; освещает в сжатом виде весь процесс развития белорусской литературы от ее зарождения до конца XIX века. Внося необходимые коррективы в оценку произведений тех или иных писателей, диссертант вскрывает факты неправильного освещения литературных явлений, имевшие место в работах белорусских литературоведов и критиков, не стоящих на позиции марксизма-ленинизма.

Имеющиеся в диссертации недостатки хотя и не столь существенны, но на них также необходимо обратить внимание автора. Нам представляется, например, что в диссертации непропорционально много места уделено предыстории вопроса. Характеристике белорусской литературы до XIX века посвящены целых три главы. На наш взгляд, этот материал можно было бы еще более сжать и вместить в одну главу.

Нет достаточной четкости в распределении материала по частям и главам. Выяснение идейных позиций Богушевича и его эстетических взглядов отнесено почему-то ко второй части, в то время как конкретному анализу его произведений посвящена третья часть. Непонятно, какими соображениями руководствовался автор, разрывая исследование о Богушевиче на две части.

Автореферат в целом правильно передает основные положения диссертации, но что касается указания на содержание отдельных глав, то здесь допущена неточность. Так, например, на 14-й странице автореферата говорится, что характеристика жизненного пути Богушевича дается в начале третьей части, на самом же деле характеристика эта дается в первой главе второй части.

На наш взгляд целесообразно было бы снабдить если не главы, то во всяком случае части диссертации, обобщающими заголовками. Это придало бы бóльшую определенность содержанию каждой части в отдельности и бóльшую композиционную стройность всей работы.

В процессе изложения автор диссертации иногда повторяется. Это обычно имеет место в тех случаях, когда диссертант предварительно в общих чертах характеризует идейное содержание и художественную ценность произведений писателя, а потом подвергает их конкретному анализу. Подводя итоги, он снова повторяет ранее высказанные положения, только в несколько иных выражениях.

При рассмотрении творчества Марцинкевича общая оценка писателя не всегда согласуется с результатами анализа его произведений. Так, на с. 357 сказано, что в лучших своих произведениях писатель «поднимался над классовой ограниченностью и становился на реалистические позиции», а на 356-й странице, делай выводы из анализа этих лучших произведений (имеются в виду пьесы «Залёты» и «Пинская шляхта»), диссертант утверждает: «Все это говорит о том, что критика Марцинкевичем капиталистической действительности была непоследовательной, противоречивой, сбивчивой. Отрицание капитализма совмещалось у Марцинкевича с защитой

старого патриархального уклада жизни». Короче говоря, заметим мы от себя, Марцинкевич становился на реалистические позиции постольку, поскольку это не противоречило его патриархальным взглядам, и таким образом ему вовсе не было надобности подниматься над классовой ограниченностью.

Диссертация в целом написана хорошим литературным языком, хотя кое-где встречаются стилистические шероховатости. В экземпляре, с которым мне пришлось познакомиться, встречаются отдельные описки; в двух местах обнаружены небольшие пропуски (оставленные для латинского шрифта места не заполнены), и даже в одном месте пропущена целая страница (693). Однако эти мелкие, хотя иногда и досадные, недочеты не снижают общего весьма высокого уровня работы Василия Васильевича.

Можно с уверенностью сказать, что работа В. В. Борисенко будет встречена белорусской общественностью с большим удовлетворением, так как она обогащает и углубляет наши познания, касающиеся важнейшего этапа в развитии белорусской литературы.

Как научный труд работа Василия Васильевича Борисенко отвечает всем требованиям докторской диссертации и является убедительным доказательством того, что ее автор заслуживает присуждения ученой степени доктора филологических наук.

*1956*

## ВОДЗЫЎ НА КАНДЫДАЦКУЮ ДЫСЕРТАЦЫЮ М. І. КРУКОЎСКАГА НА ТЭМУ «РОЛЯ РУСКАЙ МОВЫ ВА ЎЗБАГАЧЭННІ ЛЕКСІКІ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ»

Вартасць тэмы, якую выбраў для свае дысертацыі Мікалай Ігнацьевіч, з'яўляецца відавочнай. Па-першае, тэма гэта нашымі мовазнаўцамі яшчэ не закраналася. Па-другое, відавочны велізарны ўплыў рускай мовы на развіццё беларускай

мовы важна даследаваць і таму, што ён з'яўляецца адлюстраваннем не толькі тых працэсаў, якія адбываюцца ў самой мове, але і важнейшых грамадскіх працэсаў, якія адбываюцца ў нашай краіне і якія гэты моўны працэс абумоўліваюць. Цяжкасць вырашэння гэтай тэмы заключаецца ў тым, што т. Крукоўскаму прыйшлося ісці па непратаптаных сцежках. А для маладога вучонага вельмі паказальным з'яўляецца тое, як ён падыходзіць да пераадолення такіх цяжкасцей. У дачыненні да т. Крукоўскага мы можам сказаць, што ён падышоў да вырашэння пастаўленага пытання іменна па-навуковаму. Пачаў ён з таго, што грунтоўна азнаёміўся з літаратурай, у якой так ці іначай закранаецца пытанне моўных уплываў і сувязей. Спіс літаратуры, змешчаны ў канцы дысертацыі, налічвае каля 200 прац, з якіх 60 на замежных мовах. З тэксту дысертацыі відаць, што дысертант не толькі прачытаў гэтыя работы, але многія і грунтоўна прадумаў, што дапамагло яму вызначыць прадмет даследавання, паставіць канкрэтную задачу і найсці правільны падыход да яе вырашэння. Паколькі пытанне аб уплыве рускай мовы на беларускую наогул вельмі шырокае, даследчык палічыў патрэбным абмежаваць рамкі даследавання, маючы на ўвазе прасачыць гэты ўплыў у галіне лексікі і толькі ў дачыненні да сучаснай літаратурнай мовы.

У залежнасці ад спосабу папаўнення беларускай лексікі за кошт рускай мовы дысертацыя дзеліцца на тры главы: I (самая вялікая). «Непасрэдныя запазычанні», II. «Словы, утвораныя па ўзору адпаведных рускіх слоў (калькі структурныя)» і III. «Словы, якія змянілі або расшырылі сваё значэнне пад уплывам адпаведных рускіх слоў (сэнсавыя калькі)».

Перш чым распачынаць даследаванне лексічнага матэрыялу, дысертант, зразумела, павінен быў падумаць аб метадзе даследавання. Пераканаўшыся, што дакументальна немагчыма ўстанавіць, калі і якім шляхам прыйшло ў беларускую мову тое ці іншае слова, ён павінен быў спыніцца на ўскосных крытэрыях, якія хоць і не гарантуюць поўнай дакладнасці, але з'яўляюцца дастатковымі, каб пры дапамозе іх увогуле правільна асвятліць працэс узбагачэння беларускай лексікі пад уплывам рускай мовы. Асноўным крытэрыем пры гэтым з'яўляецца наяўнасць у беларускай лексіцы рускіх слоў і іх элементаў (такіх, як карані, прыстаўкі, суфіксы) у розных спалучэннях з элементамі беларускай мовы, а таксама наяўнасць новых значэнняў, якія абазначаюцца або спосабам калькіравання, або спосабам надання беларускаму слову новага значэння.

Умела карыстаючыся гэтымі крытэрыямі, т. Крукоўскі выявіў і прывёў у сваёй дысертацыі вялікую колькасць лексічнага матэрыялу, які яскрава гаворыць аб велізарным уплыве рускай мовы на беларускую ў сэнсе абагачэння лексікі. Абагачэнне гэта ідзе часткова за кошт непасрэдных запазычанняў, а больш за ўсё за кошт калек, якіх у беларускай мове за апошні час набралася вялікая колькасць, а таксама за кошт пашырэння значэння слова. Такім чынам, т. Крукоўскім здабыты і сістэматызаваны надзвычай каштоўныя навуковыя даныя аб руска-беларускіх моўных узаемаадносінах і асабліва аб інтэнсіўным працэсе папаўнення беларускай лексікі за кошт ці пад уплывам вялікай і багатай рускай мовы. Дысертанту толькі варта было б больш акрэслена назваць прычыны, якія выклікалі гэты працэс, а іменна тую важнейшую акалічнасць, што дзякуючы Кастрычніцкай рэвалюцыі беларускі народ атрымаў сваю дзяржаўнасць і выйшаў на шырокую гістарычную арэну і ў выніку расшырыў сферу сваёй дзейнасці ва ўсіх галінах грамадскага жыцця, у гаспадарцы, культуры, навуцы.

Такім чынам беларускай мове самім жыццём было прад'яўлена патрабаванне — абслужыць беларускі народ ва ўсіх гэтых галінах яго дзейнасці. Для гэтага патрэбавалася апрача ўсяго вялікая колькасць лексікі, у тым ліку лексікі спецыяльнага прызначэння, якой у дакастрычніцкі перыяд у беларускай мове было мала. Вось тут беларускі народ і звярнуўся за дапамогай да рускай мовы. Па-першае, таму, што новыя паняцці, звязаныя з пабудовай новага сацыялістычнага грамадства, з'яўляюцца, як правіла, упершыню на рускай мове, па-другое, таму, што гэта мова нам блізкая, зразумелая, па-трэцяе, таму, што гэта ўсебакова развітая, багатая мова.

Адзначаючы арыгінальнасць і навуковую каштоўнасць працы т. Крукоўскага, я хачу спыніцца на некаторых яе прабелах, спрэчных, а часамі і няправільных палажэннях, якія заўсёды могуць быць, калі аўтар ідзе непратаптанымі сцежкамі.

Высвятляючы, як ужываюцца структурныя калькі, дысертант карыстаецца крытэрыем «унутранай формы» слова. Але само паняцце «ўнутраная форма» такое неакрэсленае, туманнае, што карыстанне ім не прыбаўляе яснасці. Саслаўшыся на рад аўтараў, якія займаліся высвятленнем «унутранай формы», дысертант сам дае азначэнне гэтаму паняццю: «Такім чынам,— гаворыць ён,— унутраная форма — гэта адно з прамежных звенняў той складанай дыялектычнай узаемасувязі, якая існуе ў слове паміж яго гукавой формай і сэнса-

вым зместам і якая злучае сабой гук і значэнне як два крайнія, узаемапроцілеглыя полюсы». З гэтага азначэння можна ўлавіць толькі тое, што гукавая форма і сэнсавы змест у слове з'яўляюцца процілеглымі полюсамі, што паміж імі ёсць рад нейкіх звенняў, што адно з гэтых звенняў з'яўляецца ўнутранай формай. А што гэта такое, усё ж застаецца няясным. А калі пры дапамозе няяснага паняцця хочуць вызначаць што-небудзъ невядомае, дык атрымліваецца нешта накшталт ураўнення з усімі невядомымі.

Такім няпэўным крытэрыем дысертант карыстаецца таму, што ён не згодзен з мовазнаўцамі, якія калькіраванне разглядаюць як пераклад, не згодзен таму, што тут падкрэсліваецца суб'ектыўны бок працэсу, вынік суб'ектыўнай дзейнасці нейкага канкрэтнага перакладчыка, а ў аснове калькіравання ляжаць аб'ектыўныя законы мовы. На гэта можна заўважыць, па-першае, што ніякі моўны працэс не абыходзіцца без суб'екта, г. зн. без чалавека, які гаворыць або піша, але гаворыць і піша ён паводле моўных законаў, якія ён ведае больш ці менш дасканала; па-другое, што суб'ектыўны элемент пры перакладзе таксама абмежаваны рамкамі тых жа аб'ектыўных законаў мовы і перакладчык не можа не падпарадкавацца гэтым законам, інačай яго пераклад будзе нічога не варты. Што ж такое на самай справе калькіраванне? Адказаць на гэта пытанне зможам мы з большай дакладнасцю, калі прыгледзімся, пры якіх умовах яно адбываецца. Неабходнымі ўмовамі тут з'яўляюцца: 1) наяўнасць слова іншай мовы (у даным канкрэтным выпадку рускага слова) у яго канкрэтным значэнні, 2) неабходнасць знайсці адпаведны гэтаму значэнню эквівалент на беларускай мове, 3) адсутнасць такога эквівалента ў беларускай мове. І тут на сцэну выступае той самы суб'ект, з якім так не хацелася сустракацца дысертанту. Без суб'екта ні адна калька не ўтвараецца.

Такім чынам калькіраванне можна разглядаць як пераклад, пры якім у мове, на якую перакладаюць, няма гатовага слова для данага значэння.

Ёсць у дысертацыі недахопы, у якіх дысертант суб'ектыўна не вінаваты, бо яны з'яўляюцца вынікам таго, што мовазнаўцам не ўдалося знайсці больш дасканалага метаду даследавання. Дысертант агаварыўся, што аб'ектам даследавання з'яўляецца лексіка сучаснай літаратурнай мовы, але паміж сучаснасцю і гісторыяй не вызначыў ніякай мяжы і наўрад ці змог бы гэта зрабіць. Таму нам няясна, напрыклад, ці належыць да сучаснай літаратурнай мовы мова Багу-

шэвіча. З прычыны такой неакрэсленасці ў пералік слоў, запазычаных з рускай мовы ці ўтвораных пад яе ўплывам, унесены і такія, якія даўно бытуюць у беларускай мове і невядома, якім шляхам прыйшлі ў яе. Я думаю, што дысерганту варта было б звярнуць асноўную ўвагу на лексіку савецкага перыяду, у якой працэс яе папаўнення адбываецца асабліва інтэнсіўна.

У дысертацыі закранаюцца важныя прынцыповыя пытанні, якія патрабуюць усебаковага разгляду і глыбокага тэарэтычнага абгрунтавання. Не ўсе іх можна вырашыць у адной кандыдацкай дысертацыі, і часамі, калі дысертант спрабуе гэта рабіць, вывады атрымліваюцца не досыць перапрацаванымі альбо аднабаковымі. Так, напрыклад, даючы ацэнку самому факту папаўнення беларускай лексікі за кошт ці пад уплывам рускай мовы, т. Крукоўскі падкрэслівае толькі адзін станоўчы бок — узбагачэнне беларускай мовы. Такім чынам, усе запазычанні і калькі з'яўляюцца нібыта абсалютным дабром, і чым больш іх будзе, тым лепш, тым багацейшай будзе мова. На самай справе пытанне гэта вырашаецца не так проста, і працэс, які дысертант даследуе ў сваёй дысертацыі, мае і ценявыя бакі. Справа ў тым, што ў выніку наплыву зразу вялікай колькасці новага лексічнага матэрыялу, калі пры гэтым пераносяцца і не ўласцівыя данай мове рысы, атрымліваецца некаторая, я б сказаў, нястраўнасць. Мова не можа ўсяго гэтага матэрыялу адразу засвоіць. Апрача гэтага, у спешцы, якая часамі вымагаецца акалічнасцямі, трапляе ў мову і пэўная колькасць шлаку: неабгрунтаваныя запазычанні, няўдала створаныя калькі. Разам з тым не выкарыстоўваюцца ў поўнай меры свае словы і выразы, даўно абжытыя народам. Возьмем для прыкладу такі выраз, як «няма патрэбы распаўсюджвацца», што гэта «распаўсюджвацца» ўзбагачае ці ўпрыгожвае мову? Куды лепш было б сказаць «няма патрэбы доўга гаварыць».

У выніку вышэй названых прычын, пры злоўжыванні запазычаннямі і калькамі, кніжная беларуская мова аддаляецца ад жывой народнай мовы. Невыпадкова мы часта чуем нараканні, што мова таго ці іншага аўтара дрэнная, шурпатая, а то і мала зразумелая.

У выніку сваіх доследаў дысертант прыходзіць да вываду, што беларуская мова інтэнсіўна збліжаецца з рускай мовай, што пачынае ўтварацца пласт новых агульнарускіх слоў, якія з'яўляюцца пачаткам новага, будучага агульнарускага адзінства. Пры гэтым дысертант падкрэслівае, што

збліжэнне беларускай мовы з вялікай рускай мовай адбываецца не як вынік дэградацыі, заняпаду беларускай мовы, а, наадварот, як вынік найбольш поўнага і інтэнсіўнага развіцця яе. Ранейшае ж старажытнае агульнарускае моўнае адзінства, як кажа дысертант, было разбурана ў працэсе гістарычнага развіцця.

У сувязі з гэтым вывадам узнікае зразу шмат пытанняў, якія ў дысертацыі не атрымалі належнага асвятлення.

Па-першае, паўстае пытанне, наколькі правамерным у дачыненні да сучаснасці з'яўляецца тэрмін «агульнарускае адзінства». Гэты выраз мы з поўнай падставай ужываем у дачыненні да мінулага, калі была адзіная Русь і адзіная руская мова. Але цяпер існуюць тры самастойныя мовы — руская, украінская і беларуская. Што ж пры такіх умовах можа азначаць выраз «агульнарускае адзінства»? Відавочна, маецца на ўвазе адзіная мова. Якая? Руская? Руска-беларуская? Ці захавае пры гэтым руская мова свае нацыянальныя асаблівасці? А беларуская?

Па-другое, ці маецца на ўвазе што ў гэта агульнарускае адзінства ўваходзіць і ўкраінская мова, якая ў дысертацыі не даследуецца і адносна якой нам невядома, наглядаецца ў ёй нараджэнне гэтага новага адзінства ці не.

Па-трэцяе, ці можна рабіць такія шырокія абагульняючыя вывады на падставе доследу толькі лексікі, і толькі аднае з трох усходнеславянскіх моў?

Па-чацёртае, адзначаючы збліжэнне беларускай мовы з рускай дысертант нічога не гаворыць аб тым, двухбаковы гэта працэс ці аднабаковы. Што, руская мова таксама набліжаецца да беларускай ці толькі беларуская? А калі толькі беларуская, дык якія будуць вынікі гэтага збліжэння?

Па-пятае, гаворачы аб разбурэнні былога агульнарускага адзінства, не шкодзіла б удакладніць, што гаворка ідзе іменна аб адзінай мове, якая перастала існаваць як адзіная, але што адзінства гэта цалкам ніколі не разбуралася.

Што датычыцца далейшага лёсу нацыянальных моў, то мы маем толькі некаторае агульнае ўяўленне аб тым, што ў далёкай будучыні мовы розных нацый сальюцца ў адну сусветную мову, але якім шляхам прыйдзе да гэтага кожная асобная мова, мы сёння яшчэ гэтага сказаць не можам. Не можам мы гэтага сказаць і ў адносінах беларускай мовы.

Вядома, мы не можам патрабаваць, каб дысертант адказаў на ўсе гэтыя пытанні ў сваёй дысертацыі, але вывады, якія ён зрабіў, вымагаюць такога адказу. Гэта значыць, што

вывады гэтыя павінны былі б мець больш абмежаваны харак-тар і грунтавацца на аналізе, які ёсць у дысертацыі.

З іншых недахопаў трэба адзначыць тое, што дысертант мае не зусім правільнае ўяўленне аб стане беларускай мовы ранейшага перыяду. Са зместу дысертацыі, напрыклад, вынікае, што ў беларускай мове не было ніякай тэрміналогіі. На самай справе тэрміналогія была, але ў сілу ўсім нам вядомых прычын яна не магла паспяхова развівацца і не знаходзілася на ўзроўні дасягненняў навукі і тэхнікі.

Многія словы, якія дысертант лічыць запазычанымі, перайшлі, напэўна, з літаратурнай беларускай мовы папярэдняй эпохі. Многія хоць і не трапілі ў літаратурную мову з прычыны таго, што літаратура пры тагачасным стане не магла выкарыстаць усяго моўнага багацця народа, але яны існавалі ў жывой мове, і не ў дыялектах, а ў агульнанароднай беларускай мове. Такія словы таксама нельга лічыць запазычанымі. Вось чаму ў катэгорыю слоў, што абазначаюць прадметы і паняцці, якія, па думцы дысертанта, на тэрыторыі Беларусі не існавалі або не ўсведамляліся як самастойныя прадметы і паняцці, дысертант залічае такія словы, як *баляса, вальцаваць, брак, бракаўшчык, токар, шахцёр, ліцейшчык, атака, браня, залп, карцеч, рота, афіша, багаж, бакалея, балаган, балкон, білет, бульвар, ванна, вакзал, кіцель, карандаш, камін, марля, біржа, вахмістр, веча, гарадавы, гільдыя, гусар, дваранін, драгун, дыба, жрэц, катарга, мешчанін, памешчык, рэкрут, алтар, аналой, гавецъ, Евангелле, кадзіла, келля, прычасце, рэкрут, псаломшчык, тыза, натарыус, інвентар, інструкцыя, камендант, камісія, кантора, канцэлярыя?* — *грэс, пенсія, тратуар, банкет, магазін, буфет, этажэрка, бюст, саквяж, бальзам, рыдыкюль, пенснэ, канверт, альбом, адэкалон, гіпюр, батыст, друз, парнік, аптовы, антавік, газета, метрыка, булён, кавалерыя, батальён, бівак, бамбардзіраваць, генерал, яфрэйтар, капітан, каманда, канвой, контратака, камандзір, афіцэр, афіцэрскі, патрон, фланг, фронт, штаб, акцёр, арэна, інквізіцыя, канкардат, інсургент, фараон, аазіс, бухта, вулкан, кануфер, мірт, ангіна, бандаж, бінт, акушэр, аптэка, масаж, медыцына, катар, рэўматызм.*

Нават пры першым позірку на гэты спіс слоў відаць, што ўсе яны ўвайшлі ў беларускую мову не ў савецкі перыяд, а бытуюць у беларускай мове даўно, некаторыя, напэўна, сто, паўтараста і нават некалькі сот год, і іх няма ніякай падставы залічаць у запазычанні сучаснай мовы. Адносна часткі з іх

наогул нельга з упэўненасцю сказаць, што яны прыйшлі праз рускую мову.

На с. 135 гаворыцца аб словах «інтэрнацыянальнага паходжання». Гэта памылковы выраз. Няма слоў інтэрнацыянальнага паходжання, бо няма і інтэрнацыянальнай мовы. Ёсць частка тэрмінаў, якія, умоўна кажучы, сталі інтэрнацыянальнымі, але па свайму паходжанню ўсе яны належаць да якой-небудзь канкрэтнай нацыянальнай мовы.

Некалькі слоў аб мове самога дысертанта. Яна была б зусім добрая, каб не адзін недахоп: неабмежаванае ўжыванне дзеепрыметнікаў рознага часу і стану, у тым ліку і зваротных форм.

На кожным кроку можна знайсці такія словы, як *насаджаўшайся*, *запазычваемым*, *развіваючаяся*, *прапаноўваемай*, *склаўшаяся*, *разглядаемыя*, *утварыўшуюся*, *абазначаўшаяся*, *абазначаемыя*, *адносячыхся*. Як вядома, такіх форм у беларускай жывой мове няма. Пазбягаюць іх і ў літаратуры. Відаць, вырашыўшы, што ўсякае запазычанне ёсць абсалютнае дабро, т. Крукоўскі стаў запазычваць не толькі словы, але і неўласцівыя беларускай мове граматычныя формы. Часамі выказваецца думка, што існуе навуковы стыль, дзе ўжыванне такіх форм дапускаецца. А я б сказаў, што дрэнны той стыль, які без усякай патрэбы аддаляецца, адгароджваецца ад мовы народа. У даным выпадку справа не толькі ў саміх словах. Гэтыя ж дзеепрыметнікі цягнуць за сабой і пэўную структуру сказа, не ўласцівую беларускай мове.

У цэлым жа дысертацыя т. Крукоўскага з'яўляецца каштоўнай навуковай працай на цікавую і важную тэму.

Дысертант паказаў у ёй сваё грунтоўнае знаёмства з літаратурай прадмета, уменне па-навуковаму падысці да вырашэння пастаўленай тэмы і на канкрэтным багатым матэрыяле з дастатковай паўнатой асвятліў вялікую ролю рускай мовы ва ўзбагачэнні лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Праца заслугоўвае таго, каб быць надрукаванай, вядома, пасля таго, як аўтар над ёй яшчэ папрацуе: дадумае няўдуманае, агаворыцца там, дзе ён не можа зрабіць канчатковага вываду, яшчэ раз перагледзіць прыклады, папрацуе над мовай. Але і ў цяперашнім выглядзе праца з'яўляецца пераканаўчым доказам, што яе аўтар заслугоўвае прысуджэння вучонай ступені кандыдата філалагічных навук.

*1956*

# ОТЗЫВ О ДОКТОРСКОЙ ДИССЕРТАЦИИ Л. И. ФИГЛОВСКОЙ НА ТЕМУ «ТВОРЧЕСТВО ЯКУБА КОЛАСА»

Народный поэт Белоруссии Якуб Колас занимает почетное место не только в белорусской, но и во всей советской литературе. Его творчество, разнообразное по жанру, богатое по содержанию, охватывает 50 лет литературной деятельности писателя. В произведениях Коласа нашли все важнейшие моменты в жизни белорусского народа за этот период, богатый историческими событиями мирового значения. Естественно, что творчество такого большого писателя привлекало и привлекает внимание литературоведов и критиков. Но они в своих работах чаще всего касаются отдельных сторон творчества писателя или ограничиваются общим обзором его произведений. Обобщающего научного труда, основанного на всестороннем анализе творчества Коласа до этого времени не было. Любовь Ивановна Фигловская задалась похвальной целью восполнить этот пробел. Вряд ли, однако, возможно в одной работе, если она даже является докторской диссертацией, охватить все многогранное творчество Я. Коласа и осветить его с достаточной полнотой. Очевидно, сознавая трудность этой задачи, Любовь Ивановна уже в определении поставленной цели пытается ограничить рамки исследования, заявляя, что она намерена «проследить творческий путь белорусского писателя в самых существенных его проявлениях». Таким образом, диссертантка оставляет за собою право не останавливаться на том, что она не считает самым существенным. Не по этой ли причине она так бегло останавливается на лирике Якуба Коласа, считая, по-видимому, что то или иное лирическое стихотворение по сравнению, скажем, с поэмой не является чем-то весьма существенным.

А между тем в Собрании сочинений Я. Коласа лирика занимает целых два тома. Из них объемистый том в 500 страниц относится к дореволюционному периоду творчества Я. Коласа. И начал свой творческий путь Я. Колас как поэт трибун, призывавший белорусский народ к борьбе за социальное и национальное освобождение. В гражданской лирике, а лирика Я. Коласа по преимуществу гражданская, поэт наиболее непосредственно и с наибольшим пафосом выразил свой протест против гнета царского самодержавия, ярко обрисовал тяжелое положение трудового крестьянства, заявил о том, что «мужик» осознал свое человеческое достоинство и свою силу и что он с оружием в руках готов выступить

против своих угнетателей. Имела ли основание диссертантка отнестись к этому роду произведений, занимающему столь важное место в творчестве Коласа, как к чему-то несущественному? Конечно, нет. Любовь Ивановна может сказать, что обо всем этом говорится в диссертации. Верно, говорится, но все же эта часть работы носит по преимуществу обзорный характер и не представляет всестороннего научного анализа. Однако дело здесь не в пренебрежении автора диссертации к определенному жанру. Причина такого подхода станет нам ясной, если мы обратим внимание на построение диссертации, на название глав.

Диссертация состоит из введения и четырех глав. Отдельный том составляет «Приложение», включающее ранние, неопубликованные произведения Я. Коласа и некоторые архивные материалы, относящиеся к жизни и деятельности писателя. Первая глава носит название «Истоки творчества Якуба Коласа»; вторая — «Колас — представитель критического реализма»; третья — «Колас на пути к социалистическому реализму» и, наконец, четвертая — «Якуб Колас — выдающийся представитель социалистического реализма».

Таким образом, мы видим, что диссертантка еще более суживает рамки своего исследования, хотя об этом в диссертации прямо и не говорится. Оказывается, ее интересует прежде всего вопрос о том, как писатель овладевал методом социалистического реализма. Но одно дело Колас как живой писатель со всеми индивидуальными особенностями его творчества, и совсем другое дело Колас как «представитель» того или иного творческого метода. В последнем случае исследователь как будто и не обязан анализировать все творчество писателя, а может ограничиться выяснением общих творческих принципов и рассматривать лишь те произведения, в которых наиболее ярко выступают признаки того или иного метода или признаки перехода от одного метода к другому. Рассматривая книгу стихов Я. Коласа «Песни печали» диссертантка поэтому оговаривается, что эта книга рассматривается в плане освещения двух узловых проблем — «взгляды автора на литературу и понимание им проблемы прекрасного».

По-видимому, по этой же причине из поля зрения автора диссертации выпала драматургия Я. Коласа, в том числе такая его пьеса, как «Война войне», в которой показывается перерастание империалистической войны в гражданскую.

Возникает вопрос, имеет ли право исследователь творчества того или иного писателя ограничиться выяснением его

творческого метода. Очевидно, такой подход надо считать вполне допустимым. Не хотелось бы только, чтобы он применялся в докторской диссертации и в отношении такого большого и самобытного писателя, как Якуб Колас. С удовлетворением я должен отметить, что диссертантка не слишком строго придерживается принятой ей литературоведческой схемой, в результате чего Якуб Колас в ее исследовании предстает перед нами все-таки не только как представитель определенного метода, а и как живой, многогранный писатель со многими его национальными и индивидуальными особенностями.

После этих общих замечаний, касающихся подхода диссертантки к исследованию творчества Я. Коласа, я позволю себе остановиться на характере и содержании отдельных глав диссертации.

Во введении автор диссертации говорит об огромном значении Якуба Коласа в развитии литературы и всей культуры белорусского народа, о его большом самобытном таланте, о том, какое значение имеют творческий опыт и традиции народных поэтов Белоруссии Якуба Коласа и Янки Купалы для дальнейшего развития советской литературы.

Далее диссертантка перечисляет ряд авторов, которые в своих работах затрагивали творчество народного поэта, дает краткую характеристику отдельным из этих работ. Что касается методологических установок, то автор диссертации считает обязательными для себя два момента: принцип историзма и единство идейно-эстетического анализа.

Первая глава посвящена выяснению истоков творчества Якуба Коласа. При этом автор совершенно правильно ставит на первое место среди других факторов, реальную действительность, в частности революционные события 1905 года, определившие основное направление творчества Якуба Коласа. На широком историческом фоне диссертантка описывает ту конкретную среду, в которой жил и создавал свои произведения будущий народный поэт.

В развернутой биографии писателя диссертантка подчеркивает исключительное значение того обстоятельства, что Якуб Колас как сын безземельного крестьянина сам испытал лишения крестьянской жизни, был свидетелем жестокой эксплуатации и бесправия трудящихся. С детства он был связан кровными узами с народом и остался ему верен на протяжении всей жизни.

Далее говорится о возросших культурных запросах белорусского народа. В связи с революционным движением пе-

речисляются издания, выходившие на территории Белоруссии, дается подробная характеристика таких газет, как «Северо-Западный край» и «Наша ніва».

Особое внимание уделяется состоянию белорусской литературы в начале XX века, причем указывается на наличие в ней двух основных направлений. С одной стороны — это революционно-демократическое направление, яркими представителями которого были Янка Купала, Якуб Колас, Тетка. Ему противостояло либерально-буржуазное направление, представители которого в своем творчестве уходили от актуальных вопросов современности, старались сгладить классовые противоречия. Произведения этих писателей часто были проникнуты идеями буржуазного национализма.

Много внимания уделяется в этой главе выяснению литературных влияний, которые испытывал на себе Якуб Колас и которые способствовали выработке у молодого писателя эстетических взглядов, глубокого понимания им роли художественной литературы и задач писателя. Первое место среди этих влияний отводится классикам русской литературы — Пушкину, Крылову, Гоголю, Некрасову. Особо отмечается огромное благотворное влияние А. М. Горького на формирование мировоззрения молодого Коласа и на развитие всей белорусской литературы.

В целом глава дает правильное и четкое представление об историческом моменте, его важнейших событиях и о всех тех обстоятельствах, которые в той или иной мере определяли направление творчества молодого Якуба Коласа.

Вторая глава диссертации — «Колас — представитель критического реализма» — состоит из двух разделов. Первый раздел — «Дооктябрьская лирика Якуба Коласа», как я уже говорил, не представляет всестороннего анализа этого важного вида творчества Я. Коласа. Диссертантка рассматривает лирику поэта постольку, поскольку ей необходимо выяснить его эстетические взгляды. В связи с этим дается общая характеристика социального содержания поэзии Коласа, устанавливаются его взгляды на искусство и на задачи писателя, отмечается сильная обличительная струя в его творчестве, выясняется зарождение и развитие критического направления в белорусской литературе в предшествующий период, приводятся эстетические взгляды русских революционных демократов.

Значительно более подробно рассматривает диссертантка дооктябрьскую прозу Коласа (во втором разделе этой главы). Здесь она не ограничивается выяснением общих эстетических

принципов писателя, а знакомит нас с содержанием большинства рассказов, дает обстоятельные характеристики действующих лиц и на основании конкретного анализа делает выводы о том, как подходит Колас к решению крестьянской темы. Отдельно рассматриваются аллегорические рассказы Коласа, известные под общим названием «Сказки жизни», в которых писатель в завуалированной форме высказывает мысли о необходимости изменения существующего строя.

Рассматривая изобразительные средства писателя, диссертантка устанавливает близость художественной речи Коласа к народному творчеству, сокровища которого он широко использует во всех жанрах своего творчества.

Есть в этом разделе и некоторые длинноты. Касаясь крестьянской темы в творчестве Коласа, диссертантка слишком подробно и часто без всякой надобности останавливается на характеристике творчества предшественников Коласа — Богушевича, Гуриновича, Янки Лучины.

В заключительной части главы диссертантка приходит к выводу, что в дооктябрьский период Колас в своем творчестве был представителем критического реализма, что он правдиво, реалистически отображал существенные стороны современной ему действительности, рисуя тяжелое положение крестьянства и условия буржуазно-помещичьего строя. Диссертантка указывает на сильную обличительную струю в его творчестве, причем весь пафос острой сатиры писатель направлял на разоблачение представителей эксплуататорских классов.

Диссертантка указывает, что по сравнению со своими предшественниками Колас сделал значительный шаг вперед по пути критического реализма, так как он изображает не только угнетенного человека труда, но и человека, осознавшего необходимость изменить существующее положение, готового подняться на борьбу против своих угнетателей.

Слабую сторону в творчестве писателя автор диссертации видит в том, что Якуб Колас не понимал еще руководящей роли пролетариата в революционной борьбе.

Вскрывая противоречия между помещиками и крестьянами, он не смог тогда еще увидеть другого важнейшего противоречия — между буржуазией и пролетариатом.

В третьей главе, носящей название «Колас на пути к социалистическому реализму», рассматриваются поэмы «Новая земля» и «Сымон-музыка». Несмотря на ограничительный заголовок, эти выдающиеся произведения народного поэта подвергаются всестороннему анализу. Этот анализ ценен сам по себе, независимо от вывода, гласящего о том, что

Колас подвинулся еще на шаг по пути социалистического реализма. Кстати, доводы диссертантки в пользу эволюции творческого метода поэта являются недостаточно убедительными. Во-первых, потому, что в диссертации не дается точного определения каждого из методов, не перечисляются признаки, входящие в понятие метода критического и социалистического реализма, не устанавливается четко их различие. Поэтому трудно уловить, что от социалистического реализма есть в «Новой земле» и «Сымоне-музыке». Автор диссертации просто утверждает, что «Колас приходит к социалистическому реализму в советскую эпоху своими особыми путями. Но выступив в литературе как представитель революционной демократии, он становится в дооктябрьский период союзником рабочего класса и приближается к социалистическому реализму». Признаки социалистического реализма в поэме «Сымон-музыка» диссертантка усматривает в том, что Колас с большей силой, чем в «Новой земле», стремится оттенить «...героическое начало в массах крестьянства, раскрыть их потенциальные силы, показать рост их классового сознания, неодолимое стремление к счастью, свободе, знанию». Но это определение является, я бы сказал, весьма неопределенным, пока не раскрыто конкретное содержание перечисленных признаков. Ведь и героическое начало и стремление к счастью, свободе и знанию могут быть показаны (и действительно показываются Коласом в его дооктябрьской поэзии) и методом критического реализма. А вот что касается слабостей критического реализма Коласа, о которой говорилось в предыдущей главе, то они остались и в названных поэмах. И в них Колас не показывает ни ведущей роли пролетариата, ни классовых противоречий среди крестьянства. И все же, несмотря на это, обе поэмы являются выдающимися художественными произведениями, в чем я совершенно согласен с автором диссертации.

Четвертая глава, носящая название «Якуб Колас — выдающийся представитель социалистического реализма», является самой обширной и охватывает творчество писателя с конца двадцатых годов до последнего времени. В этой главе всесторонне рассматривается многогранное творчество Коласа, причем особенное внимание обращается на те произведения, которые дают возможность проследить, как Колас овладевает методом социалистического реализма. Показательными в этом отношении являются рассказ «Сергей Карага», повести «Отщепенец», «На просторах жизни». Особенно большое место отводится анализу таких значительных произведе-

ний, как повесть «Трясина», поэма «Хата рыбака», полесская трилогия, а также некоторые произведения военного времени, в которых Якуб Колас выступает не только как большой художник, но и как пламенный советский патриот, отдавший всю силу своего таланта делу защиты Родины в дни тяжелых испытаний.

В результате анализа диссертантка приходит и выводу, что овладение Коласом марксистско-ленинской идеологией и методом социалистического реализма отразилось на качестве его произведений. Такими новыми качествами являются: показ социалистической революции как революции широких трудящихся масс, роста революционного сознания масс в ходе гражданской войны, показ классовой борьбы в деревне, коллективного труда, процесса перевоспитания крестьянства.

Любовь Ивановна указывает и на слабые стороны некоторых произведений Коласа этого периода (поэмы «Суд в лесу», «Возмездие»). Из этого следует, что и метод социалистического реализма сам по себе еще не гарантирует высокого качества художественного произведения, что есть еще и другие факторы, от которых зависит это качество, но каковы эти факторы, как соотносятся они с методом социалистического реализма, диссертантка не пытается выяснить, хотя в плане поставленной в диссертации проблемы это сделать было бы необходимо. Почему, например, «Новая земля», написанная Я. Коласом в тот период, когда он был еще на подступах к социалистическому реализму, значительно выше по своим художественным качествам поэмы «Суд в лесу», написанной значительно позже, когда Колас, по утверждению автора диссертации, стал «выдающимся представителем социалистического реализма»?

В диссертации и в автореферате встречаются отдельные неудачные выражения и спорные положения. Иногда диссертантка противоречит сама себе. Так, в автореферате на 13-й странице говорится, что Я. Колас «...не сразу осмыслил всемирно-историческое значение величайшего революционного переворота», что ему «... свойственно было на первых порах непонимание социалистического характера Октябрьской революции, ее движущих сил», а на 20-й странице того же реферата говорится: «В отличие от писателей, которые не понимали на первых порах социалистического характера революции... Якуб Колас раскрывает сплоченность народных сил, направляемых волей нашей партии, источники массового народного героизма».

На с. 71 диссертации диссертантка полемизирует с автором напечатанной в «Полыме» статьи «Наша нива» и белорусская литература», но не решается назвать фамилию автора. Так мы и не знаем, с кем ведется полемика.

На с. 347 ошибочно указана дата Люблинской унии — 1589 год, вместо 1569. Думаю, что это описка.

Ничем не подтверждается заявление автора диссертации (с. 535), что главный герой поэмы «Хата рыбака» Данила Смык воплощает в себе типические черты белорусского национального характера. Это же утверждение повторяется и на с. 543 уже не только по отношению к Даниле, но также и по отношению к Марине и Сымону Латушко.

Утверждение это можно принять только с большой оговоркой. В данных условиях наиболее ярко черты национального характера проявились в активной массовой борьбе трудящихся Западной Белоруссии за свое освобождение. Ни один из перечисленных героев не является таким борцом. Образ Данилы в этом отношении может служить только свидетельством того, что даже самые отсталые и забитые представители крестьянских масс в конце концов приходили к убеждению в необходимости активной борьбы.

Странно звучит утверждение диссертантки, что сатирические рассказы Коласа имеют и художественный интерес (с. 287).

Бросается в глаза слишком частое упоминание великих литературных имен, влияние которых испытывал на себе Я. Колас. Имя А. М. Горького упоминается буквально на каждом шагу в связи с выяснением каждого нового момента в творчестве Коласа.

Диссертация написана в общем хорошим русским языком, но встречаются в ней и некоторые шероховатости стиля, лексические и синтаксические погрешности, описки. Такие погрешности и описки мы видим на с. 48, 50, 66, 67, 121, 130, 141, 153, 162, 167, 185, 186, 190, 207, 236, 289, 294, 342, 502, 538.

На с. 358, 359 диссертантка неправильно раскрывает значение встречающегося у Коласа фразеологического оборота — *«Не мели вока». Не меть вока* по-белорусски значит злиться, относиться неприязненно, и диссертантка дает этому выражению обратное толкование.

Несмотря на критические замечания в адрес автора диссертации, содержащиеся в моем отзыве, я считаю, что работа Любови Ивановны Фигловской является ценным научным исследованием творчества народного поэта Белоруссии. В нем

освещается весь творческий путь Якуба Коласа, начиная с первых литературных опытов, всесторонне рассматриваются почти все важнейшие произведения Коласа, раскрывается их глубокое идейное содержание и высокие художественные качества, устанавливаются эстетические принципы писателя.

В диссертации с достаточной полнотой освещается эволюция творческого метода писателя от критического до социалистического реализма и в связи с этим устанавливаются новые положительные качества в творчестве писателя. Любовь Ивановна обнаружила прекрасное знакомство с материалом, умение методологически правильно подойти к решению поставленной темы, рассматривая творчество писателя в тесной связи с происходящими в стране общественными процессами. Я считаю, что диссертация Любови Ивановны Фигловской является достаточно убедительным доказательством, что ее автор имеет право на присуждение ей ученой степени доктора филологических наук.

*1957*

## ВОДЗЫЎ АБ ДЫСЕРТАЦЫІ Л. І. БУРАКА НА ТЭМУ «СКЛАДАНАЗЛУЧАНЫЯ СКАЗЫ Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЕ»

Абгрунтоўваючы выбар тэмы для свае дысертацыі, Леанід Іванавіч справядліва ўказвае на тое, што пытанні складанага сказа ў беларускім мовазнаўстве распрацаваны слаба і, у прыватнасці, зусім няма прац, прысвечаных доследам складаназлучанага, сказа. Адгэтуль вынікае як актуальнасць тэмы, так і цяжкасці яе распрацоўкі для дысертанта, паколькі яму ў значнай меры прыйшлося ўзнімаць цаліну. Цяжкасці гэтыя маглі б быць значна большымі, каб не адна шчаслівая акалічнасць. Справа ў тым, што ў сінтаксісе беларускай мовы вельмі шмат агульнага з сінтаксісам рускай мовы і многія палажэнні, выказаныя ў дачыненні да складанага сказа ў рускай мове, могуць быць дапасаваны да аналагічных сказаў беларускай мовы. А рускія мовазнаўцы прысвяцілі нямала грунтоўных доследаў праблеме, якая цікавіць нашага дысертанта. Адгэтуль з'яўляецца зразумелай тая вялікая ўвага,

якую аўтар дысертацыі аддае працам рускіх лінгвістаў. Гэта знайшло сваё адлюстраванне ўжо ва ўводзінах, дзе даецца грунтоўны агляд літаратуры, прысвечанай пытанням сінтаксісу ад Ламаносава і да нашых дзён. Гэта вельмі добра, што т. Бурак так грунтоўна вывучыў літаратуру прадмета, яшчэ лепш, што ён не толькі прыводзіць выказванні выдатных мовазнаўцаў аб гэтым прадмеце, але часта і сам бярэ слова ў спрэчках: з адным згаджаецца, з другім не згаджаецца, часамі выказвае сваю незалежную думку. Але я лічу, што можна было б і не спыняцца так падрабязна на спрэчках лінгвістаў даўно мінулых часоў, а абмежавацца больш сціслым аглядам літаратуры, галоўным чынам важнейшых прац сучасных лінгвістаў. Тады б і ўводзіны не займалі 69 старонак машынапісу, як яны цяпер займаюць, і ўся праца выглядала б не так перагружанай. І яшчэ на адну акалічнасць я хацеў бы звярнуць увагу. Знаходзячыся ўвесь час пад уплывам прац рускіх лінгвістаў, дысертант часамі губляе мяжу паміж рускай і беларускай мовамі і палажэнні, выказаныя ў дачыненні да рускай мовы, механічна, без усякіх агаворак, дапасоўвае да беларускай мовы. На 2-й старонцы дысертацыі мы, напрыклад, чытаем: «У нашым айчынным мовазнаўстве праблема складанага сказа была ўпершыню пастаўлена і ў пэўнай ступені распрацавана вялікім рускім вучоным М. В. Ламаносавым». І выходзіць, што не то Ламаносаў быў беларускім лінгвістам, не то беларуская і руская мова — гэта адно і тое ж. Або сустракаюцца часта памылкі на традыцыйную граматыку, з палажэннямі якой дысертант не згодзен і выказвае свае меркаванні. Пры гэтым, вядома, маецца на ўвазе руская традыцыйная граматыка, а аперыруе дысертант фактамі беларускай мовы, не заўважаючы свае непаслядоўнасці. Каб пазбегнуць такой непаслядоўнасці, карысна было б у самым пачатку работы зрабіць адпаведную агульную агаворку.

Дысертацыя мае чатыры главы, кожная з якіх прысвечана пэўнай катэгорыі складаных сказаў, у залежнасці ад характару сінтаксічных адносін, якія імі выражаюцца. У першай главе разглядаюцца, складаназлучаныя сказы, у якіх выражаюцца часавыя адносіны. Асобныя раздзелы главы прысвечаны адносінам адначасовасці і адносінам паслядоўнасці.

Другая глава, прысвечана разгляду складаназлучаных сказаў, у якіх выражаюцца супастаўляльныя адносіны, прычым у паасобных раздзелах разглядаюцца ўласна-супастаўляльныя адносіны, адносіны неадпаведнасці і супраціўныя адносіны.

У трэцяй главе разглядаюцца сказы, якія выражаюць пералічальна-размеркавальныя адносіны.

І, нарэшце, чацвёртая глава прысвечана разгляду складаназлучаных сказаў, у якіх выражаюцца прычынна-выніковыя і ўмоўна-выніковыя адносіны.

Праводзячы класіфікацыю складаназлучаных сказаў дысертант зусім слушна кіруецца думкай, што сінтаксічныя адносіны паміж састаўнымі часткамі сказаў вызначаюцца на аснове зместу гэтых частак, якому адпавядаюць пэўныя формы і сродкі выражэння. У адпаведнасці з гэтым раздзелы дысертацыі будуюцца ў асноўным па адной схеме. Упачатку коратка вызначаецца сутнасць сінтаксічных адносін данага віду, потым разглядаюцца сродкі выражэння гэтых адносін і, нарэшце, структурныя асаблівасці складаназлучаных сказаў гэтай катэгорыі. Пры гэтым часамі выяўляецца, што некаторыя складаныя сказы па форме сінтаксічнай сувязі з'яўляюцца складаназлучанымі, а па свайму граматычнаму зместу складаназалежнымі. Іх дысертант разглядае як асобы пераходны від складаных сказаў. На гэтай падставе дысертант вылучае ў асобную групу складаназлучаныя сказы з прычынна-выніковымі і ўмоўна-выніковымі адносінамі, паколькі сказы гэтыя па характару сінтаксічнай сувязі адносяцца да складаназлучаных сказаў са спалучальнымі адносінамі, а па граматычнаму сэнсу адпавядаюць складаназалежным сказам з даданымі прычыны і даданымі ўмовы.

Ва ўводзінах дысертант адрознівае тры групы сказаў, якім адначасова ўласцівы як элементы злучэння, так і элементы залежнасці, і нават прапануе называць іх злучаназалежнымі сказамі, але ў далейшым нідзе гэтым тэрмінам не карыстаецца.

Наогул трэба сказаць, што Леанід Іванавіч вельмі грунтоўна і з добрым веданнем справы высвятляе характар сінтаксічных адносін у складаназлучаных сказах і сродкі іх выражэння. Асаблівую ўвагу ўдзяляе дысертант сродкам сінтаксічнай сувязі, падрабязна разглядаючы злучнікі і злучальныя словы, пры дапамозе якіх ажыццяўляецца сувязь у кожным канкрэтным выпадку, высвятляе ўсе магчымыя адценні, звязаныя з ужываннем таго ці іншага злучніка. Разглядаючы адносіны састаўных частак складаназлучанага сказа, дысертант падкрэслівае тую вялікую ролю, якую пры гэтым часта адыгрывае выказнік кожнай з гэтых частак, і спосабы яго выражэння.

Кожнае сваё палажэнне дысертант падмацоўвае багатымі і ўдала падабранымі прыкладамі з мастацкай, навуковай і публіцыстычнай літаратуры, з народнай творчасці і жывой гутарковай мовы.

Наогул дысертацыя робіць уражанне сур'ёзнага навуковага даследавання, добра абгрунтаванага і ўдала пабудаванага. Месцам, праўда, трапляюцца паўторы. Палажэнні, выказаныя, напрыклад, ва ўводзінах, паўтараюцца пры канкрэтным аналізе таго ці іншага віду складанага сказа, а пасля яшчэ і ў вывадах у канцы главы. Мне думаецца, што ў вывадах і ў заключэнні, якім заканчваецца дысертацыя, можна было б не даваць ілюстрацый, паколькі палажэнні былі ўжо праілюстраваны раней.

Што датычыцца асноўных палажэнняў дысертацыі, то яны не выклікаюць пярэчання. Можна паспрачацца па некаторых другарадных момантах. Напрыклад, аб злучніку ***а***, які ўжываецца для сувязі састаўных частак з ча́савымі адносінамі. Правільна адзначаючы, што гэта з'ява вельмі рэдкая ў беларускай мове, аўтар дысертацыі разам з тым лічыць, што гэта з'ява перажытачная, а не запазычаная, што яна бярэ свой пачатак са старажытных часоў. У падмацаванне свае думкі ён прыводзіць прыклады з «Рускай праўды», «Твораў Уладзіміра Манамаха», «Слова аб палку Ігаравым», а таксама з іншых старажытных помнікаў. Але якім чынам гэта з'ява са старажытных помнікаў перакачавала ў творы сучаснай літаратуры, застаецца нявысветленым. А між іншым пытанне не цяжка высветліць, калі звярнуцца да канкрэтных фактаў. Дысертант сцвярджае, што ёсць толькі некалькі прыкладаў такога ўжывання злучніка ***а*** ў творах Янкі Купалы, Якуба Коласа і Кузьмы Чорнага. Прыклад з Якуба Коласа: «Стаіць калодка сярод хаты, А стук бяжыць ва ўсе вуглы: Даніла справаю заняты — На сані чэша капылы». Не цяжка заўважыць, што ***а*** выражае тут перш за ўсё не часавыя, а супастаўляльныя адносіны ў прасторы: «Калодка сярод хаты, а стук бяжыць ва ўсе вуглы» (ад яе). Прыклад з Кузьмы Чорнага: «Зусім пачынала віднець, а на полі разгуляўся радасны вецер». Але і тут ***а*** служыць для выражэння не столькі часавых, колькі прасторавых адносін у плане супастаўлення. У чыстым выглядзе мы гэту з'яву разглядаем толькі ў Янкі Купалы: «Быў слесар Луганскі, а сталь ён каваў». «Прыйдзе новы а мудры гісторык». Але мы ведаем, што для Купалы не была чужой польская мова. Ёю часта карысталіся дамашнія і знаёмыя Купалы, сам ён добра яе ведаў, шмат чытаў і перакладаў польскіх пісьменнікаў. У яго творах ранняга перыяду мы знаходзім шмат лексічных і сінтаксічных запазычанняў з польскай мовы. Мне думаецца, што і гэта з'ява мае тое ж самае паходжанне і наўрад ці трэба для яе тлумачэння звяртацца да «Рускай праўды».

На с. 97 дысертант гаворыць, што «... У некаторых выпадках для сувязі першых састаўных частак у структуры складаназлучанага сказа можа ўжывацца і злучнік *ды*, аднак наступныя састаўныя часткі заўсёды звязваюцца пры дапамозе злучніка *і*. І тут жа ў наступным абзацы мы чытаем прыклад «Бразгацелі шыбы, ды зрэдку дзынкаў малаток у спрытных руках Кавальскіх, ды заходзіўся візгам рашпіль». Тут, як мы бачым, усе тры састаўныя часткі звязаны пры дапамозе злучніка *ды*, чым і абвяргаецца прыведзенае вышэй палажэнне.

На с. 131 дысертант сцвярджае, што складаназлучаныя сказы са злучальнымі словамі ***потым*** і ***затым***, якія выражаюць адносіны паслядоўнасці і ў якіх выказнікі маюць рознačасовае значэнне ў сучаснай беларускай мове, сустракаюцца вельмі рэдка. З гэтым нельга згадзіцца.

Наогул заўвагі дысертанта аб рэдкасці ўжывання часамі выклікаюць пярэчанне. Заўвагі гэтыя ў яго гучаць прыблізна так: «Сказы з гэтым злучнікам у беларускай мове сустракаюцца рэдка. Яны ўжываюцца толькі ў гутарковай мове і мастацкай літаратуры». Як разумець такую агаворку? Выходзіць, што калі той ці іншы від сказа не ўжываецца ў навуковых артыкулах, дык ужо ёсць падстава лічыць, што ён не ўласцівы беларускай мове. На маю думку, такі крытэрый з'яўляецца неправамерным. Па-першае, сінтаксіс мовы многіх навуковых артыкулаў з'яўляецца простай калькай з сінтаксісу рускай мовы. Па-другое, жывая народная гаворка і мастацкая літаратура — гэта найбольш шырокая моўная сфера і агаворка з абмежавальным словам *толькі* тут зусім не падыходзіць. Ёсць словы і выразы, якія ў навуковай ці канцылярскай мове зусім не ўжываюцца, але пра іх ніяк не скажаш, што яны ў беларускай мове рэдка ўжываюцца.

Вазьміце, напрыклад, слова *мама*.

На с. 208 дысертант разглядае складаназлучаныя сказы са злучнікамі ***аж***, ***ажно***, праз якія выражаюцца адносіны неадпаведнасці, але ён выпусціў з-пад увагі злучальнае слова ***адно ж***, якое ў такіх выпадках ужываецца часцей і больш уласціва беларускай мове, чым ***ажно***.

Пра злучнікі ***ці*** і ***або*** на с. 278 гаворыцца, што сінтаксічныя значэнні гэтых злучнікаў настолькі блізкія, што немагчыма выявіць іх спецыфічныя адценні, а на с. 294 адзначаецца, што складаназлучаныя сказы з гэтымі злучнікамі даволі выразна адрозніваюцца характарам свайго інтанацыйнага афармлення, што сказам са злучнікам ***або—або*** ўласціва апавядальная інтанацыя, а сказам са злучнікам ***ці—ці*** — пыталь-

ная. На маю думку, гэтага адрознення недастаткова. Для сказаў са злучнікам ***або—або*** заўсёды ўласціва катэгарычнасць, якая паказвае, што адна з двух з'яў або рэчаў абавязкова мела, мае ці павінна мець месца *(Або грай, або скрыпку аддай)*. Для выражэння гэтага ж значэння можа ўжывацца і злучнік ***ці—ці*** *(Ці грай, ці скрыпку аддай)*. Але апрача гэтага злучнік ***ці*** ўжываецца і для выражэння іншых адценняў: сумнення, няпэўнасці, запытання *(Ці там ветры халодныя дзьмуць, ці зямелька спавіта цяплом. Ці выйдзе што з гэтага, ці праца дарэмна прападзе)*. Складаназлучаны сказ са злучнікам ***ці—ці*** часта выступае ў якасці даданага ўмовы ў складаназалежным сказе, у якім канстатуецца, што якаянебудзь з'ява мае ці будзе мець месца незалежна ад іншых умоў. *(Ці ты яму гавары, ці не гавары, ён і вухам не вядзе.)* Тут як і ў папярэдніх выпадках, злучнік ***або—або*** ніяк нельга ўжыць. Наогул гэтыя два злучнікі не супадаюць па аб'ёму сінтаксічных адносін, якія яны выражаюць. Злучнік ***ці*** ахапляе большы круг гэтых адносін.

Нарэшце некалькі слоў аб мове дысертацыі. Тут у мяне ёсць некаторыя прэтэнзіі да дысертанта. Я не хачу сказаць, што Леанід Іванавіч дрэнна ведае беларускую мову ці не ўмее ёю карыстацца. Мову ён ведае добра, але разам з тым дапускае адхіленні ад існуючай нормы, пагарджаючы некаторымі асаблівасцямі беларускай мовы. Каб гэта была дысертацыя, скажам, па матэматыцы ці па жывёлагадоўлі, дык можна было б і скідку зрабіць. Але ж гэта дысертацыя прысвечана пытанням мовы, праблемам сінтаксісу. Такім чынам, ёсць падставы патрабаваць, каб мова самой дысертацыі была ўзорнай. Але якраз у галіне сінтаксісу дысертант і дапускае больш за ўсё адступленняў. Я маю на ўвазе злоўжыванне дзеепрыметнымі формамі, якія надаюць беларускай мове неўласцівы ёй строй: *выражаемых*, *аб'ядноўваемымі*, *сустракаўшыхся*, *устанавіўшайся*, *адбываючыхся*, *прадаўжаўшагася*, *паўтараючыхся*. Можна было б прывесці дзесяткі такіх прыкладаў. Я хачу запытацца ў дысертанта, дзе ён чуў у жывой беларускай мове такія словы? І няўжо яны не рэжуць вуха мовазнаўцу?

Ёсць некаторыя адступленні і ў галіне лексікі. Замест прынятага *трыванне* скрозь ужываецца *від*, замест *таму — пагэтаму*, замест *адзнака — прызнак*, замест *стану — састаянне*.

Нягледзячы на мае заўвагі, якія не закранаюць, як я сказаў, асноўных палажэнняў дысертацыі, а датычацца другарадных момантаў, я лічу, што дысертацыя Леаніда Іванавіча з'яўляецца сур'ёзнай навуковай працай, выкананай з вялікім

стараннем і добрым веданнем справы. Яна ў значнай меры запоўніць прабел, які меў месца ў вывучэнні пытанняў сінтаксісу беларускай мовы. Праца, бясспрэчна, заслугоўвае таго, каб быць надрукаванай. Ды яна ўжо ў скарочаным выглядзе і друкуецца, складаючы асобны раздзел «Курса сучаснай беларускай мовы», падрыхтаванага сектарам сучаснай мовы Інстытута мовазнаўства АН БССР, дарэчы, там, наколькі мне вядома, аўтарам у значнай меры выпраўлены і моўныя недахопы, аб якіх я тут гаварыў. Работа сведчыць аб тым, што Леанід Іванавіч Бурак з'яўляецца здольным маладым лінгвістам і, бясспрэчна, заслугоўвае прысуджэння вучонай ступені кандыдата філалагічных навук.

*1958*

## ОТЗЫВ О ДИССЕРТАЦИИ А. В. ОРЕШОНКОВОЙ «ЛИЧНЫЕ ФОРМЫ ГЛАГОЛОВ НАСТОЯЩЕГО ВРЕМЕНИ В БЕЛОРУССКОЙ ПИСЬМЕННОСТИ XVI ВЕКА»

Тема диссертации Анны Владимировны, на первый взгляд, кажется небольшой по объему, но если принять во внимание, что диссертантка не ограничивается поперечным разрезом, т. е. выяснением состояния личных окончаний глаголов в XVI ст., ■ выясняет и историю вопроса, а также состояние этих форм в современном белорусском литературном языке и в говорах, то становится ясным, что задача диссертантки не такая легкая. Решение ее требует не только много работы, но и хорошей лингвистической подготовки.

Значение взятой темы для белорусского языкознания также не вызывает возражения. Многие из вопросов истории белорусского языка еще слабо разработаны. Тем более относится это к глаголу — категории очень богатой формами, в которых на протяжении столетий происходили значительные изменения.

Целесообразным нужно считать и то, что диссертантка берет для своего исследования памятники письменности XVI ст. В это время процесс образования общенародного белорусского языка проходил особенно интенсивно и уже

ясно выступали многочисленные особенности белорусского языка, получившие потом дальнейшее развитие.

Диссертация состоит из введения, двух глав и заключения. Во введении определяются предмет и задачи исследования, перечисляется материал, который диссертантка использует в своей работе. Причем нужно сказать, что материал этот большой. Сюда входят памятники деловой письменности, юридические акты, летописи, светские повести, богослужебные книги, религиозно-полемическая литература. Для сравнения широко использованы произведения современных белорусских писателей, частично произведения украинских и польских писателей, а также богатый диалектологический материал.

Значительная часть введения, около 30 страниц, посвящена выяснению истории вопроса, выяснению того, какой путь развития прошли личные окончания глаголов, начиная от общеиндоевропейского языка. Здесь диссертантка обстоятельно знакомит нас с тем, как этот вопрос освещается в общих языковедческих работах и в специальных исследованиях виднейших языковедов — А. Мейе, А. М. Селищева, С. П. Обнорского, А. А. Шахматова, П. Я. Черных, Н. Н. Дурново, А. И. Соболевского, В. И. Борковского, А. А. Потебни и других.

Таким образом, прежде чем приступить к непосредственному исследованию, диссертантка проделала большую подготовительную работу, необходимую для выяснения различных аспектов поставленного вопроса.

Первая глава диссертации посвящена исследованию личных форм тематических глаголов. При этом диссертантка приводит все личные формы тематических глаголов настоящего времени, отмечая, какие из них были наиболее распространенными, какие встречались изредка. Выясняется, что в зависимости от жанра письменности, от территории, на которой создавался памятник, те или другие окончания могли употребляться реже или чаще или совсем не употреблялись.

Выясняется при этом, что на формирование белорусского общенародного языка большое влияние оказывал разговорный язык, который больше всего проникал в памятники деловой письменности.

Наиболее консервативным был язык богослужебных книг и религиозно-полемической литературы, который придерживался норм старославянского языка, а также язык официальных государственных документов, в которых больше сохранялись традиции общерусской письменности. Определенное влияние на характер личных окончаний оказывали и языки соседних народов — русского и польского.

Выясняя состояние личных окончаний и их дальнейшее развитие, диссертантка показывает, что некоторые из них, особенно те, которые имели поддержку в живом разговорном языке, сохранились без изменений или с определенными фонетическими изменениями до нашего времени и употребляются в современном литературном языке и народных говорах. Таким является, например, окончание 1-го лица единственного числа *-у(-ю)*. А вот окончание *-м(-мъ)*, которое параллельно изредка встречается в памятниках XVI ст. (напр., *знам*), было, очевидно, заимствовано из польского языка и в современном белорусском языке не сохранилось.

Для 2-го лица единственного числа свойственным было и сохранилось до сегодняшнего дня окончание *-ш(-шь)*. В религиозной литературе в соответствии с традициями старославянского языка употреблялось еще окончание *-ши*, которое, однако, не имело поддержки в разговорном языке.

Для 3-го лица единственного числа наиболее распространенным было окончание *-ть*, особенно в памятниках, которые наиболее полно отражают живой разговорный язык. Достаточно широко употреблялось и окончание *-т(-тъ)*, главным образом в официальных государственных документах. Значительно меньше было распространено окончание без *т* (*покаже*), причем главным образом в глаголах I спряжения. Тем не менее, в процессе дальнейшего развития белорусского языка это окончание, свойственное юго-западным белорусским говорам, стало литературной нормой для глагола I спряжения. Мягкое *-т(-ць)*, как известно, является нормой для II спряжения, хотя в северно-восточных говорах это окончание свойственно и для I спряжения. Окончание *-т* твердое, как свидетельствует диссертантка, не имело поддержки в народном разговорном языке. Она согласна с мыслью академика Е. Ф. Карского, что это окончание появлялось в белорусской письменности под влиянием русского и украинского языков.

Для 1-го лица множественного числа наиболее распространенным было окончание *-м(-мъ)*, которое и теперь является литературной нормой. Рядом с этим в памятниках, которые писались ■ юго-западной части Белоруссии, начиная со второй половины XVI ст. встречается окончание *-мо*. Это окончание, как нам известно, и теперь является характерной особенностью говоров этой территории. Окончание *-мы*, происхождение которого одни объясняют влиянием формы местоимения 1-го лица множественного числа, другие же — влиянием польского языка, употреблялось редко и в современном языке не сохранилось.

2-му лицу множественного числа характерным было окончание ***-те***, которое является нормой и для современного литературного языка ***(-це)***. В современных говорах рядом с этим существуют фонетические варианты (под ударением ***-цё***, не под ударением ***-ці,-ця***).

Для 3-го лица множественного числа существовали окончания ***-уть(-ють)***, ***-утъ(-ютъ)*** для I спряжения, и ***-ать(-ять)***, ***-атъ(-ятъ)*** для II спряжения.

Как известно, в современном белорусском языке нормой является мягкий вариант этих окончаний, имеющий широкую поддержку и в народных говорах.

Во второй главе рассматриваются личные окончания нетематических глаголов *есмь, дамь, вѣмь, имамь, ѣмь.*

Что касается глагола *есмь*, то, как свидетельствует диссертантка, он уже в XVI ст. в значительной мере потерял свое значение показателя лица. Эту функцию все больше принимали на себя личные местоимения. В связи с этим и различные личные формы глагола *есмь* (*есмъ, есми, еси, есмо, есьмо, есмы, есьмы*) постепенно заменялись формой 3-го лица единственного числа *-есть (ест)*. В современном литературном языке сохранилась только эта форма *(ёсць)*.

Что касается форм *естэм, естэсь, естэсьмо (естэсьмы), естэсьте*, которые изредка встречаются в памятниках XVI ст., то диссертантка правильно замечает, что они являлись в результате влияния польского языка.

Глаголы *дамь, вѣмь, имамъ* перешли в группу тематических глаголов, от чего соответствующим образом изменились и их личные окончания. Эти изменения ясно выступают уже в памятниках XVI ст., о чем свидетельствуют приведенные диссертанткой многочисленные примеры.

Что касается глагола *ѣмь*, то диссертантка отмечает, что этот глагол сохранил свои древние формы кроме 1-го лица множественного числа, где употребляется форма повелительного наклонения *ядзім*. Правда, в юго-западных белорусских говорах сохранилась и древняя форма *ѣмо (ямо)*, также как и древняя форма 3-го лица множественного числа *едять (ядзяць)*.

Вообще от работы Анны Владимировны остается хорошее впечатление.

К своей задаче она отнеслась с надлежащей серьезностью и сделала большую подготовительную работу: проработала большую языковедческую литературу, собрала очень большой и разнообразный материал.

Ясность поставленной цели, правильный методический подход, надлежащая лингвистическая подготовка дали ей возможность осветить взятую тему с надлежащей полнотой и

глубиной. В результате мы имеем точное представление о личных окончаниях глаголов настоящего времени в памятниках XVI ст., а также о их дальнейшей судьбе и современном состоянии в литературном языке и белорусских говорах. В этом и заключается конкретный вклад в белорусское языкознание, сделанный Анной Владимировной в результате написания диссертации.

Что касается основных положений, высказанных диссертанткой, то они не вызывают возражений. Можно сделать замечания относительно некоторых второстепенных моментов, не имеющих существенного значения для оценки диссертации.

Так, например, подкрепляя положение о том, что современное состояние языка свидетельствует об исторических языковых связях белорусского и русского народов, с одной стороны, белорусского и польского — с другой, диссертантка в качестве доказательства указывает на то, что глагол *вѣмь (ведаю)* есть будто бы только в белорусском и польском языках, а в русском языке встречается только в застывших выражениях *бог весть, невесть что* (с. 4). На самом деле это не так. Слово *ведать* (в значении — *знать*) мы видим и в современных русских словарях, правда с пометой «устаревшее». Что это слово было очень продуктивным в русском языке, об этом свидетельствует большое количество образованных от него слов: *отведать, проведать, разведать, изведать, выведать, ведомость, сведения* и много других, которые широко употребляются и в современном русском языке. Таким образом, по линии глагола *вѣмь* белорусско-русские связи можно проследить еще с большей полнотой, чем белорусско-польские. Для подкрепления правильного положения диссертантка взяла здесь неудачный пример.

Нельзя согласиться с положением (с. 111), что в XVI ст. «асобныя вобласці беларускіх зямель знаходзіліся з суседняй Польшчай не толькі ў добрасуседскіх эканамічных, але і ў культурных» отношениях.

Диссертантка, правда, ссылается на первый том Истории БССР, где высказана эта мысль. Но вырванная из контекста формула звучит здесь неубедительно.

Тяжело говорить о хороших соседских культурных отношениях в условиях, когда велась острая борьба между католичеством и православием, которая накладывала свой отпечаток на всю культурную жизнь того времени в условиях экспансии магнатской Польши, которая стремилась захватить белорусские земли, окатоличить и ополячить белорусское население. Тем более нет основания говорить о добрососед-

ских отношениях белорусских областей и Польши как равноправных сторон после Люблинской унии, в результате которой Польша завладела белорусскими землями. Взаимовлияние польского и белорусского языков действительно имели место, но условия были несколько другими.

На 152-й странице говорится, что в современном белорусском литературном языке формы глагола *меть* не функционируют в предложении как вспомогательный глагол, а только в южных говорах встречаются формы глагола, в которых составной частью входит глагол *имамь (жацьму, сядзецьмем, спявацьмуць)*. А между прочим, как в говорах, так изредка и в литературном языке встречаются такие обороты: *што я маю рабіць? сёлета маем сына жаніць* и другие, где глагол *маю* является дополнительным. В такой же функции для прошедшего времени выступают и возвратные формы этого глагола: *меўся ехаць на поле, ды дождж перашкодзіў*; *яна мелася ўжо замуж ісці*. Для полноты картины эти формы стоило бы отметить.

В связи с выяснением судьбы глагола *есмь* диссертантка отмечает, что в белорусских говорах теперь употребляются различные варианты глагола *есць*. Приводятся примеры с *ёсць, есць, ё, е, ёсь*. При этом дается пример, записанный в деревне Низок Узденского района с *есць*. Говор деревни Низок благодаря определенным обстоятельствам я хорошо знаю и могу засвидетельствовать, что эта форма для него не свойственна. Там говорят *е, есцяка*. Виновата в этой ошибке, однако, не диссертантка, а тот невнимательный диалектолог, изучающий говоры деревни Низок. Слово *есць* он записал от человека, который говорил по-русски.

Эти мои замечания не имеют, как я уже сказал, существенного значения для оценки диссертации. Работа Анны Владимировны в целом выполнена на надлежащем научном уровне и с хорошим знанием дела. Ее статьи, опубликованные в «Працах Інстытута мовазнаўства АН БССР» вып. V, в «Весцях Акадэміі навук БССР. Грамадская серыя» № 2 за 1958 г., в сборнике «Материалы конференции молодых ученых Академии наук БССР» за 1958 г., как и автореферат, содержат в себе все основные положения диссертации и дают полное представление о содержании работы.

Приятно отметить, что диссертация написана хорошим белорусским языком.

Я считаю, что автор этой работы, Анна Владимировна Орешонкова, полностью заслуживает того, чтобы ей была присуждена степень кандидата филологических наук.

*1958*

# РЭЦЭНЗІЯ НА ПРАЦЫ АКАДЭМІКА АКАДЭМІІ НАВУК БССР, ПАЭТА П. Ф. ГЛЕБКІ

На маю долю выпаў прыемны абавязак выступаць у якасці афіцыяльнага рэцэнзента твораў і прац акадэміка Акадэміі навук Беларускай ССР, паэта Пятра Фёдаравіча Глебкі ў сувязі з абмеркаваннем пытання аб прысуджэнні яму вучонай ступені доктара філалагічных навук.

У асобе Пятра Фёдаравіча шчасліва спалучаюцца якасці таленавітага паэта і драматурга і не менш таленавітага навукова работніка, даследчыка ў галіне літаратуры, мовазнаўства, мастацтвазнаўства.

35 год плённай працы ў галіне літаратуры стварылі Пятру Глебку заслужаную славу аднаго з самых выдатных беларускіх паэтаў і драматургаў і зрабілі яго імя і яго творы вядомымі далёка за межамі нашай савецкай краіны. У яго творах, прасякнутых вялікім грамадскім пафасам, любоўю да савецкага чалавека і да нашай сацыялістычнай радзімы, мы знойдзем адлюстраванне важнейшых падзей у жыцці беларускага народа.

Мне няма патрэбы ў гэтай аўдыторыі пералічаць усе 14 кніг, выпушчаных Пятром Глебкам, і змешчаныя ў іх вершы, паэмы і п'есы. Напомню толькі, што такім важнейшым падзеям, як Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя і грамадзянская вайна, прысвечаны яго п'есы «Святло з Усходу» і «Над Бярозай-ракой», паэмы «У тыя дні», «Трывожны сігнал», «Арлянка» і шмат іншых твораў.

Паэт балеў душой за тую частку беларускага народа, якая на працягу дваццаці год пакутавала пад прыгнётам польскіх памешчыкаў і капіталістаў, і многія лепшыя свае творы прысвяціў барацьбе і вызваленню працоўных Заходняй Беларусі. Глыбокую любоў народа да вялікага правадыра У. І. Леніна змяшчаюць у сабе паэмы «Мужнасць» і «У тыя дні». Гарачым патрыятызмам і нянавісцю да ворага прасякнуты творы паэта, напісаныя ў дні Вялікай Айчыннай вайны. Такія высокія чалавечыя пачуцці, як дружба, каханне, павага да чалавека, напаўняюць яго творы, прысвечаныя простым савецкім людзям, і надаюць гэтым творам высокую маральную і эстэтычную каштоўнасць.

Адносячыся з глыбокай любоўю і павагай да вялікай рускай літаратуры, як і да літаратур іншых братніх народаў, Пятро Глебка не шкадаваў працы для таго, каб лепшыя ўзоры гэтых літаратур зрабіць здабыткам беларускага чытача. Ён

перакладаў творы рускіх, украінскіх, казахскіх, літоўскіх, армянскіх паэтаў. У тым ліку творы Маякоўскага, Лермантава, трагедыю А. С. Пушкіна «Барыс Гадуноў», «Песню пра Сокала» і «Песню пра Буравесніка» М. Горкага.

Асаблівасцю Пятра Фёдаравіча з'яўляецца тое, што ён не толькі піша выдатныя мастацкія творы, але любіць падумаць над тым, што напісаў, а яшчэ, можа, больш над тым, што напісалі іншыя. Якія грамадскія перакананні, якія душэўныя пачуцці кіравалі аўтарам, калі ён пісаў той ці іншы твор, наколькі высокае яго прафесіянальнае майстэрства, як ён валодае мастацкімі сродкамі для выражэння сваіх думак і пачуццяў — гэтыя пытанні заўсёды глыбока цікавяць Пятра Глебку. Любіць падумаць Пятро Фёдаравіч і над словам, над нязмерным багаццем народнай мовы, над законамі яе развіцця. Гэтаму роздуму Пятра Глебкі мы абавязаны тым, што ў друку на працягу яго літаратурнай і навуковай дзейнасці з'явілася каля 150 прац, надрукаваных у газетах, часопісах і асобнымі выданнямі. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што сярод гэтых прац ёсць частка такіх, якія не маюць навукова-даследчага характару, але ў значнай большасці іх закранаюцца і вырашаюцца актуальныя пытанні літаратуразнаўства і мовазнаўства, а такія працы, як Руска-беларускі слоўнік, стварэнню якога Пятро Фёдаравіч аддаў дзесяць год працы, з'яўляецца, па агульнаму прызнанню, значным укладам у развіццё беларускага мовазнаўства. На значэнні гэтай працы я ніжэй спынюся больш падрабязна, а цяпер хачу спыніцца на яго літаратуразнаўчых артыкулах.

Выдатнай рысай Пятра Фёдаравіча з'яўляецца яго высокая прынцыповасць, у сілу якой ён не мірыцца з няправільнымі тэндэнцыямі, не можа цярпець фальшу і кан'юнктуршчыны ў літаратурных ацэнках. Жаданне абвергнуць няправільныя погляды і ўстанавіць ісціну не раз прымушала яго брацца за пяро. Гэта было тым больш неабходна, што ў мінулым у беларускай крытыцы нямала было тэндэнцыйных ацэнак, скажам, з боку беларускіх буржуазных нацыяналістаў, якія фальсіфікавалі творчасць беларускіх пісьменнікаў, стараючыся падагнаць яе пад свае рэакцыйныя погляды. Нямала было ў свой час і вульгарызатараў, якія не здольны былі і не спрабавалі раскрыць сапраўдную ідэйную і мастацкую каштоўнасць творчасці таго ці іншага пісьменніка, а рабілі шырокія абагульняючыя вывады па знешніх адзнаках у адпаведнасці з сваімі вульгарызатарскімі ўстаноўкамі.

Супроць такіх тэндэнцыйных ацэнак і поглядаў у адносінах да творчасці Якуба Коласа, Пятро Фёдаравіч выступіў у сваім артыкуле «Пясняр пафасу народнай барацьбы» (газета «Літаратура і мастацтва», 1946 год). У гэтым артыкуле аўтар пераканаўча даводзіць беспадстаўнасць поглядаў тых літаратуразнаўцаў, якія лічылі Коласа паэтам грамадскага смутку, што ён нібыта апісвае толькі мужыцкае гора. Пятро Глебка гаворыць, што коласаўскі смутак не мае нічога агульнага з упадніцтвам, што гэта боль душы паэта ад таго, што ён бачыў свой народ бяспраўным і прыгнечаным. Гэта разам з тым і страснае жаданне, каб народ хутчэй скінуў з сябе ярмо прыгнёту. Паэт у многіх вершах прама заклікае працоўных да рэвалюцыйнай барацьбы за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Абвяргае Глебка і тую думку, што пасля паражэння рэвалюцыі 1905 года Якуб Колас нібыта адышоў ад сваіх рэвалюцыйных поглядаў. Аўтар называе цэлы рад твораў гэтага перыяду, у якіх Колас бічуе царскае самаўладства, высмейвае цара і яго канстытуцыю, заклікае народ да далейшай барацьбы.

Грунтоўны аналіз паэмы Якуба Коласа «Рыбакова хата», прысвечанай барацьбе і вызваленню працоўных Заходняй Беларусі, уз'яднанню яе ў адзінай беларускай сацыялістычнай дзяржаве, дае Пятро Фёдаравіч у артыкуле, змешчаным у першым нумары часопіса «Знамя» за 1949 год. Раскрыццю высокіх ідэйных і мастацкіх якасцей народнага паэта прысвечан і цэлы рад іншых артыкулаў Глебкі.

Шмат увагі ўдзяліў Пятро Фёдаравіч і творчасці другога народнага паэта Беларусі — Янкі Купалы. Досыць назваць такія яго артыкулы, як «Памятная размова» (газета «Літаратура і мастацтва» за 5 ліпеня 1952 года), «Вялікі пачатак» («Літаратура і мастацтва» за 28 мая 1955 года), «Путь к сердцу народа» («Огонек», № 28 за 1952 год), «П'еса, прачытаная па-новаму» («Советская Белоруссия» за 9 лютага 1952 года). Асабліва каштоўным з'яўляецца апошні артыкул, паколькі ён зноў жа прысвечан абвяржэнню няправільных поглядаў і ўстанаўленню ісціны ў адносінах да аднаго з выдатнейшых твораў Янкі Купалы — п'есы «Раскіданае гняздо». У дачыненні да яе ўстанавіўся быў погляд, што гэта твор, па-першае, несцэнічны, па-другое, што Янка Купала знаходзіцца тут у палоне сімвалізму. П. Ф. Глебка пераканаўча даводзіць, што сімволіка ў п'есе Янкі Купалы не мае нічога агульнага з сімвалізмам, што праз гэту сімволіку драматург з вялікай глыбінёй адлюстроўвае рэальныя грамадскія

адносіны, рэальныя класавыя супярэчнасці, працэс збяднення і пралетарызацыі сялянства і рост сярод яго рэвалюцыйных настрояў.

Устанаўленню правільнага погляду на літаратурныя з'явы дапамагалі і артыкулы Пятра Фёдаравіча аб творчасці Петруся Броўкі, якіх мы можам налічыць каля дзесятка. У гэтых артыкулах Пятро Фёдаравіч падкрэслівае вялікі грамадскі тэмперамент паэта, актуальнасць і глыбокі ідэйны змест яго твораў, тое вялікае месца, якое займае ў паэзіі Броўкі будаўнік новага, сацыялістычнага грамадства — савецкі чалавек з яго думкамі і пачуццямі.

Шмат увагі ў сваіх літаратуразнаўчых артыкулах Пятро Глебка ўдзяляе сувязям беларускай літаратуры з літаратурамі іншых народаў, падкрэсліваючы вялікае значэнне такіх сувязей, паколькі яны служаць узаемнаму ўзбагачэнню і паспяховаму развіццю кожнай з літаратур. Значнае месца ў гэтых артыкулах адводзіцца высвятленню дабратворнага ўплыву вялікай рускай літаратуры і яе выдатных прадстаўнікоў на развіццё беларускай літаратуры. Некалькі артыкулаў з гэтай серыі прысвечана Пушкіну[1] і яго ўплыву на беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, у першую чаргу на народных паэтаў Беларусі Якуба Коласа і Янку Купалу. Неўміручыя творы Пушкіна, прасякнутыя гуманізмам, свабодалюбствам, нянавісцю да царскага самаўладства, асабліва блізкі былі сэрцу народных паэтаў Беларусі, якія ўвесь свой вялікі талент аддалі служэнню народу, яго барацьбе за лепшую долю. Гэты ўплыў пашыраецца і на мастацкія асаблівасці твораў нашых паэтаў.

Разглядаючы паэму Якуба Коласа «Новая зямля», П. Глебка выразна бачыць дабратворны ўплыў аўтара «Яўгенія Анегіна» на стыль і манеру пісьма, на кампазіцыю гэтага твора Якуба Коласа. Такі ж уплыў аповесці Пушкіна «Дуброўскі» няцяжка прасачыць на паэме Янкі Купалы «Магіла льва».

Пятро Глебка добра ведае і любіць класікаў польскай літаратуры і самага выдатнага сярод іх — паэта сусветнай славы Адама Міцкевіча. Аб месцы Адама Міцкевіча ў сусветнай літаратуры, аб яго творчасці і аб крыніцах, якія жывілі яго вялікі талент, Пятром Фёдаравічам напісан рад артыкулаў,

---

[1] «Он вошел в нашу жизнь» («Известия» за 2 чэрвеня 1949 года), «А. С. Пушкін і беларуская літаратура» («Беларусь, № 6 за 1949 год), «Геніяльны паэт рускага народа» («Полымя», № 6 за 1949 год), «Вялікі паэт вялікага народа» («Літаратура і мастацтва» за 4 чэрвеня 1949 года), «Могучие традиции» («Советская Белоруссия» за 5 чэрвеня 1949 года).

змешчаных у савецкім друку[1]. Адзін з яго артыкулаў — «Адам Міцкевіч і Беларусь» — змешчан у кнізе «Адам Міцкевіч», выдадзенай Польскай акадэміяй навук.

У артыкуле «Адам Міцкевіч», аб'ёмам у два друкаваныя аркушы, Пятро Фёдаравіч высвятляе высокія гуманістычныя ідэі, якімі кіраваўся паэт у сваёй грамадскай і паэтычнай дзейнасці, той уплыў, які аказала на Міцкевіча руская перадавая думка, і ў сваю чаргу ўплыў Міцкевіча на развіццё рускай і іншых, асабліва славянскіх, літаратур. Гаворачы аб тым, як глыбока любіў паэт свой народ і які боль адчуваў ён за лёс сваёй краіны, Пятро Фёдаравіч абвяргае думку некаторых літаратараў, што нібыта Адам Міцкевіч варожа адносіўся да ўсяго рускага. Вялікая дружба польскага паэта з А. С. Пушкіным, яго глыбокая пашана да перадавых прадстаўнікоў рускай інтэлігенцыі, а таксама самі мастацкія творы паэта з'яўляюцца пераканаўчым доказам таго, што нянавісць Міцкевіча накіравана была не супроць рускага народа, а супроць царскага самаўладства, якое прычыніла нямала зла і пакут польскаму народу. Спыняючыся на вытоках творчасці Міцкевіча, на ўражаннях яго дзіцячых і юнацкіх год, Глебка адзначае, што ў творчасці паэта знайшлі шырокае адлюстраванне беларуская прырода і быт беларускіх працоўных, а многія беларускія народныя легенды і казкі паслужылі сюжэтамі для яго твораў. Любоў да беларускага народа, да яго мовы, да яго цудоўных песень, казак і легенд паэт захаваў на працягу ўсяго свайго жыцця.

Многія з артыкулаў Пятра Фёдаравіча прысвечаны тым вечным пытанням, над якімі заўсёды думае пісьменнік: пытанням зместу і формы, ідэі і спосабаў яе выражэння, сувязі пісьменніка з рэчаіснасцю, тыпізацыі жыццёвых з'яў і вобразаў. Гэтыя пытанні турбавалі паэта і даследчыка Пятра Глебку з самага пачатку яго літаратурнай дзейнасці. Ім напісана шмат артыкулаў, якія, бясспрэчна, дапамагалі высвятленню ўсіх гэтых пытанняў. Я не маю магчымасці назваць і тым больш разгледзець тут усе гэтыя артыкулы. Гэта заняло б у нас шмат часу. Напэўна, мае калегі, літаратуразнаўцы, спыняцца на літаратуразнаўчых працах Пятра Глебкі больш падрабязна, а мне дазвольце спыніцца яшчэ на яго мовазнаўчых працах.

---

[1] «Адам Міцкевіч» («Літаратура і мастацтва» за 2 снежня 1945 года), «Пясняр брацкай дружбы народаў» («Камуніст Беларусі», № 11 за 1955 год), «Поэт, любимый в советской стране» («Славяне», № 11 за 1955 год), «Адам Міцкевіч» («Полымя», № 11 за 1940 год).

Аб укладзе Пятра Фёдаравіча ў мовазнаўчую навуку трэба гаварыць перш за ўсё ў сувязі з выданнем Руска-беларускага слоўніка, якому ён аддаў дзесяць год напружанай працы. Трэба сказаць, што ён мог бы і не траціць столькі дарагога часу, патрэбнага яму для творчай працы, каб аднёсся да сваіх абавязкаў фармальна і не ўлічыў усяе сур'ёзнасці і грамадскага значэння даручанай яму справы.

Справа ў тым, што ў 1944 годзе, у сувязі з вызваленнем Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і шырокім разгортваннем культурнай і навуковай працы ў рэспубліцы, узнікла вострая патрэба ў руска-беларускім слоўніку, асабліва патрэбнага для газетных і выдавецкіх работнікаў для перакладу з рускай мовы шматлікай літаратуры, для падрыхтоўкі да выдання на беларускай мове твораў класікаў марксізму-ленінізму. Быў выданы да вайны Руска-беларускі слоўнік пад рэдакцыяй А. Александровіча, але з яго тыражу пасля вайны мала што засталося. Пятру Фёдаравічу даручана было падабраць некалькі работнікаў, якія пад яго кіраўніцтвам унеслі б некаторыя папраўкі ў гэты слоўнік і падрыхтавалі яго да новага выдання. Але Пятро Фёдаравіч добра разумеў, што перавыдаваць гэты слоўнік не было сэнсу: па-першае, ён быў прымітыўным па распрацоўцы значэнняў слоў і не адпавядаў узроўню лексікаграфічнай працы, якая праводзілася ў Савецкім Саюзе, па-другое, ён ахапляў параўнаўча невялікую колькасць слоў беларускай літаратурнай мовы. Пры гэтым вельмі часта не хапала якраз тых слоў, якія цяжэй за ўсё было перакладаць.

І Пятро Фёдаравіч паставіў сабе вельмі цяжкую задачу — стварыць новы, дастаткова поўны руска-беларускі слоўнік, апрацаваны паводле патрабаванняў лексікаграфічнай навукі.

Цяжкасць гэтай задачы заключалася ў тым, што сам аб'ём такой працы надзвычайна вялікі; што пад кіраўніцтвам П. Глебкі працавала ўсяго пяць маладых мовазнаўцаў, якія ніколі раней над слоўнікам не працавалі; што не было ніякай слоўнікавай картатэкі, без чаго скласці слоўнік немагчыма. І ўсё ж такі ў выніку ўпартай працы гэтыя цяжкасці былі пераадолены. Руска-беларускі слоўнік, які змяшчаў 86 тысяч слоў, у 1953 годзе выйшаў з друку і сёння з'яўляецца настольнай кнігай для газетных і выдавецкіх работнікаў, для выкладчыкаў мовы ў школах і вузах і для ўсіх тых, каму прыходзіцца мець справу з перакладам з рускай мовы на беларускую. Выхад слоўніка, безумоўна, спрыяў культуры беларускай мовы, яе нармалізацыі як у галіне лексікі, часткова марфалогіі, так і ў галіне правапісу, паколькі слоўнік

служыць і арфаграфічным даведнікам. Вялікая заслуга ў гэтым Пятра Фёдаравіча, бо асноўны цяжар працы над слоўнікам як кіраўніку тэмы і слоўнікавай групы, рэдактару, арганізатару ўсяе працы прыйшлося вынесці яму. Ён распрацоўваў прынцыпы ўкладання слоўніка, яму ў асноўным прыйшлося вырашаць складаныя праблемы яго апрацоўкі. А праблем было шмат. Трэба было вырашаць, якія словы ў якім аб'ёме ўключаць у слоўнік: у прыватнасці, трэба было вырашаць, у якім аб'ёме даваць спецыяльную тэрміналогію, якая ў беларускай мове слаба распрацавана, трэба было вызначыць сістэму размяшчэння слоў. Найбольш пашыранымі ў лексікаграфіі былі алфавітная і гнездавая сістэмы. У даным выпадку для таго, каб спалучыць эканомію месца са зручнасцю карыстання слоўнікам, была выбрана камбінаваная алфавітна-гнездавая сістэма.

Трэба было вызначыць класіфікацыю слоў паводле іх граматычнай прыналежнасці, сферы ўжывання, стылістычных асаблівасцей, для чаго трэба было стварыць сістэму граматычных, лексічных і стылістычных памет.

Калі ў складанні рэестра слоў і распрацоўцы значэнняў укладальнікі маглі апірацца і фактычна апіраліся на Толковый словарь русского языка пад рэдакцыяй Дз. М. Ушакова, Словарь русского языка пад рэдакцыяй С. І. Ожагава і Руска-ўкраінскі слоўнік, то ў перакладной частцы, у знаходжанні беларускага эквіваленту, які адпавядаў бы пэўнаму рускаму слову і яго стылістычнай афарбоўцы, цяжкасці былі вельмі вялікія.

Многія словы перакладаліся на беларускую мову ўпершыню. Блізкасць і роднасць моў часта не дапамагала, а, наадварот, абцяжарвала пераклад з прычыны наяўнасці міжмоўнай аманіміі, калі рускае і беларускае словы гучаць аднолькава, а маюць розны сэнс або рознае стылістычнае адценне, часамі досыць тонкае.

Упершыню ў практыцы беларускай лексікаграфіі былі ўключаны ў слоўнік як асобная катэгорыя фразеалагічныя выразы рускай мовы. Як вядома, шмат якія з іх з'яўляюцца ідыёмамі і не паддаюцца даслоўнаму перакладу. Такім чынам, на долю ствральнікаў слоўніка выпала вельмі цяжкая задача — знайсці адпаведныя фразеалагічныя эквіваленты ў беларускай мове. Прыйшлося вырашаць і пытанні нармалізацыі мовы як у галіне лексікі, так і марфалогіі, у прыватнасці, пытанне аб тым, ці адносіцца слова да літаратурнай мовы, ці яно з'яўляецца гутарковым, або прастарэчным, абласным, або ўстарэлым; ці назоўнік мужчынскага роду канчаецца ў родным склоне на *-а* ці на *-у*. Гэта толькі невялікая частка з тых складаных пытанняў, якія прыйшлося вырашаць калекты-

ву, што працаваў над слоўнікам, і перш за ўсё яго кіраўніку Пятру Фёдаравічу Глебку.

Слоўнік атрымаў высокую і аднадушную ацэнку як выдатны ўклад у беларускае мовазнаўства, як першае навуковае выданне такога тыпу, якое адыгрывае вялікую ролю ў справе развіцця беларускай літаратурнай мовы, у справе развіцця культурных сувязей беларускага і рускага народаў. Аб гэтым сведчаць як водзывы, змешчаныя ў беларускім друку, так і рэцэнзія І. А. Асавецкага, змешчаная ў часопісе «Вопросы языкознания», № 4 за 1955 год. Высокую ацэнку Руска-беларускаму слоўніку даў і акадэмік Вінаградаў Віктар Уладзіміравіч у сваім выступленні ў Бялградзе на Міжнародным кангрэсе славістаў у 1955 годзе.

Праца Пятра Фёдаравіча ў галіне мовазнаўства шматбаковая і разнастайная. Яго, напрыклад, вельмі цікавіць мова пісьменніка, і гэтаму пытанню ён прысвячае свае артыкулы: «Мова пачынаючых пісьменнікаў»[1], «Праца над словам»[2], «Аб мове Янкі Купалы»[3].

Працуючы ў Акадэміі навук БССР у якасці кіраўніка слоўнікавай групы, потым слоўнікавага сектара, нарэшце, у якасці дырэктара Інстытута мовазнаўства, Пятро Фёдаравіч прымаў актыўны ўдзел у вырашэнні многіх важнейшых пытанняў беларускага мовазнаўства, у падрыхтоўцы важнейшых прац Інстытута мовазнаўства. Адным з такіх важнейшых пытанняў была падрыхтоўка праекта ўдакладнення і частковых змен беларускага правапісу. Пятро Фёдаравіч быў не толькі адным з кіраўнікоў у вырашэнні гэтай складанай праблемы, але і непасрэдным удзельнікам у распрацоўцы шмат якіх раздзелаў «Зводу правіл беларускага правапісу», які цяпер друкуецца. Ён таксама з'яўляецца адным з рэдактараў «Нарысаў па гістарычнай граматыцы беларускай мовы» і «Курса сучаснай беларускай мовы» (частка 1. Марфалогія).

Нямала робіць Пятро Фёдаравіч і ў справе падрыхтоўкі навуковых кадраў у галіне беларускай філалогіі як кіраўнік аспірантаў, як афіцыяльны апанент пры абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый, у якасці якога ён выступаў шмат разоў. У напісаных пры гэтым водзывах Пятра Фёдаравіча змяшчаецца шмат каштоўных думак і цікавых поглядаў, якія заслугоўваюць таго, каб стаць тэмамі для самастойных навуковых прац. Аб шырокім навуковым кругаглядзе Пятра Фёдаравіча сведчыць тое, што ён з поспехам выступаў у якасці

[1] Пісьменнік і мова. Мн., АН БССР. 1934.
[2] Заклік. 1933. № 2.
[3] ЛіМ. 1946. 10 жн.

афіцыяльнага апанента пры абароне доктарскай дысертацыі нашым паважаным старшынёй вучонага савета доктарам філасофскіх навук Іванам Мікалаевічам Лушчыцкім.

Гэты шырокі навуковы кругагляд Пятра Фёдаравіча ў значнай меры з'явіўся прычынай таго, што на яго плечы ў Акадэміі навук БССР ускладзена цяпер новая нялёгкая ноша: ён з'яўляецца дырэктарам арганізаванага нядаўна Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, задачай якога з'яўляецца вырашэнне складаных і разнастайных праблем, якія ў беларускай навуцы яшчэ вельмі мала або зусім не распрацоўваліся.

Характарызуючы літаратурную і навуковую дзейнасць Пятра Фёдаравіча, я не магу не спыніцца і на яго вялікай грамадскай дзейнасці. Ён з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, членам праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, членам прэзідыума Рэспубліканскага камітэта абароны міру, членам Мінскага гаркома КПБ.

У сваёй кароткай рэцэнзіі я, вядома, не магу раскрыць усё значэнне шматграннай дзейнасці Пятра Фёдаравіча, усебакова разгледзець і ацаніць яго навуковыя працы. Задача мая аблягчаецца тым, што дзейнасць Пятра Фёдаравіча адбываецца на вачах усяе нашай грамадскасці, што гэту дзейнасць і заслугі Пятра Фёдаравіча ў развіцці беларускай мастацкай літаратуры і беларускай філалогіі добра ведаюць усе члены нашага вучонага савета. Гэта дае мне права і ўпэўненасць спадзявацца, што члены вучонага савета згодзяцца з маёй думкай, што Пятро Фёдаравіч з'яўляецца дастойным таго, каб яму была прысуджана вучоная ступень доктара філалагічных навук без абароны дысертацыі.

*1960*

## ВОДЗЫЎ АБ ДЫСЕРТАЦЫІ П. У. СТЭЦКО «ПРАДМЕТНА-БЫТАВАЯ ЛЕКСІКА ЗЭЛЬВЕНСКІХ ГАВОРАК»

Не заўсёды так бывае, што апанент чытае дысертацыю не толькі па абавязку, але і з цікавасцю. У даным выпадку, нягледзячы на тое, што работа Паўла Уладзіміравіча Стэцко займае больш 500 старонак машынапісу, я не сумаваў, чытаючы яе. Амаль на кожнай старонцы я знаходзіў для сябе нешта

новае: ці то незнаёмае слова і мне цікава было даведацца, што яно азначае і як яно трапіла ў зэльвенскія гаворкі; ці то вядомае слова, але яно ўжываецца не ў звычайным значэнні і мне цікава, як гэта значэнне магло ўзнікнуць; ці знаёмыя мне словы з такімі фанетычнымі або марфалагічнымі асаблівасцямі, па якіх можна меркаваць аб асаблівасцях данай гаворкі ў цэлым.

Цікава і тое, што слова выступае не само па сабе, а ў акружэнні блізкіх і далёкіх сваякоў, з пасведчаннем аб сваім даўнім ці нядаўнім, далёкім ці блізкім паходжанні, хоць гэта паходжанне часамі і не вельмі пераканаўча даказана.

У суме атрымліваецца пэўны комплекс ведаў аб зэльвенскіх гаворках, што дапамагае нам пазнаць даную з'яву ў яе розных аспектах і вызначыць яе месца сярод іншых аднародных з'яў.

Такіх вынікаў дысертант дабіўся дзякуючы вялікай працы і, у першую чаргу, дзякуючы правільнай методыцы даследавання. Перш за ўсё ён паставіў сабе акрэсленую мэту: даследаваць зэльвенскія гаворкі, якія маюць у сабе цікавыя асаблівасці. У яго былі для гэтага значныя падставы ў выглядзе таго матэрыялу, які ён збіраў на працягу дзесяці год для Дыялектычнага атласа і спецыяльна для свае мэты. Даследаваць гаворкі ён вырашыў з боку лексікі, паколькі іншыя даследчыкі вывучалі беларускія гаворкі звычайна толькі з боку фанетыкі і марфалогіі, часткова сінтаксісу, а калі і закраналі лексіку, дык досыць павярхоўна.

А паколькі лексіка любой гаворкі — гэта цэлае мора слоў, то, каб не патануць у гэтым моры, дысертант, суразмераўшы свае сілы і аб'ём работы, правільна вырашыў абмежаваць сябе і ўзяў для даследавання найбольш каштоўную групу лексікі, а іменна — прадметна-бытавую лексіку гаворак, якая захавала ў сабе найбольшую колькасць традыцыйных рыс.

Для ўсебаковага ці, ва ўсякім разе, шматбаковага доследу лексікі, а такую мэту паставіў сабе даследчык, патрэбны немалыя агульна-тэарэтычныя і спецыяльныя веды. І дысертант не пашкадаваў працы, каб такія веды набыць. Аб гэтым сведчыць не толькі вялікі спіс прачытанай ім літаратуры, але і тое, як ён выкарыстоўвае гэтыя веды ў працэсе даследавання.

Усе гэтыя перадумовы маюць вельмі важнае значэнне для поспеху самога даследавання. Даволі часта бывае і так, што дысертант пускаецца ў плаванне, што называецца, без руля і без вятрыл, нават дакладна не ведаючы, у якой часціне свету знаходзіцца гавань, да якой ён хоча прыстаць.

Рукапіс дысертацыі Паўла Уладзіміравіча мае 552 старонкі машынапіснага тэксту, з якіх толькі 74 старонкі займаюць уводзіны, заключэнне і ўсякія дадаткі, астатнюю плошчу займае даследаванне, якое падзяляецца на восем раздзелаў. Першыя шэсць раздзелаў прысвечаны разгляду паасобных невялікіх груп прадметна-бытавой лексікі і па сутнасці з'яўляюцца не раздзеламі, а падраздзеламі аднаго вялікага раздзела. Раздзелы сёмы і восьмы з'яўляюцца падагульняючымі і прысвечаны адпаведна асаблівасцям словаўтварэння бытавой лексікі і паходжанню бытавой лексікі гаворак і суадноснасці яе з лексікай літаратурнай мовы.

Кожны з даследчых раздзелаў складаецца з слоўных артыкулаў. Слова даецца з захаваннем асаблівасцей мясцовага вымаўлення.

Распрацоўваецца кожны артыкул па пэўнай схеме. Раскрываецца значэнне слова, даюцца кароткія звесткі аб прадмеце, які гэтым словам абазначаецца, высвятляецца, у якой форме і ў якім значэнні бытуе гэта слова і ў іншых гаворках і ў беларускай мастацкай літаратуры, калі і як яно ўжывалася ў ранейшыя часы, устанаўліваецца паходжанне слова, спосаб і шлях яго ўтварэння.

Нельга, вядома, патрабаваць, каб усе гэтыя моманты былі высветлены да канца і з поўнай дакладнасцю. Часамі аўтар выказвае толькі меркаванні іншых даследчыкаў ці свае ўласныя. Меркаванні гэтыя ў пераважнай большасці абгрунтаваны. Мне хацелася б тут спыніцца толькі на тых нешматлікіх выпадках, дзе меркаванні дысертанта яўна памылковыя або дзе ёсць падстава з ім сур'ёзна паспрачацца.

Вось некалькі заўваг адносна тлумачэння слоў і апісання прадметаў, якія яны абазначаюць.

**МЯ́ЛО.** Паясненне: «круглае палена з больш тоўстым ніжнім канцом». У мяла якраз ніжні канец больш тонкі і доўгі. Далей ідзе патаўшчэнне і ўверсе зноў патанчэнне на шырыню далоні, каб зручна было трымацца левай рукой.

**ТАЎКАЧ.** ...«металічнае мяла, якім таўкуць зерне ў ступе».

**СТУПА.** «Слова мае значэнне прыстасавання ў выглядзе цыліндрычнай пасудзіны (і металічнага таўкачыка), у якой робяць («таўкуць») крупы».

Хто бачыў ступу і таўкач у натуры, той гэтаму не паверыць. І ці знойдзецца такі асілак, каб таўчы крупы, скажам, жалезным або медным таўкачом? Таўкачы рабілі заўсёды драўляныя, найчасцей кляновыя. Цыліндрычнай ступы я таксама не бачыў. Дысертант зблытаў тут драўляную ступу з

кухоннай металічнай ступкай, у якой таўкуць, скажам, перац. Але ў той круп не натаўчэш.

**СПРУЖЫНОЎКА.** Аўтар здагадваецца, што гэта барана атрымала назву ад слова *спружына*, але не ведае чаму і мяркуе, што назва прыйшла з польскай мовы, дзе гэтым словам абазначаецца *пілка*.

«Прылада атрымала сваю назву таму,— тлумачыць дысертант,— што рэгулятар рычага кіраваўся пружынай». На самай справе барана называецца спружыноўкай таму, што рама яе зроблена з тонкіх сталёвых пружын, да якіх прымацаваны зубы. На няроўнасцях барана прагінаецца, і зубы лепш дастаюць зямлю.

Пра **КАНЁК** сказана: «Слова называе драўляны брусок...» Дысертант мае на ўвазе толькі самаробны канёк. А хіба для фабрычнага канька ў зэльвенскіх гаворках ёсць іншае слова?

**КЛЁШ.** «Слова абазначае штаны з роўнымі па шырыні калашынамі ў верхняй і ніжняй частках». Калі ў гаворках пад словам *клёш* разумеецца іншы фасон, чым звычайна маецца на ўвазе, дык варта было пра гэта сказаць.

**ПАЛЯНДВІЦА.** «Слова абазначае мяса з вэнджанага свінога сцегняка». У іншых гаворках і ў літаратурнай мове паляндвіцай называецца мяса (вэнджанае ці нявэнджанае) не з кумпяка, а з хрыбта — тое, што па-руску называецца філей. Аб гэтай розніцы значэнняў трэба было б сказаць, калі пад гэтым словам на Зэльвеншчыне сапраўды разумеюць нешта іншае.

**ЯСЛІ.** Паралель з літаратурнай мовай недакладная. Праўда, што ў літаратурнай мове слова набыло іншае значэнне — назвы дзіцячай установы, але побач з гэтым не знікла і ранейшае значэнне гэтага слова. Так звычайна называлася скрыня, у якую клалі корм каню.

**ЗРЭБІ** (літ. ЗРЭБ'Е). Паралель з літаратурнай мовай недакладная, у паясненні дысертант піша: «У сучаснай літаратурнай мове зрэб'е — "палатно з канапель"». І далей спасылка — БРС. Між тым у Беларуска-рускім слоўніку нічога такога няма. Там проста даецца пераклад (*верéтье, посконúна, поскóнь*). Прытым у слоўніку рускай мовы слова *веретье* тлумачыцца як грубая тканіна з ачоскаў ільну або пянькі. У такім жа значэнні яно ўжываецца і ў гаворках Зэльвеншчыны.

Што да высвятлення паходжання слоў, дык тут аўтар звычайна спасылаецца на такія аўтарытэты, як Праабражэнскі, Карскі, Брукнер, Карловіч, Слаўскі, на аўтараў Кароткага этымалагічнага слоўніка рускай мовы. Пры гэтым дысертант імкнецца выказаць і сваю думку, згаджаючыся ці не згаджа-

ючыся з меркаваннем таго ці іншага даследчыка. Але бывае, што ў даследчыкаў нічога не сказана пра тое ці іншае слова, і дысертант застаецца з гэтым словам сам-насам. Ён тады спрабуе ўстанавіць паходжанне слова сваімі сіламі, і яму гэта не заўсёды ўдаецца. Вось некалькі выпадкаў, дзе мы сустракаемся са спрэчнымі або і зусім памылковымі меркаваннямі аўтара.

**ПАДЛОГА.** Дысертант лічыць, што слова паходзіць з польскай мовы. Аб гэтым нібы сведчыць фанетычная прымета — выбухное *г*. Ён згодзен з Брукнерам, што слова паходзіць ад польскага *dloga*, чэшскае *dlaga dlaż(d)* ItI — брукаваць. Па-першае, у літаратурнай мове і ў шмат якіх гаворках ніякага выбухнога *г* тут няма. Па-другое, слова вельмі натуральна і проста ўтвараецца ад дзеяслова *падлажыць*, як *аблажыць — аблога*.

**КЛЯМКА.** Карскі выводзіць гэта слова ад нямецкага *klinke*, Брукнер лічыць уласна польскім словам. А між іншым, у нямецкай мове ёсць слова *klammer* — скаба. У беларускай мове ёсць таксама тэхнічны тэрмін *клямар* у такім жа значэнні. У рускай мове *клямка* называецца дверной скобой. Дык ці не тут трэба шукаць паходжанне слова *клямка*?

Непераканӑўчым, на маю думку, з'яўляецца меркаванне, што слова **МЯЛІЦА** (літ. ЦЁРЛА) паходзіць ад *мяла*. Натуральна дапусціць, што і *мяліца* і *мяла* паходзяць ад дзеяслова *мяць*. Гэта пацвярджаецца і тым, што слова *мяліца* ў літаратурным значэнні з'яўляецца сінонімам да слова **ЦЕРНІЦА** — прылада, якой труць лён. А тут жа ніякага *мяла* няма.

Цяжка згадзіцца з аўтарам, што слова **РАЖКА** паходзіць ад РАГА — струменьчык бруднай вады. Вельмі далёкая асацыяцыя. Апрача таго, да слова *рага* ў яго звычайным значэнні ні ў гаворках, ні ў літаратурнай мове няма памяншальнага — *ражка*. Як яно магло ўтварыцца ў дачыненні да пасуды?

**ВА́ЛЯНКА** — пасуда з клёпак, падобная на ражку, якая нібыта служыць спецыяльна для таго, каб складваць у яе абутак і іншыя рэчы. Ці не прасцей было б збіць для гэтага звычайную скрынку.

Дысертант мяркуе, што слова паходзіць або ад валёнка, паколькі ў яе кладуць і валёнкі, або ад слова **АВАЛ** у адпаведнасці з формай пасудзіны. Меркаванні непераканаўчыя. Слова *авал* наогул у традыцыйных гаворках не ўжываецца. А вось ёсць слова, утворанае паводле народнай этымалогіі,— **ВА́ЛЬНЯ**. Так называюць **ВАННУ** або драўляную балею, відаць, таму, што некалі саматужным спосабам у

падобнай пасудзіне валілі шэрсць. Між іншым, вальней называлі і сукнавалку. Значыць, *валянка* гэта хутчэй за ўсё памяншальнае ад *вальня*, г. зн. *ванначка*.

**РАДЗІВА.** Дысертант сцвярджае, што ў беларускія гаворкі слова трапіла з польскай мовы. Тут можна гаварыць толькі аб гаворках тае тэрыторыі, якая была пад польскай акупацыяй, і то калі слова трапіла ў гаворкі ў той перыяд.

**КЛАЧ** (літ. КВАЧ). Спасылаючыся на Кароткі этымалагічны слоўнік рускай мовы, дысертант выводзіць паходжанне слова ад даўнейшага КУК — КУЛАК. Адгэтуль КУКСА, КУКІШ. Устанаўліваючы, якім шляхам гэта назва перайшла на памазок, дысертант кажа, што слова *квач* магло літаральна значыць «тое, што трымаюць у кулаку». Па-першае, квач трымаюць у руцэ, а не ў кулаку. У кулаку можна трымаць, скажам, манету ці іншую дробную рэч. Па-другое, тут назва ўтворана хутчэй за ўсё па падабенству. Справа ў тым, што квач не «кій з прывязанай да яго анучкай для выцірання», а кій, на канец якога наматана ануча або рагожка, і такім чынам ён падобны на кулак.

**ПАМЯЛЬНІ́К** (літ. ПАМЯЛО). Дысертант мяркуе, што слова непасрэдна ўзнікла пад уплывам слова *венік*. Але ў іншых гаворках слова *памяльнік* азначае чаранок ад памяла, так як чапельнік, вілачнік. Тут, відаць, назва чаранка перайшла на ўсю прыладу.

**ЗВОН.** «Слова абазначае частку вобада, якая ахоплівае дзве спіцы». Дысертант згаджаецца з тлумачэннем жыхароў вёскі Грабова, што слова паходзіць ад *звінець*, таму што званы рабіліся з цвёрдага матэрыялу (дубу, бярозавага камля), і калі ўдарыць, дык «звон» пачынае звінець. Калі б дысертант не паверыў такому наіўнаму тлумачэнню, а заглянуў у слоўнік таго ж Праабражэнскага, то ўбачыў бы слова **ЗВЯНО**, адгэтуль, між іншым,— пазванок. Аднакарэннае ў польскай мове — *dzwono* — касяк калёснага вобада. Адгэтуль, відавочна, паходзіць слова *звон* у зэльвенскіх гаворках.

**МЫСЛІНОЎКА.** «Слова абазначае сітцавую хустку невялікага памеру, у кветкі...» Дысертант мяркуе, што слова паходзіць ад *масць* — колер. У такім разе, кажа ён, слова прайшло наступныя этапы: *мас—масліны—маслінавы—маслiноўка—мысліноўка*. Па-першае, да колеру тканіны ніколі не ўжываецца слова *масць*. Па-другое, ларчык адчыняецца куды прасцей: у рускіх і беларускіх слоўніках ёсць запазычанае з французскай мовы слова **МУСЛІН**, назва ткані. У іншых беларускіх гаворках ёсць іменна *мусліноўка*, *мусліновы*.

**ПЯЧОНКІ.** Слова азначае печаную бульбу. Аўтар мяркуе, што слова *пячонкі* паходзіць ад слова ПЯЧОНКА (ПЕЧАНЬ), а па ўзору слова *пячонкі* ўтварыліся і назвы бульбы, прыгатаванай іншым спосабам,— *адваронкі, салёнкі, асмалёнкі*. А як жа словы *вязанкі, вязёнкі* (вязаныя рукавіцы), таксама ўтвораны ад печані? Тут няма патрэбы трывожыць печань, бо шлях утварэння зусім відавочны: *пячы—печаны—пячонкі, саліць—солены—салёнкі, вязаць—вязаны—вязанкі (вязёнкі).*

**ШЧОЛАК** (літ. ЖЫЖКА, ПОЛІЎКА, ЮШКА). «Слова абазначае рэдкую частку варыва». Дысертант мяркуе, што слова магло быць запазычана з рускай мовы. Разам з гэтым ён дапускае, што яно аднаго кораня са словам **ШЧЫЛІНА**, што вадкасць атрымала сваю назву ад уласцівасці пранікаць праз шчыліны пабітага гаршка. Мне думаецца, што ёсць усе падставы згадзіцца з першым меркаваннем дысертанта. Што датычыцца шчыліны, то тут логіка разважанняў выклікае вялікае сумненне.

У сёмым раздзеле разглядаюцца спосабы ўтварэння бытавой лексікі. Яны мала чым адрозніваюцца ад спосабаў словаўтварэння ў літаратурнай мове і ў іншых гаворках. У мяне няма заўваг да гэтага раздзела.

Больш асаблівасцей і спрэчных сцверджанняў мы знаходзім у восьмым раздзеле, дзе Павел Уладзіміравіч падводзіць вынікі сваім назіраннем над паходжаннем прадметна-бытавой лексікі і яе суадносінамі з лексікай літаратурнай мовы.

З гэтага раздзела мы даведваемся, што ў бытавой лексіцы зэльвенскіх гаворак 19% складаюць агульнаславянскія словы. Агульнаўсходнеславянскіх да 15%. Уласна беларускіх аўтар налічвае 30%. Каля 25% слоў дысертант лічыць дыялектызмамі. Праўда, сярод пералічаных дыялектызмаў сустракаюцца словы, якія ўжо ўвайшлі ў літаратуру або яшчэ не выйшлі з яе. Многія словы ўласцівы як дыялектызмы не толькі зэльвенскім гаворкам, а і шмат якім іншым.

З 905 слоў бытавой лексікі, даследаваных дысертантам, значную частку складаюць словы, запазычаныя з іншых моў. Большасць з іх прыпадае на долю германізмаў. Далей ідуць паланізмы, галіцызмы, цюркізмы, русізмы.

А наогул трэба сказаць, што вызначэнне, з якой і праз якую мову прыйшло запазычанае слова, мае часта адносную верагоднасць. І гэта не толькі ў нашага дысертанта, але і ў іншых даследчыкаў. Каб напэўна сказаць, якое слова і адкуль прыйшло ў мову, для гэтага трэба ведаць час і акалічнасці яго пранікнення, асяроддзе, у якім яно ўпершы-

ню стала ўжывацца ў данай мове. Дысертант сцвярджае, што большая частка запазычанай лексікі прыйшла праз польскую мову, агаварыўшыся, што тыя ж германізмы маглі прыйсці і непасрэдна ў беларускую мову. Да гэтага можна дадаць, што яны маглі прыйсці і праз яўрэйскую мову, асабліва назвы рэчаў, якія з'яўляліся прадметам гандлю. Між іншым, гэта крыніца запазычанняў у беларускую мову нікім яшчэ не даследавана.

Ёсць у гэтым раздзеле мясціна, дзе дысертант сыходзіць з цвёрдага грунту навуковых доказаў і становіцца на хісткую глебу апрыёрных сцверджанняў. Я маю на ўвазе тыя абзацы, дзе Павел Уладзіміравіч вядзе наступ на нормы літаратурнай мовы з мэтай пашырыць іх рамкі і заваяваць для зэльвенскіх дыялектызмаў правы літаратурнай мовы. Павел Уладзіміравіч лічыць несправядлівым, што гэтых дыялектызмаў няма ў беларускіх слоўніках, у прыватнасці ў Руска-беларускім і Беларуска-рускім. Вядома, лексіка літаратурнай мовы заўсёды ўзбагачалася і папаўнялася за кошт дыялектаў, але гэта адбываецца ў працэсе літаратурнай і наогул моўнай практыкі, а не шляхам механічнага ўключэння дыялектызмаў у той ці іншы слоўнік. Каб надаць больш вагі сваім прэтэнзіям, дысертант выступае тут ужо не ад зэльвенскіх гаворак, а ад усёй народнай мовы, для чаго ён не мае належных падстаў, бо іншыя гаворкі ён ведае толькі ў агульных рысах.

Для гэтай жа мэты ён заклікае ў сведкі Адама Міцкевіча, які нібыта лічыў народную мову Навагрудчыны і Гродзеншчыны найбагацейшай і найчысцейшай з усіх славянскіх дыялектаў. На гэта можна сказаць, што, па-першае, Адам Міцкевіч не называе канкрэтна мову Гродзеншчыны і тым больш Зэльвеншчыны; па-другое, прадстаўнікі іншых дыялектаў могуць з ім і не згадзіцца; па-трэцяе, сам дысертант бліскуча адвяргае меркаванне свайго вялікага земляка аб выключнай чысце гродзенскіх гаворак. З прыведзенай у дысертацыі табліцы мы даведваемся, што з 905 даследаваных слоў зэльвенскіх гаворак 256 запазычаны з іншых моў.

Вось, для прыкладу, некаторыя прэтэнзіі і прапановы дысертанта. Ён лічыць неправамерным, што ў слоўніках літаратурнай мовы побач са словамі *бульбяная каша* і *камякі* не даецца слова *камяк* у такім жа значэнні, хоць гэта слова з'яўляецца вузкім дыялектызмам і не мае пашырэння ў літаратурнай мове.

Дысертант сцвярджае, што ў «народнай мове» словы *збанок, скібка, ражка, дзежка, кубелец* і пад<обныя> даўно перасталі быць памяншальнымі, а сваю ранейшую стылістыч-

нагрузку перадалі сваім вытворным словам — *збаночак, скібачка, ражачка, дзежачка, кубелачык* і пад. Гэта ні ў якой меры не адпавядае сапраўднасці, за выключэннем слова *ражка*. У літаратуры і ў народнай мове, на якую спасылаецца дысертант, шырока, як норма, ужываюцца *збан, скіба, дзяжа, кубел*. *Збанок, скібка, дзежка, кубелец* ужываюцца як памяншальныя. *Збаночак, скібачка, дзежачка, кубельчык* ужываюцца для абазначэння вышэйшай ступені памяншальнасці. Параўнай *стол, столік, століча; рука, ручка, ручачка.*

Павел Уладзіміравіч лічыць, што ў слоўніках літаратурнай мовы трэба даваць побач са словам **ГУЖ** і слова **ВУЖ** у тым жа значэнні, побач з **УСЛОН** і **ЗАСЛОН** і слова **СЛОН**. Ён у прэтэнзіі на тое, што Руска-беларускі і Беларуска-рускі слоўнікі не даюць многіх слоў, якія бытуюць на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі, а таксама ў творах пісьменнікаў — выхадцаў з былой Заходняй Беларусі. Маюцца на ўвазе, між іншым, такія словы, як **АПÓЛЕЦ**, **ВЯШÁК**, **КІПЯ́ТАК**, **ПАЎПÁЛЬТКА**, **РУБАШКА**, **СОШКА** (АКУЧНІК).

Што да пісьменнікаў, дык я павінен сказаць, што і з твораў Купалы і Коласа шмат якія словы не ўвайшлі ў слоўнікі. Гэта галоўным чынам вузкія дыялектызмы або запазычанні, якія не прыжыліся ў літаратуры. Ёсць такія словы і ў пісьменнікаў, выхадцаў з былой Заходняй Беларусі.

Апрача таго, некаторых з твораў гэтых пісьменнікаў, на якія спасылаецца дысертант, а часамі і саміх пісьменнікаў як такіх яшчэ і ў прыродзе не было, калі Руска-беларускі слоўнік выйшаў з друку, а Беларуска-рускі быў складзены і падрыхтаваны да друку. Так, называюцца творы А. Карпюка, якія выйшлі ў 1958, 1960 гадах, Н. Тарас, надрукаваныя ў 1961 годзе, Б. Сачанкі ў 1961 годзе. Нават аповесць Я. Брыля «На Быстранцы», у якой упершыню ўжываецца слова *аполец*, выйшла ў 1955 годзе — г. зн. праз два гады пасля выхаду Руска-беларускага слоўніка.

Такія няўвязкі заўсёды могуць здарыцца тады, калі аўтар кіруецца не аб'ектыўнымі навуковымі данымі, а суб'ектыўным жаданнем, калі тэндэнцыя бярэ верх над логікай фактаў.

У закранутым пытанні, ратуючы за шырокае ўключэнне дыялектызмаў у літаратурную мову, Павел Уладзіміравіч дапускае прынцыповую памылку. Уявіце сабе, што было б з нашымі нарматыўнымі слоўнікамі і з нашай літаратурнай мовай наогул, калі б мы сталі на такі шлях, асабліва калі ўлічыць, колькі існуе беларускіх гаворак і колькі ёсць гарачых патрыётаў гэтых гаворак.

А наогул праца Паўла Уладзіміравіча мае вялікую навуковую вартасць. У ёй упершыню ў беларускім мовазнаўстве так грунтоўна і ўсебакова разглядаецца дыялектная лексіка. У гэтай працы раскрываюцца не толькі асаблівасці данай гаворкі, але і заканамернасці, уласцівыя таксама і іншым беларускім гаворкам. Ядро гэтай працы па сутнасці з'яўляецца невялікім дыялектным слоўнікам з усім неабходным навуковым апаратам. Як справядліва лічыць сам аўтар, яна можа з'явіцца складанай часткай дыялектнага слоўніка, запланаванага да складання нашым Інстытутам мовазнаўства.

Аўтарэферат і змешчаныя ў друку тры артыкулы Паўла Уладзіміравіча перадаюць у сціслай форме змест асноўных раздзелаў дысертацыі.

Павел Уладзіміравіч Стэцко паказаў сябе падрыхтаваным, удумлівым і ўмелым даследчыкам-мовазнаўцам, і я лічу, што яму з поўнай падставай можа быць прысуджана навуковая ступень кандыдата філалагічных навук.

*1962*

## ОТЗЫВ О РАБОТЕ В. В. ИВАШИНА «У ИСТОКОВ СОЦИАЛИСТИЧЕСКОГО РЕАЛИЗМА», ПРЕДСТАВЛЕННОЙ НА СОИСКАНИЕ УЧЕНОЙ СТЕПЕНИ ДОКТОРА ФИЛОЛОГИЧЕСКИХ НАУК

Хотя в последние годы советские литературоведы все чаще обращаются к изучению многонационального опыта искусства социалистического реализма, опыт этот пока еще не получил глубокого теоретического осмысления. Понятно, что создание обобщающего труда о закономерностях возникновения и развития социалистического реализма возможно только на базе всестороннего конкретно-исторического изучения отдельных литератур. Такого рода исследованием и является монография В. В. Ивашина «У истоков социалистического реализма».

Это исследование широкого плана охватывает огромный историко-литературный материал. В нем освещаются основные тенденции литературного процесса на протяжении первой

четверти XX века. В центре внимания автора — проблема генезиса социалистического реализма в белорусской литературе.

Надо сказать, что автору очень повезло в том отношении, что он имеет возможность проследить процесс становления социалистического реализма не только на материале белорусской литературы вообще, но и на творчестве одних и тех же, притом самых выдающихся, ее представителей — народных поэтов Янки Купалы и Якуба Коласа, активная творческая и общественная деятельность которых протекала как в дооктябрьский период, так и в годы Советской власти. В их лице мы имеем поистине классический пример закономерного перехода от критического к социалистическому реализму. И надо отдать справедливость, что это благоприятное обстоятельство автор использовал в полной мере, взяв за основу своего исследования творчество Янки Купалы и Якуба Коласа на всех этапах их литературной деятельности.

Естественно было бы ожидать, поскольку автор отправляется в поиски социалистического реализма, что он назовет основные признаки искомого, по которым можно было бы определить его присутствие. Но автор не делает этого. То ли потому, что считает определение социалистического реализма общеизвестным, то ли, наоборот, потому, что в литературе пока нет единого мнения о том, что следует вкладывать в понятие социалистического реализма. Правда, в процессе исследования Василий Владимирович раскрывает сущность нового творческого метода и указывает его основные признаки, но кое-какие пробелы и неясности все же имеют место.

В этой связи обращает на себя внимание то место во введении, где говорится о национальных истоках социалистического реализма. «Национальные истоки социалистического реализма в нашей литературе,— говорит автор,— восходят к богатейшим традициям фольклора и к лучшим явлениям литературы XIX века. Но самые глубокие национальный корни находятся в предоктябрьской литературе, в первую очередь в творчестве Янки Купалы и Якуба Коласа» (с. 5). К сожалению, автор не указывает, какие произведения XIX века имеют отношение к истокам социалистического реализма. Ведь это положение, поскольку речь идет, в частности, о фольклоре, при желании можно истолковать так, что социалистический реализм в белорусской литературе зародился еще до возникновения самого научного социализма.

У меня такого желания нет, но постановка вопроса мне представляется нечеткой. Если иметь в виду, что речь идет не

прызналі ўкраінскую мову за сваю родную, «несвядомым» беларусам, якія прызналі за сваю родную — рускую мову. Свядомасць іх аднолькавая. Не варта таксама наогул процістаўляць украінцаў беларусам. Не варта па той прычыне, што чытачу могуць прыйсці на думку і іншыя непажаданыя супастаўленні.

Прыведзеная з «Настаўніцкай газеты» вытрымка аб прыназоўніках ***пра*** і ***аб*** не дае правільнага ўяўлення аб суадносінах іх ужывання нават у мастацкай літаратуры. Каб пераканацца ў гэтым, варта толькі разгарнуць, скажам, «Новую зямлю» Якуба Коласа. А калі ўзяць навуковую літаратуру, то там суадносіны будуць якраз адваротныя тым, аб якіх нібы сведчыць вытрымка.

Перасылаю пры гэтым даведку Інстытута мовазнаўства.

*1977*

# Інтэрв'ю

## «НАРОДНАСЦЬ — ВЫДАТНАЯ ЯКАСЦЬ НАШАЙ ЛІТАРАТУРЫ»

*На пытанні нашага карэспандэнта адказвае Герой Сацыялістычнай Працы, народны пісьменнік Беларусі, акадэмік Кандрат Кандратавіч Крапіва*

*— Кандрат Кандратавіч, вы — адзін з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры, пры Вашым непасрэдным і актыўным удзеле — і як пісьменніка, і як вучонага-філолага — літаратура наша развіла многія свае жанры... Што Вы можаце сказаць сёння пра шлях, які яна прайшла, пра яе ўзаемаадносіны з жыццём народа?*

— Літаратура і жыццё... Гэта — дзве непарыўна звязаныя катэгорыі нашага быцця, з якіх жыццё з'яўляецца першаснай, а літаратура (маецца на ўвазе — мастацкая) другаснай рэальнасцю — вобразным адлюстраваннем жыцця. Вось чаму з'яўляецца заканамерным, што, вызначаючы вартасці літаратурнага твора, мы прымерваем яго да жыцця, уключаючы ў гэта паняцце і чалавека з яго ўчынкамі, думкамі і пачуццямі. Мы высвятляем пры гэтым, якія істотныя з'явы жыцця адлюстраваны ў творы, як глыбока раскрыта сутнасць гэтых з'яў, з якой сілай мастацкага ўвасаблення яны паказаны.

Так, на маю думку, трэба разумець палажэнне, якое сцвярджае, што мастацтва з'яўляецца адлюстраваннем рэчаіснасці. Аднак ад мастацкага твора мы не патрабуем (ва ўсякім разе не павінны патрабаваць) люстранога адбітка, фатаграфіі жыцця, а чакаем адэкватнага ўзнаўлення яго мастацкімі сродкамі. Мастацтва — гэта, па сутнасці, перайманне жыцця, калі хочаце — гульня ў жыццё, у працэсе якой факты рэчаіснасці ператвараюцца фантазіяй мастака ў яе вобразы.

Адхіляючыся крыху ў бок ад канкрэтнай тэмы нашай размовы, я хачу заўважыць, што патрэбнасць і здольнасць узнаўляць жыццё (рэальнае ці ўяўнае) у вобразах уласціва чалавеку на ўсіх этапах гістарычнага развіцця і ў кожным яго ўзросце, пачынаючы з дзяцінства. У першабытных людзей гэта патрэбнасць праяўляецца ў рытуальных танцах, абрадах і гульнях, калі яны імітуюць сцэны палявання, разыгрываюць

барацьбу добрых і злых духаў, створаных іх жа фантазіяй. Такую ж патрэбнасць вобразнага ўзнаўлення жыцця мы бачым і ў гульнях дзяцей, калі яны «пякуць пірагі» (з пяску) і «частуюць» гасцей або калі скачуць вярхом на палачцы, уяўляючы пад сабою рэзвага скакуна.

Маючы справу з «дарослым» мастацтвам, мы ўсведамляем не толькі яго пастаянную патрэбнасць для чалавека, але і адваротную сувязь, яго грамадска-эстэтычнае і выхаваўчае значэнне.

У «дарослым» мастацтве «гульня ў жыццё» найбольш ярка праяўляецца ў тэатральным дзеянні, дзе мы бачым жывых людзей у «канкрэтных» абставінах і дзейнасці. Але і гэта не само жыццё, а толькі яго вобраз, ці, гаворачы мовай вучоных эксперыментатараў,— мадэль, створаная аўтарамі спектакля ў адпаведнасці з творчай задачай.

Пасля разважанняў аб прыродзе творчасці, якія тут, можа, не зусім дарэчы, пара вярнуцца і да пытання пра шлях, які прайшла беларуская літаратура.

Калі гаварыць пра новую беларускую мастацкую літаратуру (а яна тут і маецца на ўвазе), то шлях яе развіцця не налічвае і паўтара стагоддзя, нават калі ўлічыць і ананімныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Але за гэты час амаль ва ўсіх жанрах яна ўзнялася да ўзроўню больш сталых літаратур, шлях развіцця якіх быў намнога даўжэйшы.

Такога поспеху наша літаратура дасягнула галоўным чынам таму, што развівалася не іманентна, не ізалявана ад здабыткаў сусветнай літаратуры, а з улікам вопыту яе стваральнікаў, пры непасрэдным уплыве вялікай рускай, украінскай, польскай літаратур, а за гады Савецкай улады — улічваючы творчы вопыт усяе шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Свежым прыкладам узаемнага ўзбагачэння брацкіх літаратур з'явіўся нядаўні Пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, прысвечаны інтэрнацыянальным літаратурным сувязям.

У развіцці беларускай літаратуры ёсць і свае асаблівасці. Возьмем хоць бы такую з'яву, як адсутнасць у нас дваранскай літаратуры, наогул літаратуры вышэйшых слаёў грамадства. Хіба не было беларусаў-дваран? Былі. Але ў сілу пэўных гістарычных прычын яны не з'явіліся аб'ектам мастацкай літаратуры. А калі траплялі ў літаратуру, дык толькі ў абагульненым выглядзе, як антыподы працоўнага люду, як увасабленне прыгнёту і здзеку.

Былі і пісьменнікі-дваране. Але гэтыя выхадцы з дробнамаянтковай шляхты па свайму матэрыяльнаму і грамадскаму становішчу самі мала чым адрозніваліся ад селяніна, спачу-

валі яго цяжкай долі, а то, як Францішак Багушэвіч, і ўзнімалі свой мужны голас у яго абарону ад прыгнятальнікаў.

З найбольшай сілай праявілася гэта асаблівасць у творах Янкі Купалы і Якуба Коласа, уся дарэвалюцыйная творчасць якіх прасякнута клопатам аб лёсе прыгнечанага народа, змаганнем за яго лепшую долю. Не заўсёды гэта лепшая доля ўяўлялася ім у праўдзівым святле, але нават у тыя рэдкія моманты, калі пад уплывам памылковых уяўленняў бачылі яны будучыню народа ў зманлівым асвятленні, памыляліся яны таксама ў імя яго шчасця. Сапраўдны шлях да шчасця народа асвяцілі ім промні Вялікага Кастрычніка.

Народнасць — выдатная якасць нашай літаратуры. Прыемна адзначыць, што слаўныя традыцыі нашых народных паэтаў жывуць і сёння ў беларускай літаратуры, у творах іх паслядоўнікаў — старэйшых і малодшых. Жывуць і набываюць новыя рысы ў выніку таго, што беларускі народ сёння не адзінокі, што ён стварае сваю шчаслівую долю ў непарыўным адзінстве з усімі брацкімі народамі нашай краіны, якія ў сваёй сукупнасці ствараюць новую гістарычную супольнасць — савецкі народ. Цяснейшымі сталі брацкія сувязі нашых народаў ва ўсіх сферах дзейнасці. Ярка праяўляюцца яны і ў літаратуры. Традыцыйнымі сталі Дні літаратуры і мастацтва, якія праводзяцца ва ўсіх рэспубліках і спрыяюць больш цесным кантактам творчых работнікаў, абмену вопытам і ўзаемнаму ўзбагачэнню.

— *Кандрат Кандратавіч, Вы сказалі, што выдатная якасць нашай літаратуры — гэта яе народнасць. А дзе, на Ваш погляд, карані народнасці, вытокі? І яшчэ. Гэтую якасць літаратуры, мастацтва, бывае, раскрываюць паразнаму. У чым жа яе сутнасць?*

— Народнасць беларускай літаратуры (сапраўдная, а не паказная) вырасла не з фальклору, як спрабавалі сцвярджаць некаторыя яе даследчыкі. Яна з'яўляецца вынікам тае, я б сказаў, шчаслівай акалічнасці, што самі творцы літаратуры не аддзялялі сябе ад народа, не наглядалі жыццё яго збоку або зверху, а жылі разам з народам, успрымалі яго гістарычны лёс як свой уласны, па меры сваіх сіл і здольнасцей імкнуліся выражаць думы і спадзяванні народа. Фальклор яны выкарыстоўвалі ў той меры, у якой ён мог служыць зручнай формай для выражэння іх думак і пачуццяў, асабліва на тым раннім этапе, калі іх уласнае майстэрства і культурны ўзровень чытача, для якога прызначаліся іх творы, былі яшчэ не на высокім узроўні. Хачу агаварыцца, што гэта не зніжае вялікай каштоўнасці фальклору самога па сабе.

Народнасць беларускай літаратуры праявілася не толькі і не столькі ў літаратурных прыёмах і сродках мастацкага паказу, колькі ў тым, што ў лепшых творах, пачынаючы з перадкастрычніцкай пары, адлюстраваны ў ёй найбольш важныя моманты з жыцця народа: цяжкая доля працоўнага люду Беларусі, нясцерпнае становішча сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, непераадольнае імкненне прыгнечанага народа «людзьмі звацца»; гераічная барацьба за станаўленне і ўмацаванне Савецкай улады і самаадданая праца па перабудове ўсяго жыцця на сацыялістычны лад; гераічная барацьба з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і натхнёная праца ў нашы дні — дні пабудовы камуністычнага грамадства,— усяму гэтаму ўдзялілі шмат увагі нашы пісьменнікі. Вядома, што не ўсё напісанае вызначаецца аднолькавай глыбінёй раскрыцця і аднолькавым мастацкім узроўнем. Адна тэндэнцыя яшчэ не гарантуе высокіх якасцей твора, тут вялікае значэнне мае яшчэ талент пісьменніка, але сама такая накіраванасць творчасці, бясспрэчна, з'яўляецца дабратворнай.

*— Наколькі народнасць як адна з вызначальных якасцей уласціва тым ці іншым жанрам?*

— Гэта выдатная якасць уласціва ўсім жанрам нашай літаратуры, хоць не ўсім прадстаўнікам у аднолькавай меры.

*— Кандрат Кандратавіч, якія, па Вашых назіраннях, жанры нашай літаратуры за апошні час выйшлі наперад, атрымалі найбольш дынамічнае развіццё?*

— А вось якія жанры выйшлі наперад, а якія адсталі — на гэта адказаць адназначна цяжка. Па-першае, заняты штодзённай працай, не звязанай з літаратурай, я далёка не ўсё маю магчымасць прачытаць, што «выдаюць на-гара» трыста беларускіх пісьменнікаў — празаікаў, паэтаў, драматургаў і крытыкаў. Па-другое, калі ў якім-небудзь жанры здараецца замінка, дык гэта яшчэ не з'яўляецца падставай, каб выносіць яму нейкі прысуд.

Я нават думаю, што існуе пэўная цыклічнасць уздыму і замінкі розных жанраў, што цыклы гэтыя ў пэўнай меры адпавядаюць дынаміцы грамадскага жыцця. Паэзія як жанр больш мабільны і аператыўны хутчэй адгукаецца на хвалюючыя грамадскасць падзеі, і найбольшая актыўнасць паэтаў прыпадае на перыяды грамадскіх зрухаў і бурных падзей. Проза з яе буйнымі параметрамі ў такія моманты не паспявае за падзеямі, і празаікі ў такіх выпадках часта пераключаюцца на публіцыстыку.

Наш час адноснай стабільнасці ва ўмовах планамернага поступу наперад з'яўляецца больш спрыяльным для прозы. У

такіх умовах пісьменнік мае магчымасць глыбей абдумаць і прачуць перажытае народам і ім самім. З гэтым перыядам супала і пара творчай сталасці беларускіх пісьменнікаў, што прыйшлі ў літаратуру пасля вайны, у якой многія з іх і самі панюхалі пораху. Яны ў асноўным і вызначаюць сёння высокі ўзровень беларускай прозы.

У паэзіі мы таксама маем пэўныя здабыткі. На высокай хвалі трымаецца творчасць нашых народных паэтаў з іх вялікім дзяржыццёвым вопытам і шырокім грамадскім кругаглядам. Дзяржаўнай прэміяй БССР заслужана адзначаны і творы паэтаў сярэдняга пакалення, але ў цэлым ад паэзіі можна было б чакаць і большага.

У нас шмат маладых паэтаў, першыя зборнікі якіх сведчаць аб іх здольнасцях і тэхнічным умельстве. Але далейшыя іх крокі не заўсёды сведчаць аб далейшых поспехах. Відаць, што некаторым з іх няма чаго сказаць людзям. Кола іх грамадскіх інтарэсаў і асабістых перажыванняў не ўзнімаецца да ўзроўню, вартага паэтычнага ўвасаблення. Глыбіню думак і багацце пачуццяў нельга замяніць вымучанымі «асацыяцыямі», за якімі часам і сэнсу не відаць. Не будзем, аднак, выносіць паспешнага прысуду. Будзем лічыць, што гэта хваробы, а можа, толькі недамаганні росту, што і для іх прыйдзе пара сталасці і творчых удач.

— *Поспехі нашай драматургіі відавочныя і агульнапрызнаныя... Што можна сказаць пра найбольш актыўных яе творцаў?*

— Што сказаць пра драматургію? Радуюць поспехі Андрэя Макаёнка, п'есы якога ідуць у шмат якіх тэатрах Савецкага Саюза. Актуальнасцю і творчай сталасцю вызначаюцца п'есы Аляксандра Петрашкевіча і Мікалая Матукоўскага. Іван Шамякін, «здраджваючы» час ад часу свайму асноўнаму жанру, папаўняе і рэпертуар нашых тэатраў. Усе яны знаходзяцца ў росквіце творчых сіл і здольны ўзбагаціць рэпертуар нашых тэатраў новымі творамі.

Ёсць і маладыя драматургі, наконт якіх у мяне яшчэ няма пэўнай думкі.

— *Кандрат Кандратавіч, чым вытлумачыць пэўныя супярэчнасці ў развіцці беларускай крытыкі і літаратуразнаўства?*

— Нашаму літаратуразнаўству давялося перажыць складаны перыяд у сувязі з культам асобы і пераадоленнем яго вынікаў, калі прыйшлося пераацэньваць некаторыя каштоўнасці, ускрываць заганы вульгарнага сацыялагізму ў крытыцы, рэабілітаваць несправядліва зганеныя творы і іх аўтараў. Не абышлося пры гэтым і без некаторых страт.

Змагаючыся з вульгарным сацыялагізмам, некаторыя сталі лічыць наогул непатрэбным сацыялагічны аналіз у творчасці, які, аднак жа, з'яўляецца адным з асноўных элементаў марксісцка-ленінскай метадалогіі. Страціўшы цвёрды метадалагічны грунт, некаторыя літаратуразнаўцы і крытыкі ў той час аказаліся чуллівымі да ўсякіх неўласцівых нашаму светапогляду павеваў. Успомнім такія захапленні, як абстрактны гуманізм, інтэлектуалізм, экзістэнцыялізм, дэгераізацыя, тэорыя жыццёвай плыні, паводле якой аўтар з'яўляецца пабочным наглядальнікам жыцця.

З таго часу наша літаратуразнаўства і крытыка значна пасталелі. Асабліва дзякуючы пастанове ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». Усё тое ўспамінаецца сёння як грахі маладосці, але пра іх у друку нічога выразна не сказана. А пра гэта варта было б сказаць самім літаратуразнаўцам і крытыкам. Не дзеля таго каб біць сябе ў грудзі, а каб засцерагчы літаратурную моладзь, якая можа палічыць гэтыя модныя ў свой час тэндэнцыі і «тэорыі» за ісціну.

— *Кандрат Кандратавіч, як можна меркаваць па выданнях апошняга часу і публічных выказваннях, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы АН БССР разгортвае і паглыбляе работу па падрыхтоўцы Збораў твораў выдатных пісьменнікаў, навуковай публікацыі класічнай спадчыны. Як тут абстаяць справы, так сказаць, пры бліжэйшым разглядзе? І як Вы расцэньваеце актывізацыю намаганняў Інстытута ў гэтай справе?*

— Да навукова-даследчай працы Інстытута літаратуры АН БССР я непасрэднага дачынення не маю. Часам бываю ў іх на пасяджэннях вучонага савета пры абмеркаванні якіх-небудзь складаных пытанняў, часам выпадае на маю долю рэдагаваць тую ці іншую працу...

Інстытут гэты невялікі — самы меншы ў Акадэміі, але наяўнасць кваліфікаваных работнікаў дазваляе яму выконваць важную навукова-даследчую працу. За апошнія гады ім падрыхтавана і выдадзена чатырохтомная «Гісторыя беларускай літаратуры», выйшлі з друку аднатомнікі на рускай мове: «Белорусская советская литература» і «Белорусская дооктябрьская литература», надрукаваны рад манаграфій. Праўды, вялікая праца вядзецца па навуковых выданнях твораў беларускіх пісьменнікаў, якіх ужо няма сярод нас. Пасля выдання твораў Кузьмы Чорнага, завяршэння трэцяга выдання Збораў твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа на чарзе — падрыхтоўка да друку твораў Змітрака Бядулі, Міхася Лынькова, Івана Мележа.

Такое навукова апрацаванае выданне дае больш поўнае ўяўленне не толькі аб саміх творах, але і аб творчым працэсе, аб жыццёвым і творчым шляху пісьменніка.

Па навуковай працы я больш звязаны з Інстытутам мовазнаўства. У гэтым годзе канчаю рэдагаваць для другога, дапоўненага, выдання Руска-беларускі слоўнік. За дваццаць гадоў з часу першага выдання ў літаратуру — мастацкую, публіцыстычную, навуковую — увайшло шмат новых слоў. Аказалася патрэбным уключыць і некаторыя раней прапушчаныя. Для папаўнення слоўніка адабрана такіх слоў каля пятнаццаці тысяч.

Пачалася работа над падрыхтоўкай другога, дапоўненага, выдання і Беларуска-рускага слоўніка.

Выданню руска-нацыянальных і нацыянальна-рускіх слоўнікаў надаецца цяпер важнае значэнне ў сувязі з неабходнасцю больш дасканалага авалодання грамадзянамі нярускай нацыянальнасці рускай мовай як мовай міжнацыянальных сувязей нашых народаў, якая ў сілу гэтага з'яўляецца для іх другой роднай мовай.

Наогул у інстытуце ўжо выканана і праводзіцца далей вялікая работа па складанню і падрыхтоўцы да выдання слоўнікаў рознага прызначэння. Закончана праца над пяцітомным Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы. Першы том яго выйдзе з друку ўжо ў гэтым годзе. Здадзены ў друк першыя два выпускі Этымалагічнага слоўніка. Распачата разлічаная на доўгі час праца над Гістарычным слоўнікам беларускай мовы, першыя выпускі якога таксама падрыхтаваны да друку. У сувязі з надыходзячым стагоддзем з дня нараджэння Якуба Коласа вядзецца праца над складаннем чатырохтомнага слоўніка мовы народнага паэта. Такая ж праца вядзецца ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце над складаннем слоўніка мовы Янкі Купалы. Работнікі сектара дыялекталогіі інстытута прымаюць актыўны ўдзел у працы над Агульна-славянскім лінгвістычным атласам, а таксама працуюць над складаннем дыялектнага слоўніка паўночна-заходняй часткі Беларусі.

Шмат увагі аддаюць мовазнаўцы такому складанаму і важнаму пытанню, як нармалізацыя беларускай літаратурнай мовы, у якой яшчэ далёка не ўсё ўсталявалася. Ды нельга чакаць, што калі-небудзь канчаткова ўсталюецца, паколькі мова — гэта жывы працэс і ў ёй пастаянна адбываюцца тыя ці іншыя змены, што выходзяць за рамкі ўстаноўленых норм. Аднак неразумна было б цалкам аддавацца на волю стыхіі, якая прывяла б да таго, што людзям цяжка было б разумець адзін аднаго. Ад пісьмовага слова, асабліва ў дзелавой, навуковай,

юрыдычнай літаратурах, патрабуецца дакладнасць сэнсу напісанага. У сілу гэтага ўзнікае неабходнасць паставіць моўнай стыхіі пэўныя нарматыўныя рамкі, асабліва ў галіне тэрміналогіі, дзе патрабуецца адназначнасць паняццяў. Не менш важнай з'яўляецца выпрацоўка граматычных і арфаграфічных норм, над удасканаленнем якіх думаюць мовазнаўцы. У гэтым плане ў сектары сучаснай беларускай мовы вядзецца і хутка будзе закончана праца над нарматыўнай граматыкай беларускай мовы.

— *Гэта ўсё надзвычай цікава, Кандрат Кандратавіч, і, бясспрэчна, усе нашы чытачы ўспрымуць гэтыя звесткі з вялікім задавальненнем. А, пэўна ж, на працоўны настрой вучоных, на выніку і якасць іх працы таксама ўплывае асаблівасць гістарычнага моманту, што перажывае савецкі народ,— 60-гадовы юбілей Вялікага Кастрычніка, прыняцце новай Канстытуцыі?*

— Вучоныя нашых інстытутаў, як і ўсе савецкія людзі, усведамляюць важнасць моманту і сваю адказнасць за даручаную справу перад партыяй і народам. Самаахвярна працуючы, яны клапоцяцца аб тым, каб усенароднае свята Вялікага Кастрычніка сустрэць плённымі вынікамі свае навукова-даследчай працы.

— *Кандрат Кандратавіч, раскажыце, калі ласка, пра пачатак Вашай літаратурнай дзейнасці. Як нараджаліся Вашы байкі, сатырычныя вершы, фельетоны? Цікава яшчэ, якое ў Вас было кола літаратурных знаёмстваў у пачатку 20-х гадоў, калі пачыналі пісаць?*

— Пра пачатак свае літаратурнай працы мне ўжо прыходзілася гаварыць. Пачалася яна ў 1921 годзе, калі я служыў яшчэ ў Чырвонай Арміі. Пасылаючы ў рэдакцыю газеты свае фельетоны і сатырычныя вершы, я не марыў аб літаратурнай славе, не спадзяваўся стаць калі-небудзь вядомым пісьменнікам. Мяне цалкам задавальняла тое, што людзі прачытаюць напісанае мною і, можа, звернуць увагу на тыя з'явы, з якімі ніяк нельга мірыцца. А пісаў я пра тое, што мне здавалася несправядлівым, несумленным, недарэчным і адсталым у святле новых, рэвалюцыйных ідэй і задач па перабудове жыцця на новы лад. Пісаў я сатырычныя вершы пра канкрэтныя факты і тым часам прыходзіў да пераканання, што для мяне больш прыдалася б байка, якая дае магчымасць большага абагульнення, а пададзенае ў жывых вобразах алегарычнае апавяданне ўжо само па сабе з'яўляецца мастацкім творам. А ўзоры гэтага жанру былі мне вядомы. Спачатку гэта былі байкі Крылова і іншых рускіх байкапісцаў, пасля Лафантэна,

Эзопа. Для стварэння новых баечных сюжэтаў прыйшлося шукаць аналогій у навакольным жыцці і роднай прыродзе.

Знаёмства з пісьменнікамі ў мяне спачатку было толькі кніжнае. Кола маіх «знаёмых» на той час было нешырокае, але паважнае. Гэта былі ў асноўным класікі вялікай рускай літаратуры, з творамі якіх мне давялося пазнаёміцца яшчэ ў школе, і найбольш вядомыя савецкія пісьменнікі і паэты таго часу (пачатку 20-х гадоў). Бадай што, першым жывым пісьменнікам, з якім мне давялося пазнаёміцца, быў Змітрок Бядуля. Сустрэўся я з ім у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», куды прынёс аднойчы (ужо не помню які) свой верш. Прачытаўшы яго, Бядуля з уласцівай яму экспансіўнасцю ўсклікнуў, звярнуўшыся да прысутных: «Далібог жа, гэта другі Мацей Бурачок!» З некаторымі творамі Францішка Багушэвіча я ўжо быў знаёмы, і такое завышанае параўнанне крыху мяне збянтэжыла, але выйшаў я з рэдакцыі з добрым настроем.

— *А Вашы празаічныя і драматургічныя творы? Якія факты і жыццёвы матэрыялляглі ў іх аснову? Спачатку пра раман «Мядзведзічы»... Як суадносяцца ў ім рэальнасць і мастацкі вымысел?*

— Раман «Мядзведзічы» найбольш аўтабіяграфічны з усіх маіх твораў. Напісаны ён на аснове перажытага мной асабіста і добра вядомага мне жыцця дакалгаснай вёскі з яе клопатамі і супярэчнасцямі, гарачымі спрэчкамі аб будучым жыцці-быцці.

Прататыпамі многіх персанажаў рамана з'яўляюцца мае аднавяскоўцы, якіх я ведаў у жыцці з усімі асаблівасцямі іх характараў, звычак і поглядаў. Апісанне мясцовасці таксама адпавядае наваколлю вёскі Нізок. Падзеі не спісаны з натуры, але для іх апісання таксама паслужылі канкрэтныя факты і сітуацыі.

Пры напісанні іншых твораў я не меў магчымасці, ды, бадай што, і патрэбы, карыстацца ў такой меры фактычным матэрыялам. Некаторыя творы пачыналіся з задумы, а сюжэтная і вобразная канкрэтнасць вырысоўвалася паступова ў працэсе творчасці, г. зн. у працэсе трансфармацыі і абагульнення зноў жа бачанага і перажытага, але не зафіксаванага ў памяці, а цяпер усплыўшага нібы з глыбіні падсвядомасці.

Для прыкладу я магу назваць камедыю «Хто смяецца апошнім». Не помню, каб я ў жыцці сустракаў рэальных асоб, якія паслужылі прататыпамі персанажаў гэтай п'есы. Дзея адбываецца ў інстытуце геалогіі, але ні ў якім такім інстытуце я ні разу не быў і ні з кім з геолагаў і тым больш з палеантолагаў не размаўляў. Імпульсам для пачатку працы

над п'есай паслужыў жарт Эдуарда Самуйлёнка, што нібыта адзін вучоны палічыў за выкапень звычайную костку, якую прынёс у калідор навуковай установы сабака.

Прыведзеныя прыклады, вядома, не могуць сведчыць аб якой-небудзь заканамернасці, уласцівай кожнаму пісьменніку, але для сябе я раблю вывад, што зыходным момантам для працы над мастацкім творам можа паслужыць як канкрэтны факт, так і ідэя, калі яны трапяць на падрыхтаваную глебу.

*— Кандрат Кандратавіч, ці не маглі б Вы спыніцца больш падрабязна на тым, як была задумана і як стваралася Ваша фантастычная камедыя «Брама неўміручасці»?*

— Што да камедыі «Брама неўміручасці», дык яна нарадзілася з роздуму аб жыцці і смерці, аб праблеме прадаўжэння чалавечага веку на доўгія гады — аж да неўміручасці. Пра гэта пісалі (ды і цяпер пішуць) у друку. Аб гэтым марыў, верыў у такую магчымасць і не раз гаварыў пра гэта адзін выдатны вучоны, мой добры знаёмы. Слухаючы яго і чытаючы ўсялякія прагнозы, дагадкі і меркаванні, я думаў: дапусцім — неўміручасць, а што далей?.. Думаў, але не збіраўся яшчэ пісаць п'есу. Калі, дапусціўшы ўмоўную неўміручасць, я паспрабаваў уявіць сабе канкрэтную сітуацыю, перада мной паўстаў рад біялагічных, эканамічных, дэмаграфічных, сацыяльных і этычна-маральных праблем, вырашэнне якіх здавалася немагчымым.

Уявілася калізія, пры якой павінен быў вырашацца лёс усяго чалавецтва і кожнага чалавека паасобку. Тут я задумаўся: а ці не выклікаў я духа, з якім не змагу справіцца? Але спакуса паказаць людзей у такой выключнай сітуацыі, калі спадаюць усе штодзённыя покрывы чалавечай душы і агаляецца сама яе сутнасць, узяла верх, і я паспрабаваў напісаць гэту фантастычную камедыю. Што з яе атрымалася, няхай мяркуюць чытачы і тыя нешматлікія гледачы, якім давялося бачыць п'есу на сцэне, а я адчуў палёгку ад таго, што, як гаворыцца па-руску ў такіх выпадках, «благополучно разрешился от бремени».

*— У свой час Вы шмат перакладалі — і паэзію, і прозу... Якая ў тым была патрэба?*

— Сапраўды, прыходзілася мне займацца і перакладамі, але рабіў я гэта не дзеля хлеба надзённага, а заўсёды па ўважлівай прычыне: па прапанове выдавецтва або рэдакцыі часопіса, па просьбе тэатра, якому трэба было паставіць тую ці іншую п'есу. Перакладаў я толькі тое, што адпавядала майму літаратурнаму густу і характару мае творчасці, творы пісьменнікаў і паэтаў, якіх я больш за ўсё любіў: апавяданні

Чэхава, «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка» Гашака (другі том), байкі Крылова, асобныя творы Маякоўскага, Твардоўскага, Міцкевіча, Тараса Шаўчэнкі. Пераклаў для тэатраў, пачынаючы з «Недаростка» Фанвізіна, каля дзесяці п'ес, у тым ліку найбольш значныя п'есы А. Астроўскага.

Мне асабліва цікава было перакладаць творы, у якіх каларытная мова персанажаў вызначалася яркімі, характэрнымі асаблівасцямі. І калі ўдавалася справіцца з нялёгкай задачай, я адчуваў задавальненне, як і ад сваіх арыгінальных твораў.

*— Кандрат Кандратавіч, нашым чытачам было б цікава даведацца, над чым зараз працуеце, што ў Вашых бліжэйшых творчых планах?*

— Мае творчыя планы... Пакуль што гэта яшчэ не планы, а толькі не досыць акрэсленыя задумы, і я не магу абяцаць, што яны неўзабаве стануць мастацкімі творамі. У бліжэйшыя два-тры гады я буду заняты працай, якая не мае непасрэднага дачынення да літаратуры. Даваць жа абяцанні на далейшае было б рызыкоўна. Я думаю, што чытачы «ЛіМа» мяне зразумеюць.

*1977*

## ПРЕВРАТНОСТИ ЖАНРА

*— Кондрат Кондратович, вероятно, тема нашего разговора о драматургии как о жанре может показаться довольно общей, поэтому мне сразу хотелось бы спроецировать ее на Ваш личный творческий опыт.*

*Сейчас уже трудно, даже невозможно представить себе, что Вы когда-то могли не прийти в театр, как-то разминуться с ним. Но так же, видно, было трудно критикам в начале Вашего писательского пути предположить, что именно драматургия станет главным смыслом всей Вашей жизни. Ведь поначалу был добрый десяток лет плодотворной работы в прозе, поэзии. И читателям, пожалуй, следует напомнить, что в 1934 году, ко времени написания первой пьесы «Конец дружбы», у Вас уже вышло одиннадцать книг рассказов, стихов, басен. Был опубликован также роман «Медведичи». И вдруг — поворот к драматургии. Или это было не вдруг? Как все произошло?*

— Началось с того, что меня попросили перевести на белорусский язык пьесу Д. Фонвизина «Недоросль». И мне, естественно, было интересно посмотреть, насколько удачным получился перевод. В устах актера, справедливо думал я, фальшь авторского слова, в данном случае моего, переводного, должна чувствоваться особенно. И я зачастил на репетиции. Вот тут-то и «зацепили» меня, предложив самому попробовать написать пьесу. Кстати, в 20—30-е годы театры куда как лучше работали с авторами, не ждали, пока им кто-либо предложит свои услуги, сами искали. Ну, а я оказался человеком сговорчивым, пьесу взял да и написал.

*— А ее взяли да и поставили. Но почему все-таки из-под Вашего пера появилась именно драма «Конец дружбы»? Именно с такой проблематикой? Не одному мне показалось, что в «Медведичах» Вы не до конца «выговорились» и естественным было продолжить разговор о классовой борьбе в белорусской деревне начала коллективизации. Уже в пьесе.*

— Да, роман мой остался незавершенным. И меня часто спрашивают, буду ли я когда-либо дописывать его? Вряд ли. После «Полесской хроники» Ивана Мележа мне это показалось лишним: ведь мележевским крестьянам в Куренях пришлось распутывать, собственно, те же социальные узлы, что и моим в Медведичах. Таким образом, мой роман оказался как бы дописанным. Проблематика же драмы «Конец дружбы» пришла из «Медведичей», но переместилась в другую плоскость. Меня к этому времени чрезвычайно заинтересовало диалектическое противоречие между личными чувствами и общественным долгом, его проявление в поступках личности. Я к этому возвращался во всех своих последующих пьесах. В той или иной мере.

*— Итак, пьеса написана, поставлена, окончательный выбор сделан. Но ведь обращение к новому жанру всегда сопряжено с определенными трудностями. И хоть у Вас додраматургический творческий опыт был весьма солидным, однако, видать, и Вам «обживаться» в театре было непросто?*

— Понятное дело. Для меня тут сложность была такого рода: прежний опыт насколько помогал, настолько же сковывал. И лишь в процессе подготовки спектаклей многое мне стало открываться в истинном свете, постепенно я как бы проникал за «кулисы» драматургического ремесла.

*— Другими словами, шло постижение особенностей драматургии как жанра? Хотелось бы, чтоб как раз о них Вы*

*и поделились с читателями своими мыслями, остановились на этом подробнее.*

— Мне уже неоднажды и в самое разное время доводилось и говорить и писать о специфике драматургии. И, боюсь, сейчас не удастся избежать некоторых повторений. Отчасти, правда, утешает то, что они могут оказаться просто необходимыми в таком, действительно, довольно общем разговоре. И, разумеется, вовсе не хотелось бы, чтоб все, о чем здесь будет сказано, воспринималось кем-нибудь как непреложная истина. О драматургии написано, пожалуй, больше, чем существует самих пьес, и среди написанного — немало глубоких, поистине научных исследований. Так что претендовать на какое-либо теоретическое открытие в этой области было бы слишком самонадеянно.

Но... Но коль скоро вы просите поделиться с читателями своими мыслями о специфике драматургии, я готов высказать некоторые соображения на этот счет. Когда работаешь над конкретным произведением, думаешь не только о нем, но и об общих закономерностях художественного творчества, об особенностях жанра, с которым имеешь дело. В результате знакомства с тем, что создано в драматургии за многие века, и собственного творческого опыта возникает некая своя, так сказать, рабочая теория. Будучи во многом несовершенной, такая теория для домашнего пользования все же необходима, ибо содержит какой-то минимум отчасти выработанных самим, отчасти усвоенных из опыта предшественников суждений и требований, которыми-то и приходится руководствоваться. Пускаться в плавание по бурным волнам драматургии без руля и без ветрил, без каких-либо творческих принципов и взглядов, значит не видеть желанной пристани.

За драматургией, особенно благодаря авторитетному свидетельству Льва Николаевича Толстого, утвердилась репутация самого трудного литературного жанра. На первый взгляд, как уже, кстати, отмечалось некоторыми авторами, это положение кажется парадоксальным. Ну, что тут вроде бы трудного? Ведь драматург по сравнению с тем же прозаиком или поэтом находится в более выгодном положении. Ему легче. Ему нет необходимости подробно описывать красоты природы, обстановку, в которой действуют их герои, их душевное состояние и мотивы их поступков, выражать свои мысли и чувства в связи с происходящим. Самое большое вмешательство драматурга в ход событий ограничивается краткими ремарками, предназначенными в основном для режиссера. Все остальное «делают сами» герои, которых автор только

подобрал, обрисовал и дал возможность говорить и действовать. Но дело-то в том, что и в драматургическом произведении должно присутствовать, проявляться, чувствоваться все, о чем только что я сказал. В нем должны быть ярко очерчены характеры действующих лиц, должны обнаружиться их человеческие достоинства и недостатки, их благородные устремления и низменные страсти. И специфика искусства драмы, повторяю, такова, что все это происходит само собой. Но кто же, возникает вопрос, добровольно, без необходимых побуждений, как мы, белорусы, говорим, без дай причины, станет обнаруживать свои сокровенные помыслы и намерения, выворачивать, выставлять напоказ свое нутро? Тем более — если оно неприглядное? Это задача драматурга найти такую «дай причину» разногласий, поставить героев в такие условия, чтоб они во взаимоотношениях, помимо своей воли раскрывали себя и друг друга, проявляя при этом человеческие качества, предусмотренные авторским замыслом.

— *Да, но как заставить их действовать, чтоб они обнаружили глубинную, истинную сущность характера?*

— Способ один — столкнуть их в горячем споре, в острой ситуации, в разрешении трудной жизненной проблемы. Как электрический разряд происходит только при контакте проводников с противоположными зарядами, так и драматургического эффекта можно достичь лишь в результате столкновения интересов действующих лиц. И чем выше накал чувств и страстей, тем ярче проявляются у участников этой борьбы человеческие качества.

— *То есть в пьесе обязательна поляризация сил? Фронт черного и белого, лагерь добра и зла? Но ведь есть отличные драмы, где этой поляризации нет и в помине.*

— Да, конечно. Есть такие пьесы. Но нет настоящих пьес без борьбы. Не обязательно, чтоб эта борьба проявлялась только во внешних действиях и поступках. Это может быть и борьба мнений, и борьба противоположных чувств, но — борьба как непременное условие создания драматургического произведения. В самом деле — мы не видим на сцене пьес, в которых не было бы борьбы, а показывалось бы полное благополучие и безмятежное человеческое счастье. Ничего подобного я не знаю и в мировой литературе. Если бы кто-нибудь и попытался написать такую пьесу, она была бы обречена на провал.

Вот эта необходимость, не вмешиваясь в ход событий, поставить людей в такие условия, чтоб они раскрывали самих себя и друг друга в такой степени и в таком качестве,

как того требует авторский замысел, и есть, на мой взгляд, основная трудность драматургии.

*— Здесь, как мне кажется, мы вплотную подошли к понятию и роли конфликта в драматургическом произведении. Важность его Вы неоднократно подчеркивали в своих литературоведческих статьях, так как именно в системе конфликтных взаимосвязей раскрывается характер действующего лица.*

— Да, я уже когда-то говорил о том, что конфликт является основой пьесы. Но какой конфликт? Ведь в жизни разных конфликтов великое множество, и мы сталкиваемся с ними ежедневно. Казалось бы, ну что тут долго искать. Бери и пиши. Но ведь большинство жизненных конфликтов так или иначе улаживаются, не оставляя глубокого следа и не вызывая каких-либо серьезных последствий. Например, ссора с женой из-за неудачной покупки — тоже конфликт. Однако едва ли он заслуживает внимания драматурга. Но ссора на ином общественном уровне, происходящая, скажем, из-за разного отношения к жизни, разного понимания гражданского долга, может быть причиной семейной драмы. Для драматурга важен конфликт, который вытекает из закономерных жизненных противоречий и разрешение которого так или иначе отражается на судьбах людей. Конфликт даже с трагическим исходом, если он является случайным фактом, а не следствием закономерных противоречий, не может послужить, так сказать, рабочим материалом для драматурга.

Такие противоречия существовали на протяжении веков (существуют в мире и поныне) на разных уровнях общественного развития: между рабовладельцами и рабами, помещиками и крестьянами, феодалами и буржуазией, буржуазией и пролетариатом, господствующим классом и всем трудовым народом. А также противоречия, являющиеся производными от этих основных, так сказать, классических противоречий классового общества: связанные с правовым и социальным неравенством в обществе, в семье, с нарушением этических и моральных норм, установленных обычаев, сословных предрассудков. На конфликтах, вытекающих из этих противоречий, построена вся мировая драматургия. И конфликты такого рода отличаются бескомпромиссностью и, как правило, кончаются крахом одной из сторон.

*— А если обратиться к опыту советской драматургии, в частности современной?*

— Мы живем в стране развитого социализма, но это не значит, что мы избавлены от всяких противоречий. Противо-

речия разного рода свойственны и нам, и их преодоление является непременным условием развития любого общества, в том числе и строящегося коммунизма. Мы движемся вперед, и на смену старому, отжившему приходит новое, передовое. Но ведь старое добровольно сдаваться не хочет, тем более если оно занимало прочное положение. Бывает, даже то, чему мы вчера радовались и что прославляли, сегодня оказывается ненужным. Например, сегодня вряд ли у кого-либо из нас вызвало бы восторг сообщение, что какой-то энтузиаст землекоп выбросил за смену пять дневных норм земли (подобные примеры были в прошлом). Отдав должное его энтузиазму и самоотверженности, мы нелестно отозвались бы о руководителях, заставляющих людей работать через силу, тогда как для выполнения такой работы существуют машины.

И разрешаются у нас противоречия, конечно, по-иному. Делается это на разных уровнях партийными и общественными организациями, органами Советской власти на самой широкой демократической основе, что гарантирует беспристрастное и справедливое разрешение конфликта.

Предвижу вопрос — а что же тогда остается на долю драматурга? Что в нашем обществе не существует классовых антагонистических противоречий, мы можем только радоваться. Но драматург, привыкший мыслить прежними категориями, может почувствовать себя стесненным. Уж очень они удобны, эти непримиримые конфликты, эти схватки не на жизнь, а на смерть, являющиеся богатой пищей для драматургии всех времен. Между прочим, и советскими авторами написано немало пьес, в основе которых лежит конфликт такого рода. Это пьесы о борьбе трудящихся за свое освобождение в дореволюционной России, о гражданской войне, о борьбе с враждебными элементами за укрепление Советской власти, о коллективизации, о героической борьбе советского народа с немецко-фашистскими оккупантами. Но и в сегодняшней нашей жизни, я уже говорил, сколько угодно противоречий, являющихся источником конфликтов между людьми: между передовым и отсталым, личным и общественным, государственным и ведомственным. Конфликты, связанные с нарушением советской этики и морали, со злоупотреблениями по службе, со стремлением нажиться за счет государства, с нарушением законов, охраняющих жизнь, имущество и права советских граждан, с разладом в семейной жизни и многие другие. Хотя эти конфликты и не обладают такой взрывной силой, как возникающие из классовых про-

тиворечий, но и они часто отличаются непримиримостью и большим накалом страстей. Раскрытие глубинных корней этих противоречий, психологии людей, вовлеченных в конфликт, показ замечательных качеств советского человека, преимуществ советского образа жизни — тут есть где развернуться современному драматургу.

— *Кондрат Кондратович, читателю может показаться, что достаточно изучить хорошо механизм драматургического конфликта и успех пьесы гарантирован.*

— Если бы так! Разве у нас мало появляется крепко скроенных пьесок, но с пустым содержанием? Очевидно, что не одним конфликтом жива драматургия. Первостепенное значение имеют идейное содержание произведения и общественная значимость изображаемого в нем явления. Но эти моменты одинаково важны и для прозаической вещи, и для поэтической, и я на них не буду останавливаться, а снова коснусь тех особенностей жанра, в которых для драматурга таятся дополнительные трудности. Все они обусловлены тем обстоятельством, что пьеса предназначается для исполнения на сцене, на ограниченном во времени и пространстве пятачке, с ограниченным числом действующих лиц — непосредственных участников сценического действия, которое происходит без какого-либо видимого вмешательства самого автора. И если в былые времена спектакль мог длиться и четыре, и даже пять часов, то теперь ему отводится максимум три часа. Современный зритель непоседлив, динамичен. И вот за столь короткий промежуток времени на сцене должно произойти что-то значительное, способное увлечь, захватить, глубоко взволновать зрителя, вызвать у него сильные эмоции и глубокое раздумье. Иначе какой же смысл был бы загружать творческий коллектив, собирать на спектакль сотни людей, которым не так-то легко выкроить вечерок для театра, и показывать на сцене такое, что никого не может ни порадовать, ни взволновать.

По емкости, по значимости содержания пьеса может быть эквивалентна большому роману, но она по необходимости должна быть компактной. В ней должно быть сказано все, что нужно, и ничего больше.

— *В специальной литературе нет единства взглядов на степень жизнеподобия драматического произведения. Как эта проблема видится Вам?*

— Как, например, и прозаик в романе, драматург в пьесе отображает действительность, кажущуюся тем более реальной, что на сцене действуют живые люди. Иногда это

отображение бывает настолько убедительным и достоверным, что вызывает восхищение. «Здорово! Вот это настоящая жизнь!» — говорят в подобных случаях. Такой лестный отзыв о произведении не следует понимать буквально. Нельзя полагать (а есть люди, которые так считают), что достаточно списать жизнь с натуры, как она есть, и получится замечательное художественное произведение. Настоящую жизнь, как она есть, перевести в художественное произведение невозможно. В названном материале, как в земной коре, много разных сокровищ, но они перемешаны (с точки зрения художественного творчества) с пустой породой. А художнику (особенно драматургу) для «строительства» нужен отборный, ценный материал. Вот он в массе жизненного материала и должен найти этот драгоценный металл или минерал, очистить от всяких посторонних примесей, пропустить через лабораторию своей творческой фантазии. Тогда только засверкает всеми своими гранями то, что в жизни, может быть, даже не было броским, особенно заметным. Вот тогда и говорят: «Здорово! Точно как в жизни!»

Что касается пьесы, то такой ее блеск может обнаружиться в полной мере только на сцене в результате согласованного творческого труда драматурга, художника, композитора и исполнителей ролей, на долю которых выпадает, пожалуй, самое трудное.

— *Но это трудности другой области творчества.*

— Да, у нас речь идет о трудностях драматургического жанра. О тех особенных требованиях, которые он предъявляет автору пьесы. Одно из таких требований — это занимательный, четко разработанный сюжет, который должен связать в один узел заинтересованных в исходе конфликта людей, последовательно развиваться и заканчиваться впечатляющей концовкой.

— *Кондрат Кондратович, стоит, несомненно, вспомнить и о языке драматического произведения. У него, наверное, есть какие-то особенности?*

— Да, язык пьесы тоже имеет свои особенности, поскольку он предназначен для сцены. Драматургу надо думать о том, чтобы не оказаться в цейтноте. Ведь для спектакля отводится самое большое — три часа, а для разговоров и того меньше. За это время нужно все сказать и выразить. Поэтому никаких посторонних разговоров, никаких лишних слов, кроме тех, которые нужны по ходу действия. Не надо забывать о том, что мимика, жест, интонация, движения актера могут дополнить написанное, а порой выразить больше,

чем та или иная фраза. Но и, конечно же, сама фраза (актерская реплика) должна быть емкой по содержанию, направленной на развитие драматургического действия, такой — что оброненная вроде бы вскользь, она в дальнейшем может развернуться в целый эпизод.

Мне могут заметить, что ничего нового я не сказал, что все это достаточно известно. Да, известно. Особенно тем, кто уже попробовал себя в драматургии. Но и они часто забывают об этих жестких требованиях, когда садятся за новую пьесу, о чем свидетельствует немалое количество пьес с рыхлой композицией, невыразительным сюжетом, слабо очерченными характерами, наличием незадействованных «действующих» лиц, которым на сцене нечего делать. Собственный опыт (иногда горький) мне подсказывает, что начинать писать пьесу, не продумав предварительно развития действия от завязки до концовки, не следует. Пьесу надо строить, как архитектурное здание, начиная с разработки проекта и подбора строительного материала.

Не тревожась тем, насколько сказанное мною будет оригинально, я высказываю эти свои соображения на основании личного опыта. Может быть, и они будут восприняты кем-либо как неизвестное об известном. Ведь в драматургию приходят новые люди. Иногда делают вылазку на эту делянку и прозаики, привыкшие творить с широким размахом, имея неограниченный простор во времени и пространстве, дающий возможность для развертывания многопланового полотна, с различными ответвлениями, отступлениями и экскурсами. Приходят иногда и поэты (правда, редко) с их склонностью к щедрому самовыражению и усложненной метафорической образностью. Им-то и не мешает, прежде чем сесть за пьесу, прикинуть, в чем они должны себя ограничить, что они теряют и что выигрывают, ложась в прокрустово ложе драматургии с ее жесткими требованиями.

Не мешает иметь представления об этих требованиях к начинающему, кто еще ищет свой путь в литературе и решил испробовать свои силы в таком не сложном, на первый взгляд, жанре.

*— Прежде чем закончить наш разговор, хотелось бы услышать о Вашей сегодняшней работе.*

— Признаться, я еще не зачехлил свое перо. Все еще волнуют некоторые задумки. Но садиться за стол не спешу. Если уж что-то делать, то на нужном уровне.

*— Скажем, на уровне последней Вашей комедии «Врата бессмертия»? Кстати, о ней. Как родился ее замысел?*

— Проблема бессмертия интересовала человечество издавна. В последнее время из абстрактных мечтаний она переселилась в исследовательские лаборатории научных институтов. Пока что результаты в этом направлении весьма скромны. Но... мне нравятся ученые, которые искренне верят в возможность победы над смертью. Кстати, именно таким был и ныне покойный президент Академии наук БССР Василий Феофилович Купревич. Мне неоднократно приходилось беседовать с ним по этому поводу. После таких бесед я невольно задумывался над возможными последствиями открытия секрета бессмертия. И чем яснее старался я представить себе бессмертие в действительности, тем больше возникало разных, в том числе и неразрешимых, проблем. Я и не ставил себе задачу их разрешить. Основное, чего я хотел,— это поведение разных людей в таких необычных, экстремальных условиях. Не все тут так просто, как кажется на первый взгляд.

*— И поручили эти сомнения высказать персонажам своей пьесы. И те после горячих дискуссий провозгласили: «Да здравствует смерть!» А какая открывалась перспектива — бессмертие! Вечность, бесконечность!*

— Какая же перспектива? Лишить человека возможности эволюционировать — это та же смерть. Нет, хуже смерти...

*— И не жаль было отнимать у людей их самую сокровенную мечту, так опоэтизированную в фольклоре?*

— Дело было не в том — жаль, не жаль. Ко всему нужно подходить реально. Мы не можем уподобляться тем влюбленным, которые, отрешенно наворковавшись в теплом палисаднике, готовы, не задумываясь, вспорхнуть на Луну. Но мы-то знаем, что красива она и ласкова лишь издали...

Этими рассуждениями о своей работе и об особенностях драматургического жанра вообще я бы хотел и ограничиться. Добавлю только, что нельзя упускать из виду и технологию нашего (драматургического) производства, от которой во многом зависит качество предназначенного для сцены изделия. Боюсь только, как бы мое высказывание не отпугнуло тех, кто вознамерился попытать счастья на этом тернистом пути. Ведь иной даже потенциально одаренный драматург, прочитав, может сказать: «Такие трудности! Куда мне уж лезть»,— и вместо хороших пьес начнет писать плохие стихи.

Что на это можно сказать. Трудно? Да, нелегко. А что делать, если тянет? На гималайские вершины лезть тоже трудно, а лезут. И никто их не гонит. Сами, влекомые свойственным человеку постоянным стремлением испытывать свои

силы, преодолевать, побеждать. Бывает, срываются, а лезут. Зато какой восторг — очутиться на вершине своего достижения, видеть перед собой множество взволнованных лиц, устремленных на тебя глаз, слышать одобрительный гул заполнившей зрительный зал публики.

Нет, это стоит попробовать.

*1980*

## «ШТО ЗНОЙДЗЕНА ПАПЯРЭДНІКАМІ...»

*— Кандрат Кандратавіч, Вы прыйшлі ў драматургію, як вядома, з іншага літаратурнага цэха — сатырычнай паэзіі. Што было непасрэдным штуршком для напісання першай п'есы?*

— Такім штуршком быў для мяне пераклад п'есы Фанвізіна «Недарасль», які я зрабіў для беларускай сцэны. Я назіраў, як працуе рэжысёр, сачыў за мовай, за ігрой акцёраў на рэпетыцыях, знаёміўся са спецыфікай тэатральнага мастацтва. Акрамя таго, Першы БДТ паставіў у той час інсцэніроўку рамана Кузьмы Чорнага «Бацькаўшчына». Мы з Чорным сябравалі, я быў у курсе яго работы, яго клопатаў. Глядзеў спектакль, які мне спадабаўся. Работнікі тэатра заахвочвалі і мяне паспрабаваць напісаць п'есу.

Трэба сказаць, што характарам папярэдняй творчасці я ўжо быў нейкім чынам падрыхтаваным да гэтага. Байка па сваёй будове падобна на драматургічны твор: у ёй ёсць завязка, развіццё дзеяння, кульмінацыя, канцоўка, а часта і дыялог. Усё гэта мне прыдалося для працы над п'есай. Тым не менш працавалася нялёгка. Перайсці з аднаго жанру ў другі, асабліва ў такі, як драматургія,— справа складаная. Тут мне шмат у чым дапамагаў тэатр. Тэма п'есы «Канец дружбы» на той час была вельмі актуальнай, спектакль атрымаўся, і гэта надало мне ахвоты працаваць далей у галіне драматургіі.

*— На Вашых вачах і пры Вашым актыўным удзеле ішло станаўленне нацыянальнай драматургіі і нацыянальнага беларускага савецкага тэатра. Якія з іх традыцый, на Вашу думку, трэба найбольш захоўваць і мацаваць сёння?*

— Што да традыцый вядучых беларускіх тэатраў — перш за ўсё тэатра імя Янкі Купалы, з якім я працаваў на працягу

многіх гадоў,— то гэта былі па-сапраўднаму каштоўныя традыцыі. Яны праяўляліся як у рэпертуарнай палітыцы тэатра, так і ва ўсёй яго творчай дзейнасці. Кіраўнікі тэатра, ды і ўвесь калектыў, клапаціліся пра тое, каб спектакль меў належнае грамадскае гучанне, дбалі аб яго ідэйным змесце. Цяпер часамі трапляюць на сцэну спектаклі легкаважныя, невыразныя па творчай задуме. Пры гэтым і драматург калі-нікалі лічыць за лепшае заставацца ўбаку, не выяўляе сваёй аўтарскай пазіцыі...

Што датычыцца творчага метаду, то нашы акадэмічныя тэатры — імя Янкі Купалы і імя Якуба Коласа — арыентаваліся на «сістэму Станіслаўскага», на МХАТ, і гэта ішло ім на карысць. На іх сцэнах з'явілася нямала выдатных спектакляў, якія стварылі славу ўсяму беларускаму мастацтву.

Сучасная рэжысура нярэдка замест глыбокай псіхалагічнай распрацоўкі вобразаў карыстаецца знешнімі эфектамі, рознымі сімваламі. Шукаючы новых спосабаў сцэнічнага ўвасаблення, яна падчас забываецца пра тое, што было знойдзена папярэднікамі.

Адной з лепшых традыцый была цесная творчая сувязь з драматургамі. П'есу, прапанаваную тэатру, калектыўна чыталі, абмяркоўвалі, давалі аўтару парады. Карацей кажучы — з ім працавалі. Была ўвага, зацікаўленасць. І не толькі з боку рэжысуры, а і ўсяго калектыву. Не скажу, каб гэта традыцыя была цяпер зусім занядбана, але праца з драматургамі, асабліва з маладымі, не ўсюды пастаўлена належным чынам.

— *Узаемаадносіны паміж драматургам і рэжысёрам маюць сёння некалькі аднабаковы характар; у першага пераважна — абавязкі перад тэатрам, у другога — правы. Ці адчувалі Вы гэта на ўласнай творчай практыцы? З кім з рэжысёраў было ў Вас найбольш плённае супрацоўніцтва і ў чым яно выяўлялася?*

— Так, адносіны драматургаў і рэжысёраў увогуле адпавядаюць гэтай формуле. Аўтар хоча сказаць нешта істотнае пра жыццё, хоча ўбачыць свой твор на сцэне такім, якім ён яго ўяўляе. А рэжысёр, дбаючы пра сваё самавыяўленне, наперакор аўтарскай задуме можа змяніць змест, трактоўку вобразаў і нават ідэйнае гучанне п'есы. Што датычыцца маёй творчай практыкі, то мне пашанцавала: я ў асноўным працаваў для тэатра тады, калі з рэжысёраў больш патрабавалася, ды і самі яны больш паважалі працу драматургаў.

Найбольш цеснымі былі мае творчыя кантакты з Канстанцінам Саннікавым.

Наша супрацоўніцтва пачалося з пастаноўкі драмы «Партызаны». (Усяго ён паставіў чатыры мае п'есы.) Я прапанаваў

ке тэатру ў яшчэ не зусім закончаным выглядзе. Прыйшлося дапісваць асобныя сцэны, і парады Канстанціна Мікалаевіча былі для мяне каштоўнымі. Фактычна я быў тады пачынаючым драматургам і патрабаванні сцэны ведаў не ўсе. Мы сумесна намячалі лінію паводзін кожнага персанажа, высвятлялі матывы іх учынкаў, удакладнялі характары, думалі пра мізансцэны. Канстанцін Саннікаў быў таленавіты рэжысёр, чалавек зайздроснай працавітасці, цікавы субяседнік, вялікі аптыміст па сваёй натуры.

Не хацеў бы, каб склалася ўражанне ад нашай гаворкі, што я заўважаю толькі страты ў дзейнасці нашых тэатраў. У іх наватарстве ёсць шмат каштоўнага і карыснага. Было б добра, каб пры ўсім сваім наватарстве яны не забываліся пра вопыт папярэднікаў і лепшыя традыцыі беларускай сцэны.

— *Вялікае Вам дзякуй, Кандрат Кандратавіч. Добрага Вам здароўя ад імя чытачоў і супрацоўнікаў газеты «Літаратура і мастацтва»!*

*1984*

## № 1. ДА Я. С. РАМАНОВІЧА

*Масква, 15 красавіка 1942 г.*

15 апреля 1942 г.

Уважаемый Евгений Степанович!

Простите, что я так долго не отвечал Вам на Ваше письмо (от 10/II). Я медлил с ответом в надежде, что смогу сказать что-либо более определенное по интересующему Вас вопросу. Думал, что-нибудь прояснится, но оно так и не прояснилось. Работу над пьесой я все-таки начал. Время выкраиваю, т. к. по службе не слишком занят. Месяца полтора тому назад зачитал либретто пьесы в Комитете по делам искусств, короче говоря — Солодовникову. Соблаговолили одобрить и благословить на дальнейший труд, но это меня мало радует,— сам я очень мало удовлетворен. Тем не менее приближаюсь к финалу I акта. В содержание пьесы Вас пока не посвящаю. Это несколько преждевременно: может быть, придется все выбросить в корзину. Могу только сказать, что эта пьеса должна быть оборонная, с небольшим числом действующих лиц, всего с одной женской ролью (заедят меня актрисы). Не нравится она мне тем, что в ней очень мало белорусского и вообще народного элемента. Вот все, что я могу пока сказать об имеющейся быть пьесе.

Живу я пока в Москве, в гостинице «Москва». (Вот, скажете, вояка!), но скоро собираюсь в лесок под елочку. Здесь теперь Лыньков, Бровко, Кузьма Чорны. Адрес — Союз писателей. Глебка, Гурски, Кучар, Панчанка — на Калининском фронте; Колас, Модаль, Агнявцвет — в Ташкенте; Вольски — Уральск, Мавр — Алма-Ата, Танк — Саратов. Остальных — почти никого не знаю.

Я слышал, что мои «Партизаны» подверглись модернизации. Понятно, что в прежней редакции они не могли бы идти, т. к. пан Сикорски мог бы обидеться; понятно также, что в результате модернизации пьеса стала более злободневной, но не думаю, что она стала лучше в художественном отношении. Смотрю на это как на паллиатив и явление преходящее.

Напишите, над чем работает театр, что поставил в Томске и что готовит к постановке. Сообщите, сохранился ли перевод «Ромео и Джульетты».

Передайте привет Леониду Григорьевичу, Фани Ефимовне, т. Глебову, Аркадию Григорьевичу и всем моим друзьям, которых у меня много в Вашем театре.

Пишите на Союз писателей.

Жму Вашу руку.

*К. Крапива*

## № 2. ДА Л. Р. РАХЛЕНКІ

*Заходні фронт, 14 мая 1942 г.*

14 мая 1942 г.

Дарагі Леанід Грыгор'евіч!

Вельмі шкадую, што мы не маем магчымасці сустрэцца і пагаварыць. А пагаварыць нам бы трэба было аб тым, з чым мы вернемся ў Беларусь і што пакажам нашаму гледачу, які так шмат пражыў за гэты час. Зусім натуральна, што глядач будзе патрабаваць п'есы, у якой была б паказана барацьба нашага народа з нямецкімі акупантамі. Выходзіць — трэба другія «Партызаны». Зразумела, што для мяне гэта была б вельмі цяжкая задача: прыйшлося б паўтараць самога сябе. Гэта цяжкасць павялічваецца ад таго, што на гэту тэму напісана ўжо шмат п'ес, сярод якіх амаль ніводнай добрай. (Пра гэта я даведаўся на нарадзе драматургаў, якая толькі што адбылася ў Маскве.) Такім чынам, сама тэма ў значнай меры затрапана і «партызанская п'еса» можа стаць для тэатраў сінонімам усяго скараспелага і недабраякаснага. Вось тыя дзве прычыны, дзеля якіх я пакуль што не ўзяўся за напісанне п'есы, якая аб'ектыўна з'яўляецца для нас неабходнай. Аб чым жа пісаць? Што больш за ўсё хвалюе, чым жыве народ? Вайна! З думкай пра вайну кожны з нас кладзецца і ўстае. Зноў выходзіць — трэба пісаць пра вайну, калі

не пра партызан, дык пра байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі. Але вайна — гэта танкі, самалёты, гарматы, мінамёты і кулямёты, якія на сцэну не лезуць; гэта масы людзей, апранутых у аднастайную вопратку, гэта мова загадаў: распараджэнняў, абстаноўка, якая не дае магчымасці паставіць людзей у такія ўзаемаадносіны, каб яны з найбольшай паўнатой раскрылі свае душэўныя якасці. І вось я паставіў сабе непасільную задачу: напісаць п'есу пра вайну з мінімальнай колькасцю пораху і дзеючых асоб. У асноўным у ёй будзе вырашацца лёс траіх людзей. Не ведаю, што з гэтага выйдзе, магчыма — адна нуда, але пакуль што я нічога лепшага не прыдумаў. Пішу... Дабраўся да палавіны другога акта і думаю цiснуць далей. Адначасна з гэтым я думаю пра другую п'есу, якая б была нашай, беларускай па матэрыялу і агульначалавечай па вялікіх пачуццях людзей. Такую п'есу я б хацеў напісаць, але апрача жадання і некаторых пошукаў у гэтым кірунку нічога рэальнага яшчэ няма.

Напішыце мне пра Вашы меркаванні наконт усяго гэтага, а таксама пра тыя задачы, якія ставіць сабе тэатр на бліжэйшы час. Пішыце, над чым працуеце Вы асабіста.

Перадайце ад мяне шчырае прывітанне Лідзіі Іванаўне, Глебаву, Уладамірскаму, Платонаву, Гайдарыну, Рамановічу і усяму калектыву.

Моцна цісну Вашу руку.

*К. Крапіва*

Москва, Воровского, 52, Союз советских писателей,
або
Полевая почта 736, п/я 206. Редакция газ. «За Савецкую Беларусь».

**№ 3. ДА І. Д. ГУРСКАГА**

*Заходні фронт, 14 мая 1942 г.*

14 мая 1942 г.

Дарагі Ілля!

Выбачай, браце, што я не прысылаю табе вершаў для «Партызанскай дубінкі»: іх у мяне няма. Калі я што і пісаў за гэты час, дык такое, што не можа быць спажывай для цябе як для рэдактара. Пісаў я артыкулы, прамовы для людзей, намагаюся пісаць п'есу. Я яе пішу, а яна ўпіраецца. Гэта, што

да мяне асабіста. Пра іншую «драматургію», пра нашы «трагедыі» і «камедыі» дакладна раскажа табе Пімен. Адзінае, што я магу прапанаваць тваёй увазе (можа, не для надрукавання), гэта некалькі прыказак і пару эпіграм, напісаных мною для партызан па спецыяльнаму заданню. Калі захочаш, можаш скарыстаць як прыказкі, якія ўжо бытуюць сярод беларускага насельніцтва.

Газету вашу чытаю рэгулярна і з прыемнасцю. Газета добрая. Адзінае, чаго ў далейшым трэба асцерагацца — гэта доўгіх артыкулаў на агульныя тэмы і перагрузкі літаратурным матэрыялам.

Няхай квітнее ваш орган і няхай растуць на страх ворагу вашы вусы, каб вы з пэўным правам маглі сказаць любому рэдактару, нават таму ж Міхалу: «Мы і самі з вусамі».

Прывітанне Пятру і Айзіку. Ахвотна наторгаў бы іх за вусы (і такі ёсць за што), шкада толькі, што далёка. Пішыце, чэрці!

*К. Крапіва*

## № 4. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Заходні фронт, 20 чэрвеня 1942 г.*

Здравствуй, Игорь!

Поздравляю тебя с переходом в 6-й класс. Теперь ты, вероятно, купаешься и удишь рыбу. Пиши, хорошо ли в Урале рыба берется, может, и я приеду помогу тебе.

Целую тебя.

*Твой отец*

## № 5. ДА Л. Р. РАХЛЕНКІ

*Масква, 10 жніўня 1942 г.*

10 августа 1942 г.

Дорогой Леонид Григорьевич!

Пьесу окончил. Выслал ее Вам в Томск только сегодня, хотя мог бы выслать дней на десять раньше. Надо было поставить некоторые точки, а времени не было: у нас был пленум Правления Союза писателей. Не знаю, удачно ли

название. Мы с Вами условились о другом названии, но характер пьесы не позволяет дать его. Сомневаюсь относительно некоторых фраз в финале («Дай ему руку, Наташа...» и т. д.). Не знаю, как они будут звучать со сцены — не будет ли это слишком высокопарно. Тем, кто читал, пьеса нравится, но читали ее пока немногие. Напишите, как примет пьесу коллектив театра. Мне интересно знать как хорошие отзывы, так и плохие. Выносить место действия первого акта в сад я побоялся, чтобы не повредило драматургическому действию и диалогу. Если Вы это сумеете сделать без ущерба для содержания пьесы и четкости подачи — я не возражаю. Напишите, когда приступите к работе над пьесой. Может быть, если театр будет просить, меня отпустят в Томск, чтобы посмотреть пьесу в репетициях. Приехать я смогу в том случае, если семья будет в Томске (будут две уважительные причины).

Повторяю прежнюю просьбу — посодействуйте переезду семьи в Томск. До сих пор я Вам не телеграфировал, так как сын был серьезно болен и ехать было невозможно. Теперь он поправляется, но я еще не имею сведений, что он совсем здоров. Когда получите телеграмму от меня или от жены, убедительно прошу выслать за ней в Уральск человека.

Денег, о которых Вы мне говорили, жена до сих пор не получила. Видно, Фаина Ефимовна забыла их выслать. Такая невнимательность меня несколько обижает. Теперь уже вряд ли есть смысл их высылать, пока не разрешится вопрос о переезде семьи.

Сердечный привет всему коллективу.

Жму Вашу руку.

*К. Крапива*

## № 6. ДА І. Д. ГУРСКАГА

*Заходні фронт, 13 верасня 1942 г.*

13 верасня 1942 г.

Дарагі Ілля!

Выбачай, братка, што я табе так доўга не адказваў на пісьмо. Па-першае, я гультай вялікі, па-другое, я думаў з пісьмом пашлю табе і тое, што цябе цікавіць як рэдактара,

але зноў павінен папрасіць прабачэння, бо нічога не зрабіў. Была тэрміновая і абавязковая работа, і Чавускі мне таксама быту не дае. П'есу я скончыў даўно, але што да яе ацэнкі, дык, відаць, не ўсе згодны з Пятром. Ва ўсякім разе, у Камітэце да гэтага часу мне нічога пэўнага не сказалі. Цяпер бяруся пісаць сцэнарый аб партызанах. Газету тваю чытаю акуратна і хвалю таксама досыць акуратна. Між іншым Бажан ужо таксама склаў дуды. Васілёк наш паехаў рэдактарам дыв<ізіённай> газеты, а Латышаў у стралковую часць. Да Стаха прыехала жонка. Вось і ўсе нашы навіны. Прывітанне Пятру, Пімену, Айзіку. Доўг свой я як-небудзь пакрыю.

З пашанай *К. Крапіва.*

## № 7. ДА У. Б. КАРПАВА

*Мінск, 4 студзеня 1946 г.*

Паважаны тав. Карпаў!

Друкаваць маё выступленне ў такім выглядзе, у якім яно запісана, я лічу немагчымым. Стэнаграма дрэнная, шмат недарэчнасцей, літаратурна не апрацавана. І апрацоўваць цяпер я не маю часу. Калі друкаваць прамову неабходна, я пасылаю Вам у дапамогу арыгінал. Прашу Вас асабіста зверыць, каб мае думкі не былі перакручаны і каб маё выступленне не было тэндэнцыйным з якога-небудзь боку. Я лічу немагчымым друкаваць прамову без упамінання п'есы Гурскага. Можна сказаць карацей, чым гаварылася на Пленуме, але абмінуць нельга. Іначай па тых жа меркаваннях — не пакрыўдзіць чалавека, я пра Рамановіча не павінен гаварыць, а гэта ўжо мяняе ўвесь сэнс майго выступлення.

Пра Вольскага — упамянуць аб вобразе Ганны.

Пра Кучара — у арыгінале вельмі фрагментарна — дапоўніць стэнаграмай.

Арыгінал прашу абавязкова вярнуць.

Між іншым т. Гарбуноў выказваў думку, што выступленняў у газетах друкаваць не трэба і што матэрыялы Пленума павінны быць выдадзены асобнай кніжкай.

Можа, варта было б Вам параіцца?

З прывітаннем *Крапіва.*

4/І-1946 г.

## № 8. ДА А. А. ПРАКОФ'ЕВА

*Мінск, 11 чэрвеня 1946 г.*

Дорогой Александр Андреевич!

Некоторые обстоятельства, совсем не литературного характера, вынуждают меня обратиться к тебе с просьбой, за которую прошу меня извинить. Речь идет о моем сыне Игоре, которому пришло время выбрать себе профессию. Он учится в средней школе, перешел в десятый класс, увлекается рисованием. Наши художники уверяют меня, что у него есть определенные способности, и советуют дать ему возможность их развить, т. е. определить его в соответствующее учебное заведение. Но в Минске такой возможности нет и, по-видимому, не скоро будет. Если я не ошибаюсь, в Ленинграде, при Академии искусств, есть студия для начинающих и при ней школа, где моему сыну можно было бы закончить среднее образование. И уже во всяком случае в Ленинграде есть художественное училище обычного типа, где он мог бы получить подготовку для поступления в Художественный институт. Правда, в этом случае ему пришлось бы потерять два года, так как в училище принимают по окончании семилетки, а он перешел уже в десятый класс. Я был бы тебе весьма благодарен, если бы ты поручил кому-нибудь выяснить все возможности и помог бы мне определить моего сына в студию или хотя бы в художественное училище.

Еще раз прошу извинить за беспокойство.

С дружеским приветом *Кондрат Крапива.*

11/VI-1946 г.
Минск

## № 9. ДА П. С. КАБЗАРЭЎСКАГА

*Мінск, 16 жніўня 1946 г.*

16 августа 1946 г.

Дорогой Павел Семенович!

Прошу извинить, что я не сразу ответил на Ваше письмо, хотя должен был бы написать Вам, не дожидаясь Вашего письма. Дело в том, что до самого последнего времени я не мог принять окончательного решения — посылать сына в

художественное училище или подождать. Наконец, собрав все необходимые справки и обсудив всесторонне вопрос на семейном совете, мы решили подождать годик и дать ему возможность закончить среднее образование. Мне совестно, что я беспокоил своей просьбой Александра Андреевича и он напрасно за меня хлопотал. Прошу передать ему мои извинения.

Виноват я также и перед Владимиром Николаевичем — уже как редактор «Вожыка». Несмотря на все обещания и заявления, бухгалтерия несколько месяцев не высылала ему гонорар за напечатанные басни. Но теперь уже они клянутся, что выслали. Лучше поздно, чем никогда.

У нас литературная жизнь протекает по-прежнему — не останавливаясь, но и не слишком бурно. Лето вообще не способствует кипучей деятельности литераторов. Думаю, что с наступлением осени все завершится быстрее. Вероятно, началом этому послужит поездка наших товарищей в Ленинград.

Привет Александру Андреевичу.

Жму руку. *К. Крапива*

## № 10. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Мінск, 29 верасня 1947 г.*

29/IX-1947 г.

Дарагі Ігар!

Я не зусім спакойны, пакуль ты не ўзяўся на ўчот у ваенкамаце,— каб не выйшла якога непаразумення. Ты павінен прыйсці туды са спраўкай, што ты вучань художественнай школы. Калі выйдзе якая-небудзь замінка, зразу ж звані Смолкіну. Таксама не празявай абшчажыцця, бо адна справа абяцанкі, а другая справа іх ажыццяўленне. Даведайся, калі і куды табе можна будзе ўсяліцца. Як уселішся, напішы падрабязна, які пакой, колькі чалавек у пакоі, з кім ты будзеш жыць.

Я яшчэ не запытаўся ў цябе, ці здаў ты стандартку ў картачнае бюро Акадэміі, калі не здасі, застанешся без картачак. Як атрымаеш картачкі, то прадуктовыя, напэўна, трэба будзе здаць у сталоўку. Толькі даведайся, з кім ты будзеш сталавацца — са школьнікамі ці са студэнтамі.

Напішы таксама аб першым дні заняткаў, якая была школьная работа і як ты з ёю справіўся. Заўтра збіраюся гаварыць

з табой па тэлефоне, але тэлефонныя размовы мяне не зусім здавальняюць: па-першае, дрэнна чуваць, па-другое, мала ты можаш расказаць аб сваім жыцці-быцці. А пісаць ты, відаць, лянуешся: за два тыдні мы атрымалі ад цябе адно пісьмо.

Чакаю пісьма, у якім ты напішаш, што ўжо ўсякая «валынка», як ты кажаш, скончана і што ты можаш спакойна займацца.

Пішы, ці прыехаў Кабзарэўскі. Прывітанне Луку Афанасьевічу і Ніне Ігнаццеўне.

Цалуем цябе ўсёй сям'ёй.

*Твой бацька*

## № 11. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Мінск, 19 верасня 1947 г.*

Дарагі Ігар!

Як я заўважаю, у школе цябе сустрэлі не вельмі прыхільна. Ва ўсякім разе не пацікавіліся нават, дзе ты жывеш і што ты ясі, не запыталіся ў цябе спраўкі па форме № 7. Адгэтуль вывад: не чакай, пакуль аб табе паклапоцяцца, клапаціся сам аб сабе і дабівайся таго, што табе належыць. Дарэмна ты пратрымаў спраўку № 7 тры дні ў кішэні. Яе трэба было здаць зразу ж. Узамен яе табе ў гэтым месяцы выдадуць талоны на хлеб і сякія-такія прадукты. Хлеб ты атрымаеш, толькі даведайся, у якім магазіне па гэтых талонах даюць, а цукар і інш. можаш і не атрымаць. На наступны месяц школа павінна ўключыць цябе ў спісак на атрыманне картачак. Ніякіх стандартных справак для гэтага не трэба. На тое і даецца № 7. Толькі ты зайдзі ў канцылярыю школы і напомні, каб яна цябе ўключыла, а то там, як відаць, сядзяць людзі непаваротлівыя, заскарузлыя, і яны могуць забыць пра цябе. Калі ў цябе няма хлеба (можа, ты яшчэ не атрымаў талонаў), дык запытайся ў Ніны Ігнаццеўны, ці прадаюць хлеб на рынку, дай Інге грошы і папрасі, каб яна табе купіла булку хлеба.

Наконт учота ў ваенкамаце ты ўжо ведаеш: трэба спачатку прапісацца. Дык ты дабівайся, каб школа цябе прапісала, а потым станеш на ўчот. Калі часамі міліцыя не захоча прапісваць таму, што ў пашпарце няма адзнакі аб выпісцы ў Мінску, дык няхай прапішуць часова: гэта яны могуць. Калі будзе затрымка, папрасі Смолкіна, каб памог.

Наогул, у цябе там цяпер шмат такіх клопатаў. Але яны

немінучыя, калі прыязджаеш у новы горад. Перабудзеш, тагды ўсё ўвойдзе ў норму.

У цябе яшчэ, кажаш, і туфлі разваліліся. Але гэта бяда невялікая: ёсць боты. А туфлі ты можаш або паправіць, калі ёсць дзе, або купіць новыя ў камерчаскім магазіне. Грошы я табе прышлю, пачакаўшы крыху.

Спадзяюся, што да пачатку заняткаў ты ўсе гэтыя клопаты перабудзеш і тагды табе нішто не будзе перашкаджаць вучыцца. А наогул — не ўнывай.

У нас ніякіх навін няма. Жыццё ідзе звычайным заведзеным парадкам, толькі цябе не хапае. Маці крыху сумуе, але пагаворыць з табой, і ёй весялей. Але тэлефонных размоў мала. Ты не лянуйся пісаць. Напішы, як цябе сустрэў Андрацоў і якое ўражанне зрабіў на цябе дырэктар інстытута (Твэлькмеер, здаецца). Па тэлефоне мы будзем званіць часта. Пасля мы з табой дамовімся, у якія дні і гадзіны нам з табой размаўляць.

А пакуль што — бывай здароў.

Цалуем цябе ўсёй сям'ёй.

*Твой бацька*

19/IX-1947 г.

## № 12. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Мінск, 25 верасня 1947 г.*

25/IX-1947 г.

Дарагі Ігар!

Так нам і не ўдалося сёння скончыць нашу тэлефонную размову. Я хацеў выклікаць другі раз, але на міжгародняй сказалі, што ў Ленінградзе пераблыталіся нейкія правады і сёння гаварыць нельга. Я думаю, наогул, што ў далейшым нам прыйдзецца часцей перапісвацца і радзей гаварыць па тэлефоне, тым больш што ты будзеш у абшчажыціі, дзе няма тэлефона. Мы дамовімся з табой, у якія дні гаварыць па тэлефоне, і тагды ты будзеш прыходзіць да Бэндэ. Наступны раз я пазваню табе ў панядзелак ці ў аўторак.

Сёння мне прыемна было пачуць ад цябе дзве рэчы: тое, што цябе залічылі ў 6-ы клас і што тваім настаўнікам будзе Аляксей Пятровіч Кузняцоў. Ён на мяне зрабіў добрае ўражанне, я думаю, што вы з ім паладзіце.

Добра і тое, што ты прапісаўся ўжо. У ваенкамаце цяпер уладзіцца ўсё як мае быць.

Цяпер табе прыйдзецца вырашыць яшчэ адно важнае пытанне: ці прыйдзецца табе вучыцца два гады, ці ты пройдзеш праграму 6-га і 7-га класаў за адзін год. Цяпер, вядома, ты на гэта пытанне адказаць не можаш, але праз нейкі час пасля таго, як пачнуцца заняткі, табе ўжо больш-менш ясна будзе, а тым больш Кузняцову.

Што табе сумна, ты і сам крыху вінават: каб ты хоць крыху заняўся наброскамі, скарыстаўшы для гэтага хоць бы парк, дык бы табе не так сумна было... Але ўжо засталося нямнога да пачатку сапраўдных заняткаў. А наогул, на маю думку, усё ўладзілася як не трэба лепш, ты маеш усе магчымасці вучыцца. Ад цябе залежыць, як ты гэтыя магчымасці выкарыстаеш.

Цяпер што да харчавання... Відаць, што сала табе ў рот не лезе. Што ж, ты можаш яго не есці. Купі сабе масла, часчасам можаш купіць каўбасы. А сала аддай Ніне Ігнаццеўне булён засквармаваць.

Ну, вось і ўсё пакуль што. Хацеў бы даць табе сякія-такія парады наконт культурных патрэб, але гэта ў наступны раз.

Будзь здароў і не лянуйся пісаць.

Цалую.

*Твой бацька*

## № 13. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Мінск, 18 кастрычніка 1947 г.*

18 кастрычніка 1947 г.

Дарагі Ігар!

Учора мы атрымалі тваё пісьмо і былі рады, бо з пісьма мы хоць што-небудзь даведваемся аб тваім жыцці і вучобе. Тэлефонныя размовы ў гэтым сэнсе мала што даюць. Добра, што тваё жыццё і вучоба ўвайшлі ў больш-менш нармальную каляіну. Нас радуе твой бадзёры настрой і гатоўнасць перамагаць усялякія перашкоды і цяжкасці. Але ўсё ж мала ты напісаў аб сабе. Мы б хацелі ведаць больш: як ты сябе адчуваеш сярод вучняў, ці здружыўся ты з кім-небудзь, ці намнога яны падрыхтаваны лепш за цябе, ці цяжкай табе паказалася вучоба і як ты выканаў першыя заданні ў параў-

нанні з іншымі, што ты робіш у вольныя ад заняткаў дні (іх у цябе, па-мойму, два на тыдзень, не лічачы выхаднога), ці паказваў ты свае дамашнія (мінскія) работы Андрацову ці Кузняцову і што яны сказалі, як ацэньвае Кузняцоў твае школьныя работы. Нас таксама вельмі цікавіць твой быт: як ты падрыхтаваўся да зімы (што купіў), у чым ты ходзіш, хто сцірае бялізну і як ты за гэта разлічваешся, ці чыстая пасцель, ці не холадна будзе зімой спаць. Усё гэта рэчы празаічныя, далёкія ад мастацтва, але без іх і мастацтва не на ўме будзе.

Ты мяне расчараваў наконт Кузняцова. Мне ён паказаўся быў сур'ёзным чалавекам, які любіць сваю справу, і раптам аказваецца... Ну, што ж, гэты прабел прыйдзецца запаўняць табе самому. Добра, што ў цябе добрыя таварышы па абшчажыцію і што ёсць магчымасць займацца ў студэнцкай майстэрні. Думаю, што табе гэту магчымасць варта выкарыстаць. Што да таго, каб за год прайсці праграму двух класаў, дык наўрад ці гэта будзе магчыма. Але гэта не бяда. Калі ты за два гады падрыхтуешся так, што будзеш бясспрэчным кандыдатам у студэнты Інстытута, дык і гэта добра будзе. Я толькі непакоюся, каб ты, займаючыся толькі спецыяльнымі прадметамі, не забыўся за два гады таго, што навучыўся ў 42-й школе. Пачытвай сёе-тое па літаратуры, па гісторыі. Ды ў газету заглядвай, калі ёсць магчымасць, а то адстанеш ад жыцця. Што да мастацкай літаратуры — складзі сабе на першы час хоць невялікі спісак, у які б увайшлі лепшыя творы савецкай літаратуры, а таксама творы рускай і сусветнай класікі. Гэта будзе твой асноўны фонд, які ты павінен засвоіць у першую чаргу, а пасля гэты круг будзеш пашыраць. Такі спіс карысна было б мець пад рукой, каб не чытаць усякай муры. Калі сам не здолееш скласці такога спіска, папрасі каго-небудзь з нашых сяброў братоў-літаратараў, яны памогуць.

Што да мяне, дык асаблівых навін у мяне няма. Збіраюцца адзначаць юбілей, але мне гэта збіранне абрыдла, і я да гэтага адношуся раўнадушна. Шмат працую: на дзве змены — днём і ўночы. Шмат працы на Акадэміі (слоўнікі), апрача таго, кожны дзень сядзім з Лыньковым над сцэнарыем.

Тыдзень таму назад знаёміў тэатралаў са сваёй будучай п'есай. Прачытаў ім першы акт і расказаў план далейшых. Яны вельмі зацікавіліся, прасілі, каб хутчэй канчаў, і абяцалі да Новага года паставіць. Але я не магу цяпер працаваць над п'есай, пакуль не развяжуся са сцэнарыем.

Ты збіраешся прыехаць на святы дадому. Мы рады былі б з табой убачыцца, але не ведаю, ці ўдасца табе гэта зрабіць.

Часу ў цябе вельмі нямнога. Калі паедзеш поездам, дык увесь час пойдзе на дарогу. А самалёт цяпер таксама — справа няпэўная: дажджы, туманы, можа падвесці. Калі будзеш ехаць, абавязкова вазьмі ў школе афіцыяльны водпуск. Без дазволу не выязджай, бо можа быць вялікая непрыемнасць.

Пазаўчора мы паслалі табе пасылку. Калі будзе ад'язджаць Л. А., пашлём яшчэ сёе-тое. Пішы, калі табе трэба будзе паслаць яшчэ грошай.

Цалуем цябе — я, мама, Людачка. Яны таксама збіраюцца табе пісаць.

*Твой бацька*

## № 14. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Мінск, 12 снежня 1947 г.*

Мінск. 12/XII-1947 г.

Дарагі Ігар!

Ты, напэўна, даўно чакаеш майго пісьма, а я яго яшчэ не напісаў. Спачатку юбілей адабраў у мяне шмат часу і клопатаў, а пасля ўсялякія бягучыя і тэрміновыя справы, якіх назбіралася шмат за гэты час... Дык вось пра юбілей... Ты ведаеш, што гэтыя юбілейныя «хмары» збіраліся над маёй галавой гады паўтары. Нарэшце яны разразіліся юбілейным вечарам (24 лістапада). Пра вечар нічога дрэннага сказаць нельга. Прайшоў ён урачыста і цёпла. Былі і прывітанні, і адрасы, і кветкі, і, як вядзецца, шмат фіміяму. А пасля пачаліся госці і сустрэчы, якія таксама цягнуліся некалькі дзён. Але цяпер юбілейны фіміям ужо развеяўся, галава ясная і настрой рабочы. Сяджу над п'есай. Калі не вельмі будуць адрываць, да першага студзеня ў чарнавіку будзе гатова. Тэатр штурхае пад бакі, каб хутчэй даваў. А тут яшчэ назола — сцэнарый вісіць на шыі і мы з Лыньковым адчуваем сябе як два старыя валы, запрэжаныя ў гэта ярмо. А там слоўнікі і ўсякая іншая «акадэмія» і мільён усякіх сходаў і пасяджэнняў. Вось тая «творчая» атмасфера, у якой я цяпер паруся. Так і запарыцца нядоўга. Але думаю, што месяцы праз два мне стане крыху лягчэй.

Ну, а ў цябе як? Перш за ўсё мяне цікавіць твая вучоба. Паколькі ў цябе ніякіх юбілеяў не было, то я думаю, што яна

праходзіла нармальна. Як ты справіўся з новым заданнем? (У параўнанні з папярэднім заданнем і з тваімі аднакласнікамі.) Ці адчуваеш ты сябе ўжо, што называецца, «у сваёй талерцы»?

Цяпер пра бытавыя і матэрыяльныя справы. Абяцаную пасылку мы табе не паслалі. Паездка У. Ф. у Ленінград пакуль што затрымалася. Цяпер тут Павел Сямёнавіч. Мы з ім тое-сёе пашлём. Асаблівых прысмакаў не чакай, цяпер на іх не пара, але маскоўская каўбаса будзе і яшчэ... старыя галёшы. Туфель цяпер пасла́ць не можам, абыходзься пакуль што з тым абуткам, які ў цябе ёсць. Грошы, якія ёсць, прытрымай на дарогу, бо я не ведаю, ці вышлю табе да канікул. (Між іншым — калі канікулы?) Расходы твае для мяне няясныя. Але пра гэта ты раскажаш, як прыедзеш. Перад тым як выязджаць, загадзя паклапаціся пра білет, каб не было, як прошлы раз. Лепш за ўсё гэта зрабіць, мабыць, праз Саюз пісьменнікаў, можа, нават пры дапамозе таго ж П. С. Ну, вось і ўсё, што я хацеў табе сказаць.

Нашы ўсе жывы і здаровы. Маці аддыхае пасля юбілею. (Ёй такі прыйшлося папрацаваць.) Людачка вучыцца лепш, чым у прошлай чвэрці. Абедзве цябе цалуюць. Я — таксама.

*Твой бацька*

## № 15. ДА Л. А. БЭНДЭ

*Мінск, 9 студзеня 1948 г.*

Дорогой Лука Афанасьевич!

Сердечно благодарю за Новогоднее поздравление. Мы все семьей также поздравляем тебя и Нину Игнатьевну со всеми чады и домочадцы, желаем здоровья, счастья и всяческого благополучия, а тебе, кроме всего этого, и успехов в твоей литературоведческой деятельности.

Что касается пьесы, то я ее в основном закончил, но переводчиком еще не обзавелся. Я думаю — пусть она раньше получит апробацию в Минске, тем более что с ней хотят познакомиться некоторые ответственные товарищи. Кроме того, есть еще некоторые недоделки. Но недели через три, видно, придется подумать о переводчике. Между прочим, это не комедия, а драма, и я не знаю, подойдет ли кандидатура рекомендованного переводчика.

О деньгах с Ковалевым я говорил. Он сказал, что тебе нужно написать новое заявление, иначе они выплатят тебе один за десять. Он сказал еще, что ты как будто собираешься в скором времени быть в Минске и сможешь получить на месте.

Игорю насчет бульбы соответствующее внушение сделал. Не знаю, как на него это подействует, поскольку он меня уже перерос и смотрит на мои внушения сверху вниз.

С искренним приветом *К. Крапива.*

9 января 1948 года.
Минск

## № 16. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Мінск, 23 красавіка 1948 г.*

23 красавіка 1948 г.

Дарагі Ігар!

Ты чакаеш ад мяне адказу на пытанне, якое цябе моцна хвалюе. Што яно цябе хвалюе, гэта зразумела: ад вырашэння яго залежыць твой далейшы шлях, твая прафесія. Прызнаюся, што мне цяжка табе адказаць, бо мне няясны сапраўдны стан рэчаў: ці ў цябе сапраўды няма здольнасці да жывапісі, ці гэта табе толькі здаецца пад уражаннем двойкі, якую ты атрымаў. Магчыма, што ты тут яшчэ не авалодаў «сакрэтам», якім ты часткова авалодаў ужо ў галіне рысунка. У цябе, відаць, яшчэ няма сваіх адносін да натуры, ты пішаш па чужому рэцэпту, стараешся патрапляць пад гэты рэцэпт і траціш жывое адчуванне колераў і формы. А калі ты пішаш не так, як сам бачыш, а так, як бачыць нехта іншы, дык вядома, што вялікай удачы тут чакаць не прыходзіцца. На жаль, у цябе вельмі мала часу для таго, каб выпрабаваць свае здольнасці. Тое, што ты патраціў год,— не бяда: ты патраціў яго нездарма. Не бяда была б, каб ты і яшчэ адзін год патраціў, калі б была ўпэўненасць, што ў выніку гэтага ты паступіш на факультэт жывапісі. Але калі ты патраціш яшчэ год, не даб'ешся свае мэты і астанешся ні з чым, гэта ўжо будзе амаль што бяда. А таму: калі ў цябе і ў гэтай чэцьверці будзе такая ж няўдача і такім чынам будзе гадавая двойка па жывапісі, тагды табе, напэўна, варта будзе падумаць аб архітэктурным факультэце. Хаця і гэта

яшчэ не азначала б, што ў цябе сапраўды няма здольнасці да жывапісі.

Што да прафесіі, дык я не намагаюся, каб ты абавязкова быў жывапісцам. Будзь тым, чым ты хочаш і можаш быць, да чаго адчуваеш нахіл. Мне толькі хацелася б, каб ты знайшоў свой сапраўдны шлях і быў бы сапраўдным майстрам свае справы. Не цяпер, вядома, а пасля, у выніку вучобы.

А наогул — не агарчайся сваімі няўдачамі і не падай духам. Працуй спакойна і ўпэўнена. Магчыма, што ў канцы вучэбнага года я пад'еду ў Ленінград, тагды ўсё разам абмяркуем, параімся з настаўнікамі і зробім як лепш.

У нас дома ўсё ў парадку. Усе здаровы. Чакаем цябе, каб разам правесці летнія месяцы. У мяне пакуль што справы ідуць нядрэнна. П'еса рэпетыруецца, рыхтуецца афармленне. У чэрвені збіраюцца выпусціць спектакль. У выдавецтве друкуецца зборнік маіх выбраных твораў у серыі «Школьная бібліятэка».

Каб табе ў святы было няголадна і нясумна, пасылаю табе тэлеграфам пяцьсот рублёў. Пасля першага вышлю яшчэ. Тагды і выкупіш свой штатыў.

Будзь здароў.

Цалуем цябе ўсёй сям'ёй.

Твой бацька *К. Атраховіч*

## № 17. ДА П. С. КАБЗАРЭЎСКАГА

*Мінск, 25 красавіка 1948 г.*

Мінск. 25.IV.48 г.

Дарагі Павел Сямёнавіч!

Прашу прабачэння, што я толькі сёння сабраўся адказаць на Ваша пісьмо. Не адказваў я Вам не па сваёй неакуратнасці, хаця часамі і гэта водзіцца за мною, а таму, што не мог сказаць Вам нічога пэўнага, пакуль справа аб змесце зборніка «Беларуская драматургія» знаходзіцца ў стадыі вырашэння. Цяпер, як Вам, напэўна, ужо вядома, усё вырашана: спіс п'ес узгоднены з Міхаілам Трыфанавічам, зацверджаны Сакратарыятам Саюза і пасланы ў выдавецтва. Я і ўсе нашы драматургі ўдзячны Вам за клопаты, якія Вы прылажылі, каб дабіцца ўключэння зборніка ў план выдавецтва на пяты год. Напішыце, ці ўсе тэксты ў Вас ужо ёсць, ці яшчэ чаго не хапае. Мне даручана Сакратарыятам прачытаць нека-

торыя п'есы і праверыць, як яны гучаць на сённяшні дзень. Я гэта яшчэ не зрабіў, але пастараюся зрабіць і, калі будуць якія-небудзь заўвагі, прышлю іх Вам. На жаль, у бліжэйшы час я, мабыць, не здолею гэтага зрабіць, бо мяне хочуць паслаць па лініі Акадэміі ў Ташкент на сяткаванне юбілею Наваі. Баюся, што ад гэтай паездкі я не здолею выкруціцца.

Што да перакладу мае новай п'есы, дык я аб ім яшчэ не думаў і не прымаў ніякіх захадаў, хоць мне і былі прапановы з боку некаторых перакладчыкаў. Я хацеў бы, каб п'еса спачатку была апрабіравана ў Мінску, каб яна нават была пастаўлена. У выніку пастаноўкі больш яскрава выявяцца яе дадатныя і адмоўныя якасці, і я змагу ўнесці неабходныя папраўкі яшчэ да перакладу. Я хацеў бы, каб перад рускім чытачом п'еса паказалася ў найбольш выгадным святле. Па праўдзе кажучы, мне хацелася б, каб п'есу перакладаў вопытны драматург, які добра ведае сцэну і адчувае сцэнічнасць дыялогу. Мне таксама хацелася б, каб гэта быў чалавек, звязаны з тэатрамі, які мог бы парэкамендаваць яе тэатрам для пастаноўкі. Я спадзяюся, што Вы зразумееце мяне правільна і не асудзіце за зусім законнае жаданне. Карацей кажучы, пытанне аб перакладзе і перакладчыку я пакуль што пакідаю адкрытым. Аб гэтым мы яшчэ здолеем пагаварыць з Вамі пазней.

Сардэчна вітаю Вас. Прашу перадаць прывітанне Аляксандру Андрэевічу.

Алена Канстанцінаўна і Люда таксама перадаюць Вам прывітанне.

*К. Крапіва*

## № 18. ДА П. С. КАБЗАРЭЎСКАГА

*Мінск, 3 ліпеня 1948 г.*

3 июля 1948 г.

Дорогой Павел Семенович!

Игорь сегодня едет в Ленинград поступать на архитектурный факультет. Вопрос этот может решиться двояко: или на основании оценки его работ его примут без экзамена, или же ему придется держать экзамен по специальному предмету. Желательно, конечно, первое, тем более что это могло бы осуществиться сейчас, в этот приезд. В том и в другом случае ему необходима помощь и моральная поддержка. Я не хочу по этому поводу беспокоить Александра Андреевича,

тем более что его, видимо, сейчас и в городе нет. Помощь эту мог бы оказать Михаил Давидович, особенно в том случае, если бывший директор Института т. Твэлькмейер имеет какое-либо отношение к архитектурному факультету. Мог бы помочь также и Макс Израилевич, прекрасно знающий всех работников Академии, а также существующие там порядки, нравы и обычаи. Я прошу Вас связать Игоря с обоими моими друзьями и передать им мою просьбу. На Вашу же помощь я рассчитываю целиком. Это что касается Игоря.

Теперь несколько слов о себе. Я нахожусь в состоянии человека, который только что свалил гору с плеч: состоялась премьера «С народом». Со стороны некоторых «деятелей» на пьесу и спектакль велись ожесточенные атаки, но зритель отбил все эти атаки с большими потерями для «противника», и газеты оповестили своих читателей, что спектакль прошел с большим успехом. Надлежит еще выдержать экзамен в Москве. Там пьеса будет показана в конце июля. До этого времени я думаю немного отдохнуть, выехав на свою «дачу». Только погода совершенно испортилась.

Привет всем моим друзьям.

Крепко жму руку.

*К. Крапива*

## № 19. ДА А. П. КУЗНЯЦОВА

*Мінск, 3 ліпеня 1948 г.*

Уважаемый Алексей Петрович!

Мой сын, а Ваш ученик — Игорь Атрахович, будучи неуверенным в том, что ему в будущем году удастся поступить на факультет живописи, решил в этом году поступать на архитектурный факультет. Я убедительно прошу Вас, как наиболее знающего степень его подготовленности, помочь ему нужным советом. Хорошо было бы, если бы на основании оценки его работ его приняли без экзамена. Если же ему все-таки придется держать экзамен (по специальному предмету), то я буду весьма обязателен Вам, если Вы посоветуете, как ему наилучшим образом к этому подготовиться и на что обратить главное внимание.

С искренним уважением к Вам *К. Атрахович.*

Минск

3 июля 1948 г.

## № 20. ДА П. С. КАБЗАРЭЎСКАГА

*Мінск, 12 ліпеня 1948 г.*

12 июля 1948 г.

Дорогой Павел Семенович!

Прошу извинить за мою закоренелую неаккуратность. Вы уже знаете, что я насчет писем весьма тяжел на подъем.

Я очень Вам благодарен за готовность помочь Игорю. Думаю, что Ваши и Макса Израилевича советы в настоящий момент ему очень пригодятся. Он (Игорь), между прочим, в Ленинграде с 5-го июля. Экзамены у него 25-го. Надеюсь, что он Вам уже звонил.

Что касается подготовки сборника драматургии, так как будто все протекает нормально. Жду Вашего приезда с переводами. Между прочим, прислал ли Вам свою пьесу Климкович? Я ее еще не читал, хотя слышал, что он сдал ее в «Полымя». Но для ее напечатания, очевидно, нужна будет соответствующая санкция.

Поступило предложение о включении в сборник еще одной пьесы, но это мы обсудим, когда Вы приедете в Минск. Пишите, когда Вы собираетесь быть у нас. Передайте привет Максу Израилевичу и мою просьбу взять шефство над Игорем. Я собирался ему написать, но где-то затерял его письмо с адресом, и так как мои бумаги в связи с переездом на новую квартиру в большом беспорядке, то отыскать мне его теперь трудно.

Пишите пока по старому адресу.

Жму руку.

*К. Крапива*

## № 21. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Мінск, 22 жніўня 1948 г.*

22 жніўня 1948 г.

Дарагі Ігар!

Карыстаючыся тым, што заўтра ляціць Жорык, я пішу табе пісьмо. Перш за ўсё я хацеў цябе палаяць за тое, што

ты два тыдні маўчыш як вады ў рот набраўшы. Што ты заляцеў благапалучна, гэта мы даведаліся з тэлеграмы, а як ты там устроіўся, як займаешся, хто табе дапамагае — пра гэта мы нічога не ведаем. Прабавалі званіць да Бэнды, але ніхто не адказаў, значыць, Бэнды яшчэ няма ў Ленінградзе. Праз два дні ў цябе пачнуцца ўжо экзамены. Ці адчуваеш ты сябе гатовым да іх? Што цябе найбольш непакоіць? Напэўна, хвалюешся? Асабліва хвалявацца не варта: трэба думаць, што ўсё абыдзецца добра. Калі ж у крайнім выпадку не ўдасца паступіць, тагды трэба падумаць, што рабіць далей. Паступаць у які-небудзь іншы ВУЗ, напэўна, будзе позна, мабыць, найлепш астацца ў сярэдняй школе яшчэ на год. Але цяпер яшчэ рана загадваць. Ва ўсякім разе, у цябе наперадзе вельмі шмат усякіх магчымасцей, і нават у выпадку няўдачы адчайвацца няма чаго.

Мы пераехалі ўжо на новую кватэру. Чатыры дні трыбушыліся з усякім барахлом, асабліва даліся мне ў знакі кнігі, насілу я з імі ўправіўся. Яшчэ шмат усякіх невыгод: святла няма, вады няма. Але гэта ўсё часова, а наогул кватэра выйшла нядрэнная. На дачу ўжо ехаць не хочацца: купацца холадна. Заўтра паедзем забіраць рэчы. Вось бяда: машыну няма дзе ставіць. Гэтай праблемы я ніяк не магу вырашыць — хоць адракайся.

Што да работы — дык я цяпер нічога капітальнага не пішу і некапітальнага — таксама. Рэдагую Руска-беларускі слоўнік і пераклады баек Крылова. Трэба сабрацца крыху з думкамі, а тагды ўжо засесці. Што ж яшчэ сказаць? Больш-менш мы здаровы, хоць усе патрошку хварэем: я некалькі дзён ляжаў з грыпам, маці скардзіцца на прастрэл, у Люды насмарк, але гэта хваробы ўсе нястрашныя.

Глядзі, каб ты зараз жа напісаў, як ты жыў гэтыя два тыдні і як рыхтаваўся да экзаменаў. Пачнуцца экзамены — таксама пішы: што далі рысаваць, ці вялікі конкурс і г. д. Наконт пісем ты яшчэ большы гультай, чым я. Але не лянуйся, падумай хоць пра маці, якая за цябе хвалюецца.

Бывай здароў! Жадаем табе ўдачы і цалуем.

*Твой бацька*

Новы адрас: Минск, ул. Горького, Третий Дом Советов, кв. 23.

## № 22. ДА П. С. КАБЗАРЭЎСКАГА

*29 жніўня 1948 г.*

29 августа 1948 г.

Дорогой Павел Семенович!

В связи с экзаменами Игоря, возможно, придется приехать ■ Ленинград числа 4-го или 5-го. Таким образом, мы можем с Вами разъехаться. Поэтому я прошу Вас не выезжать из Ленинграда числа до 4-го. О своем окончательном решении я сообщу Вам телеграммой. Сегодня я разговаривал по телефону с Максом Израилевичем. Он бывает в Академии и наблюдает за ходом экзаменов. Пока еще ничего определенного нельзя сказать, поскольку экзамены в самом начале. Мы с ним условились говорить 3-го утром. Он говорит, что к этому времени картина для него будет ясна. Тогда и выясним, нужно ли мне будет ехать в Ленинград. Хотя, вообще говоря, мне поездка ничего в ходе вещей изменить не может. Судьба Игоря меня очень беспокоит. Дело в том, что если он сейчас не поступит в Институт, то он вообще лишится возможности продолжать учебу: прием во все ВУЗы уже закончился. Я Вас очень прошу: числа 3-го узнайте у М. И., каково положение Игоря. Мне бы очень не хотелось беспокоить своей просьбой Александра Андреевича, но если положение Игоря будет критическим (но не безнадежным), я прошу Вас рассказать ему об этом. Может быть, он найдет возможным как-нибудь помочь ему. Сам Игорь, конечно, постесняется обращаться к кому-нибудь с просьбой. Между прочим, он Вам на днях звонил, но Вас дома не оказалось, и он, видимо, не решается Вас больше беспокоить. Вы уже извините ему такую необщительность и застенчивость.

Если Игорю не удастся поступить, тогда уж не знаю, что и придумать. Видимо, целесообразнее всего ему остаться еще на год в средней школе, только не знаю, согласится ли директор принять его снова, поскольку формально он, видимо, считается выбывшим из школы. Всё это обстоятельства, которые надо будет выяснить. Вот ради этого мне, возможно, и придется приехать в Ленинград, хотя у меня нет времени и чувствую я себя не совсем здоровым.

Итак — до скорой встречи в Минске или в Ленинграде. Жму руку.

*К. Крапива*

## № 23. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Мінск, 18 кастрычніка 1948 г.*

18/X-48 г.

Дарагі Ігар!

Тваё пісьмо мы атрымалі некалькі дзён таму назад, але за кучай усякіх спраў я дагэтуль не сабраўся табе напісаць. Мы вельмі здаволены, што нарэшце ўсе цяжкасці з паступленнем у ВУЗ, з выбарам прафесіі засталіся ззаду, цяпер табе застаецца толькі вучыцца, а нам чакаць, калі пройдуць гэтыя шэсць год і калі мы ўбачым цябе ўступіўшым на самастойны жыццёвы шлях. На першых парах табе, відаць, цяжкавата будзе займацца, але з часам, калі ўсё ўвойдзе ў сваю каляіну і калі прыстасуешся да ўмоў і абставін, гэтыя цяжкасці будуць здавацца не такімі вялікімі. Прычым тут вельмі важна правільна арганізаваць свой быт: правільна размеркаваць час, наладзіць харчаванне. Дрэнна, вядома, што вас 9 чалавек у пакоі, але ж ты пішаш, што гэта справа часовая. Што да харчавання, дык трэба арганізавацца так, каб яно было не толькі дастатковым па каларыйнасці, але і рэгулярным, г. зн. што трэба есці абавязкова тры разы ў дзень, а не наядацца раз на цэлыя суткі, па-другое, у тваім рацыёне абавязкова павінна быць гародніна: капуста, цыбуля, морква, а іначай можаш захварэць авітамінозам, а гэта адаб'ецца на агульным стане здароўя і нават на поспехах у вучобе. Дзеля эканоміі не мары сябе голадам, як выходзяць грошы — пішы. У мяне цяпер грашовае становішча крыху палепшылася. Заўтра ці паслязаўтра я табе вышлю рублёў пяцьсот, хоць ты і пісаў, што да канца месяца табе грошай хопіць. Калі ўсё ўвойдзе ў сваю каляіну і мы з табой установім, колькі табе трэба на месяц, тагды я буду пасылаць табе рэгулярна пэўную суму, скажам, два разы на месяц.

Пішы хоць панямногу, але часцей, купі сабе хоць адкрытак. Не забывайся, што маці па табе сумуе і кожнае тваё пісьмо для яе — радасць. Тым больш што яна бліжэйшыя тыдні тры будзе толькі з Людачкай: я на гэты час выязджаю з Мінска па заданню для аднае працы. Люда таксама то ў школе, то да падруг ідзе, і маці часта астаецца адна ў хаце. Дык ты не лянуйся чаркнуць ёй пару слоў, часу для гэтага не многа трэба. Што да мае творчай працы, дык я пакуль што нічога сур'ёзнага не пішу — заняты працай у Акадэміі, рэдакцыйнай працай ды выкананнем некаторых заданняў, звязаных з

надыходзячым трыццацігоддзем БССР. Магчымасць для творчай працы буду мець, мусіць, не раней як у сакавіку месяцы.

Мы ўсе здаровы. Дагэтуль крыху мерзлі, але ўжо тры дні як пачалі абаграваць, і мы адчуваем сябе зусім добра. Любачка вучыцца нядрэнна. Пару разоў падленавалася і схапіла двойкі. З гэтай прычыны ў мяне з ёй была сур'ёзная размова. Цяпер — выпраўляецца.

Абавязкова пішы, як у цябе праходзяць заняткі, ці дастатковай аказалася твая папярэдняя падгатоўка. А наогул, незалежна ад гэтага, пішы часцей.

Цалуем цябе ўсе трое.

*Твой бацька*

## № 24. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Мінск, 6 лістапада 1948 г.*

6 лістапада 1948 г.

Дарагі Ігар!

Віншуем цябе з 31-й гадавінай Кастрычніка і жадаем весела яе правесці. Мы ўжо напалову атсвяткавалі: учора ў нас быў вечар у Саюзе пісьменнікаў. Выпілі па чарцы, а Валянцін дык аж дзве, і мы ехалі дадому досыць весела, з невялікімі прыгодамі, якія, аднак, не мелі дрэнных вынікаў. Пішы, ці атрымаў ты пасылку. Маці меркавала, каб яна трапіла якраз к святам.

Я, праўда, у гэты час не быў дома: шэсць чалавек нас выязджала на два тыдні ў Нясвіж, дзе выконвалі адну важную і тэрміновую работу. Магчыма, што пасля свят прыйдзецца яшчэ на дзён колькі туды паехаць.

Пішы, як праходзіць твая вучоба. Якія цяжкасці табе прыходзіцца перамагаць і як ты з імі спраўляешся. З прошлага пісьма відаць, што табе прычыняе непрыемнасці твая «любімая нямецкая мова»... Калі табе цяжка з ёй спраўляцца, дык, можа, варта было б наняць настаўніка? У Ленінградзе гэта, напэўна, лёгка зрабіць. Падумай і напішы, што ты надумаеш. Дрэнна яшчэ тое, што вас 11 чалавек у адным пакоі. Займацца ў такіх умовах, вядома, цяжка. Можа, варта было б падумаць аб прыватнай кватэры. Падумай таксама і над гэтым. А потым грошы... Я ўжо зусім заблытаўся і не ведаю, калі і колькі табе пасылаць. Пасля свят мы пашлём табе 500

рублёў, а ты з свайго боку напішы, у якія чыслы і колькі табе пасылаць, каб пасылкі насілі рэгулярны характар.

Мы ўсе жывы і здаровы.

Цалуем цябе.

*Твой бацька*

## № 25. ДА П. С. КАБЗАРЭЎСКАГА

*Мінск, 6 лістапада 1948 г.*

6 ноября 1948 г.

Дорогой Павел Семенович!

Я не мог своевременно ответить на Ваше письмо, так как был в командировке. Перевод пьесы смог прочитать только вчера. Перевод мне нравится. Кое-что (отдельные фразы) мною уточнено. В некоторых местах поставлены вопросительные знаки. Я прошу эти места пересмотреть еще раз — не найдется или более удачное слово или фраза.

Посылать перевод в Управление по делам искусств при СМ БССР нет надобности, но мне один экземпляр прошу прислать. (Этот я возвращаю Вам с моими поправками.) Перевод пьесы, между прочим, сделан И. Барашкой, но получила ли она визу Главреперткома, я до сих пор не знаю. Кажется, требовали еще каких-то поправок. Если какой-либо ленинградский театр заинтересуется пьесой и захочет поставить, я, конечно, возражать не буду.

Называть пьесу «С моим народом», по-моему, не следует. Это наложило бы отпечаток некоторой национальной ограниченности, а в пьесе имеется в виду не столько белорусский народ, сколько советский народ вообще.

Теперь о сборнике. Что касается пьесы Климковича, то выяснилось, что в то время, когда Вы были в Минске, она еще не была послана в Москву. Это было сделано только месяц тому назад.

Когда будет ответ и какой, никто, конечно, сказать не может.

Что касается дат, то мне казалось, что мы с Вами почти под всеми пьесами даты поставили. Сообщаю Вам их по памяти: 1) «Война войне» — 1938, 2) «Над Березой-рекой» — 1940, 3) «Иринка» — 1940, 4) «Гибель волка» — 1939, 5) «Нестерка» — 1940, 6) «Луч грядущего» — 1947, 7) «Хлеб» — 1948, 8) «Константин Заслонов» — 1947, 9) «Партизаны» —

1937, 10) «Кто смеется последним» — 1939. Что окажется неточным, уточним в корректуре.

Гонорар, высланный издательством в конце сентября, я получил. Прошу информировать меня по мере продвижения сборника в печать.

Сердечно приветствую Вас.

*К. Крапива*

## № 26. ДА І. К. АТРАХОВІЧА

*Мінск, 23 лістапада 1948 г.*

23 лістапада 1948 г.

Дарагі Ігар!

Мы атрымалі тваё пісьмо ад 16 лістапада. Як відаць, ты ўжо з галавою акунуўся ў свае заняткі і ўжо клапоцішся аб тым, як пройдуць экзамены. Думаю, што ўсё, апрача рысунка, не будзе для цябе асабліва цяжкім. Што да рысунка, дык зусім натуральна, што на першых парах табе цяжка з ім спраўляцца, бо рысаваў ты яшчэ вельмі мала і патрэбных навыкаў яшчэ не выпрацаваў. А можа, перашкодай з'яўляецца яшчэ і некаторая няўпэўненасць, недаацэнка сваіх сіл. Але ўнываць тут няма чаго, бо твая вучоба яшчэ ў самым пачатку. Папрацуеш больш, авалодаеш і рысункам.

Маці пытаецца, ці смачнае сала. (Ты, мусіць, ужо з'еў і забыўся, якое яно.) Пішы, калі табе зноў прыслаць. У нас у хаце асаблівых навін няма. Усе здаровы (гэта, хоць і не нова, але, тым не менш, прыемна). Перабралі сюды з Буковіч цётку Ганну. Яна жыве з Мішам (яму далі пакой) і вельмі здаволена. У Валодзі нарадзіўся сын.

Я цяпер нічога капітальнага не пішу: як усе — заняты перад'юбілейнай сумятнёй. Нядаўна скончылі адну калектыўную працу, цяпер трэба напісаць з пару артыкулаў, а ў снежні прыйдзецца ехаць у Маскву на пленум Саюза сов. писат. СССР, а там — юбілей, а там — дэкада бел<арускай> літаратуры ў Маскве, а там — з'езд пісьменнікаў БССР, і так аж да вясны. Няма калі сесці за стол ды абдумаць новую рэч. Відаць, прыйдзецца рабіць гэта на хаду.

Пішы хоць караценька, але часцей.

Цалуем цябе ўсе трое.

*Твой бацька*

## № 75. ДА В. С. ГАРБУКА

*Мінск, 18 жніўня 1972 г.*

18 жніўня 1972 г.

Паважаны Вісарыён Сцяпанавіч!

Дзякую за кніжкі. Я іх нядаўна з прыемнасцю прачытаў і адначасна даведаўся з Вашага пісьма, што, жывучы далёка ад Беларусі, Вы трымаеце цесную сувязь з беларускай літаратурай і пішаце кніжкі для дзяцей на беларускай мове.

Праўнучкі ў мяне няма, а ўнучка ўжо вялікая. Унук таксама ўжо ладны. Вашу гумарэску «Усе пахалі» прачытаў я сам. Думаю, што яна спадабаецца чытачам, якім прызначана. Часамі толькі трапляюцца кніжныя словы і звароты, неўласцівыя мове «герояў» твора, асабліва «гераіні». Але гэта лёгка паправіць.

Жадаю Вам далейшых творчых поспехаў.

З прывітаннем

*Кандрат Крапіва.*

## № 76. ДА М. ТАНКА

*Мінск, 17 верасня 1972 г.*

Мінск 50 Ленінскі праспект 12, кв. 48
Максіму Танку

Мінск

Дарагі Яўген Іванавіч! Горача віншую цябе слаўным юбілеем, да якога ты прыйшоў з багацейшымі здабыткамі творчай працы. Жадаю на доўгія гады добрага здароўя, новых творчых дасягненняў, далейшых поспехаў ва ўсёй тваёй шматграннай дзейнасці. Абдымаю,

*Кандрат Крапіва.*

## № 77. ДА М. Ц. І С. З. ЛЫНЬКОВЫХ

*Мінск, 29 красавіка 1973 г.*

Дарагія Міхаіл Ціханавіч і Софія Захараўна!

Сардэчна віншую Вас з Першамайскім святам працы і вясны. Жадаю здароўя, здароўя, здароўя і ўсяго самага лепшага па Вашаму выбару.

*Кандрат Крапіва*

## № 78. ДА М. Ц. І С. З. ЛЫНЬКОВЫХ

*29 снежня 1974 г.*

Дарагія Міхаіл Ціханавіч і Софія Захараўна!

Сардэчна віншую Вас з Новым годам. Хацеў бы віншаваць яшчэ шмат гадоў. Гэта выгадна ўсім нам. Так што пакідайце ўсе хваробы старому году і жывіце здаровы.

*Кандрат Крапіва*

## № 79. ДА Л. І. РЖЭЦКАЙ

*Мінск, 17 красавіка 1974 г.*

Мінск 30 Янкі Купалы 17/30 кв. 34<br>Ржэцкай Лідзіі Іванаўне

Мінск

Дарагая Лідзія Іванаўна! Сардэчна віншую Вас слаўным юбілеем, да якога Вы прыйшлі з багатымі творчымі здабыткамі. Здароўя Вам, шчасця і новых поспехаў. Няхай далей квітнее Ваш цудоўны талент на радасць людзям.

*Кандрат Крапіва*

## № 80. ДА М. Ц. І С. З. ЛЫНЬКОВЫХ

*Мінск, 29 красавіка 1975 г.*

Дарагія Міхаіл Ціханавіч і Софія Захараўна!

Сардэчна віншую Вас з падвойным святам — 1 Мая і 30-годдзем Перамогі. Жадаю надзвычайнага здароўя і шчасця.

*Кандрат Крапіва*

## № 81. ДА С. К. АТРАХОВІЧ

*Мінск, 1 сакавіка 1976 г.*

1 сакавіка 1976 г.

Дарагая сястра!

У нядзелю 7 сакавіка я збіраюся па-дамашняму адзначыць свае 80 гадоў і прашу цябе прыехаць да мяне не пазней 4 гадзін. Віцю і Стэфку я таксама запрасіў, так што трымай з імі сувязь.

Чакаю.

З прывітаннем

*Кандрат..*

## № 82. ДА Л. Р. РАХЛЕНКІ

*Мінск, 6 верасня 1977 г.*

Мінск 30 Тэатр імя Янкі Купалы
Леаніду Рахленку

Мінск

Дарагі Леанід Рыгоравіч! Сардэчна віншую Вас, аднаго з слаўнай плеяды купалаўцаў, выдатнага майстра сцэны, сямідзесяцігоддзем дня нараджэння і высокай урадавай узнагародай. З прыемнасцю ўспамінаю нашы творчыя сустрэчы. Жадаю на доўгія гады добрага здароўя і далейшых творчых поспехаў на радасць савецкаму гледачу.

*Кандрат Крапіва*

## № 83. ДА М. ТАНКА

*Мінск, 29 красавіка 1978 г.*

Дарагі Яўген Іванавіч!

Рад ад душы павіншаваць цябе са святам 1 Мая, з высокай ацэнкай тваіх творчых дасягненняў — прысуджэннем Ленінскай прэміі і пажадаць табе добрага здароўя і далейшых творчых здабыткаў на радасць і на славу савецкай літаратуры.

*Кандрат Крапіва*

## № 84. ДА М. ТАНКА

*Мінск, 29 снежня 1979 г.*

Дарагі Яўген Іванавіч!

Сардэчна віншую цябе і тваю сям'ю з падвойным святам — з Новым годам і шасцідзесяцігоддзем БССР і Кампартыі Беларусі, а яшчэ і з пяцідзесяцігоддзем Акадэміі навук.

Жадаю табе далейшых творчых поспехаў, усім — добрага здароўя і шчасця.

*Кандрат Крапіва*

## № 85. ДА М. ТАНКА

*Мінск, 29 снежня 1980 г.*

Дарагі Яўген Іванавіч!

Сардэчна віншую цябе, Любоў Андрэеўну і ўсіх тваіх блізкіх з Новым годам. Няхай ён будзе шчаслівым ва ўсіх адносінах.

Жадаю добрага здароўя, міру і плённай працы.

*Кандрат Крапіва*

## № 86. ДА Л. Р. РАХЛЕНКІ

*Мінск, 6 верасня 1982 г.*

Мінск Энгельса 9
Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы
Народнаму артысту СССР
Леаніду Рахленку

Мінск

Дарагі Леанід Рыгоравіч! Рад сардэчна павіншаваць Вас, аднаго са слаўнай плеяды купалаўцаў, са знамянальнай датай — сямідзесяціпяцігоддзем з дня нараджэння. Ад душы жадаю на доўгія гады добрага здароўя і далейшых творчых здабыткаў на радасць савецкаму гледачу.

З сяброўскім прывітаннем

*Кандрат Крапіва.*

## № 87. ДА Л. І. СПІРЫДОВІЧ

*Мінск, 1 мая 1985 г.*

Дарагая Люда!

Віншую цябе са святам 1 Мая і з саракагоддзем Перамогі над фашысцкай Германіяй.

Хацеў бы цябе пабачыць, даведацца, як ты жывеш, дзе працуеш, як здароўе Ігара. Хацеў бы таксама даведацца, як жыве маці, Сцепаніда Кандратаўна, як яна маецца. Ці памагло ёй тое, што лячылася ў Мінску. Дзе яна жыве цяпер і дзе думае жыць далей.

Зайдзі святамі, як будзеш мець час.

*К. Атраховіч*

01.05.85

## № 88. ДА Л. П. ШЫНКО

*Мінск, 4 лістапада 1985 г.*

Дарагая Лідзія Пятроўна!

Дзякую за віншаванне. Я таксама ад душы віншую Вас са святам Вялікага Кастрычніка.

Жадаю на доўгія гады добрага здароўя і ўсяго лепшага, чаго Вы самі сабе жадаеце.

*Кандрат Крапіва*

04.11.85

## № 89. ДА Л. П. ШЫНКО

*Мінск, 27 снежня 1985 г.*

Дарагая Лідзія Пятроўна!

Сардэчна віншую Вас з Новым, 1986 годам. Няхай ён будзе шчаслівым для Вас ва ўсіх адносінах.

Жадаю добрага здароўя і бадзёрага настрою.

*Кандрат Крапіва*

27.12.85

## ЗАГАДКІ ДЗЕДА КАНДРАТА

Чуйце, хлопчыкі, дзяўчаткі!
Прапаную вам загадкі
Для гульні цікавай, новай —
Трэніроўкі разумовай.
Як з людзьмі гамонім мы,
Чуюцца амонімы —
Словы двухаблічныя,
Не для ўсіх прывычныя.
Як іх разгадаеце,
Вестачку мне дайце —
Я сардэчна буду рад.
З прывітаннем
Дзед Кандрат.

### БАБКІ

Розных бабак шмат на свеце.
Тры з іх добра я прымеціў:
Біў адну я малатком,
Еў другую з малаком,
А трэцяя бабка —
Карэньчык ды шапка.

*I. Маленькае кавадла для кляпання касы.*
*II. 1. Здобны пірог. 2. Бульбяная запяканка.*
*III. Грыб (падбярозавік).*

## БАБЫ

Хоць на словах і радня,
Баба бабе не раўня,
Між сабой яны не ладзяць:
Адна б'е, другая гладзіць.
Тая з маху як ударыць —
Аж зямля калоціцца;
Гэта варыць, гаспадарыць,
Аб усіх клапоціцца.

*I. Прылада для забівання паляў моста і г. д.*
*II. Бабуля.*

## БОТЫ — ДВА, АЛЕ НЕ ПАРА

У іх розны нораў
І розныя сцежкі:
Адзін любіць плаваць,
Другі ходзіць пешкі.
Напэўна, вам будзе
Нямнога работы
Самім здагадацца,
Што гэта за боты.

*I. Невялікае судна.*
*II. Абутак.*

## БУГАІ

Вам вядома рэч такая,
Што бугай раве, рыкае,
А часамі бугаі
Растуць ціха у гаі.
Здзівіць вас і вестка тая,
Што бугай яшчэ й лятае.

*I. Дамашняя жывёліна.*
*II. Ягады бугаі (дурніцы).*
*III. Балотная птушка.*

## БЫКІ

Падышоў я да ракі,
Дзе пасуцца два быкі.
Каля ног вада бушуе,
Бык стаіць — нібы не чуе.
Узвалі хоць сотню тон,
Не скранецца з месца ён.
Як зрабілі паварот,
Стала ўсё наадварот:
Бык бушуе малады
Каля лужыны вады.
А што гэта за быкі,
Разгадайце, сябрукі.

*I. Апора моста.*
*II. Дамашняя жывёліна.*

## ГАЛАВА

Кожны з нас, хто жыве,
Мае па галаве,
А бывала ж яна
І на горад адна.

*I. Галава чалавека.*
*II. Гарадскі галава (у дарэвалюцыйнай Расіі).*

## ГАЛОЎКА

Слова вядомае. Што яно значыць,
Мне аж няёмка неяк тлумачыць.
Прыкладаў можна прывесці тут дзвесце:
Можна, напрыклад, галоўку есці.
Можна галоўку яшчэ пагладзіць,
А можна і малаціць;
Да чаго-небудзь можна прыладзіць
І ў любы бок пакруціць.
Шмат што з галоўкаю можна зрабіць,
Можна ёй нават і ворага біць.

*I. Галоўка цыбулі, капусты.*
*II. Памянш.-ласк. да «галава».*
*III. Галоўка лёну.*
*IV. У прыборах і г. д.*
*V. Галоўка снарада.*

## ГЛЯДЗІ Ў КОРАНЬ

Як рыдлёўку я прыдбаю,
Корань дрэва адкапаю,
А вось іншы каб здабыць,
Трэба ўжо вучоным быць.
І не трэба тут рыдлёўка —
Хопіць простага алоўка.

*I. Падземная частка расліны.*
*II. Велічыня, якая пры ўзвядзенні ў пэўную ступень дае патрэбны лік (у матэматыцы).*

## ГУБЫ

Гэта губы з перакосам:
Тут адна — у нас пад носам,
А другая вунь аж дзе!
Трэба плысці па вадзе.
Як з такімі можна жыць?
Як іх банцікам злажыць?

*I. Губы чалавека.*
*II. Назва бухты на поўначы СССР.*

## ДВА БАРАНЫ... А ШТО ЗА ЯНЫ?

Цёзкі два — бараны,
Ды не ў згодзе яны —
Кожны сам па сабе
Сваю ношку вязе:
Адзін траўку скубе,
Другі дошку грызе.

*I. Самец авечкі.*
*II. Сталярны інструмент (вялікі гэбель).*

## ДВА СУЛТАНЫ

Сядзіць на дыване
Султан на султане,
А што гэта значыць,
Прашу растлумачыць.

*I. Упрыгожанне з пёраў ці конскіх валасоў на галаўных уборах.*
*II. Тытул манарха ў некаторых мусульманскіх краінах.*

## ЖУРАЎЛІ

Журавель лунае
Той, што крылы мае,
А другі, бяскрылы,
Напружвае сілы,
Каб дастаць вадзіцы
Слаўнай маладзіцы.

*I. Пералётная балотная птушка.*
*II. Прылада для даставання вады з калодзежа.*

## КАЛЕНА

Тут гаворка пра калена...
Знаю я кален нямала:
Ёсць калена у палена,
Ёсць калена у метала.
Паглядзі сюды-туды,
Яго ўбачыш і ў вады,
Ёсць калена ў салаўя —
Гэта добра знаю я,
А што ёсць у чалавека,
Гэта знае й недарэка.

*I. Крывізна дрэва.*
*II. Месца згібу металічнага вырабу.*
*III. Калена ракі.*
*IV. Калена салаўінай песні.*
*V. Месца згібу нагі.*

## КАСА

Я касой траву кашу
У зялёным лузе,
А другую я нашу
Пастаянна ў пузе.
Трэцюю, я вам скажу,
Носіць мая дочка,
На чацвёртай я ляжу —
Грэюся ў пясочку.

*I. Сельскагаспадарчая прылада.*
*II. Падстраўнікавая залоза, селязёнка.*
*III. Жаночая прычоска.*
*IV. Вузкая доўгая мель, звычайна пясчаная.*

## КІТЫ

Аднаго ты ўбачыш у моры,
А другога ў сваім акне.
Угадай жа, хто з іх каторы,
І скажы па сакрэту мне.

*I. Марская жывёліна.*
*II. Аконная замазка.*

## ЛЬВЫ НЕ АДНОЙ ПАРОДЫ

Леў — магутны цар звяроў,
Як мы чулі, жыў-здароў.
А такога не было б,
Каб не еў ён антылоп.

Ёсць на свеце леў другі,
Па натуры не благі:
Між людзей той ходзіць леў,
І нікога ён не з'еў.

*I. Драпежнік з сям'і кашэчых.*
*II. Грашовая адзінка Народнай Рэспублікі Балгарыі.*

### НОС

Носам мы прывыклі дыхаць
І са злосці можам чмыхаць,
Задзіраць яго да неба
І ўтыкаць, куды не трэба.
А хто бачыў такі нос,
Каб на ім бярэзнік рос?

*I. Орган нюху.*
*II. Частка сушы, якая клінам удаецца ў ваду.*

### ОХ ВЫ, КОНІ МАЕ, КОНІ!

Коні ўдалыя, але ж
Разам іх не запражэш.
На адным мы з вецярком
Прагуляемся вярхом.
А захочам, дык і ў брычцы
На ім можна пракаціцца.
Другі конік — гарбунок
З галавою, ды без ног —
На яго вярхом не сядзеш.
Дзіва ўсё ж, калі паглядзіш,
Як ён жвава, спрытна скача
(Не якая-небудзь кляча),
І не ўмее хоць брыкацца,
Каралі яго баяцца.

*I. Дамашняя жывёліна.*
*II. Шахматная фігура.*

### РОГІ

У калгасе ўчора я
Бачыў рогі бугая.
Ну і рогі! Не дай бог
Трапіць вам на гэткі рог.
А мне кажуць цёткі дзве:
«На рагу каваль жыве».

Уявіць я не магу,
Як сядзіць ён на рагу,
І хацеў бы хоць здаля
Паглядзець на каваля.

*І. Рог жывёлы.*
*ІІ. Рог вуліцы.*

## РУБЕЛЬ

Узяў рубель, уціснуў воз,
Запрог кабылу і павёз —
Ну як тут можна «біць рублём»?
Мы так кагось насмерць заб'ём.
Каб лепш дабіцца пэўнай мэты,
Мы б'ём рублём, але не гэтым.

*І. Тоўстая жэрдка, якой уціскаюць воз (сена, саломы і г. д.).*
*ІІ. Грашовая адзінка.*

## САХА

Змалку ўжо вядома мне —
Месца ёй у баразне,
Нам і тое не ў навінку,
Што саха ёсць і ў будынку;
Хоць яна і не арэ —
На сябе цяжар бярэ.

*І. Прылада для апрацоўкі глебы.*
*ІІ. Апорны слуп, на які апіраецца канец кладзі.*

## СВІННЯ

Мы прывыклі, што свіння
Нам трапляецца штодня:
Ці на ферме на сяле,
Ці ў талерцы на стале.

Не змагаемся ніколі
Мы ўжо з ёй на ратным полі,
Як калісьці продкі ў згодзе
Бралі ў клешчы гэту дзёдзю.
І не раз, відаць, тады
Ім прыходзілася туга,
Як ламала іх рады
Гэта страшная звяруга.

*I. Дамашняя жывёліна.*
*II. Парадак настраення войск*
*у выглядзе кліна ў старажытнасці.*

**СКАТ**

Коцяцца скаты і ўночы і ўдзень —
Шчыра працуюць для добрых людзей;
Колы з'ядналыя хутка бягуць —
Час наш і сілы яны берагуць.
Ёсць на планеце зусім іншы скат,
Першаму скату не брат і не сват —
Люты драпежнік, сапраўдны пірат.
Спуску нікому той скат не дае:
Хто б ні сустрэўся, маланкай заб'е.

*I. Камплект колаў вагона, аўтамашыны, павозкі і г. д.*
*II. Электрычны скат — драпежная марская рыба.*

**СОЛЬ**

Ужываю я дзве солі,
Калі гэта мне да месца:
Без адной я — невясёлы,
Без другой — абед не есца.

*I. Нота.*
*Пяты гук музычнай гамы, якая пачынаецца з «до».*
*II. Сталовая соль.*

## СУМКА

Калі я ў магазін іду,
Заўсёды сумкі дзве са мной.
Прадукты я ў адну кладу.
Але другую, не такую,
Я ўжо ніяк не напакую:
Яна схавана за сцяной.

*I. Гаспадарчая сумка.*
*II. Сардэчная сумка (у анатоміі).*

## ТАРАН

Хоць на ім убор блішчасты —
Зіхаціць нібыта ў срэбры,
Сам-то ён — таран няшчасны:
Толькі скура ў ім ды рэбры,
Ні пажывы, ні наедку.
Але я чытаў даведку
Старадаўняе пары,
Што таран тады нярэдка
Разбіваў, крышыў муры.

*I. Рыба сямейства карпавых.*
*Тут маецца на ўвазе таран сушаны.*
*II. Сценабітная прылада.*

## ЦЫГАНКА

Мне цыганка варажыла —
Выцягала з мяне жылы.
Потым я сядзеў на ганку —
З апетытам еў «цыганку».

*I. Жанчына цыганскай народнасці.*
*II. Сорт яблыкаў.*

## ШТО ВЫ СКАЖАЦЕ ПРА ГРЭБЕНЬ?

Грэбень шмат каму патрэбен:
І расчэсваць валасы,
І жывёле для красы,
І прываблівым жанчынам,
І завоблачным вяршыням,
Бурнай пеністай вадзе
І касматай барадзе.
Словам, дзе ні грабяні,
Ўсюды трэба грабяні.
Як жа, каб не памыліцца,
Іх раскласці па паліцах?

*I. Расчоска для валасоў.*
*II. Грабеньчык на галаве птушкі.*
*III. Зубчаты край чаго-небудзь.*
*IV. Грэбень хвалі.*

## ШТО Я ЧУЮ!

Чую я — «норка залезла ў норку».
Дзіўна мне слухаць такую гаворку,
Гэта ж, па-мойму, проста лухта:
Хіба ж кот улезе ў ката?

*I. Невялікая нара.*
*II. Драпежны пушны звярок.*

*1984*

## УПЛЫЛА!

*(Разговор курсантов)*

На военных политкурсах
4-й Смоленской дивизии ни с сего
ни с того за 4 дня июля месяца
пропала рыба.
Завхоз отговаривается тем,
что вышло недоразумение с тарой.

— Ну, миляга, как дела?
— Да, вишь, рыба уплыла.
— Где? Когда? Какая рыба?
Ты напутал тут что-либо.
— Бочка рыбы. Ей-же-ей!
Пудов с десять было в ней,
На четыре, значит, дня...
— Огорчил же ты меня...
Ну, а что же наш «завхвост» —
Не ловил ее за хвост?
— Да тут, вишь ли, говорят,
Что завхоз не виноват,
Виновата будто тара...
— Э! Да эта песня стара.
У них вечно «тара», «брутто»,
Все они, канальи, врут-то,
Из-за них же мы потом —
С опустелым животом.
Ну, а рыба не уйдет.
Она, верно, попадет
Скоро в мутную водицу.
Тут ее и цоп, сестрицу.
Но не мы, конечно... Нет...
И без нас велик ведь свет,
А на этом белом свете
Спец-«рыбак» сидит на спеце.

*1922*

## ЖАНЧЫНАМ-КУПАЛАЎКАМ

Са слаўнаю датай жаночага свята
Вітанне сардэчнае вам ад Кандрата,
Як некалі, шчыра віншую вас зноў я,
Жадаю вам поспехаў, шчасця, здароўя —
Заўжды каб на сцэне вы цуды тварылі,
Каб новыя радасці людзям дарылі.

*08.03.77*

## ЧАСТУШКІ

Мой мужык — такі дурніла! —
Піў гарэлку і «чарніла».
Пасадзілі на ваду —
Я забыла пра бяду.

Як з піжонкай я спазнаўся,
Мой настрой высока ўзняўся,
А як фірму з фіфы зняў,
Дык настрой адразу звяў.

*1984*

## ЭПІГРАМЫ

***

Ён заганы, непаладкі
Выпякаў жалезам,
Смела рэзаў праўду-матку,
Пакуль не зарэзаў.

*1984*

***

Бярэ на пуп штукар мадэрнай ліры:
Ён майстар выжымаць пластмасавыя гіры.

*1984*

## ШАФА «КНІГАЛЮБА»

Стала цесна ў шафе кніжнай
Літпрадукцыі «прэстыжнай»,
А мае дзесь там няма,
Ах, чаму я не Дзюма!

*1984*

## СМЯРОТНАЯ РЫЗЫКА

Крытыкаваў ён маладых,
Часамі ім даваў пад дых
(Дзяўбаць жа іх заўсёды можна),
А раз масцітага крануў неасцярожна
І пераджыў эмоцый буру.
Як быццам засланіў плячамі амбразуру.

*1984*

## НА АПОВЕСЦЬ Т. БОНДАР «ЖЫВЫЯ ЖЫВУЦЬ»

Вось дык цуд! Жывуць жывыя!
Дышуць, любяць, ходзяць, едуць.
А што робяць нежывыя,
Мы б яшчэ хацелі ведаць.
Можа, аўтар, як аддыша,
І пра гэта нам напіша.

*1985*

## НІ МЁДУ, НІ СМУРОДУ

Жанішок з чырвоным тварам
Дыша чорным перагарам,
План вандроўкі шлюбнай меціць,
Шэпча пра мядовы месяц,
А нявеста дае ходу —
Лепш ні мёду, ні смуроду.

*07.11.85*

## РЭЙГАН-«КАСМАНАЎТ»

Рвецца Рэйган у эфір
І высока нос нясе:
Абяцае нам ён мір
Праз САІ[1] у космасе,
Каб вісеў над галавой
Меч дамоклаў «зорных войн».

А мы Рэйгану ў адказ:
— Не абдурыш, містэр, нас.
Знаем шчырасць мы тваю,
За касмічны торг сэнк'ю[2].
Нас у госці не прасі,
Як згатуеш — сам з'ясі.

*1987*

---

[1] САІ — рэйганаўская «стратэгічная абаронная ініцыятыва» — падрыхтоўка да зорных войн.
[2] Сэнк'ю (thank you) *(англ.)* — дзякуй.

# КАМЕНТАРЫІ

У заключны том шасцітомнага Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы ўвайшлі пераклады, публіцыстычныя і навуковыя артыкулы, экспертныя заключэнні і водзывы на дысертацыйныя даследаванні, прамовы і прадмовы, інтэрв'ю і эпіграмы, выступленні і пісьмы, кніга для дзяцей «Загадкі дзеда Кандрата». За выключэннем кнігі загадак, перакладаў і некалькіх артыкулаў, усе матэрыялы друкуюцца ўпершыню. Тэксты пісем друкуюцца па аўтографах, якія ў пераважнай сваёй большасці захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі. Размешчаны яны ў храналагічнай паслядоўнасці. У каментарыях да кожнага пісьма даецца скарочаная назва ўстановы (БДАМЛіМ), нумары фонду, вопісу і адзінкі захавання. Іншыя выпадкі агаворваюцца асобна. Даведкі пра адрасатаў даюцца пры першым іх упамінанні. Аўтографы ж навуковых артыкулаў, водзываў, прамоў і выступленняў захоўваюцца ў асабістым архіве пісьменніка (Аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — далей АРКР ЦНБ НАНБ). На жаль, абмежаваныя памеры выдання не дазволілі поўна прадставіць ні публіцыстычную, ні навукова-літаратуразнаўчую, ні мовазнаўчую, ні перакладчыцкую, ні эпісталярную спадчыну К. Крапівы.

Завяршаецца том алфавітным паказальнікам твораў, змешчаных ва ўсіх шасці тамах выдання.

## ПЕРАКЛАДЫ

### Іван Крылоў

*Варона і Лісіца* (с. 6)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» (1944, 21 лістап.). Друкаваўся таксама ў кн. І. А. Крылова «Байкі» (Мн., 1945 і 1950). Датуецца 1944 г. Пераклады баек І. А. Крылова друкуюцца паводле выдання: Крапіва К. Збор твораў: У 5 т. Мн., 1976. Т. 5.

*Крылоў Іван Андрэевіч* (02.02.1769—09.11.1844), рускі пісьменнік, байкапісец, журналіст. Аўтар камічнай оперы «Кафейніца» (1782), трагедый

«Клеапатра» (1785), «Філамена» (1786), камедый «Свавольнікі» (1787—1788), «Шалёная сям'я» (1788), «Модная крама» (1806), «Урок дочкам» (1807). Сусветную вядомасць атрымалі яго байкі. На беларускую мову байкі І. А. Крылова пачалі перакладаць яшчэ ў XIX ст. (А. Абуховіч, Ф. Багушэвіч, М. Косіч). У XX ст. байкі перакладалі М. Клімковіч, В. Таўлай, Я. Брыль, М. Лужанін, М. Танк, А. Якімовіч і інш. Асабліва плённа і мэтанакіравана перакладаў байкі І. А. Крылова Кандрат Крапіва.

*Дуб і Трысціна* (с. 7)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуецца 1950 г.

Пераклады баек І. А. Крылова *«Пераборлівая нявеста»* (с. 8), *«Парнас»* (с. 9), *«Аракул»* (с. 10), *«Васілёк»* (с. 11), *«Лес і Агонь»* (с. 12), *«Чыж і Вожык»* (с. 13), *«Малпы»* (с. 14), *«Сініца»* (с. 15), *«Асёл»* (с. 16), *«Два Галубы»* (с. 17), *«Чырвонец»* (с. 20), *«Траяжэнец»* (с. 21), *«Арол і Куры»* (с. 21), *«Жабы, якія прасілі Цара»* (с. 22), *«Леў і Барс»* (с. 24), *«Вяльможа і Філосаф»* (с. 25), *«Паморак»* (с. 25), *«Сабачая дружба»* (с. 28), *«Падзел»* (с. 29), *«Бочка»* (с. 30) упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуюцца 1950 г.

*Воўк на псярні* (с. 31)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» (1944, 21 лістап.). Друкаваўся таксама ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуецца 1944 г.

*Ручай* (с. 31)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуецца 1950 г.

*Лісіца і Сурок* (с. 33)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуецца 1950 г.

*Хлус* (с. 33)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1945). Друкаваўся таксама ў выданні 1950 г. Датуецца 1945 г.

*Арол і Пчала* (с. 35)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуецца 1950 г.

Пераклады баек І. А. Крылова *«Заяц на аблаве»* (с. 36), *«Воўк і Зязюля»* (с. 37), *«Певень і Жамчужнае Зерне»* (с. 38), *«Абоз»* (с. 38), *«Груганя»* (с. 39), *«Асёл і Салавей»* (с. 40), *«Воўк і Пастухі»* (с. 41), *«Селянін і Змяя»* (с. 41) упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуюцца 1950 г.

*Свіння пад Дубам* (с. 42)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» (1944, 21 лістап.). Друкаваўся таксама ў кн. «Байкі» (Мн., 1945 і 1950). Датуецца 1944 г.

*Муха і Пчала* (с. 43)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуецца 1950 г.

*Змяя і Авечка* (с. 43)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуецца 1950 г.

*Селянін і Авечка* (с. 44)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуецца 1950 г.

*Багацей і Паэт* (с. 45)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў часоп. «Вожык» (1969, № 3). Датуецца 1969 г.

*Воўк і Мышаня* (с. 46)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуецца 1950 г.

*Два Мужыкі* (с. 46)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1950). Датуецца 1950 г.

*Два Сабакі* (с. 47)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1945). Друкаваўся таксама ў выданні 1950 г. Датуецца 1945 г.

*Кошка і Салавей* (с. 48)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1945). Друкаваўся таксама ў выданні 1950 г. Датуецца 1945 г.

*Прыхаджанін* (с. 49)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў часоп. «Полымя» (1969, № 2). Датуецца 1969 г.

*Сабака і Конь* (с. 50)

Пераклад байкі І. А. Крылова. Упершыню надрукаваны ў кн. «Байкі» (Мн., 1945). Друкаваўся таксама ў выданні 1950 г. Датуецца 1945 г.

## Тарас Шаўчэнка

*Наймічка* (с. 51)

Пераклад паэмы Т. Р. Шаўчэнкі. Упершыню надрукаваны ў кн. «Кабзар» (Мн., 1939, другое выд. 1952). Друкаваўся таксама ў кн. «Выбраныя творы» (Мн., 1941). Друкуецца паводле выдання: Крапіва К. Збор твораў: У 5 т. Мн., 1976. Т. 5. Датуецца 1939 г.

*Шаўчэнка Тарас Рыгоравіч* (25.02.1814—26.02.1861), украінскі паэт, мастак. Аўтар паэм «Кацярына» (1838), «Гайдамакі» (1841), «Сон» (1844), «Каўказ» (1845), «Наймічка» (1845), «Ерэтык» (1845) і інш. На беларускую мову творы Т. Шаўчэнкі перакладалі Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, П. Броўка, А. Куляшоў, П. Глебка, М. Клімковіч і інш.

*І мёртвым, і жывым, і ненароджаным...* (с. 65)

Пераклад верша-паслання Т. Р. Шаўчэнкі. Упершыню надрукаваны ў кн. «Кабзар» (Мн., 1939, другое выд. 1952). Друкаваўся таксама ў кн. «Выбраныя вершы і паэмы» (Мн., 1948). Друкуецца паводле выдання: Крапіва К. Збор твораў: У 5 т. Мн., 1976. Т. 5. Датуецца 1939 г.

## Адам Міцкевіч

*Звон і Звонікі* (с. 72)

Пераклад байкі А. Міцкевіча. Упершыню надрукаваны ў кн.: Міцкевіч А. Выбраныя творы. Мн., 1955. Друкуецца паводле выдання: Крапіва К. Збор твораў: У 5 т. Мн., 1976. Т. 5. Датуецца 1955 г.

*Міцкевіч Адам* (24.12.1798—26.11.1855), польскі паэт. Аўтар паэм «Гражына» (1823), «Дзяды» (1823—1832), «Конрад Валенрод» (1828), «Пан Тадэвуш» (1834), вершаў, балад, санетаў. Творы А. Міцкевіча на беларускую мову перакладалі В. Дунін-Марцінкевіч, А. Ельскі, А. Гурыновіч, Я. Купала, Я. Колас, М. Танк, А. Куляшоў, П. Панчанка, Я. Семяжон, П. Бітэль, У. Караткевіч і інш.

*Блыха і Рабін* (с. 72)

Пераклад байкі А. Міцкевіча. Упершыню надрукаваны ў кн.: Міцкевіч А. Выбраныя творы. Мн., 1955. Друкуецца паводле выдання: Крапіва К. Збор твораў: У 5 т. Мн., 1976. Т. 5. Датуецца 1955 г.

*Сябры* (с. 72)

Пераклад байкі А. Міцкевіча. Упершыню надрукаваны ў кн.: Міцкевіч А. Выбраныя творы. Мн., 1955. Друкаваўся таксама ў кн.: Міцкевіч А. «Зямля навагрудская, краю мой родны...» Мн., 1968; Міцкевіч А. Вершы і паэмы. Мн., 2000 і інш. Датуецца 1955 г.

## Антон Чэхаў

*Хамелеон* (с. 74)

Пераклад апавядання А. П. Чэхава. Упершыню надрукаваны ў кн.: Чэхаў А. Выбраныя творы. Мн., 1937 (другое выд. 1954). Друкаваўся таксама ў рэпертуарным зборніку «Вершы, аднаактовыя п'есы, апавяданні» (Мн., 1961). Датуецца 1937 г.

*Чэхаў Антон Паўлавіч* (17.01.1860—02.07.1904), рускі пісьменнік. Аўтар класічных аповесцей і апавяданняў «Сумная гісторыя» (1889), «Дуэль» (1891), «Дом з мезанінам» (1896), «Іоныч» (1898), «Дама з сабачкам» (1899), «Мужыкі» (1897), «Палата № 6» (1892); п'ес «Чайка» (1896), «Дзядзя Ваня» (1897), «Тры сястры» (1901), «Вішнёвы сад» (1904) і інш. На беларускую мову творы А. Чэхава перакладалі Н. Чарноцкі, В. Шашалевіч, Я. Брыль, І. Шамякін, Я. Маўр, П. Пестрак, М. Лужанін, А. Васілевіч, І. Грамовіч, В. Каваль, Т. Хадкевіч, А. Якімовіч і інш.

## Уладзімір Маякоўскі

*Незвычайная прыгода, што адбылася з Уладзімірам Маякоўскім на дачы* (с. 78 )

Пераклад верша У. У. Маякоўскага. Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1938, 16 крас.). Друкаваўся ў кн.: Маякоўскі У. Выбраныя творы. Мн., 1940 (другое выд. 1952); Руская савецкая паэзія. Мн., 1953; часоп. «Полымя» (1983, № 7). Друкуецца паводле выдання: Крапіва К. Збор твораў: У 5 т. Мн., 1976. Т. 5. Датуецца 1938 г.

*Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч* (19.07.1893—14.04.1930), рускі паэт, драматург. Аўтар паэм «Вайна і мір» (1915—1916), «Воблака ў штанах» (1915), «Флейта-пазваночнік» (1915), «Чалавек» (1916—1917), «150000000» (1919—1921), «Люблю» (1922), «Пра гэта» (1922—1923), «Уладзімір Ільіч Ленін» (1924), «Добра» (1927); п'ес «Містэрыя-буф» (1918), «Клоп» (1928), «Лазня» (1929), шматлікіх вершаў. На беларускую мову творы У. Маякоўскага перакладалі М. Хведаровіч, М. Лужанін, Ю. Таўбін, П. Броўка, В. Вітка, А. Куляшоў, М. Танк, К. Кірэенка, А. Астрэйка, М. Клімковіч, У. Шахавец і інш.

### Аляксандр Твардоўскі

*Як Даніла паміраў* (с. 82)

Пераклад верша А. Т. Твардоўскага. Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1953, 11 ліп.). Друкаваўся таксама ў кн.: Твардоўскі А. Выбраныя творы. Мн., 1953; Руская савецкая паэзія. Мн., 1953 і інш. Друкуецца паводле выдання: Крапіва К. Збор твораў: У 5 т. Мн., 1976. Т. 5. Датуецца 1953 г.

*Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч* (08.06.1910—18.12.1971), рускі паэт. Аўтар паэм «Шлях да сацыялізму» (1931), «Краіна Муравія» (1936), «Васіль Цёркін» (1942—1945), «Дом ля дарогі» (1946), «Цёркін на тым свеце» (1963), «За даллю — даль» (1953—1960), шматлікіх вершаў, публіцыстычных артыкулаў. Быў добрым знаўцам і прыхільнікам беларускай літаратуры. На беларускую мову творы А. Твардоўскага перакладалі П. Броўка, М. Танк, А. Куляшоў, М. Лужанін, А. Бялевіч, А. Русак, М. Калачынскі, Р. Няхай і інш.

## АРТЫКУЛЫ, ВЫСТУПЛЕННІ, ВОДЗЫВЫ, ІНТЭРВ'Ю

### Артыкулы, выступленні

*Жадаю далейшых поспехаў* (с. 86)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1934, 1 чэрв.). Датуецца 1934 г.

*Гледзячы на экран* (с. 87)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Известия» (1942, 2 лют.). Датуецца 1942 г.

*Не будзем спрачацца* (с. 88)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Партызанская дубінка» (1943, лют., № 2). Датуецца 1943 г.

*Як нарадзілася «вутка»* (с. 89)

Упершыню пад псеўданімам Астапчук надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну» (1943, ліп., № 95). Датуецца 1943 г.

*Што яны сабе думаюць...* (с. 90)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну» (1945, студз., № 138). Датуецца 1945 г.

*Белорусская драматургия* (с. 91)

Напісанне артыкула прымеркавана да гастроляў тэатра імя Янкі Купалы ў Польшчы, якія адбыліся восенню 1955 г. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1. Датуецца 1955 г.

*Он заслужил любовь народа* (с. 97)

Упершыню апублікаваны ў «Лит. газете» (1956, 16 жн.). Датуецца 1956 г.

*Любовь к народу* (с. 100)

Упершыню надрукаваны ў «Лит. газете» (1957, 5 снеж.). Прысвячаўся 80-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Латвійскай ССР Андрэя Упіта. Датуецца 1957 г.

*Отрадные приметы* (с. 101)

Артыкул напісаны як водгук на прыняцце трэцяй Праграмы КПСС XXII з'ездам. Публікацыя не выяўлена. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 127. Датуецца 1961 г.

*Гений* (с. 105)

Артыкул прымеркаваны да 125-годдзя з дня смерці А. С. Пушкіна. Публікацыя не выяўлена. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 129. Датуецца 1962 г.

*Вынужденная реплика на поверхностную характеристику* (с. 107)

Рэпліка напісана ў сувязі з крытыкай перакладу на беларускую мову назвы п'есы А. Астроўскага «На всякого мудреца довольно простоты», якая прагучала са старонак газеты «Знамя юности» ад 13 лістап. 1962 г. Сааўтар — Ю. Гаўрук. Публікацыя не выяўлена. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 130. Датуецца 1962 г.

*Начало пути* (с. 109)

Артыкул напісаны да 45-годдзя з дня заснавання газеты «Красноармейская правда». Публікацыя не выяўлена. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 136. Датуецца 1966 г.

*Гениальный художник* (с. 110)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Во славу Родины» (1968, 28 сак.). Датуецца 1968 г.

*З нагоды свята* (с. 113)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1968). Датуецца 1968 г.

*Непадкупная слава народная* (с. 115)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1969, 11 лют.). Датуецца 1969 г.

*Слова ад сэрца* (с. 117)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1969, 11 крас.). Датуецца 1969 г.

*Спасибо тебе, дедушка Крылов...* (с. 118)

Артыкул прымеркаваны да 200-годдзя з дня нараджэння І. А. Крылова. Публікацыя не выяўлена. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 145. Датуецца 1969 г.

*Наша свята* (с. 120)

Артыкул прымеркаваны да 50-годдзя з дня ўтварэння БССР. Публікацыя не выяўлена. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 147. Датуецца 1969 г.

*Вялікіх творчых поспехаў* (с. 121)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1970, 11 верас.). Датуецца 1970 г.

*Андрею Макаенку — 50 лет* (с. 123)

Упершыню надрукаваны ў «Лит. газете» (1970, 11 лістап.). Датуецца 1970 г.

*Нізка схіляю галаву...* (с. 124)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1970, 20 лістап.). Датуецца 1970 г.

*Вітанне Беларускаму універсітэту* (с. 124)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1971, 29 кастр.). Датуецца 1971 г.

*Грамадская неабходнасць і беспадстаўнае наватарства* (с. 125)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» (1972, 29 сак.). Датуецца 1972 г.

*Памятная сустрэча* (с. 136)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Вожык» (1972, № 16). Датуецца 1972 г.

*Великое единение* (с. 137)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Лит. обозрение» (1974, № 9). Датуецца 1974 г.

*Мы смяяліся* (с. 139)

Артыкул пісаўся для часоп. «Вожык». Публікацыя не выяўлена. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 161. Датуецца 1974 г.

*Давняя привязанность* (с. 139)

Артыкул пісаўся для газ. «Сов. культура». Публікацыя не выяўлена. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 163. Датуецца 1974 г.

*Братам-суседзям — шчырае прывітанне!* (с. 141)

Артыкул пісаўся для ўкраінскага часоп. «Вітчызна». Публікацыя не выяўлена. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 168. Датуецца 1975 г.

*Больш ярка раскрываць чалавечыя якасці* (с. 142)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1975, 4 студз.). Датуецца 1974 г.

*Багацце душы і таленту* (с. 143)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1975, 27 чэрв.), друкаваўся таксама ў часоп. «Весці АН БССР» (1974, № 3). Датуецца 1975 г.

*У працы і ў дружбе* (с. 148)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Полымя» (1975, № 7). Датуецца 1975 г.

*Памяці народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка АН БССР М. Ц. Лынькова* (с. 154)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Весці АН БССР» (1975, № 9). Сааўтары — П. Броўка, І. Навуменка, М. Танк. Датуецца 1975 г.

*Першая сустрэча* (с. 156)

Артыкул прымеркаваны да 50-годдзя з дня ўтварэння тэатра імя Якуба Коласа. Публікацыя не выяўлена. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 169. Датуецца 1976 г.

*Скарбы творчай дружбы* (с. 157)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» (1976, 27 мая). Датуецца 1976 г.

*Памятные встречи* (с. 159)

Успаміны напісаны для Музея літаратуры Літоўскай ССР. Датуюцца 14.XII-1977 г.

*Первая ласточка* (с. 161)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Сов. культура» (1978, 21 лют.). Датуецца 1978 г.

*Жыццё патрабуе* (с. 163)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Беларуская лінгвістыка» (1978, № 3). Датуецца 1978 г.

*Мой родны Мінск* (с. 166)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва» (1978, 24 лістап.). Датуецца 1978 г.

*На скрыжаванні шляхоў і падзей* (с. 168)

Упершыню надрукаваны ў кн. «Святло яго душы» (Мн., 1979). Датуецца 1979 г.

*Ці будзем мы ездзіць па левым баку?* (с. 179)

Упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда» (1979, 14 чэрв.). Датуецца 1979 г.

*У памяці і ў сэрцы* (с. 189)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Полымя» (1982, № 6). Датуецца 1982 г.

*З думай аб шчасці народа* (с. 194)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Полымя» (1982, № 10). Датуецца 1982 г.

*Дабратворны паварот* (с. 199)

Упершыню надрукаваны ў часоп. «Беларусь» (1984, № 9). Датуецца 1984 г.

**Водзывы, рэцэнзіі**

*Отзыв на роман М. Т. Лынькова «Незабываемые дни»* (с. 201)

Напісаны ў якасці выдавецкай рэцэнзіі на рускамоўнае выданне рамана (М., 1953, пер. В. Тарсіс). Не друкаваўся. Рукапіс захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 347. Датуецца 1952 г.

*Водзыў на дысертацыю М. В. Бірылы «Гаворкі Чырвонаслабодскага раёна Бабруйскай вобласці»* (с. 203)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на кандыдацкую дысертацыю М. В. Бірылы. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 348. Датуецца 1953 г.

*Отзыв о диссертации П. П. Доценко на соискание ученой степени кандидата филологических наук на тему «Лексические и грамматические особенности поэм А. Малышко»* (с. 208)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на кандыдацкую дысертацыю П. П. Дацэнкі. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 349. Датуецца 1953 г.

*Отзыв на диссертационную работу В. В. Ивашина «Творчество Янки Купалы периода революции 1905—1907 гг.»* (с. 212)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на кандыдацкую дысертацыю В. У. Івашына. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 350. Датуецца 1953 г.

*Водзыў на дысертацыю Я. М. Рамановіч «Гаворкі Уздзенскага раёна Мінскай вобласці»* (с. 220)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на кандыдацкую дысертацыю Я. М. Рамановіч. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 351. Датуецца 1953 г.

*Водзыў аб дысертацыі З. А. Нятылька «Тэма ўз'яднання беларускага народа ў творчасці Якуба Коласа»* (с. 225)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на кандыдацкую дысертацыю З. А. Нятылька. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 352. Датуецца 1954 г.

*Отзыв о диссертационной работе М. Р. Судника «К истории белорусской лексикографии (XVI—XVII вв.)»* (с. 232)

Напісаны ў якасці заключэння навуковага кіраўніка кандыдацкага даследавання М. Р. Судніка. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 353. Датуецца 1954 г.

*Рэцэнзія на аповесць Якуба Коласа «На ростанях»* (с. 234)

Напісана па просьбе выдавецтва на прадмет адабрэння першага выдання трылогіі Я. Коласа «На ростанях» (Мн., 1955). Не друкавалася. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 354. Датуецца 1955 г.

*Отзыв о докторской диссертации В. В. Борисенко на тему «Ф. Богушевич и проблема реализма в белорусской литературе XIX века»* (с. 236)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на доктарскую дысертацыю В. В. Барысенкі. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 11, в. 1, адз. зах. 355. Датуецца 1956 г.

*Водзыў на кандыдацкую дысертацыю М. І. Крукоўскага на тэму «Роля рускай мовы ва ўзбагачэнні лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы»* (с. 244)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на кандыдацкую дысертацыю М. І. Крукоўскага. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 356. Датуецца 1956 г.

*Отзыв о докторской диссертации Л. И. Фигловской на тему «Творчество Якуба Коласа»* (с. 252)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на доктарскую дысертацыю Л. І. Фіглоўскай. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 357. Датуецца 1957 г.

*Водзыў аб дысертацыі Л. І. Бурака на тэму «Складаназлучаныя сказы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове»* (с. 260)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на кандыдацкую дысертацыю Л. І. Бурака. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 358. Датуецца 1958 г.

*Отзыв о диссертации А. В. Орешонковой «Личные формы глаголов настоящего времени в белорусской письменности XVI века»* (с. 266)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на кандыдацкую дысертацыю Г. У. Арашонкавай. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 359. Датуецца 1958 г.

*Рэцэнзія на працы акадэміка Акадэміі навук БССР, паэта П. Ф. Глебкі* (с. 272)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння на прадмет прысуджэння П. Ф. Глебку вучонай ступені доктара філалагічных навук без абароны дысертацыі. Не друкавалася. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 360. Датуецца 1960 г.

*Водзыў аб дысертацыі П. У. Стэцко «Прадметна-бытавая лексіка зэльвенскіх гаворак»* (с. 280)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на кандыдацкую дысертацыю П. У. Стэцко. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 361. Датуецца 1962 г.

*Отзыв о работе В. В. Ивашина «У истоков социалистического реализма», представленной на соискание ученой степени доктора филологических наук* (с. 289)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на доктарскую дысертацыю В. У. Івашына. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 362. Датуецца 1963 г.

*Водзыў аб дысертацыі Л. А. Ванковіча «Лексіка твораў Янкі Купалы 1905—1907 гадоў»* (с. 296)

Напісаны ў якасці заключэння навуковага кіраўніка дысертацыйнага (кандыдацкага) даследавання Л. А. Ванковіча. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 363. Датуецца 1964 г.

*Водзыў на дысертацыю У. М. Конана «Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі ў 1917—1934 гг.»* (с. 298)

Напісаны ў якасці заключэння навуковага кіраўніка дысертацыйнага (кандыдацкага) даследавання У. М. Конана. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 364. Датуецца 1968 г.

*Водзыў на дысертацыю І. Я. Навуменкі «Канцэпцыя чалавека ў творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа»* (с. 301)

Напісаны ў якасці навукова-экспертнага заключэння апанента на доктарскую дысертацыю І. Я. Навуменкі. Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 365. Датуецца 1969 г.

*Заўвагі да паэмы А. Бачылы «Рубеж памяці»* (с. 310)

Напісаны ў якасці выдавецкай рэцэнзіі. Не друкаваліся. Захоўваюцца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1, адз. зах. 365. Датуюцца 1976 г.

*Рэдакцыі часопіса «Полымя»* (с. 311)

Водзыў на артыкул М. Лужаніна «Магчымасці мовы». Не друкаваўся. Захоўваецца ў АРКР ЦНБ НАНБ, ф. 22, в. 1. адз. зах. 369. Датуецца 6.IV-1977 г.

## ІНТЭРВ'Ю

*«Народнасць — выдатная якасць нашай літаратуры»* (с. 314)

Упершыню надрукавана ў газ. «Літ. і мастацтва» (1977, 12 жн.). Інтэрв'ю браў У. Анісковіч. Датуецца 1977 г.

*Превратности жанра* (с. 324)

Упершыню надрукавана ў часоп. «Неман» (1980, № 2). Інтэрв'ю браў С. Лаўшук. Датуецца 1980 г.

*«Што знойдзена папярэднікамі...»* (с. 334)

Упершыню надрукавана ў газ. «Літ. і мастацтва» (1984, 18 мая). Інтэрв'ю брала Г. Каржанеўская. Датуецца 1984 г.

## ПІСЬМЫ

*№ 1. Да Я. С. Рамановіча* (с. 338)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 243, в. 1, спр. 292, л. 1—1 адв.).

*Рамановіч Яўген Сцяпанавіч* (21.01.1905—25.02.1979), беларускі пісьменнік, тэатральны дзеяч. У 1942 г. быў загадчыкам літаратурнай часткі Першага Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга драматычнага тэатра.

*№ 2. Да Л. Р. Рахленкі* (с. 339)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 367, в. 1, спр. 61, л. 1—1 адв.).

*Рахленка Леанід Рыгоравіч* (06.09.1907—09.03.1986), беларускі акцёр, рэжысёр. Народны артыст СССР. У 1942 г. быў мастацкім кіраўніком Першага Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга драматычнага тэатра.

*№ 3. Да І. Д. Гурскага* (с. 340)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 312, в. 1, спр. 98, л. 1—1 адв.).

*Гурскі Ілья Данілавіч* (26.04.1899—11.08.1972), беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. У 1942 г. быў адказным сакратаром франтавой газеты «За Савецкую Беларусь».

*№ 4. Да І. К. Атраховіча* (с. 341)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які знаходзіцца ў сямейным архіве пісьменніка.

*Атраховіч Ігар Кандратавіч* (02.05.1929—11.10.1991), беларускі архітэктар, мастак, сын пісьменніка.

*№ 5. Да Л. Р. Рахленкі* (с. 341)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 367, в. 1, спр. 61, л. 2—2 адв.).

*№ 6. Да І. Д. Гурскага* (с. 342)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 312, в. 1, спр. 98, л. 2).

*№ 7. Да У. Б. Карпава* (с. 343)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 305, в. 1, спр. 205, л. 1—1 адв.).

*Карпаў Уладзімір Барысавіч* (26.02.1912—06.08.1977), беларускі пісьменнік. У 1946 г. быў адказным сакратаром газеты «Літаратура і мастацтва».

*№ 8. Да А. А. Пракоф'ева* (с. 344)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 1—1 адв., 2).

*Пракоф'еў Аляксандр Андрэевіч* (02.12.1900—18.09.1971), рускі паэт. Герой Сацыялістычнай Працы. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі. Перакладчык твораў беларускай літаратуры.

*№ 9. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 344)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 3—3 адв., 4).

*Кабзарэўскі Павел Сямёнавіч* (сапр. Гардон Фавій Залманавіч; 14.08.1909—08.10.1970), рускі пісьменнік-перакладчык, які ў гэты час займаўся выданнем зборніка «Беларуская драматургія» ў перакладзе на рускую мову.

*№ 10. Да І. К. Атраховіча* (с. 345)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1474, л. 8—8 адв., 9—9 адв.).

*№ 11. Да І. К. Атраховіча* (с. 346)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1474, л. 1—1 адв., 2—2 адв.).

*№ 12. Да І. К. Атраховіча* (с. 347)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1474, л. 4—4 адв., 5).

*№ 13. Да І. К. Атраховіча* (с. 348)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1474, л. 11—11 адв., 12—12 адв.).

*№ 14. Да І. К. Атраховіча* (с. 350)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1474, л. 14—14 адв., 15—15 адв.).

*№ 15. Да Л. А. Бэндэ* (с. 351)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 803, л. 1).

*Бэндэ Лукаш Апанасавіч* (01.11.1903—23.12.1961), беларускі крытык і літаратуразнавец. Восень 1947-га — зіму і вясну 1948 г. Ігар Атраховіч кватараваў у Л. А. Бэндэ, навучаючыся ў Ленінградзе.

*№ 16. Да І. К. Атраховіча* (с. 352)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1474, л. 16—16 адв., 17—17 адв.).

*№ 17. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 353)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 5—5 адв.).

*№ 18. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 354)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1473, л. 4).

*№ 19. Да А. П. Кузняцова* (с. 355)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1473, л. 1).

*Кузняцоў Аляксей Пятровіч* — ленінградскі мастак, настаўнік Ігара Атраховіча.

*№ 20. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 356)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 6—6 адв., 7).

*№ 21. Да І. К. Атраховіча* (с. 356)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, спр. 1474, л. 19—19 адв., 20—20 адв.).

*№ 22. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 358)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 8—8 адв., 9—9 адв.).

*№ 23. Да І. К. Атраховіча* (с. 359)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1474, л. 22—22 адв., 23—23 адв.).

*№ 24. Да І. К. Атраховіча* (с. 360)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1474, л. 25—25 адв.).

*№ 25. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 361)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 10—10 адв., 11).

*№ 26. Да І. К. Атраховіча* (с. 362)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1474, л. 27—27 адв.).

*№ 27. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 363)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 12).

*№ 28. Да І. К. Атраховіча* (с. 364)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 66, в. 1, спр. 1474, л. 29—29 адв.).

*№ 29. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 364)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 13).

*№ 30. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 365)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 14).

*№ 31. Да А. І. Махнача* (с. 366)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 158, в. 1, спр. 182, л. 2).

*Махнач Алесь Іванавіч* (27.08.1922—07.08.2001), беларускі драматург, зямляк К. Крапівы.

*№ 32. Да І. К. Атраховіча* (с. 367)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які знаходзіцца ў сямейным архіве.

*№ 33. Да І. К. Атраховіча* (с. 368)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які знаходзіцца ў сямейным архіве.

*№ 34. Да М. Ц. Лынькова* (с. 369)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 191, в. 1, спр. 367, л. 1—1 адв.).

*Лынькоў Міхась Ціханавіч* (30.11.1899—21.09.1975), народны пісьменнік Беларусі, сябра К. Крапівы.

*№ 35. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 369)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 15—15 адв.).

*№ 36. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 370)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 16).

*№ 37. Да Я. С. Мазалькова* (с. 371)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 259, в. 1, спр. 361, л. 1).

*Мазалькоў Яўген Сямёнавіч* (30.09.1909—15.12.1969), рускі крытык, літаратуразнавец, перакладчык.

*№ 38. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 371)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 17).

*№ 39. Да І. К. і З. М. Атраховічаў* (с. 372)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які знаходзіцца ў сямейным архіве.

*Атраховіч Зоя Мікалаеўна* (н. 10.08.1929), нявестка К. Крапівы, урач, кандыдат медыцынскіх навук.

*№ 40. Да І. К. і З. М. Атраховічаў* (с. 373)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які знаходзіцца ў сямейным архіве.

*№ 41. Да Я. С. Мазалькова* (с. 375)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 259, в. 1, спр. 361, л. 2).

*№ 42. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 375)

Друкуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 18—18 адв.).

*№ 43. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 376)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 19).

*№ 44. Да І. К. і З. М. Атраховічаў* (с. 376)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які знаходзіцца ў сямейным архіве.

*№ 45. Да А. І. Махнача* (с. 377)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 158, в. 1, спр. 182, л. 3).

*№ 46. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 378)

Друкуецца і датуецца па аўтарызаваным машынапісе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 20).

*№ 47. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 379)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 21).

*№ 48. Да І. К. Атраховіча* (с. 379)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які знаходзіцца ў сямейным архіве.

*№ 49. Да І. К. Атраховіча* (с. 380)

Друкуецца і датуецца па аўтографе, які знаходзіцца ў сямейным архіве.

*№ 50. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 383)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 22).

*№ 51. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 383)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 23—23 адв., 24—24 адв.).

*№ 52. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 384)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 25—25 адв.).

*№ 53. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 384)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 26).

*№ 54. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 385)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 27—27 адв.).

*№ 55. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 386)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 28).

*№ 56. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 386)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 30).

*№ 57. Да П. С. Кабзарэўскага* (с. 387)

Друкуецца і датуецца па аўтографе (БДАМЛіМ, ф. 31, в. 2, спр. 353, л. 29).

